КНІГА
«ПРЫВІДЫ ШАНХАЯ
НАД СВІСЛАЧЧУ»

ДРУКУЕЦЦА ПРЫ ЛАСКАВАЙ
УВАЗЕ І ПАДТРЫМЦЫ
КАСЦЁЛА
СВЯТЫХ СЫМОНА І АЛЕНЫ
Ў МІНСКУ



***Любай і мілай Ларысе,***
***жонцы, дасціпнай паплечніцы***
***ва ўсіх добрых справах,***
***прысвячаю –***

Васіль Якавенка

# Прывіды Шанхая над Свіслаччу

Эсэ, гутаркі, артыкулы



Мінск,
БелСаЭС «Чарнобыль»,
2011

УДК 821.161.3-4
ББК 84(4 Беи)-44
Я44

Аўтар выказвае сваю сардэчную і шчырую
ўдзячнасць за падтрымку ў напружаныя
моманты жыцця:

пісьменнікам
АНАТОЛЮ КЛЫШКУ,
УЛАДЗІМІРУ ДАМАШЭВІЧУ,
ЯЎГЕНУ ГУЧКУ;
чытачам–пабрацімам
АРКАДЗЮ СЕРЫКУ,
прадстаўніку будаўнічай прафесіі,
УЛАДЗІМІРУ ДЖЭ ЙГАЛА,
адмыслоўцу тэлефоннай сувязі,
ІВАНУ ЕРМАЛІЦКАМУ, урачу;
сябрам БелСаЭС "Чарнобыль"
ВАСІЛЮ КАСІНЦУ,
які ад чыстае душы сваёй эколаг,
МІХАІЛУ ДЗМІТРЭНКУ,
ветэрану вайны і працы.

**Якавенка, В. Ц.**

Я44 Прывіды Шанхая над Свіслаччу : эсэ, гутаркі, артыкулы / Васіль Якавенка. — Мінск : БелСаЭС «Чарнобыль», 2011.— 268 с.

ISBN 978-985-6010-22-5.

Кніга мастацкай публіцыстыкі «Прывіды Шанхая над Свіслаччу» — гэта прылюдны — у спрэчках, дыскусіях — пісьменніцкі роздум пра тое, адкуль наша гаспадарства і без чаго беларусу сёння няма як жыць.

Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 821.161.3-4**
**ББК 84(4 Беи)-44**

**ISBN 978-985-6010-22-5**

# ВЫКЛЮЧНЫ ТАЛЕНТ, КАБ СПАЛУЧАЦЬ ЗЯМЛЮ І НЕБА!

Перад табой, дарагі чытач, новая кніга неспакойнага і бунтоўнага пісьменніка. Ён аўтар шматлікіх кніг мастацкай публіцыстыкі, апошняя з якіх — «Нячы́велле», аўтар глыбокага на змест гістарычнага рамана «Надлом», разгорнутага потым у трылогію «Пакутны век», гэта па сутнасці — нацыянальны эпас.

Кніга «Пакутны век», як вядома, хутка атрымала заслужаную назву візітнай карткі Беларусі і яе народа. Сапраўды, прачытаўшы такую адмыслова напісаную рэч, адчуваеш цеплыню на душы, быццам толькі што наведаў дарагіх твайму сэрцу родзічаў і сваякоў, бачыўся з імі, гаварыў і ўвогуле жыў побач з імі, цярпеў пакуты, змагаўся на працягу многіх гадоў. Адно з трывогай думаецца: чаму такія мілыя людзі, народ і дзяржава ў нас трапляюць у палон нейкіх недарэчных і незаслужана жорсткіх абставін? Чаму аўтару спатрэбілася ўвесці ва ўжытак такі фальклорны канцэпт — н я ч ы в е л л е, які адлюстроўвае цяжкі душэўны стан, што на мяжы з бяспамяцтвам? Гэтае ж пытанне паўстала і ў самой назве кнігі: «Прывіды Шанхая над Свіслаччу».

Калі прыгледзецца бліжэй да гісторыі нашага народа і, тым больш, да ягонай гаркавай сучаснасці, то зразумееш: пытанне стаіць увесь час перад намі і прымушае задумвацца. Аўтар ставіць яго неяк непрыкметна, але ўпэўнена, я б сказаў, па-майстэрску не толькі з пункту гледжання



публіцыстыкі і эстэтыкі, але і псіхалогіі. Сапраўды, абсяг матэрыялаў і праблем, прапанаваных нашай увазе, незвычайна шырокі. Тут і размова з мастакамі аб лёсе архітэктурнага Мінску, і тэксты пра ролю філасофіі ў кіраўніцтве дзяржавай, і пра ролю мовы ў нацыянальнай культуры і фарміраванні нацыі. Тут і гутаркі з прадстаўнікамі армянскай грамадскасці на блізкія для абодвух народаў тэмы, і матэрыялы пра дзейнасць БНР і яе місію ў Берліне, і пра гісторыю БНФу, прычыны яго распаду, і пра шмат што іншае. І ўсё гэта на высокім прафесійным узроўні. Нават там, дзе прафесійнасць праблемы носіць надта ўжо вузкі характар, як, напрыклад, у філасофіі, аўтар, нават злёгку кранаючы яе, прымушае чытача ўспомніць ужо вядомае яму з іншых крыніц. Так, напрыклад, у размове з Альбертам Налчаджанам Васіль Якавенка выходзіць на праблему развіцця этнасаў у філасофскіх працах Гумілёва. Да гэтай жа праблемы, незалежна ад расійскага адмыслоўца, у свой час вельмі блізка падышла і беларуская эстэтычная школа. Увогуле, сціпла кранаючы філасофскую праблематыку, аўтар тым не менш сам прызнаецца ў сваёй зацікаўленасці менавіта ў філасофіі культуры і фактычна даказвае гэта усёй ідэйнай, так бы мовіць, кампазіцыяй сваёй кнігі. Пра тое сведчыць не толькі ўзятая шырыня праблематыкі, якую ён разглядае, міжвольна прымушаючы чытача самастойна падумаць і ўзняцца да менавіта філасофскай абагульненасці яе разумення, але і да сцвярджэння сваёй пазіцыі на практыцы.

Што да апошняга, то тут трэба адразу ж прызнаць: і ў гэтым плане аўтар наш па-сапраўднаму арыгінальны. Ён не толькі ўмее бачыць праблему на ўзроўні яе філасофскай абагульненасці, але і здольны практычна, умела і напорыста яе здзяйсняць. Калі мы, прафесійныя філосафы, напрыклад, так ці гэтак схільны лётаць у эфіры абстрактнага мыслення, але бываем падчас бездапаможнымі ў практычнай рэалізацыі сваіх



ідэй, то бадай што ніводзін з нас не зраўняецца з Васілём Якавенкам менавіта ў вырашэнні надзённых задач. Добра разумеючы, напрыклад, філасофскае значэнне экалагічнай праблематыкі, ён змог і практычна, рэальна спыніць армію меліяратараў і паставіць урад перад неабходнасцю адмены заганнага, подступнага плану суцэльнага асушэння беларускага Палесся — плану, які прывёў бы да катастрафічных наступстваў для ўсёй нашай рэспублікі. Гэтак жа, усведамляючы важнасць роднай мовы для нацыі, ён падрыхтаваў і падпісаў больш чым у ста рэальных дзеячаў беларускай культуры (не лічачы ўжо студэнтаў, рабочых, прадпрымальнікаў) зварот да кіраўніцтва краіны, прымусіўшы тым самым не вельмі абачлівае кіраўніцтва і на гэты ліст рэагаваць. У свой час ён актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі руху за адраджэнне краіны на дэмакратычных асновах, прымаў найактыўнейшы ўдзел у ліквідацыі трагічных наступстваў Чарнобыля. Практычная накіраванасць кнігі аўтара павялічвае яе значнасць, гожасць, падкрэслівае ісціннасць.

Разважаючы над зместам кнігі «Прывіды Шанхая над Свіслаччу», заканчваю свой невялічкі ўступны артыкул упэўненымі словамі: мы існуем як нацыя і нам ёсць, панове, на чым стаяць і што адстойваць. Толькі не варта зыходзіць у нікуды са свайго падмурку. Хіба не так? Спадзяюся, што і чытач разбярэцца ў жыццёвых сітуацыях і філасофскіх высновах новай кнігі пісьменніка.

*Мікола Крукоўскі,*
*доктар філасофскіх і кандыдат філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

# ЗАПАТРАБАВАНЫЯ І АДРЫНУТЫЯ



*Да 25-годдзя Чарнобыльскай катастрофы*

Не помню цяпер, што паклікала мяне туды і якая сіла ганяла па ўзварушаных трывогаю вёсках. Што мяне прымушала больш за месяц бадзяцца, валэндацца па накрытых радыяцыйным пылам селішчах, начаваць у выпадковых інтэрнатах, апусцелых школах, як, напрыклад, у Краснапольскім раёне — каля саду ў квецені з дозавым фонам 145 Ku/км$^2$.

Я стала жыў сабе разам з сям'ёю ў Мінску, і ніхто не пасылаў мяне ў «зону». Ні асобна, ні ў складзе нейкіх там пісьменніцкіх дэсантаў. Не шукаў для сябе камандзіровачных лістоў, хоць атрымаць іх было і не цяжка. Цяпер здзіўляюся нават сваёй «непрактычнасці», чаму гэтак рабіў... Нешта проста падказвала, што я павінен быць там, адкуль прывозіў на пробу ў Мінск мяса, не абы якое, а гарантавана «чыстае». Ад яго прыборы, што стаялі для кантролю на Камароўскім рынку, «зашкальвала». А я ж ездзіў. І шукаў па каліву праявы ўплыву, уздзеяння радыяцыі на чалавека і жывёлу, каб паказаць тое, што спрадвеку называлася і называецца ісцінай, праўдай. Дзеля той жа праўды скажу, што ў ліку падобных шукальнікаў "удачы" на чарнобыльскім грунце быў і мой калега пісьменнік-мінчук Алесь Крыга; ён наогул уладкаваўся працаваць у Брагіне, у раённай газеце...

*Гэта аповед, праўда, не пра ўсё, што бачылі вочы. Ён аб Беларускім сацыяльна-экалагічным саюзе «Чарнобыль» і не толькі аб ім, бо наша дзейнасць нярэдка перасякалася ды ішла поруч з дзейнасцю іншых грамадскіх аб'яднанняў.*

Споўнілася больш чым 20 гадоў, як Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала грамадскае аб'яднанне «Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль», хоць, праўду казаць, наша экалагічная ініцыятыва заявіла аб сабе задоўга да рэгістрацыі.



Правядзенне Устаноўчага з’езду новай арганізацыі падтрымалі ў друку дырэктар Інстытута радыебіялогіі акадэмік Яўген Канапля, доктар філасофскіх навук, эколаг Павел Вадап’янаў і іншыя навукоўцы, грамадскія дзеячы. З’езд адбыўся ў Гомелі 7 красавіка 1990 года, у памяшканні Грамадска-палітычнага цэнтра абкама партыі, з дазволу яго дырэктара Мікалая Емяльянавіча Хобатава. І, як гэта ў нас павялося здаўна, не абышлося без прыкрага казусу.

Перад самым пасяджэннем хтосьці з тузоў ці то абкама, ці то гаркама (верагодна, нават па ўказанні аддзела прапаганды ЦК КПБ, дзе заўзята вывучалі і з перасцярогаю ставіліся да ўсялякага роду ініцыятыў знізу) выдаў кіраўніку ГП-цэнтра дырэктыву: адмовіць ініцыятарам з’езду ў памяшканні! Для нашай грамады гэта магло б стаць вялікім і непрыемным узрушэннем. Але ж нечакана на дапамогу нам прыйшоў усё той жа дырэктар Хобатаў: «Няхай мяне выключаюць з партыі, толькі я не памяняю сваё рашэнне і дазволю вам правесці ўстаноўчы з’езд чарнобыльскай арганізацыі». Кемлівы, чынны, моцны духам мужык!

І мы правялі з’езд. На ім прысутнічала каля сотні чалавек, прадстаўнікоў ад розных калектываў. І вось у гарачых дэбатах, каго абраць прэзідэнтам новага аб’яднання — менавіта мяне, ініцыятара акурат гэтага мерапрыемства, або кагосьці з порсткіх гамяльчан, — перамогу пры галасаванні атрымаў я.

У склад кіраўніцтва БелСаЭС «Чарнобыль» на працягу ўсіх трывожных гадоў уваходзілі дый так ці інакш удзельнічалі ў працы: Юры Варонежцаў, Анатоль Волкаў, Віктар Іпаццеў, Яўген Канапля, Васіль Несцярэнка, Эдуард Збароўскі, Міхась Малько, Ягор Фядзюшын, Валянціна Вераб’ёва, Уладзімір Сацэвіч, Валеры Шумілаў, Павел Вадап’янаў, Віктар Каранеўскі, Аляксей Мікуліч, Віктар Шматаў, Лідзія Ралько, Ірына Станкевіч, Анатоль Банкевіч, Ігар Куталоўскі, Юры Пазняк, Алена Карповіч, Раман Карповіч, Васіль Касінец, Валеры Пазнякоў, Леанід Цітоў. Апорай у працы кіраўніцтва аб’яднання на доўгі час сталі супрацоўнікі Ганна Фурман, Лілія Беразанская, Ала Ткачова, валанцёры Валянцін Дзянісаў, Міхаіл Дзмітрэнка і іншыя.

Мы бачылі сваю задачу ў тым, каб спрыяць рашэнню найважных сацыяльна-экалагічных і чарнобыльскіх праблем, і грамадскае аб’яднанне БелСаЭС «Чарнобыль» дамаглося-такі ў гэтым поспехаў.





*На возеры Нарач. Пачынальнікі культурна- і сацыяльна-экалагічнага руху. На першым плане: Леў Караічаў, Аляксандр Капусцін, Васіль Якавенка, Іван Новікаў. 1987 г.*

Так у 1988 годзе, яшчэ да рэгістрацыі, нам удалася акцыя супраціву ўрадаваму праекту выпрамлення і абвалавання палескай ракі Прыпяці, што ў павольнай плыні з веку ў век сцягвала ваду з балот. Асушэнне яе шырокай поймы, несумненна, прывяло б да ператварэння Палескай нізіны ў пустыню. Работы па гэтым надзвычай небяспечным праекце тады ўжо вяліся поўным ходам. Аднак нам (разам з украінскімі пісьменнікамі і навукоўцамі — спецыялістамі па гідрарэсурсах) удалося правесці ў Доме літаратара ў Мінску прадстаўнічую навукова-практычную канферэнцыю на тэму «Праблемы Прыпяці — праблемы Палесся», у якой мусілі прыняць непасрэдны ўдзел і некалькі беларускіх акадэмікаў, а таксама міністраў; прыехалі поўныя важнасці адмыслоўцы меліярацыі з рэгіёнаў. Толькі сваю экалагічную і прыродаахоўную падрыхтоўку з поспехам выявілі і пісьменнікі: Ігнат Дуброўскі, Анатоль Казловіч, Яраслаў Пархута, Леў Караічаў, Алесь Петрашкевіч і іншыя. Мой даклад тут насіў назву «Ці ёсць у нас канцэпцыя гаспадарання?», пастаноўка пытання застаецца актуальнай дагэтуль. У ходзе працяглых



гарачых дэбатаў нам удалося даказаць шкоднасць праекта, у які улаштоўваліся мільярды і мільярды савецкіх рублёў. Акадэмікі ды міністры мусілі капітуляваць. У выніку — Бог у сведкі! — мы спынілі ў пойме Прыпяці армію меліяратараў!

Значэнне гэтай акцыі было цяжка пераацаніць, паколькі вучонымі прызнана: наша Палессе ў значнай меры ўдзельнічае ў фарміраванні клімату ўсёй Еўропы, і, несумненна,ператварэнне ракі Прыпяць у канаву адбілася б згубна і на Дняпры, прытокам якога яна з'яўляецца. Тады ж у адпаведных навуковых колах сталі пагаворваць ужо аб неабходнасці новай нацыянальнай палітыкі ў меліярацыі, і быў прыкметным да яе паварот.

У свой час, калі сярмяжная праўда аб Чарнобылі цвёрда дазіравалася і новая доля праўды заўсёды была чымсьці накшталт узнагароды нам, Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» выступіў ініцыятарам і арганізатарам шэрагу міжнародных канферэнцый па чарнобыльскіх праблемах. Яны патрэбныя былі па дзвюх прычынах: па-першае, зрабіць нашу растрыбушаную на кантыненты бяду здабыткам галоснасці ў сусветным маштабе, па-другое, дапамагчы беларускім службоўцам аб'ектыўна паглядзець на рэчы і самакрытычна — на сябе, на свае дзеянні, учынкі.

Проста ў Гомелі (якраз за дзень да ўстаноўчага з'езду) мы правялі даволі масавую канферэнцыю **«Чарнобыль: сацыяльна-эканамічныя і маральна-этычныя аспекты» (1990).** На гэтай канферэнцыі пры пастаноўцы найвострых пытанняў, якія былі падтрыманыя больш-менш адкрытымі навукоўцамі і практыкамі, нам усё ж выпала у нейкай меры паглыбіць уяўленне аб характары чарнобыльскага ліхалецця і яго маштабах (стэнаграма выступаў захавалася).

Далей болей праклёўвалася ганебная і горкая, як палын, праўда аб вялікай бядзе, якая надарылася.

Але ж абсеўкі праўды нас не задавальнялі. Дзесьці ўжо бліжэй да канца 1988 года мы прапанавалі Савету Міністраў разам правесці «круглы стол» па тэме Чарнобыльскай катастрофы і яе наступстваў.

Меркавалася, што ў гэтым хвалюючым увесь народ дыялогу (на што паказвалі мітынгі, якія штораз стыхійна ўзнікалі і праводзіліся ў забруджаных раёнах) прымуць удзел кампетэнтныя галовы вышэйшага эшалона ўлады,



навукоўцы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Ліст, у якім прапаноўвалася правесці цывілізаваныя дэбаты з чынавенскім корпусам, быў пададзены ў Савет Міністраў ад Саюза пісьменнікаў БССР і секцыі публіцыстаў, якую я тады ўзначальваў.

У адказ на сваю прапанову мы атрымалі па тэлефоне адтуль папярэднюю згоду на правядзенне прадстаўнічай сустрэчы і, зусім задаволеныя, падумвалі ўжо аб змесце і форме запрашальнай паперчыны на гэтае мерапрыемства. Аднак у студзені ўрадавыя службоўцы разважылі інакш. Яны прынялі нашу ініцыятыву як выклік ім і адмовіліся вадзіцца з намі, заўзятымі чыннікамі, якіх, мяркую, ставілі на адну дошку з «нефармаламі» і актывістамі Народнага фронту «Адраджэнне». Нас, відавочна, пабойваліся, аднак ўсё-ткі змушаныя былі «паважаць»; бо мы і сапраўды імкнуліся выстарацца і, выстараўшыся, неслі праўду людзям пра тое, якая небяспека тоіцца ў ядзернай паразе насельніцтва і наогул родных абсягаў.

Дарэчы, да людзей зрэдзь ужо прасочвалася праўда, якую даводзілі бяспечнаму люду акадэмічны вучоны Васіль Несцярэнка і пісьменнік Алесь Адамовіч. Адно ў Беларусі публічна выступіць, а тым больш надрукаваць што-якое сваё, адметнае пра Чарнобыль у той час было немагчыма. А. Адамовіч, часова жывучы і працуючы ў Маскве, падтрымліваў кантакты з незалежнымі вучонымі, і ў яго заўсёды было што сказаць там, дзе было каму слухаць.



*Алесь Адамовіч*

І ў той жа Маскве нарабіла пярэпалаху, асабліва сярод «ідэолагаў радыяцыйнага абпраменьвання», уедлівая публікацыя А. Адамовіча «Честное слово, больше не взорвется, или Мнение неспециалиста» у часопісе «Новый мир», 1988, № 9. А неўзабаве і маё слова зайграла — то было аргументаванае і вострае выступленне на пленуме Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў у ЦДЛ 17 студзеня 1989 года. На ім разглядаліся пытанні экалогіі ў краіне. Пленум



асвятляла «Литературная газета» за 19 студзеня 1989 года. Фрагмент з майго выступлення:

*«Вот если бы сельскохозяйственная химия имела синий цвет, мы ходили бы сегодня в ярких отблесках синевы и сами были бы похожи на привидения. Если бы радионуклиды засверкали вдруг яркими лучами электросварки — по всей Беларуси в мгновение ока разлилось бы море огня, оно затопило бы нас не только в Хойникском, Брагинском или Краснопольском районах, не только в тех семнадцати, что официально признаны потерпевшими. К сожалению, осязать зрением эту беду не дано; тем не менее, химические и радиационные стрелы поражают людей, все чаще вызывая астматические, аллергические, раковые и другие заболевания, подавляя, как правило, иммунную систему, меняя и извращая коды генов...».*

Выступаючы з высокай трыбуны і раскрываючы перад слухачамі аб’ектыўную, як мне гэта бачылася, карціну бедства ў чарнобыльскіх зонах Беларусі, Украіны, Расcіі, я падводзіў рысу: *«Общественность республики остро заинтересована в предании гласности всех материалов, раскрывающих радиационную обстановку в Беларуси. Общественность заинтересована в расследовании и привлечении к строгой ответственности лиц, повинных в утаивании правды, в сокрытии истинного положения дел с радиационным загрязнением, а это Ильин, это Слюньков, это Кондрусев и другие. Все это не должно оставаться делом правящего двора, попирающего мораль, нравственность, право».*

Аднак вернемся ў Мінск. На наш паўторны запыт у Савет Міністраў адносна «круглага стала» хітруны-мудрагельцы паведамілі, маўляў, *«правительство без в а ш е й помощи проведет запланированное мероприятие, и это будет не «Круглый стол», а пресс-конференция товарища Евтуха»*. Еўтух працаваў у той час намеснікам старшыні Савета Міністраў па пытаннях чарнобыльскай аварыі... Няхай.

Прэс-канферэнцыю ладзілі ў вялікай зале Палаца прафсаюзаў 2 лютага 1989 года. Пры поўным аншлагу. У зале не хапала месцаў, і некаторыя зацікаўленыя асобы знайшлі яго для сябе на галёрцы. Я стаў узірацца ў публіку, і мяне ўразіла, які на тварах прысутнах адбітак напружанага спакою і



абыякавасці да ўсяго, а на некаторых дык праслізгвала яшчэ і чаканне страху. Нехта іх напалохаў. І я ўмомант зразумеў: уся зала была запоўнена арганізаванай масай службоўцаў, сабраных, сагнаных па знаку вопытнага партыйнага масавіка.

Для Ўладзіміра Гаўрылавіча Еўтуха гэта было падставай зрабіць кароткую справаздачу ўрада аб трывожнай, поўнай клопатаў гаспадарча-экалагічнай дзейнасці на неасяжных чарнобыльскіх абшарах. У дакладзе, аднак, усё было ўпарадкавана і гладка. Але ж мала што, неўзабаве да спадара Еўтуха пасыпаліся зусім не бяздумныя пытанні, якімі выкрывалася нешта супярэчлівае і падступнае. Дарэчы, шматлікія пытанні да гэтага моманту былі старанна падрыхтаваныя супрацоўнікамі НДІ радыяцыйнай медыцыны і асабіста Тамарай Белаокай — лекарам клінікі; акурат тады ж фарміравалася яе аб'яднанне Беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля». Яна параздавала пытанні таму-сяму з удзельнікаў гэтай сустрэчы, каб яны іх агучылі перад Еўтухам. У мяне было ў запасе таксама прынятае ад яе пытанне, але толькі ж мне яно падалося не для Еўтуха, ці што, занадта медыцынскае, спецыфічнае. І тады я спытаўся ў спадара, дакладней, таварыша Еўтуха пра іншае: чаму з пакінутай жыхарамі забруджанай і звыш забруджанай 30-кіламетровай зоны, да якой прыстаўлена ахова, вывозіцца на грузавых машынах усё, што аматарам і рызыкантам не лянота вывезці? Разам з радыяцыяй!.. Сам жа я быў сведкам таму…

Еўтух, адказваючы перад тэлекамерай на нашыя пытанні, ад напругі ўзмакрэў, небарака, і яму ў той момант ніхто не прыходзіў на помач. Нішчымныя, амаль адсутныя твары — шыхты чынавенскія захоўвалі маўчанне, жывыя душы як бы вымерлі.

Гэтая прэс-канферэнцыя з блытанымі тлумачэннямі Еўтуха неўзабаве была паказана па тэлебачанні. Яна яшчэ больш усхвалявала народ. Пачалося фармаванне дэлегацый у Маскву — да Гарбачова! І ўсё гэта, уключаючы пісьменніцкія захады, паслужыла перадумовай да таго, што ў Беларусі, нарэшце, быў зроблены першы крок да цяжка даступнай галоснасці: сталі друкавацца карты земляў і ўгоддзяў, на якіх нельга збіраць грыбы.

Разам з камітэтам «Дзеці Чарнобыля» наш саюз прымаў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні «Чарнобыльскага шляху» у Мінску. Ідэя ж гэтага цяпер шырока вядомага






мерапрыемства з’явілася ў гутарцы драматурга Алеся Петрашкевіча з Тамарай Белавокай пра падрыхтоўку да чарговай гадавіны Чарнобыля. Ён сказаў: «А чаму б вам не арганізаваць масавае шэсце? Можна назваць яго Чарнобыльскім шляхам...».

Першы **«Чарнобыльскі шлях»** быў асабліва ўражлівым; натоўп, сабраўшыся на вуліцы Талбухіна, рушыў па цэнтральным праспекце, ішоў павольна, пасоўваўся з транспарантамі і харугвамі, скандыраваў лозунгі аж пакуль галава калоны не ўпёрлася ў будынак педінстытута на плошчы Леніна (цяпер Незалежнасці), з партала якога тады і пачаліся прамовы; адзін з першых занепакоеных і палымяных прамоўцаў акурат быў Алесь Адамовіч...

Прайшло паўгода, адцвіло лета, і аўтар гэтых нататак, пад уражаннем сваіх паездак у розныя раёны чарнобыльскай зоны, звярнуўся на імя Генеральнага пракурора Саюза ССР А. Я. Сухарава і пракурора Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскага з адкрытам лістом: **Аб «зоне асобай увагі», у якой народ знемагае ад няпэўнасці, хлусні, самаўпраўства, пастаяннага апрамянення радыеактыўнымі ізатопамі, насядаючых хвароб, адчування сваёй бездапаможнасці і трагічнага зыходу.** (Ліст друкаваўся пад



загалоўкам «Земля атомного сполоха» у «Литературной России» № 43 ад 27 кастрычніка 1989 г.).

Рыхтаваўся ж гэты зварот у канцы верасня. У Маскве тады праходзіла сесія Вярхоўнага Савета СССР, і ў мяне была магчымасць сустрэцца з народнымі дэпутатамі, пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі. Разам са мной зварот падпісалі больш за паўсотні яркіх асоб, у тым ліку А. Адамовіч, Ч. Айтматаў, В. Бялоў, В. Быкаў, І. Друцэ, Я. Петэрс, В. Распуцін, Ю. Чарнічэнка, Ю. Шарбак, У. Яварыўскі, А. Ярашынская, М. Ігнатовіч, А. Дабравольскі, Ю. Варонежцаў...

Неўзабаве ў Слаўгарадзе на масавай дэманстрацыі, прысвечанай кастрычніцкім угодкам, ужо неслі транспарант з лозунгам: **«Патрабуем ад пракурора СССР адказу на ліст пісьменніка Васіля Якавенкі».** Захаваўся здымак.

У пракуратурах, маскоўскай і мінскай, неўзабаве маім чарнобыльскім лістом заняліся следчыя, але вось непярэліўкі: распаўся сярпасты і малаткасты вялікі Саюз. Хто мог бы падумаць!.. У беларускай пракуратуры гады з два яшчэ камусьці руліла мусоліць зварот, перш чым небарака аўтар атрымаў «кампетэнтны» і закончаны па форме адказ, маўляў, усё, што рабілася беларускімі ўладамі ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай, рабілася правільна. Малайцы! І дадзеныя ж людзям такія здольнасці...

На пачатак 90-х прыпала акурат адна дзіўная і дагэтуль гаркавая для мяне акалічнасць. Быў момант, калі нашы ўрадавыя і грамадскія структуры знайшлі між сабой паразуменне. Мы разам шукалі дапамогу для паратунку ад радыяцыі, патрэбны былі сродкі для змяншэння наступстваў.





Мой кіеўскі калега пісьменнік, старшыня Нацыянальнай спілкі пісьменнікаў Украіны, Уладзімір Яварыўскі, з якім мы сябравалі, пры сустрэчы паведаміў, што пабываў у Злучаных Штатах Амерыкі і там, пры садзеянні сваіх землякоў-эмігрантаў, знайшоў Агенцтва па інтэрнацыянальнаму развіццю, якое, дарэчы, падпарадкоўвалася Дэпартаменту ЗША... Па заяўцы, аформленай ім жа і яго паплечнікамі ў гэтае агенцтва, казаў ён, Украіне выдаткавана 1 000 000 долараў. Уладзімір Аляксандравіч ахвотна падзяліўся са мной сваім вопытам падарожжа ў Амерыку і даў адрас фундацыі — раіў неадкладна звярнуцца туды ад беларускай грамады. Бо чарнобыльская ж навала абярнулася для беларусаў яшчэ большай бядой.

Я ўсё прадумаў і падрыхтаваў лісты ў тое міжнароднае агенцтва і яшчэ ў два міністэрствы ЗША, на ўдачу. Лісты былі аформлены за подпісамі: В. Кебіча, старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, А. Смоляра, старшыні чарнобыльскай камісіі ў Вярхоўным Савеце, трэцім падпісваў я, паколькі выступаў у ролі каардынатара грамадскіх чарнобыльскіх ініцыятыў. Урад выдаткаваў мне грошы на праезд за акіян і назад. Забраў я з дому блаславёныя самім лёсам, як тады здавалася, лісты і паляцеў на крылах — у простым і пераносным сэнсе. У Нью-Ёрку на той час яшчэ не было нашага пасольства і ягоныя функцыі часова выконвала прадстаўніцтва Беларусі пры ААН, куды я і патрапіў.

Аднак там чакала мяне моцнае расчараванне. Кіраўнік прадстаўніцтва вядомы паэт Генадзь Бураўкін, кінуўшы вокам у лісты, адпусціў некалькі неласкавых слоў на адрас прэм'ера Кебіча ў Мінску і, супакіўшыся, раўнадушна сказаў: «Ну, дык і перадавай каму хочаш, паколькі прывёз, а мне Кебіч нічога не напісаў!»

Ён вярнуў мне паперы, ад чаго я літаральна аслупянеў, бо менавіта разлічваў на ягоную падтрымку; па сваім статусе дыпламата ён не павінен быў адмовіць мне ў афіцыйнай падачы прывезеных мной зваротаў. Урэшце ў яго была магчымасць патэлефанаваць у Мінск Вячаславу Кебічу і спытацца, што рабіць з падпісанымі кіраўніком дзяржавы лістамі, калі сам не ведаў... Нешта яму замінала зрабіць добрую справу, а я, па нявопытнасці ў дыпламатыі ды няведанні ўласцівых порсткім чыноўнікам манер, разгубіўся і не зрабіў таго, што, на сённяшні розум, зрабіў бы. Прынамсі, мне здавалася, што



ў мяне ёсць яшчэ запасны варыянт: папрасіць аднаго з дзеячаў нашай дыяспары ў Балтыморы — Васіля Мельяновіча замяніць у гэтым выпадку афіцыйнага прадстаўніка Беларусі Бураўкіна. І той, няўрокам кажучы, жыва адгукнуўся. Разам з ім, дарэчы, адразу ж падключылася да справы яшчэ і ягоная знаёмая — сербка, кангрэсмен ЗША Хелен Бентлі (Hellen Bentley). Яна патэлефанавала ў офіс агенцтва і горача пераконвала ў неабходнасці паставіцца з увагай да пакуль мала вядомай на амерыканскім кантыненце Беларусі, маладой краіны. Але ж крокі ў абыход нацыянальнага прадстаўніцтва (паколькі ў лісце быў подпіс прэм’ер-міністра) аказаліся зманлівымі — не той піетэт, у чым праглядваўся ўжо і мой уласны пралік. Да жалю…

Вось так, спатыкнуўшыся аб свайго паўнамоцнага прадстаўніка за акіянам, Беларусь і не атрымала зусім магчымы 1 мільён долараў дапамогі, у тым канкрэтным выпадку і на той складаны і бядотны час. Адна асоба, якая неаднойчы сустракалася з Генадзем на амерыканскім кантыненце ў тыя часы, паслухаўшы пра гэты выпадак з ім, адказала акрэслена і пэўна: “Яго заела!” Які ж матыў?..

Няма ніякіх сумненняў, што Генадзь Мікалаевіч Бураўкін, прабеглы дзеяч, вопытны наменклатуршчык, дома са сваёю жонкай, сваёю сям’ёю і прыяцелямі ў іншых варунках можа быць залатым чалавекам. Дапускаю. Але тут я ўзяў канкрэтны выпадак з яго адносінаў, з ягонага стаўлення да інтарэсаў роднай зямлі, да азмрочанай і параненай душы народа. Ці быў у яго сапраўдны клопат пра сваю краіну? Не магу зразумець…

Наступным мерапрыемствам, праведзеным намі ў Мінску, быў актыўны і нязмушаны па сваім характары «круглы стол» — **«Псіхалагічныя аспекты Чарнобыльскай катастрофы» (1992).** У абмеркаванні гуманітарных пытанняў удзельнічалі амерыканскія эксперты і нашы адмыслоўцы ды і проста ахвотнікі папрактыкавацца ў раскрыцці такой незашмальцаванай на той момант тэмы.

Аказалася нядрэнна арганізаванай і, зазначу, прынцыповай у арыентацыі на альтэрнатыўныя крыніцы энергіі, што нямала бянтэжыла беларускіх інжынераў і прафесараў, канферэнцыя **«Магчымасці экалагічна чыстай энергетыкі і энергазберажэння» (1993).** Яна праходзіла тры дні.



У ёй прынялі ўдзел і выступілі ў якасці экспертаў ды кампетэнтных суразмоўцаў шматлікія замежныя вучоныя, у тым ліку Аморы Ловінс, вядомы ў свеце энергетык, доктар навук, кансультант буйных амерыканскіх кампаній у галіне энергазберажэння, Фрэнсіс Мэйсі, старшы дарадца праграмы аховы навакольнага асяроддзя Цэнтра грамадзянскіх ініцыятыў ЗША і сустаршыня нашага аргкамітэта канферэнцыі з амерыканскага боку. Удзельнічалі ў форуме і Хэл Фокс, прэзідэнт савета дырэктараў фірмы «Інфармацыйны цэнтр халоднага ядзернага сінтэзу» Петэр Глюк, доктар тэхнічных навук з Румыніі, а з нашага боку — нямала навукоўцаў, у тым ліку акадэмік Алег Мартыненка, адказныя спецыялісты главка і Савета Міністраў...

Было заслухана 90 дакладаў і паведамленняў. Пры гэтым, аднак, увесь час адчувалася, што беларускі бок псіхалагічна не ўспрымае сур'ёзную гутарку па асноўнай заяўленай тэме дыскусіі, што ён не прывучаны думаць катэгорыямі эканоміі і экалогіі, пра што я тады вельмі шкадаваў. Мы абмеркавалі і прынялі рэзалюцыю, але ж і сам гэты дакумент ужо мала каго з нашых адмыслоўцаў цікавіў.

Тое, як яго ўспрымалі, ад нас не залежала, адно калі форум ужо абвясцілі закрытым, па маім недагляддзе быў дапушчаны пралік у прыёме гасцей, і мы сапсавалі ім добры настрой, за што мне сорамна дагэтуль.

Само сабой, хацелася працерабіць, прабіць дарогу да вырашэння шмат якіх сацыяльна-экалагічных праблем, і мы пастаянна шукалі да іх подступы. Ад пачатку 90-х, калі на Захадзе ўжо ведалі пра чарнобыльскую навалу на Беларусі, там з'явілася багата валанцёраў, ахвотнікаў сабраць гуманітарную дапамогу і прывезці яе да нас — пацярпелым... Усе чарнобыльскія ініцыятывы працавалі ўраздроб і не мелі інфармацыі, дзе, хто і чым займаецца, дый слаба арыентаваліся ў патрэбах краіны, накрытай Чарнобылем.

Будучы старшынёй Каардынацыйнага савета дабрачынных грамадскіх арганізацый (іх было нешта з тузін) і ўсё гэта нутром сваім адчуваючы, я сабраў у Доме літаратара пасяджэнне, на якім мы абмеркавалі становішча ў руху гуманітарных грузаў. І прынялі рашэнне: знайсці кантакт і ўзаемапаразуменне з Дзяржкамітэтам па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС ды разам правесці ў Мінску міжнародную канферэнцыю з чарнобыльскімі ініцыятывамі Германіі і



іншых краін. У Дзяржаўным камітэце нас адразу ж падтрымаў намеснік старшыні камітэта Бур'як, і ў добрым настроі мы абмяркоўвалі ўжо прапановы па рэалізацыі будучага мерапрыемства. З тым жа прыўзнятым настроем мы сабраліся і ў канферэнц-зале Савета Міністраў, куды для далейшай размовы па нашым пытанні прыйшоў старшыня Дзяржкамчарнобылю Іван Кенік.

У касмічнай прасторы разгортваўся тады, здаецца, 1994 год... Кенік, добра складзены, мажны, са шчоткай сіваватых валасоў «вожыкам», выслухаў нас і, зусім-зусім не крануты ў душы міжнародным праектам сустрэчы ў Мінску тых зварушлівых чарнобыльскіх ініцыятыў, адказаў нешматслоўна: «Няма грошай на гэта». Пры жаданні – я перакананы ў тым – невялікія грошы знайшліся б... Па голасу, аднак, адчувалася: няма жадання займацца гэтым; у кола ягоных чыноўніцкіх абавязкаў самадзейная прыдумка не ўваходзіла. Тыпічны выпадак, калі дзяржаўны службовец з савецкіх часоў, бадай, не ведаў і не хоча ведаць, што ёсць (пры яго чыноўніцкай вотчыне) грамадзянская ініцыятыва. Выключэнні бываюць, але рэдкія.

Мы самі рабілі тое, на што хапала сіл. Зразумела, было нам аб чым памеркавацца і на такой старанна падрыхтаванай канферэнцыі: **«Навакольнае асяроддзе і правы чалавека» (1998)**, правялі яе пры падтрымцы прадстаўніцтва ААН/ПРААН у Рэспубліцы Беларусь.

Чалавек роўна залежны і ад прыроды, і ад грамадства, з якім мае стасункі і ў якім паўнапраўна жыве. Але толькі ж грамадства не можа далей развівацца, як і наогул існаваць, не стварыўшы для кожнага паважанага грамадзяніна біялагічна і сацыяльна прымальныя жыццёвыя ўмовы. Адгэтуль і нормы, і юрыдычныя акты, законы, якімі акрэсліваюцца і абараняюцца правы чалавека на чыстае паветра, чыстую ваду і прадукты харчавання... Пра ўсё гэта і яшчэ шмат пра што казалі эколагі, адмыслоўцы, філосафы, юрысты, прадстаўнікі дзяржаўных устаноў і няўрадавых арганізацый Беларусі, госці з Расіі, Украіны, Германіі, ЗША, Швецыі і — да майго задавальнення — мой калега з горада Кіева Ўладзімір Шаўкашытны, былы супрацоўнік ЧАЭС, ліквідатар, бацька чацвярых дзяцей, паэт-песеннік, старшыня Міжнароднага Саюза «Чарнобыль»; у дадатак да ўсяго ён жа будаваў у



родным кутку яшчэ і царкву, на свае ўласныя сродкі і дабрачынныя ўнёскі.

Усе ўдзельнікі канферэнцыі выкладалі свае думкі ў разліку на тое, што сказанае імі камусьці спатрэбіцца, што яно будзе неяк улічана. Матэрыялы апублікаваныя ў аднайменнай складанцы — зборніку на рускай і англійскай мовах.

Яшчэ больш напоўненай паведамленнямі і дыскусіямі атрымалася ў нас двухдзённая міжнародная канферэнцыя **«Станаўленне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ў кантэксце ўстойлівага развіцця» (1999)**. Канферэнцыя ладзілася пры ўдзеле і фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва ААН і Кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ у Рэспубліцы Беларусь.

Мабыць, своеасаблівая інтрыга для ўдзельнікаў форума і нават парадаксальнасць сітуацыі палягалі ў тым, што на пракаветнай нашай зямлі не сфармавалася грамадзянская супольнасць, і калі яна, супольнасць, перш неяк і складвалася, то потым яе напаткалі стагнацыя і разбурэнне, што ні для кога тут ужо не з'яўлялася сакрэтам. Нам, тутэйшым, здавалася проста непаразуменнем, пралікам, памылкай тое, што адбывалася ў грамадзе і асабліва ў палітыцы нашай няўцямнай кіруючай эліты. Камусьці, можа, і на руку былі невыразнасць структуры, асерадненне грамадства, бясколернасць і фарсіраванае зліццё розных пластоў, недапушчэнне пры гэтым умацавання трэцяга сектара ў эканоміцы і г. д. Адсюль патаемнай задачай нашай канферэнцыі бачылася прыцягненне ўвагі не толькі грамадскіх арганізацый, якіх было не так і багата, але разам з імі і дзяржаўных інстытутаў краіны да праблемы «грамады», а разам з тым і да развіцця грамадзянскай супольнасці.

Уяўляецца цікавым меркаванне Гегеля, — дакладваў на форуме член-карэспандэнт НАН Беларусі гісторык У. А. Бабкоў. — Гегель лічыў, што *«па праўдзе грамадзянская супольнасць ёсць спеласць сацыяльных сувязяў, якія выключаюць анархію і дэспатыю ў прынцыпе. Аднак жа неразвітасць грамадства, — доўжыў ён, — з'яўляецца падмацоўваючым асяроддзем для таталітарных і аўтарытарных рэжымаў»*.

На форуме з усіх бакоў, шырока і прадметна разгледзелі і, як кажуць, абсмакталі праблему. Але ў свеце ў цэлым, каб



абапірацца на грамадзянскую супольнасць (для ўстойлівага развіцця краін і кантынентаў), час яшчэ не прыспеў, што паказала траекторыя развіцця, якая прывяла да жорсткага вайсковага канфлікту і крызісу на Балканах. Аб гэтым з трывогай выказваўся наш маскоўскі калега і сябар Святаслаў Забелін. З'яўляючыся навукоўцам-біёлагам, ён доўгі час узначальваў Міжнародны сацыяльна-экалагічны саюз. Па яго словах, будучыня — за будаўніцтвам іншай цывілізацыі, на больш чалавечых і экалагічных прынцыпах, на базе іншай сістэмы каштоўнасцяў. Не аднойчы гаворана, што для рашэння ўсіх праблем досыць было б прытрымлівацца Нагорнай пропаведзі Ісуса Хрыста. Аднак жа не вызнаем яе...

Вынікам канферэнцыі і ў гэтым выпадку з'явілася выданне на рускай і англійскай мовах кнігі дыскусійных матэрыялаў, і, як мне ўяўляецца, досыць красамоўных.

Шмат сіл і энергіі запатрабавала ад нас падрыхтоўка разам з Саюзам беларускіх пісьменнікаў (старшыня Вольга Іпатава) і правядзенне ў Доме літаратара ў ліпені 2002 года



*Міжнародны сімпозіум «Разнастайнасць моў і культур ў кантэксце глабалізацыі». Адам Мальдзіс, Васіль Якавенка, Аляксандр Вайтовіч, Вольга Іпатава*



трохдзённага міжнароднага сімпозіума на тэму: **«Разнастайнасць моў і культур ў кантэксце глабалізацыі».** У яго працы прынялі непасрэдны ўдзел і выступілі з дакладамі і паведамленнямі прадстаўнікі больш чым 20 краін Еўропы і Азіі. І сутнасць усіх выступаў: жывая і развітая мова — найвелізарнае тварэнне і скарб кожнага народа, яна ж — аснова самабытнай культуры, на ёй трымаецца ментальнасць і прыгажосць душы прадстаўнікоў пэўнай нацыі; мова, урэшце, кансалідуе і духоўна гуртуе народ і нацыю, адкрывае ім шлях да росквіту. Сколькі мовы — столькі і нацыі, якая мова — такая і нацыя!

Сімпозіум праходзіў пад эгідай міжнароднай арганізацыі ЮНЕСКА, і не выпадкова яго ўганараваў сваёй прысутнасцю і кароткай прамовай Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацууры.

Форум удаўся, і яго поспех перш за ўсё быў поспехам Вольгі Міхайлаўны Іпатавай, якая выдатна валодала як палітычнай, так і сацыякультурнай сітуацыяй, не гаворачы ўжо пра веды ў глыбіннай гісторыі, была носьбітам і палымяным абаронцам патрыятычнай ідэі ў краіне; у аргкамітэце яна займалася найбольш вузлавымі пытаннямі і, зразумела, знешнімі кантактамі. Немалаважную ролю тут адыгрывалі таксама нашы паплечнікі Адам Мальдзіс, вядомы вучоны, філолаг, і Ягор Фядзюшын, фізік, эколаг; першы самастойна рыхтаваў у рамках сімпозіума і правёў круглы стол «Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ў эпоху глабалізацыі», другі — разам са мной пыніўся над вырашэннем шматлікіх арганізацыйных пытанняў. Зрэшты, у нас не было выразнага размежавання абавязкаў. Працавалі дружна. Нярэдка выручала нас перакладчыца Ніна Квасавец. Было шмат дабраахвотных памочнікаў, у тым, відаць, і сакрэт поспеху.

Няма больш патрэбы спыняцца на гэтым форуме. Два тамы прадметных, надзеленых глыбінёй думкі матэрыялаў сімпозіума — добры след, які ён пакінуў.

Да недахопаў усіх міжнародных і рэспубліканскіх канферэнцый, сімпозіумаў, «круглых сталоў», якія мы арганізоўвалі і праводзілі, трэба аднесці адсутнасць да іх увагі з боку кіруючай эліты, палітыкаў, палітолагаў, маючых вагу ва ўладзе; толькі зрэдзь тут можна было пачуць таго або іншага міністра, сенатара, дэпутата Палаты прадстаўнікоў, вя-






домага вучонага. Можна сказаць, нашы дабрачынныя сацыяльна-экалагічныя і духоўныя высілкі, намаганні ігнаравала таксама афіцыйная прэса. Усё гэта зноў жа сведчыць пра адсутнасць клопату ў краіне аб развіцці і ўмацаванні грамадзянскай супольнасці, што так ці інакш уплывае на здароўе нацыі. А чаму, уласна?

Дзяржава не ўмела і не схільная была карыстацца розумам грамадзянскай супольнасці — усё гэта ёй да аднаго месца было...

Яшчэ ў 1997 годзе мы, белсаэсаўцы, упершыню на канферэнцыі ў Доме літаратара абмеркавалі хвалюючую многіх суайчыннікаў тэму **«Беларуская атамная станцыя: рэальнасць і ілюзіі»**. Вёў пасяджэнне Міхаіл Д. Цяўлоўскі, заслужаны дзеяч навукі, доктар тэхнічных навук, прэзідэнт Фонду абароны жыцця каля яго вытокаў і генетычнага коду народа. Было шмат навукоўцаў, былі «атамшчыкі», у тым ліку і Аляксандр Міхалевіч, які ў сваіх артыкулах у шырокай прэсе прапагандаваў будаўніцтва беларускай атамнай станцыі, але, як тут прызналі эксперты нашай канферэнцыі, яго абгрунтаванне было складзена без ведання альбо без жадання ведаць сапраўдную цану АЭС, яе будаўніцтва і эксплуатацыі, урэшце — наступстваў ад усёй гэтай рахубы.



Канферэнцыя асудзіла дылетантызм і нядобрасумленнасць ініцыятараў будаўніцтва АЭС у Беларусі.

І зноў жа ўсё паўтарылася праз 12–13 гадоў; на арэну выплылі тыя ж аматары гульняў з «мірным атамам», і да іх цяпер ужо, як ні дзіўна, прыслухалася ўлада. Прыслухалася і без усялякага аб'ектыўнага, а тым больш глыбокага абгрунтавання і ўліку рызыкі прыняла «палітычнае рашэнне» (заўважце, не эканамічнае і не экалагічнае, не! — прынамсі, Інстытут эканомікі НАН Беларусі выдаў станцыі адмоўную ацэнку), улада прыняла рашэнне і пачала рупіцца, закладваць муры пад Астраўцом, рабіць усё, каб асягнуць груды работ і агораць «сваю» чарнобыльскую штуку.

На гэты раз у грамадскіх аб'яднаннях клопат па незалежным аналізе праекта і яго ацэнцы возьме на сябе намеснік кіраўніка БелСаЭС «Чарнобыль» Ягор Фядзюшын, фізік-атамшчык, — ён узначаліць рух **«Вучоныя за бяз'ядзерную Беларусь!»**; рух правядзе некалькі грамадскіх слуханняў, зробіць звароты да ўлады і суайчыннікаў. Між іншым, актыўнейшую працу ў гэтым жа плане разгорне і грамадскае аб'яднанне «Экадом», якое даўно ўжо заснавала і ўзначальвае Ірына Сухій, энергічная маладая асоба, шырока арыентаваны эколаг.

Цалкам арыгінальным і, дарэчы, паспяховым праектам у БелСаЭС «Чарнобыль» стаў выпуск з самага пачатку 1991 года сацыяльна-экалагічнай газеты **«Набат»**, якая ледзь не кожным сваім матэрыялам, адкрытым, сацыяльна-вострым, праніклівым, прабівала дарогу да галоснасці, рашуча і смела вяла дыскусіі па нявырашаных чарнобыльскіх і ў цэлым экалагічных праблемах, асвятляла ўздзеянне радыяцыі на здароўе чалавека, яе ўплыў на ўвесь жывёльны і раслінны свет. Да дзіўнага ўзрушлівым і ўрачыстым было з'яўленне першага нумара газеты ў кіёсках; не верылася, што ў атмасферы, калі працэжвалася на сіце цэнзуры любое свежае друкаванае слова, новая газета выйдзе. На радасць нашым чытачам, «Набат» убачыў свет і неўзабаве даволі далёка разышоўся па падпісцы.

Адзін з нашых актывістаў і аўтараў — фізік Міхась Малько, да якога як чалавека высокай эрудыцыі і шырокіх інтарэсаў мы часам звярталіся па дапамогу, неяк выказаўся: «Набат» зрабіў пралом у глухой сцяне дэзінфармацыі і ўтойвання чарнобыльскіх праблем!».





*Калектыў рэдакцыі газеты «Набат». 1991 г.*

Прапаную да сказанага тут яшчэ колькі вытрымак з лістоў.

*«Я почти уверен, что минская социально-экологическая газета «Набат», очень серьезная и злободневная, делающаяся на хорошем профессиональном журналистском уровне, не только выживет, но и приобретет широкую известность».*

*Виктор Астафьев, писатель. 1992. Иркутск.*

*«Являюсь подписчиком газеты с первого ее номера. Мне импонирует ее социально-экологическая направленность, ее настойчивость в борьбе за выживание многострадального белорусского народа, всех пострадавших от Чернобыльской катастрофы. Такая газета нам, дальневосточникам, особенно «зеленому движению», во главе которого стоят народные депутаты В. Десятов и Е. Гаер, тоже очень и очень нужна».*

*Виталий Одынец, внештатный инспектор комитета экологии города. 1992. Комсомольск-на-Амуре.*

«Газета «Набат» должна устоять. Она нужна всем!

*Янина Макарова. 1992. Феодосия.*





*Падрыхтоўка чарговага нумара газеты «Набат». 1993 г.*

На газету «Набат» у розны час працавалі (у складзе рэдакцыі або не) літаратары Анатоль Казловіч, Васіль Рошчын, Віктар Дземянёў (Кіеў), Алена Мімрык, Марыя Філіповіч, Алег Фомчанка, Яўген Пушкін, Іван Пырх (Бранск), Уладзімір Кажэўнікаў, Герман Круглоў, Юры Дранжкевіч (Чарнобыль), Юры Такарэнка (Новасібірск), Міхась Стэльмах, Тадэвуш Скібінскі, Андрэй Вашкевіч, Ружа Налтанян, Людміла Багачэвіч (Кіеў), Валеры Дранчук, Валеры Татарцаў, Валеры Санько, Міхаіл Крыжаноўскі, Канстанцін Тычына, Алесь Шагулін, Мікалай Брыкс, Валеры Шумілаў, Анатоль Гурачэўскі, Уладзімір Цокаў, Ала Ткачова, фатограф Віктар Ігнатовіч, мастак Мікалай Гіргель, аператар вёрсткі і дызайну Саша Годзіна. Вядома ж, гэта не лічачы паэта Міхаіла Дудзіна, як і шматлікіх іншых аўтараў. Мне, яе рэдактару, цяжка знайсці адпаведныя словы ўдзячнасці тым, хто шанаваў, падтрымліваў і ўласнаручна рабіў



*Міхаіл Дудзін —*
*аўтар і друг*
*газеты «Набат»*






*Каля будынка на вул. Мясникова, 39, у якім размяшчаліся Сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» і газета «Набат». Другі злева — Мамору Фукае.*

нумар за нумарам гэтай газеты. «Набат» выканаў-такі сваю пачэсную місію.

Мінула ўжо паўтара дзясятка гадоў ад выхаду апошняга нумара, калі я ўзяў у рукі падшыўку і пагартаў год за годам. Быў сум. Але й нешта іншае. «Бацюхны! — хацелася ўсклікнуць: — Ды як жа гэта нам удавалася рабіць такую газету, дзе ледзь не кожны матэрыял зіхаціць сваімі гранямі і, на жаль, актуальны дагэтуль!»

У 1999 годзе па матэрыялах газеты «Набат» выдадзена тоўстая і вартая памяці аб чарнобыльскіх падзеях і героях кніга **«Письма к живым. Дайджест газеты «Набат».**

У пачатку 1990-х мы наладзілі супрацоўніцтва з японскімі партнёрамі — грамадскай ініцыятывай **«Рух у дапамогу Чарнобылю»**. З імі разам распрацавалі канкрэтную праграму па аздараўленні дзяцей чарнобыльскай зоны. І вырашылі правіць іх здароўе не дзе-небудзь далёка, за мяжой, а на месцы — у Беларусі.

І вось у канцы 1992 года, поўныя найлепшых парыванняў і гордасці за сябе і адно за аднаго, мы адкрылі санаторый **«Кюсю-на-Свіслачы»** пад Мінскам, на арандаванай



плошчы спорткомплекса «Стайкі». Там наша чарнобыльскае птаства разам з жылымі памяшканнямі і медыцынскімі кабінетамі карысталася яшчэ і спартыўнымі заламі.

За перыяд да 1996 года ўключна комплексам аздараўлення скарысталіся тры тысячы дзяцей чарнобыльскай зоны. З японскага боку найпершымі памагатымі ў гэтай немалаважнай і адказнай справе выступілі лідэры «Руху ў дапамогу Чарнобылю», энергічныя і слаўныя людзі: Мамору Фукае, паштовы службовец, і Руйшы Накамура, прадпрымальнік. А ў Японіі ў іх былі дзесяткі паплечнікаў, якія з-за клопатаў у гэтым праекце часам адмаўлялі сабе багата ў чым.

Чатыры гады японцы высакародна, аддана і натхнёна падтрымлівалі санаторый сродкамі, сваімі ўласнымі і сабранымі ў насельніцтва, — як што 50 адсоткаў санаторных выдаткаў пакрывалі яны, а 50 адсоткаў — наш бок; тут, на беларускай зямлі, разам з намі гэтым праектам ласкава апекаваліся ў апараце беларускіх прафсаюзаў — тагачасны лідэр Уладзімір Ганчарык, наша ўдзячнасць яму.

Нельга не адзначыць яшчэ і тое, што японцы пастаўлялі ў санаторый часткова медыцынскае абсталяванне, неаднаразова прывозілі вітаміны і іншыя аздараўленчыя сродкі, на месцы мы куплялі мёд і ў цэлым экалагічна чыстыя прадукты.

Арганізацыяй адпачынку, аздараўленнем дзяцей у санаторыі асабліва старанна і шчыра займалася намеснік галоўнага ўрача Ларыса Якавенка, як, зрэшты, і ўвесь медперсанал спартыўнага цэнтра ў Стайках. Дзякуючы іхняму клопату і ўсім пералічаным вышэй складальнікам поспеху, санаторый «Кюсю-на-Свіслачы» неўзабаве заняў у Беларусі лідыруючае становішча сярод падобных аздараўленчых устаноў для аслабленых і кволых дзяцей. Дадам хіба што: ён меў поспех менавіта па профілю дужасці, узняцця імунітэту дзяцей. Гэта было адзначана кампетэнтнай камісіяй Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальвала галоўны педыятр Нона Р. Рысь.

Не дзіва, вядома ж, як гэты санаторый для японскіх партнёраў стаў справай гонару і высокай асабістай годнасці. Ён быў прадметам і нашых немалых агульных клопатаў і ўсе мы, хто меў непасрэднае дачыненне да санаторыя, рабілі свой грамадзянскі ўнёсак у пагашэнне чарнобыльскага пажару. Тым не менш неўзабаве нам прыйшлося гэты санаторый закрыць.



Вестка проста агаломшыла нашых японскіх сяброў. Яны ж аніяк не маглі ўзяць сабе ў толк, а тым больш растлумачыць сваім паплечнікам у Японіі, што здарылася, чаму гэта здарылася, бо і сапраўды на тое нішто раней не паказвала. У іх галовах, якія прывыклі да парадку і стабільнасці жыцця, ніяк не ўкладвалася, як гэта медыцынская служба беларускага Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, у якой, дарэчы, вяршылі справы Іван Коваль і Валеры Шаўчук, знайшла падставы, каб адмовіць грамадскаму аб'яднанню БелСаЭС «Чарнобыль» у ліцэнзіі на аздараўленне дзяцей у Стайках.

На самай справе, чаму гэта здарылася? Ці то абодва службкі міністэрства былі настолькі прынцыповымі, ці то былі фанабэрыстымі і недалёкімі людзьмі? Знайшлася падстава: у агульных прыбіральнях корпуса, дзе размяшчаліся дзеці, нібыта бракавала да нормы аднаго месца. Гэта была прыдумка Коваля, бо архітэктары, калі праектавалі жытло, ведалі нормы не горш, скажам, за медыка.

Але ж прычына таго канфузу ў іншым. Газета «Набат» у адным з нумароў (люты, 1996) апублікавала **«ЗАЯВУ Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль» Аб неадпаведнасці дзейнасці Міністэрства па надзвычайных сітуацыях узроўню нацыянальных задач».**

На пашыраным паседжанні кіраўніцтва БелСаЭС «Чарнобыль», дзе абмяркоўвалася гэта заява, са сваімі меркаваннямі і прапановамі выступілі дэпутат Вярхоўнага Савета Анатоль Волкаў; доктар медыцынскіх навук, дырэктар БелНДІ экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы Эдуард Збароўскі; член-карэспандэнт АН Беларусі Іван Нікітчанка; доктар філасофскіх навук, эколаг Павел Вадап'янаў. Заяву падтрымалі таксама ўрач, яна ж і старшыня Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» Тамара Белавокая, як і мае паплечнікі, на іх я нярэдка абапіраўся, — Юры Варонежцаў, Міхаіл Малько, Анатоль Банкевіч і іншыя. Грунтуючыся на фактах і крыніцах, якія нам былі знаёмыя і пэўным чынам характарызавалі дзейнасць Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, вышэй названую заяву падпісалі 15 чалавек — усё навукоўцы і грамадскія дзеячы.

Наша газета была папулярнай сярод чытачоў, і, калі выйшаў нумар з заявай, то ў міністэрстве сяго-таго, відавочна,



пачало трэсці ад хвалявання і нянавісці да асоб-падпісантаў. Міністр Іван Кенік падаў у суд іск на газету, але пасля першага ж судовага паседжання па гэтай справе змушаны быў іск адклікаць, як што справядлівасць і правамоцнасць публікацыі вельмі нават добра маглі пацвердзіцца вынікамі розных дзяржаўных праверак скандальнай у тым часе ўстановы. А далучыць да матэрыялаў суда копіі тых дакументаў мы ў суддзі запатрабавалі.

На сённяшні розум, лічу, аднак, не лішнім зазначыць, што ў неэфектыўным выкарыстанні і нястрыманым растранжырванні дзяржаўных сродкаў на «ліквідацыю наступстваў» вінаваты быў, бадай, не столькі міністр МЧС, колькі сістэма, у якой ён працаваў. Але ж куды дзенешся ад факта заявы «аб неадпаведнасці дзейнасці ўзроўню нацыянальных задач»? І, не прыдумаўшы нічога лепшага, як нам — шэльмам, што ўчынілі такую крыўду, — насаліць, міністэрства адыгралася на ліцэнзіі для аздараўлення дзяцей, не выдаўшы яе грамадскаму аб'яднанню.

Тым самым мы і нашы адданыя высакароднай справе партнёры былі пастаўлены ў нядобрую, адкрыта скажам, зняважлівую сітуацыю.

У 1997–1998 гадах група медыкаў, неўрапатолагаў і іншых спецыялістаў БелСаЭС «Чарнобыль», у тым ліку Паўла Грыбайлава і Алега Шардакова, пад кіраўніцтвам усё той жа Ларысы Якавенка правяла абследаванне дзяцей ў забруджаных вёсках Бярэзінскага, Барысаўскага і некаторых іншых раёнаў Міншчыны, абследавала таксама перасяленцаў у пасёлку Чысць Маладзечанскага раёна. Інфармацыю аб выяўленых захворваннях перадалі ў афіцыйныя медыцынскія службы. На маёй памяці дагэтуль скрушлівыя жальбы ўдзельнікаў гэтай медыцынскай групы на педагагічную запушчанасць навучэнцаў школ у глухіх вёсках, на разумовую адсталасць і дэбільнасць, пераважна ў тых падлеткаў, якія на момант Чарнобыльскай катастрофы знаходзіліся ў чэраве маці.

Пачынаючы з 1995 года, БелСаЭС «Чарнобыль» час ад часу выпускаў асобныя кнігі, падрыхтаваў і выдаў зборнік конкурсных сачыненняў беларускіх школьнікаў на тэму Чарнобыля — **«След чорнага ветру».**



Правесці конкурс нам дапамагло Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, за што мы яму былі вельмі ўдзячныя. У зборнік ўвайшлі каля сотні сачыненняў у розных літаратурных жанрах. У якасці ілюстрацый друкаваліся малюнкі дзяцей. Адкрывалася складанка выдатным малюнкам Юліі Морозавай «Чарнобыльская мадона», разам з адмысловым тэкстам малітвы Таццяны Акулевіч «Ратуй нас, Божа!».

Гэта кніга шмат у чым дапаўняла ўжо вядомае і напісанае пра Чарнобыльскую катастрофу. У той жа час яна па-свойму, глыбока і ярка асвятляла падзеі, сямейныя драмы і трагедыі. Па словах аднаго з адмыслоўцаў, усяго толькі па сачыненнях зборніка «След чорнага ветру» можна вывучаць гісторыю Чарнобыльскай катастрофы. Дзеці шчырыя летапісцы і сведкі, дзеці не хлусяць. Яны на сабе спазналі бяду.

Зборнік сачыненняў «След чорнага ветру» лічыцца своеасаблівым шэдэўрам у чарнобыльскай літаратуры, ён перавыданы ў Японіі, Бразіліі і Германіі.

Праз сем–восем гадоў пасля гэтага ўнікальнага выдання мы падрыхтавалі і выпусцілі новы зборнік успамінаў, як працяг першага. Кніга называецца **«Чарнобыльскія матылі»** (2003), яна выдадзена на некалькіх мовах. Маладыя людзі распавядаюць пра пачатак свайго самастойнага шляху, выяўляюць па-новаму сваё светаўспрыманне, дзеляцца асабістымі поспехамі і задумамі.

Відавочна, заслугоўвае неардынарнай увагі чытачоў таксама выпушчаны намі ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор» складнік **«Крушэнне на ростані»** (2002), куды ўвайшлі напісаныя мной найбольш значныя артыкулы, эсэ і іншыя матэрыялы, у якіх закранаюцца экалагічныя і духоўныя тэмы жыцця грамадства, у тым ліку клопаты пісьменнікаў у наш пераходны (ад Перабудовы ды Чарнобыльскай катастрофы і распаду Саюза) час.

БелСаЭС «Чарнобыль» займаўся таксама атрыманнем і размеркаваннем гуманітарнай дапамогі, часткова аздараўленнем дзяцей за мяжой. І тут нашымі партнёрамі сталі чарнобыльскія ініцыятывы: у Германіі — кіраўнікі Ханналёра Хайнрых (Эрфурт, Цюрынгія), Пауль Кох (Ватцум, Ніжняя Саксонія), Франк Гофман (Хаслох, Райнфаль), а ў Даніі — Дан Дысінг — Мадсэн (Сківе).





*Вацлава Вярбоўская і Марыя Дзямковіч (па цэнтры) на прыёме ў прэзідэнта ЗША Джорджа Буша-старэйшага. Вашынгтон, Белы дом, 1992 г.*

По праграме гуманітарнай дапамогі, захаваўшы кантакты, найбольш плённа працуюць нашы аддзяленні — Мазырскае рэгіянальнае пад кіраўніцтвам Ірыны Станкевіч і Мазырскі цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва «Жыццё пасля Чарнобылю», які ўзначальвае Лідзія Ралько.

Зусім асобна ў чыннай гуманітарнай прасторы стаіць ініцыятыва Піцбуржскага медыцынскага універсітэта (ЗША), а калі больш канкрэтна — доктара Томаса Фоллі і Марыі Дзямковіч, апошняя — беларуска з мястэчка Моталь, па сканчэнні Варшаўскай вышэйшай медыцынскай школы працавала педыятрам у Польшчы, потым — у ЗША. Пасля Чарнобыльскай катастрофы і асабліва распаду Савецкага Саюза неаднойчы прыязджала на Бацькаўшчыну; у Мінску пазнаёмілася з дзейнасцю аб'яднання БелСаЭС «Чарнобыль», з дактарамі клінікі Інстытута радыяцыйнай медыцыны і 4-й дзіцячай бальніцы; вярнуўшыся ў Амерыку, пачала назапашваць разнастайныя лекі, медыцынскі рыштунак, прыборы, прывозіла іх у выглядзе гуманітарнай дапамогі ў



4-ю дзіцячую бальніцу і Мотальскую сельскую бальніцу.

Доктар Марыя разам з другой сваёй зямлячкай, рэжысёрам тэлебачання Вацлавай Вярбоўскай патрапілі на прыём да прэзідэнта ЗША Джорджа Буша і расказалі яму аб чарнобыльскай трагедыі, што напаткала маладую краіну Беларусь, створаную на постсавецкай прасторы. Вынікам таго візіту была гуманітарная дапамога ў выглядзе лекаў. Будучы выдзеленай, яна пайшла па прызначэнні праз прадстаўніцтва Беларусі ў Нью-Ёрку.



*Марыя Дзямковіч*

Па словах М. Дзямковіч, пошук у амерыканскіх медыцынскіх установах падтрымкі для беларускай медыцыны, што змагалася за здароўе дзяцей і дарослых, пацярпелых ад чарнобыльскай радыяцыйнай навалы, пачаўся з моманту, калі тадышні міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, паставіў перад кіраўніком Прадстаўніцтва Беларусі пры ААН у Нью-Ёрку Генадзем Бураўкіным задачу знайсці такую падтрымку. А на той момант Г. Бураўкін ужо ведаў пра сваю землячку доктара, якая жыла ў Піцбургу.



*Томас Фолі*

У Піцбургу Марыя здолела зацікавіць амерыканскіх медыкаў чарнобыльскімі праблемамі, і таму неўзабаве яны ўжо разам з прафесарам Томасам Фоллі (Thomas Foley), спецыялістам па эндакрыналогіі, прыязджаюць у Беларусь.

У адзін са сваіх прыездаў у Мінск доктар Фолі даў інтэрв'ю газеце «Набат» (2003, красавік, № 9). Па словах Фолі, паскорыць вырашэнне пытання амерыканскага супрацоўніцтве з нашай краінай дапамаглі беларуская дыяспара ў ЗША і асабіста доктар Марыя Дзямковіч: *«Яны*



*пісалі лісты і накіроўвалі членам амерыканскага ўраду і парламента, непасрэдна вялі перамовы. Гэта і падштурхнула адказных асоб узяць пад увагу наш афіцыйны зварот. На наш праект выдалі грант у 240 тысяч долараў. Вы здзіўленыя?»*

Так, у гутарцы з ім тады я выказаў здзіўленне. Атрымалася ж цікавая рэч. Бо тыя 240 тысяч долараў выдаткавала на Беларусь (для рэалізацыі праграмы Фолі ў навуковым партнёрстве) акурат Агенцтва па інтэрнацыянальнаму развіццю, у якое крыху раней, а менавіта ў студзені 1992 года, я перадаў хадайніцтва аб гуманітарнай дапамозе за подпісамі прэм'ера В. Кебіча, А. Смоляра і, уласна, свайго. Недарэчнасць тады была ўтворана адсутнасцю афіцыйнай падачы для такога незвычайнага дакумента. Пра той прыкры выпадак я і расказаў доктару Фолі, адно пра яго ён нічога не ведаў, што і не дзіўна... Ведаў затое пра іншае: беларуская царква ў асобе епіскапа Мікалая перадала на іх прект 20 тысяч долараў, і гэта яго цешыла.

У склад амерыканскіх дэлегацый разам доктарам Т. Фолі ў розны час уваходзілі таксама У. Дональдсан, дырэктар дзіцячага шпіталю ў Піцбургу, вядомы ў свеце хірург, Ш. Вайнштэйн — чалавек ад Амерыканскага міжнароднага альянса аховы здароўя, дактары Б. Зітэллі, М. Блюм, С. Какошыс...

Паводле слоў Томаса Фолі, на праграму партнёрства ўскладалася пераважна задача адукацыі і ўдасканалення спецыялістаў. А марай партнёрскага супрацоўніцтва было адкрыццё ў Беларусі дзіцячага медыцынскага цэнтра, па сваёй аснашчанасці, як бачылася энтузіястам тады, найлепшага на гэтым кантыненце.

У ходзе супрацоўніцтва з амерыканскімі спецыялістамі пазнаёміліся і прайшлі курс удасканалення за мяжой, у Піцбургу, а таксама ў Польшчы, шмат якія беларускія спецыялісты ў галіне медыцынскай радыялогіі, у тым ліку Ларыса Астахава,Таццяна Варанцова, Таццяна Маслоўская, Таццяна Палякова, Ірына Мітрошанка, Сяргей Мяльноў. Тэмы стажыровак мяняліся – былі і па захворванні дзяцей і дарослых на рак шчытападобнай залозы, і па захворванні на рак малочнай залозы ў жанчын...

Амерыканскія сябры арганізавалі ў дзіцячай бальніцы № 4 падрыхтоўку па агульнай педыятрыі пад кіраўніцтвам





*Першая лэдзі ЗША Хілары Клінтан і прафесар Томас Фолі ў 4-й дзіцячай бальніцы г. Мінска. 1994 г.*

прафесара Базіля Зітэлі і доктара медыцыны Мірыан Блюм, а таксама па гастраэнтэралогіі з той прычыны, што праведзеныя тады важныя даследаванні выявілі высокі ўзровень накаплення бактэрыі Helicobactor pillori gastritis у дзяцей, асабліва у тых, якія праходзілі лячэнне ў санаторыях з хранічнымі захворваннямі, цярпелі абдамінальныя болі, прычыну якіх раней было прынята звязваць з псіхагенным уплывам, што цяпер асацыявалася, аднак, з чарнобыльскай катастрофай.

Праект Томаса Фолі набыў назву «Вучоныя дапамагаюць дзецям Чарнобыля». Ён, як вядома, залежыць ад фінансавання ў ЗША і доўжыцца ў абмене вопытам дагэтуль.

Сам доктар Фолі — чалавек даволі шырокіх інтарэсаў, складае песні, іграе на банджо і гітары; таму і не выпадкова ў газеце «Набат» быў надрукаваны ягоны верш «Чарнобыль», прысвечаны радыяцыйнай экалагічнай катастрофе, куплеты з якога падаюцца тут у перакладзе на беларускую мову Станіслава Судніка.



Страшней, чым у годы ваеннага жаху,
На хаты палескія легла бяда.
І людзі пазбаўлены роднага даху,
І страшнымі сталі зямля і вада.

Выбух рэактара грозна-атрутны
І плач шматмільённы без модлаў і слёз.
Узвіўся пад неба цэзій атрутны
І вецер атручаны попел панёс.

*(© 1986 Thomas P. Foley, Jr.)*

Было надзвычай цікавым тое, пра што наш госць распавёў чытачам газеты «Набат», якую мы выдавалі: «Апроч сваёй працы люблю займацца музыкай. Аддаю перавагу класічнай оперы, а яшчэ я далёка неабыякавы да музыкі блакітнай травы”, што, бадай, не ўсім зразумела. Наважваўся дырыжыраваць “Дон-Жуана” ў Метраполі, але гэта пакуль не далося ў рукі. Сярод маіх сяброў віянчэліст і канцэртмайстар. Спадзяюся, яны мне дапамогуць. Відавочна, давядзецца ахвяраваць немалымі сродкамі дзеля Метраполь-оперы. Але нічога, мы пачакаем з выкананнем гэтай індывідуальнай праграмы, пакуль не вырашым усе медыцынскія праблемы ў Беларусі і ЗША».

У газеце «Набат», між іншым, нярэдкімі гасцямі былі беларускія паэты, да прыкладу, Я. Гучок, В. Жуковіч, С. Законнікаў, Б. Спрынчан... Адзін з іх — паэт Іосіф Васілеўскі, настолькі пранікся прыхільнасцю і чуласцю сяброў з-за акіяна, што прысвяціў гожай землячцы — заўзятаму доктару Марыі Дзямковіч верш «Признательность», складзены ў манеры, што была наогул уласцівая яму, чалавеку артыстычнай і ўзнёслай натуры (перакдад з рускай мовы С. Судніка):

Нібы сыход ратункавы Хрыста...
Як з неба ў дні чарнобыльскія, злыя
Быў Ваш прыезд і Ваша дабрата,
І Ваша міласэрнасць як святыя.

Як сэрцам трэба ўсё было прыняць,
Каб у краі, што атам злы парушыў,
Дзяцей, старых, нямоглых ратаваць
І ацаляць скалечаныя душы.



Наш дзякуй Вам! Мы дзякуем за ўсё
І доктару найслаўнейшаму Фолі,
Я можа кнігай адару сваёй,
Калі на тое стане Божай волі.

Майму паплечніку светлай памяці Іосіфу Васілеўскаму, на вялікі жаль, не суджана было адарыць Марыю, Томаса і ўсю грамаду чытачоў сваёй новай кніжкай. Прабач, шчыры чалавеча, але ж затое меў шчасце зрабіць гэта я, і Марыя Дзямковіч (Раманавічанка) стала адным з дасціпных персанажаў майго гістарычнага рамана «Надлом» і трылогіі «Пакутны век».

Далей, працягваючы аповед пра сацыяльна-экалагічны саюз, належыць сказаць, што чыста экалагічнымі праектамі ў нас паспяхова займаліся Баранавіцкае аддзяленне, кіраўнік Анатоль Банкевіч, Кобрынскае аддзяленне — экалогія, здаровы лад жыцця, мараль, — кіраўнік Уладзімір Сацэвіч, Мінская арганізацыя — тонкія матэрыі, экалогія



*Дзелавая гутарка ў рэдакцыі газеты «Набат». Злева направа: Алена Мімрык (стыль-рэдактар), Васіль Якавенка, Тадэвуш Скібінскі, Анатоль Зубоўскі (прадпрымальнік), Валеры Татарцаў і Алег Фомчанка. Чэрвень 1993 г.*



чалавека, — кіраўнік Васіль Касінец, а таксама Бабруйская ініцыятыва, — ландшафты і людзі, іх звычкі, прапаганда ведаў аб супольным ўладкаванні ў тым ці іншым кутку, — каардынатар Ігар Куталоўскі.

Праекты ва ўсіх розныя. Баранавіцкае аддзяленне, напрыклад, заручыўшыся падтрымкай прадстаўніцтва ААН/ПРААН у Беларусі, прыступіла да адмысловага праекта рэкультывацыі зямель і пасадак лесу. Вось яго кароткая справаздача за 2008 год, калі пачынаўся праект:

*«Праведзена 5 эколага-адукацыйных семінараў з навучэнцамі 1-й Баранавіцкай гімназіі і 2-й сярэдняй школы на тэму «Карысць лесу для чалавека». Пасля такой культурна-асветнай падрыхтоўкі вучняў мы прыступілі да акцыі (у вясновыя і восеньскія месяцы) па рэкультывацыі кар'ераў пад горадам і пасадцы дрэў. У гэтай нашай акцыі прынялі ўдзел 300 вучняў, з імі разам працавалі і спецыялісты Баранавіцкага лясгаса. Лес высаджаны на плошчы ў 25 гектараў».*

А дзякуючы дзейнасці Бабруйскай ініцыятывы было ўтворана тры гэтак званыя Асоба ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі, дзве — мясцовага значэння і адна — рэспубліканскага.

Беларускім сацыяльна-экалагічным саюзам «Чарнобыль» атрыманы дзяржаўны патэнт № 3352 на «Спосаб вывядзення радыенуклідаў з арганізма», аўтар Валеры Шумілаў, урач. Пры гэтым спосабе вывядзення радыенуклідаў з арганізма (пераважна цэзію) прымяняюцца энтэрасарбенты, толькі іх увядзенне ў арганізм а д р о з н і в а е ц ц а тым, што папярэдне назначаюць курс разгрузачна-дыетычнай тэрапіі, а энтэрасорбцыя праводзіцца ў тэрапеўтычна эфектыўных дозах у перыяд поўнага галадання, на працягу 3–10 сутак.

Тут, у выкладзеным аповядзе, багата што названа альбо нават раскрыта, толькі ж яшчэ далёка не ўсё з таго, чым займаўся і займаецца Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль».

Мае паплечнікі лічаць, што чарнобыльскія радыяцыйныя і іншыя экалагічныя хваробы трэба лячыць, займаючыся лекаваннем і маральна-псіхалагічным аздараўленнем усяго грамадства.

# ЗЯМЛЯ — НАШ ДОМ



*Светлай памяці Тамары Белавокай*



*Photo: Rob Huibers*

Мы разам з ёю рыхтаваліся, каб падвесці вынікі сваіх намаганняў — за чвэртку веку — у пераадоленні наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. І менавіта пра яе, паплечніцу, думаецца мне цяпер і хочацца прыгадаць некаторыя эпізоды з жыцця і дзівоснай руплівасці гэтай жанчыны.

У апошнія гады мы разам працавалі над увасабленнем у жыццё праекта «Маладзёжнага экалагічнага руху», якім яна і яе сябры з Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» (створанага ёю), займаліся шмат гадоў; з ёю мы, да прыкладу, вялі экалагічныя школы для лідэраў школьнай моладзі, сістэматычна раз на год падводзілі вынікі конкурсу экалагічных (навукова-даследчых і практычных) праектаў маладых, юных — «Зямля — наш дом». А да гэтага ў яе былі дзясяткі іншых дасціпных, навацыйных, смелых у тым часе праектаў як па вырошчванні чыстых прадуктаў харчавання на забруджаных радыенуклідамі глебах (у чым яна аніяк не магла знайсці паразумення з дзяржаўнымі структурамі), так і па аптымізацыі ладу жыцця ў постчарнобыльскіх беларускіх вёсках — бліскучы праект, здзейснены ёю ў Валожынскім раёне. Дзякуючы яе ж ініцыятыве і падтрымцы Інстытута гісторыі НАН у асобе Лідзіі Іванаўны Тэгака, загадчыцы аддзела антрапалогіі і экалогіі, у сярэдзіне 90-х гадоў была адкрыта і Акадэмія экалагічнай антрапалогіі, таксама грамадская, але даволі дзейная — запаўняла ў навуцы сваю нішу.

Таму ўжо лагічным рабілася, што камітэт «Дзеці Чарнобыля» разам з Міжнародным фондам Арніка «Дапамога хворым на рак шчытападобнай залозы» і Беларускім



сацыяльна-экалагічным саюзам Чарнобыль» узяліся за падрыхтоўку і правядзенне 24–26 лістапада 2010 года ў Мінску Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «ЭКАЛОГІЯ ЧАЛАВЕКА Ў ПОСТЧАРНОБЫЛЬСКІ ПЕРЫЯД», прысвечанай 25-годдзю Чарнобыльскай катастрофы, практычна — змаганню з гэтай вялікай навалай. Уражваў склад спрактыкаваных даследчыкаў — дакладчыкаў, вольных, адукаваных, іх было каля сотні па розных тэматычных раздзелах, і кожны ўносіў у агульны рэй штосьці сваё, дасціпнае, вартае. У маім уяўленні, шырока разгорнуты форум ператвараўся ў цуд, бо праходзіў не па заходніх рафінаваных узорах, дзе за словам — лоск і нічога больш, — так нярэдка бывала, і не па нашай палітычнай зададзенасці, пры якой кожнае слова вымаўляецца з аглядкай, каб не сказаць «лішняга». Тым і каштоўны грамадскі форум, што на ім дасціпная думка раскоўваецца, выступае без панцыра.

Як бы там ні было, але гэты форум праходзіў зварушліва і ўдала, шукаючы, супольна той рады, што далей рабіць; і ягоныя высновы таксама радавалі — чырвонай ніткай праходзіла думка аб неабходнасці навуковай інтэграцыі даследаванняў, аб'яднанні намаганняў аналітыкаў па чарнобыльскай тэматыцы Беларусі, Украіны і Расіі.

Дыспуты правялі на базе 4-й дзіцячай бальніцы і ў канферэнц-зале Палаца мастацтва — як што паспрыяў таму Беларускі саюз мастакоў. За ўдачу варта лічыць удзел у грамадскай (як-ніяк — грамадскай) канферэнцыі адмыслоўцаў, кампетэнтных вучоных розных краін, акадэмікаў, прадстаўнікоў дзяржаўных структур, што было рэдкім явішчам у беларускім жыцці, бо паказвала на ажыўленне грамадзянскай супольнасці!

Асноўным рухавіком у працяглай турботнай справе па падрыхтоўцы форуму зусім натуральна і звыкла (для яе гэта была ўжо XVIII навукова-практычная канферэнцыя) выступала Тамара Васільеўна Белавокая. Скрушлівай асаблівасцю моманту было тое, што грошай на праект постчарнобыльскага рэю, што меў падвесці вынікі 25 гадовай рупнасці грамадскіх і дзяржаўных структур у супрацьстаянні радыяцыі, ніхто не даў — ні свае, ні міжнародныя фонды. І Белавокай даводзілася тут выкладвацца да апошняга і нават аддаваць дзеля справы сваю пенсію.





*Пад час правядзення маладзёжнага семінара «Зямля — наш Дом». Падпісваюць свае кнігі Георгій Ліхтаровіч і Васіль Якавенка*

Я стараўся як найбольш дапамагаць ёй — асабліва ў падрыхтоўцы праграмы форуму ды ў кантактах з верагоднымі яго ўдзельнікамі. Потым, калі падрыхтоўка мерапрыемства скончылася і пачаліся дыскусіі, мне давялося ўжо «збегчы» з бальніцы (куды нечакана трапіў па дзівоснаму дыягназу «небальнічная пнеўманія»), і весці запланаваны раней ў Палацы мастацтва «Круглы стол» па тэме: «Набатная праўда гісторыі». Ураджанне: сабраліся людзі і так шмат вывярнулі тут нечуванага, новага, мала вядомага, што я не ведаў, як схапіць і як утрымаць у запасніках сваёй памяці гэтакую паводку інфармацыі. Шчыра і пранікнёна, кранальна, з чэзлай горыччу раскрываў непамысную праўду аб Чарнобылі, на самім сабе і сваіх дзецях выпрабаваную, Віктар Кулікоўскі, электрык, ліквідатар; ліквідатарам стаў з першых гадзін аварыі на чацвёртым блоку. Шмат цікавага паведамілі Аляксандр Глушчанка, таксама з тых жа ліквідатараў, навуковы супрацоўнік Вавілаўскага інстытута РАН, ён прыехаў з Масквы (хоць гэта і нязручна было, маючы на нагах пратэзы). Яскравы ўнёсак у дыскусію зрабілі медыкі Людміла Лосева, Алена Карповіч, доктар медыцыны і сацыяльна-



псіхалагічнай абароны насельніцтва Эдуард Збароўскі. Там жа разам з намі была і Тамара Белавокая. Яна расказвала пра першыя крокі ў сваёй грамадскай чарнобыльскай дзейнасці, якая пачалася ўжо 3 мая 1986 года з падрыхтоўкі і распаўсюджвання памятак, лісткоў з рэкамендацыямі для насельніцтва, як паводзіць сябе ў зоне, накрытай Чарнобылем. У атачэнні калег і сяброў яна нярэдка нагадвала мне маці з пчалінай сям'і. Бадай, на гэты раз мы з ёй пачувалі сябе шчаслівымі ад пасняхова праведзенага і тым больш адлюстраванага ў відыёзапісе «юбілейнага» рэю.

Гэта была разумная, цалкам аддадзеная сваёй сям'і, дзецям, свайму грамадзянскаму абавязку жанчына, неўтаймоўная, чулая, пранікнёная, з лёгкім жартаўлівым характарам, тонкім гумарам, часам іроніяй і заўжды-заўжды знаходлівая, сімпатычная, слаўная асоба. Народжаная, між іншым, у нямецкім канцлагеры «Граёва» на тэрыторыі Польшчы. На апошнім годзе вайны. З дзяцінства мела думны, учэпісты позірк... Яе маці Марыя Анісімаўна Чарнянок, жыхарка вёскі Ліхінічы з-пад Круглага, што на Магілёўшчыне, трапіла ў канцэнтрацыйны лагер за сувязь з партызанамі. Дачка Тамара скончыла Ракаўскую сярэднюю школу, вывучылася на доктара... Працавала ў Аксакаўшчыне, у санаторыі Лечкамісіі, які падчас Чарнобыльскай катастрофы ператтварылі ў клініку Інстытута радыяцыйнай медыцыны. Была ўрачом вышэйшай катэгорыі, загадвала аддзяленнем функцыянальнай дыягностыкі, мела вялікі аўтарытэт у супрацоўнікаў і пацыентаў.

Тым часам яна паспела яшчэ запусціць у друк зборнік матэрыялаў канферэнцыі «Экалогія чалавека ў постчарнобыльскі перыяд». Атрымалася унікальная па сваіх навуковых абагульненнях, лагічных высновах ды сацыяльна-практычнаму досведу кніга...

У Белавокай былі адпаведныя планы наперад. Яна збіралася падоўжыць працу над раней распачатымі праектамі па пашырэнні экалагічнага руху сярод навучэнцаў «Зямля — наш дом», Яна любіла гэтую праграму, у якой з году ў год удзельнічала шмат падлеткаў. Яны праводзілі цікавыя экалагічныя дасдаванні, пісалі справаздачы, вершы і расказы аб прыродзе. Парадавала, нарэшце, яе і новая спонсарская падтрымка. Навіна апошніх дзён... Толькі ж грандыёзная па навукова-інфармацыйнаму выбуху XVIII канферэнцыя стала яе лебядзінаю песняй.





*Тамара Белавокая разам з гасцямі семінара «Зямля — наш дом» Вольгай Іпатавай і Васілём Якавенкам*

Адчувала сябе не зусім добра (а ў яе была зацяжная хвароба — непакоілі сасуды, асабліва ног). Гэта было суворае наканаванне лёсу, прысуд, якога так хутка не чакала, а можа, і чакала: час тэрмінова збірацца ў далёкую палявую дарогу, якая нікога не выводзіць назад.

У чацвер яна запрасіла да сябе святара, знайшла свечкі і іншыя патрэбныя для справы рэчы — паспавядалася, прычасцілася, зрабіла ўсё як мае быць. Прайшоў дзень. У пятніцу яшчэ адказвала на тэлефонныя званкі. Аднак яе сасуды больш не трывалі — лопнула анеўрызма падуздышнай артэрыі, і яна сама сабе паставіла дыягназ, які потым пацвердзіўся. Спецыялісты хуткай дапамогі наладзілі ёй кропельніцу і, калі адна рука была занятая, другой яна абнімала дзяцей (два сыны і дачка), без слёз і адчаю, як і жыла, пачала развітвацца, усміхалася, казала, што ёй ніхто і нішто больш не паможа, прасіла, каб не везлі яе у бальніцу, наказвала ім усім жыць дружна і годна. Сілай духу трымаючыся ў гэтым шматколерным свеце, была ўсцешаная тым, што не давядзецца лежма ляжаць доўга, хварэць, прычыняючы клопат родным сваім. У тую ноч на суботу 12 лютага, пасля працяглай аперацыі, яна ўжо не прыйшла ў прытомнасць.



Да Тамары вельмі добра ставіліся браты, Іван і Аляксандр, абабітыя жыццём гаспадары прарабскага чыну, цяпер пенсіянеры, і я ніколі не бачыў, каб над дамавінай, прыпадаючы да нябожчыцы, плакаў гэтак горка і няўцешна, наўзрыд, не маючы сіл спыніцца, чалавек, які акурат прыехаў, калі я там туліўся, а гэта быў малодшы брат — Аляксандр.

Хавалі яе на заснежаных могілках вёскі Гарані, што непадалёку ад пасёлка Аксакаўшчына, дзе яна з мужам жыла. Муж Чэслаў Белавокі — выкладчык нямецкай і англійскай моў у мясцовай школе.

Я ішоў за дамавінай, дакладней, нёс паперадзе крыж, і ў тым была ўцеха прысутнасці, гонару, з палыноваю гаркатою разам; ад нагэтулькі вялікае страты. І мроілася ў галаве пра вечную памяць і славу падзвіжніцы, што лекавала і ўсяляк ратавала народ.

# КУПІЦЕ БОМБУ У АКАЙМОЎЦЫ КВЕТАК



Мы пакупнікі і павінны чын-чынам разгледзець тавар. А паколькі нам прапануюць бомбу для вытворчасці ў сваім доме электрыкі, то варта падумаць, а ці патрэбна яна нам.

Вучоныя Новасібірскага аддзялення Расійскай Акадэміі навук, шукаючы перспектывы ў развіцці атамнай энергетыкі на сто гадоў наперад, прааналізавалі сусветны вопыт у гэтай галіне, а разам і альтэрнатывы порсткаму «мірнаму атаму». Нашы «атамшчыкі», якія, на жаль, не маюць ні адукацыі ў ядзернай галіне, ні жадання аналізаваць вопыт свету, усё ж даходзяць будаўніцтва «сваёй» АЭС. Ці трэба з імі пагаджацца?

Адно важна зазначыць: пасля Чарнобыльскай катастрофы будаўніцтва АЭС у свеце крута пайшло на спад — наеліся «таннай» электраэнергіі?!.. Падобна.

Расійскія вучоныя зрабілі несуцяшальную для атамшчыкаў выснову: няма перспектыў у атама! І гэта важна ўцяміць кожнаму! Пра гэта ж наглядна сведчыць і дыяграма, складзеная прафесарам А. Нячаевым. А вось лічбы. Толькі за 1971–1998 гады, па дадзеных МАГАТЭ, прыпынена будаўніцтва 21 рэактара і пастаўлены крыж на будаўніцтве 67 запланаваных.

Прыкладна 30 гадоў таму МАГАТЭ разлічвала будаваць штогод больш за 170 атамных блокаў, а цяпер ужо мусіць радавацца, калі выпадае 3–4 блокі на год.

Апошнім часам атамныя электрастанцыі будуюць у асноўным дзяржавы не дужа развітыя і то пераважна з канфліктных рэгіёнаў. Дзякуючы гэтакай нячыстай сіле яны хацелі б выправіць альбо падвысіць сваё становішча ў свеце, задаволіць амбіцыі. Адсюль і мэта: напрацаваць на рэактарах свой плутоній і потым стварыць або, стварыўшы, нарошчваць на ім ядзерную зброю. Гэта — Кітай, Іран, Турцыя,



Індыя, Пакістан, Паўночная Карэя, Аргентына, Бразілія... Магчыма, не з'яўляецца выключэннем з гэтага шэрагу і наша Рэспубліка Беларусь. Дзеля гэтага і робяцца высілкі.

Між тым адмаўляюцца ад будаўніцтва новых АЭС такія краіны як ЗША, якія даўно ўжо набылі атамную зброю альбо не збіраюцца яе набываць — Германія, Францыя, Японія... У Іспаніі, Швецыі, да прыкладу, сёння наогул тэндэнцыя на ліквідаванне АЭС. У Італіі атамныя станцыі спынены.

У заканадаўстве шэрагу краін уведзена забарона на развіццё і выкарыстанне атамнай энергетыкі ў будучым — тая ж Германія, Бельгія, Аўстрыя, Данія. На долю АЭС цяпер прыпадае ўсяго 3–4 адсоткі электраэнергіі ад той, якая выпрацоўваецца ў свеце.

Нядаўна ў Мінску адбылася нарада ініцыятыўнай групы дасведчаных у энергетычнай галіне асоб і грамадскіх дзеячаў, якія абмеркавалі прынятае Саветам Бяспекі Рэспублікі Беларусь рашэнне ад 15 студзеня 2008 года аб будаўніцтве ў краіне атамнай электрастанцыі.

З аналізам перадумоў для такога стратэгічнага кроку ў эканамічным і гаспадарчым жыцці краіны выступілі вучоныя Віктар Пяшко, Георгій Лепін, Ягор Фядзюшын, Мікалай Лаўрэнцьеў, Валянцін Ламан, Мікалай Панцішын, а таксама эколаг-публіцыст Валеры Дранчук і аўтар гэтых нататак пісьменнік Васіль Якавенка.

Дыскусія пад дэвізам «За бяз'ядзерную энергетыку» выявіла некалькі дужа прыкрых момантаў.

*Па-першае*, рашэнне Савета Бяспекі грубейшым чынам парушае патрабаванне Орхускай канвенцыі, падпісанай урадам нашай краіны, пра што і «Народная воля» ўжо неяк пісала. Дык гэтай канвенцыяй прадугледжваецца ўзгадненне падобнага кроку з грамадскасцю, абмеркаванне праекта на этапе ТЭА ў друку і правядзенне нацыянальнага рэферэндуму. А вось нашы дзяржаўныя СМІ друкуюць адно артыкулы тых, хто выступае за будаўніцтва АЭС, і не прадстаўляюць слова апанентам. Пра рэферэндум тут і размовы няма. Што гэта?.. Наважваюцца завезці ў наш дом бомбу і не пытаюцца ў нас дазволу. Ці добра гэта? І хто там у Савеце Бяспекі спецыяліст-гарант па атамных бомбах? Алах яго ведае.

*Па-другое,* Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з дзесятак гадоў таму, па рэкамендацыі Палаты прадстаўнікоў, у якой тады абмяркоўвалася пытанне аб будаўніцтве АЭС,





*Выбух на японскай АЭС «Фукусіма-1». Сакавік 2011 г.*

утварыў Урадавую камісію па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця ў Беларусі атамнай энергетыкі (распараджэнне № 88р за 1.03.1998 г.). У яе ўвайшлі як прыхільнікі, так і апаненты, супрацоўнікі гэтай дзіўнай задумы у ліку 34 чалавек.

І вось, пасля працяглага даследавання праблемы, Урадавая камісія прыйшла да высновы, што дзяржаве належыць:

*«Максімальна выкарыстоўваць наяўныя рэсурсы для рэалізацыі энергазберагальных тэхналогій, выкарыстання альтэрнатыўных крыніц энергіі, рэканструкцыі і будаўніцтва парагазавых установак»*. І далей:

*«У бліжэйшыя 10 год немэтазгодна пачынаць будаўніцтва атамнай электрастанцыі, але неабходна працягваць працу па развіцці атамнай энергетыкі ў будучыні»*.

Пры падпісанні дакумента, праўда, выявіўся разнабой у думках: частка членаў камісіі была незадаволена той фразай, што стаяла пасля *але..*, і таму ў іх з’явілася абачлівая прапанова: у пункце 2, дзе «*неабходна працягваць*», — запісаць «*магчыма падоўжыць навуковыя работы*», і подпісы: Ермашкевіч, Ігнацішчаў, Лепін, Несцярэнка, Савановіч, Смоляр, Цяўлоўскі.



У заключным дакуменце быў і яшчэ адзін пункт. Урадавая камісія рэкамендавала Савету Міністраў і НАН Беларусі распрацаваць і ва ўстаноўленым парадку ўнесці ў Палату прадстаўнікоў на разгляд праект закона «Аб выкарыстанні атамнай энергіі».

Прайшоў час, і цікава, што ж мы маем на сённяшні дзень?

Мараторый на будаўніцтва АЭС заканчваўся 28 красавіка 2009 года. Няхай... Горш тое, што у прынятых рэкамендацыях той Камісіі пазіцыя аб распрацоўцы альтэрнатыўных відаў энергетыкі не выканана, і гэта падобна ўжо на выклік грамадству.

Сапраўды, ні кіраўнікі ўраду, ні дзеячы з профільных установаў і НАН Беларусі, якім урад зрабіў канкрэтнае даручэнне займацца альтэрнатыўным энергазабеспячэннем, а гэта спадары Шымаў, Вайтовіч, Гайсёнак, Кенік, Дубовік, Герасімаў — усе яны пальцам не варухнулі, каб за добры-такі час зрабіць хоць што-небудзь. То ці ж не яны, гэтыя дзеячы, разам з апантаным аэсаўцам Міхалевічам масцілі і мосцяць шлях да «атамнай бомбы, якая дае электрычнасць» (словы акадэміка Капіцы). У іх далібог усе спадзяванні на «бомбу», якая, выбачайце, стане звышнебяспечнай мінай для краіны і затармозіць, калі не паралізуе развіццё эканомікі на доўгі час. Тут усё, бадай, без перабольшванняў, і бяздзейнасць гэтых, з дазволу сказаць, выканаўцаў, — вялікі тормаз у развіцці і дбайным гаспадарскім выкарыстанні энергарэсурсаў.

*Меркаванне: Урад краіны павінны ў аператыўным парадку ўзнавіць працу Камісіі па ацэнцы мэтазгоднасці развіцця ў краіне атамнай энергетыкі. Вядома, з улікам змен у энергаўзбраенні і ўважаючы на пераацэнку каштоўнасцей у гэтай галіне, якая адбылася за дзесяць гадоў.*

Будаўніцтва АЭС у Беларусі можа быць распачата. Але ці будзе яно завершана, паколькі запатрабуе неймаверных высілкаў эканомікі? Выдаткі ж нікім усур'ёз не падлічаны, нават не распрацаваны бізнес-праект. Інстытут эканомікі НАН Беларусі застаўся ўбаку ад важнай справы. А за сем апошніх гадоў ядзернае паліва ўзрасло ў цане ў 21 раз, прыродны газ — у тры разы і не выключана, што кошт уранавых зборак к моманту умоўнага адкрыцця атамнай электрастанцыі яшчэ раз удзесяцярыцца. Наогул таго паліва к часу адкрыцця «нашай» АЭС (праз 12–15 калі не болей гадоў) ужо можа і не быць — запасы урану вычэрпваюцца.



Як паказвае сусветны вопыт, закрыццё і ліквідацыя АЭС каштуе столькі ж, колькі і яе будаўніцтва, што варта таксама намотаць сабе на вус.

А падрыхтоўка плоймы спецыялістаў з нуля?.. Яшчэ мінус і мінусы...

Жахліва падумаць, куды цягнуць нас людзі, агаломшаныя ідэяй «уласнай» АЭС на беларускай зямлі. Выбух на Чарнобыльскай АЭС даў сотні і сотні, многія тысячы ахвяраў! Зрэшты, гэта ж і падказала свету зрабіць ход назад. Толькі ў нас ніхто нічому ніяк не навучыцца. Чаму? Адказ просты. Сатана касцей не ліча.

Возьмем, нарэшце, бяспеку і энергетычную незалежнасць краіны. І тут ні пра што добрае, слушнае, існае гаварыць не даводзіцца. Наадварот.

Амерыканскі вучоны Сімур Мелман называе атамную энергетыку, калі не дзеля грымучай справы яна развіваецца, «вытворчасцю без прыбытку», і кніга ў яго носіць гэткую ж назву.

*Меркаванне: Яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» прапанаваў ААН рэфармаваць структуру МАГАТЭ ў міжнародную службу, якая б займалася прапагандай і развіццём альтэрнатыўных відаў энергетыкі. Наспеў час нашай грамадскасці абмеркаваць і, магчыма, зрабіць падобную прапанову паўторна.*

Жарэс Алфёраў, расійскі акадэмік, народжаны ў Мінску, выдаў для чалавечай супольнасці свае яскравыя падлікі: «Калі б на развіццё альтэрнатыўных крыніц энергіі было выдаткавана толькі 15 адсоткаў сродкаў, якія выкідваліся на развіццё атамнай энергетыкі ў СССР, то АЭС для вытворчасці электраэнергіі наогул не спатрэбіліся б».

За апошнія гады ў свеце актыўна пачала развівацца альтэрнатыўная энергетыка — сонечная і асабліва ветравая. Экалагічна вытворчасць электрыкі і цяпла тут зусім чыстая, не трэба мудрыць з бомбай. Усё гранічна проста... Беларусь — пагоркавая краіна, і ў беларускіх цеплаэнергетыкаў ужо ёсць распрацоўкі і слушныя меркаванні па развіцці ветравой рухаючай сілы, нават пры ціхай плыні паветра. Балазе Германія прапануе тут свае паслугі.

А вось энергазберагальныя тэхналогіі, пры ўмове, што імі ў нас, нарэшце, зоймуцца, дадуць нам 30–40, а ў некаторых

выпадках і болей адсоткаў эканоміі электраэнергіі. На Захадзе лічыцца, што інвестыцыі ў энергазберажэнне прыкладна ў 4 разы больш эфектыўныя, чым стварэнне новых генерыруючых электрычнасць магутнасцей. Адно спецыялісты на гэтую справу ў нас пакуль не налажыліся. У іх не хапае сродкаў на панаўленне тэхналогій. Затое ў кіраўнікоў галіны «ёсць грошы» на будаўніцтва суперзатратнай і кабальнай для народа і нацыі атамнай станцыі.

*Усё вышэй сказанае дазволіла ўдзельнікам навуковага пасяджэння «За бяз'ядзерную энергетыку» падвергнуць рэзкай крытыцы пастанову Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь за 15 студзеня 2008 года.*

Гарачыя прыхільнікі і ініцыятары будаўніцтва АЭС у нашай краіне, пачынаючы ад Аляксандра Міхалевіча, чалавека, якога толькі за ягоны імпэт у расквечванні аргументаў на карысць АЭС абралі акадэмікам НАН Беларусі, і канчаючы гаспадаром Палаты прадстаўнікоў — *ім самім*, цяпер наогул адмаўляюцца адказваць на пытанні і аргументы сваіх апанентаў. Гэта ж паказала дэпутат Вольга Абрамава ў газеце «Свободные новости» за 2 мая 2007 года. І тут ствараецца небяспечная сітуацыя эканамічнай і экалагічнай асуджанасці народа.

Усё паказвае на тое, што Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь сваім беспрэцэдэнтным рашэннем аб будаўніцтве АЭС на Беларусі стварае не бяспеку для свайго народа, а рыхтуе ядзерную прорву і нястачу, яшчэ большую, чым цяпер, рыхтуе пастку, у якой неўзабаве апынуцца вымушаныя расплачвацца за нашыя даўгі нашы дзеці і ўнукі.

Хочацца верыць у лепшае. Галава патрэбна чалавеку, каб зрабіць немагчымае, а усведамленне і розум — каб вызначыць, ці патрэбна рабіць тое наогул. От гэта даводзіў людзям мудрэц Зянон з Кітыёна яшчэ два з паловай стагоддзі да нашай эры. Толькі ж тое самае сёння даводзяць атамшчыкам іхнія апаненты.

На той нарадзе вучоных-энергетыкаў і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый 9 сакавіка ўхвалена праца Ягора Фядзюшына, фізіка-ядзершчыка, дырэктара грамадскага Інстытута гуманітарных і экалагічных тэхналогій, — па гуртаванні навуковых і грамадскіх сіл з мэтай вывучэння праблем і клопатаў, што набеглі ад заяўленага ў краіне Саветам Бяспекі будаўніцтва АЭС.



Дзеля процістаяння невуцтву, беспадстаўным міфам аб таннасці ядзернай энергетыкі, дзеля процістаяння атамнай алігархіі, што ды растранжырвае народныя сілы і сродкі, запачаткаваны грамадскі рух «За бяз’ядзерную энергетыку Беларусі». Абмеркаваны ягоная праграма і план дзеянняў у бліжэйшым часе.

Арганізатары дыскусіі разлічваюць на падтрымку гэтага руху шырокім колам вучоных, грамадскіх дзеячаў і, уласна, саміх грамадзян краіны.

# РОЗУМ ПЕРАМАГАЕ ХІМЕРЫ



*Гутарка ў межах Верхняга горада ў Мінску*

Архітэктура, або, па-нашаму, дойлідства, — гэта тое, што ператварае звычайнае будаўніцтва ў мастацтва. Мастацтва ствараць высокія сцены, парталы, палацы, ансамблі, якія захапляюць і якія адлюстроўваюць і фармiруюць духоўную веліч як чалавека, так і эпохі.

Карысць, трываласць, прыгажосць — дэвіз дойлідства ад пачатку ўзнікнення першых цывілізацый нашай цудоўнай планеты, і менавіта яно, дойлідства, данесла да нас дух і каларыт свайго часу, адмысловага і так ці інакш для нас загадкавага. Памяць у мастацкіх архітэктурных формах застаецца ў свядомасці наступных пакаленняў. Эпоха альбо пакідае пасля сябе шэдэўры, альбо прамінае зусім незаўважанай. Гэта залежыць у першаю чаргу ад творцаў, а таксама і ад уладароў.

Найбольш трывалым і выразным адбіткам часоў з'яўляецца універсальная і найбольш ёмістая форма — форма архітэктурнай прасторы.

Кожная эпоха стварае і пакідае пасля сябе архітэктурнае асяроддзе, якое найбольш дасканала сведчыць аб сапраўднай сутнасці часу і выступае ў якасці люстэрка яго духоўнага, культурнага, сацыяльнага, эканамічнага, тэхналагічнага і іншых вымярэнняў.

Архітэктурная выбудова і начынне, як ужо заўважана, так ці інакш ўздзейнічаюць на свядомасць людзей. Свядомасць, сфарміраваная пад ўплывам архітэктуры (будынка, квартала, вуліцы, горада), потым ужо зваротным чынам уплывае на грамаду, у цэлым на грамадства, у якім пэўнае архітэктурнае асяроддзе створана. Вось такая тут узаемаабумоўленасць і такое значэнне дойлідства для ўсіх нас.

У апошнія гады мне спадобілася бліжэй пазнаёміцца з выявамі сучасных архітэктурных тэндэнцый і іх павевамі ў Мінску, а найперш — з носьбітамі дойлідства, з людзьмі






*Уладзімір Папруга, Васіль Якавенка і Гаўрыла Вашчанка*

неардынарнымі, самавітымі, апантанымі, сярод якіх і гэтыя двое — мастак Вашчанка і архітэктар Папруга.

З імі аднаго разу мы зрабілі своеасаблівую экскурсію па цэнтры горада. Абмяркоўвалі само сабой тое, што іх і мяне хвалявала, альбо што не магло не прыцягваць увагу. Гутарылі, аднаўляючы ў памяці эпізоды, падзеі, часам з пэўным заглыбленнем у нацыянальную гісторыю.

**Вашчанка Гаўрыла**, *Народны мастак Беларусі, мой зямляк, аброслы сівой барадой, кашчавы, магутны, што Бог Саваоф:*

— Я пражыў эпоху, якая, па прыхамаці гістарычных асоб, багата чаго змяшала ў адну кучу і ўжо не ведала пэўных крытэрыяў у тым, што ёсць добра і што дрэнна. Гэта прадукавала выхад на смешныя аналогіі, парадоксы, дзе адначасова лічылася, што калі войскі Напалеона ў Маскве размяшчалі канюшні ў велічных маскоўскіх саборах — гэта варварства, а калі тыя самыя саборы ў савецкія часы займалі пад турмы, склады альбо размяшчалі там механічныя майстэрні — гэта нармальна.



У савецкі час заўжды адмоўна ставіліся да прапаноў па захаванні архітэктурнай спадчыны, гістарычных і культавых будынкаў. Ніяк няможна было пераламаць бальшавіцкі настрой: «Мы старый мир разрушим до основанья, а затем...» А навошта? Стары свет з ягонай матэрыяльнай культурай нікому не перашкаджаў, больш таго — на ім як на падмурку заўжды фарміруюцца і сучаснасць, і будучыня...

**Папруга Уладзімір**, *былы Галоўны дзяржаўны інспектар Мінгарвыканкама па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, архітэктар, па ўзросту, бадай, — сын свайму субяседніку. Ён тлумачыць нам і не столькі нам, колькі маладым людзям, якія аказаліся побач на плошчы і з захапленнем глядзелі на багатую і пышную бараду Вашчанкі. Папруга казаў:*

— Гэта трапяткая праблема — практычнае стаўленне да ўласнай гісторыка-культурнай спадчыны. За ёй — вельмі доўгая гісторыя. Значна глыбейшая, чым гэта часам уяўляецца сучасным удзельнікам працэса. Па гэтай прычыне, бадай, кожная новая спроба «вырашыць праблему, навесці парадак, рэканструяваць і рэстаўраваць» толькі паглыбляе канфлікт, і, калі ён не знойдзе свайго належнага вырашэння, тым, хто ідзе за намі, давядзецца плаціць, прычым, з кожным годам усё большую і большую цану.

Грэблівасць, агрэсіўнае ігнараванне ўласнай гісторыі і спадчыны — з'ява па паходжанні не беларуская. Гэта вынік спланаванай, свядомай і стараннай работы, разгорнутай у Беларусі не намі і не сёння.

1795 год. Адсюль і пачалася «невядомая» вайна. Расійская імперыя ўсімі сродкамі імкнулася як найхутчэй пацвердзіць тэзіс аб «истинной русскости» беларускіх земляў, каб хоць як-небудзь апраўдаць іх інкарпарацыю. Фармальна з таго самага часу пачалі знішчацца ўсе нацыянальныя адметнасці беларусаў. І тое, што дзеялася, да болю нагадвае фармат стварэння «саюзнай дзяржавы» ў бачанні сённяшніх маскоўскіх стратэгаў.

Этнічных адрозненняў беларусаў ад рускіх, такіх адзнак і прыкмет і тады было куды больш, чым падабенства. Нават мястэчкі ў нас мелі еўрапейскую планіровачную структуру і адпаведны строй. Яны мелі Магдэбурскае права і ратушы як сімвалы самакіравання. У Беларусі не было ніводнага праваслаўнага храма ў «истинно русском» стылі. Галоўнай

праваслаўнай святыняй у Мінску дагэтуль з'яўляецца былы каталіцкі жаночы бернардзінскі кляштар, збудаваны ў 17 стагоддзі ў стылі віленскага барока, цяпер — Кафедральны сабор.

Сродкі, якімі карысталася метраполія для ажыццяўлення асіміляцыйных працэсаў на беларускіх землях, — разбурэнне нацыянальных каштоўнасцей і на іх месцы будаўніцтва гмахаў у расейскім духу, што ў любым выпадку павінна было ўвасабляць веліч імперыі. Скажу болей: тое, што адбываецца сёння з гістарычнымі цэнтрамі нашых гарадоў, ёсць працяг вельмі даўніх каланіяльных памкненняў. Асіміляцыя тут не толькі яшчэ не завершана, але, як выглядае гэта на прыкладзе Мінска, нават спрабуе ўвайсці ў «кульмінацыйную» фазу.

Выкананне ідэалагічнай будаўнічай праграмы, якая больш чым дзвесце гадоў таму была навязана адміністрацыяй суседняй дзяржавы, — працэс цалкам зразумелы і лагічны з пункту гледжання менавіта гэтай дзяржавы. Але ён выглядае абсурдам у фармаце незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Генеральным планам Мінска 1965 года і тагачасным архітэктурным конкурсам, праведзеным у 1969 годзе, гістарычны цэнтр сталіцы быў прыгавораны да знішчэння.

**Вашчанка:** Перад намі Палац Рэспублікі... Будынак мажны, але ў раней створаны тут ансамбль не ўлаштоўваецца. Калісьці на гэтым месцы, толькі крыху глыбей, планавалася паставіць музей У. І. Леніну. Зыходзячы з тых жа планаў увесь Верхні горад ішоў пад знос. Меркавалася пакінуць толькі комплексы былых жаночага і мужчынскага бернардзінскіх кляштараў. Планавалі на схіле гары размясціць каскад фантанаў, як у Пецергофе. То былі сямідзесятыя гады... Вядома, не кожнаму ўжо тады такі праект падабаўся. Саюзам мастакоў БССР на той час кіраваў Стэльмашонак. А я быў у складзе Мемарыяльнай мастакоўскай камісіі ў Маскве.

Нам вельмі карцела выступіць з альтэрнатыўнай ініцыятывай. Але ж патрабавалася грунтоўная падрыхтоўка. Нам карцела абаперціся на незалежных спецыялістаў. А дзе іх узяць?.. І мы запрасілі з Масквы майстроў сваёй справы. Разам з нашымі спецыялістамі ўтварылі групу для распрацоўкі свайго праекта, само сабой — альтэрнатыўнага. Распрацавалі. Выставілі на агляд. У Палацы мастацтваў. Запрасілі



Першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава, іншых высокіх асоб — кіраўнікоў установ культуры і горадабудаўніцтва. І што далей?.. Супраць альтэрнатыўнага праекта ніхто не пярэчыў. Толькі ж сумненні ў Машэрава яшчэ засталіся. Мы запрасілі яго і пайшлі разам сюды, на плошчу. Ходзім, глядзім... «Пётр Міронавіч, — кажу, — уявіце, на тым схіле фантаны... З аднаго боку гляньце на іх, з другога... Пагадзіцеся, што яны ніадкуль не будуць відныя, нават з вышыні вашага двухметровага росту!». Машэраў мусіў пагадзіцца. Адцураўся ранейшага плана, хоць план той ужо быў зацверджаны ў ЦК КПБ.

Раскажу яшчэ эпізод. Аднойчы нашы дойліды прапанавалі мне, мастаку, распрацаваць вітражы для Дому кіно ў Чырвоным касцёле. Увогуле будынак былога касцёла планавалася знесці яшчэ з канца 50-х і на тым месцы пабудаваць панарамны кінатэатр. Дзякаваць богу, з выкананнем рашэння не спяшаліся. А маглі б і тут наламаць дроў.

Касцёл быў перагароджаны на два паверхі. Другі паверх хацелі разбіць на мноства кабінетаў і кабінецікаў. Я параіў гэтага не рабіць, а адвесці паверх, заліты з усіх бакоў святлом, пад актавую залу. О, якая прыгажосць там потым была! Калі ўсталявалі мае вітражы, мы наладзілі там выставу праекта забудовы горада. Прыйшлі Машэраў, Кісялёў, Кузьмін, іншае высокае начальства. Акурат быў пахмурны і ветраны дзень. Сонца выгляне — вітражы аж зайграюць! Боская прыгажосць! Машэраў захапіўся гэтым відзяжом і гаворыць сваім паплечнікам з ноткай пакаяння: «Ну, бачыце, што ў каменнай прасторы творыцца, а мы ж хацелі разбурыць і знесці гэтакую прыгажосць!» Кузьмін, той потым мне з вока на вока: «А вы, шаноўны, ведаеце, што ў мяне на стале сотні лістоў ляжыць ад вернікаў — вярнуць ім касцёл!!! Ці не дарэмна вы ў такім разе гэтыя вітражы распрацоўвалі?» — «Не, бадай, — адказваю, — і касцёлу вітражы будуць да спадобы».

*Тут я палічыў да месца расказаць сваім невыпадковым субяседнікам пра сваё асабістае ўражанне, толькі ўжо не ад сцен Дому кіно, дзе ў 1976–77 гадах працаваў адказным сакратаром Саюза кінематаграфістаў БССР, а Саюзам на той час кіраваў вядомы рэжысёр Віктар Тураў... Мне рупіла паведаць ім не столькі пра сваё захапленне*



*вітражамі, колькі яшчэ пра адну прыгоду, што нітавалася з іменем Машэрава.*

*Мы прымалі ў Доме кіно вялікую дэлегацыю Саюза кінематаграфістаў СССР на чале з С. Герасімавым. Майстры наладзілі ў нас свой выязны пленум. Праўда, што абмяркоўвалася на ім, — цяпер не адразу і прыгадаеш. Толькі на другі дзень стала вядома: даў сваю згоду прыняць маскоўскіх гасцей Машэраў. І вось гэтая сустрэча неўзабаве зацміла ўсе іншыя ўражанні і клопаты масквічоў. Яны ішлі на прыём, разлічваючы на 15-хвілінную дзяжурную сустрэчу і гаману, прадугледжаную этыкетам гасціннасці. А прасядзелі ў кабінеце першага сакратара ЦК КПБ з раскрытымі ратамі ажно дзве з паловай гадзіны, і размова ішла толькі пра кіно і герояў карцін. І ніводзін прафесійны кінематаграфіст, а іх было цэлы тузін, ніхто, апроч хіба Сяргея Герасімава, не ў стане быў падтрымліваць размову з Машэравым на тым узроўні, на якім ён, гаспадар кабінета, тую размову павёў. Яны былі ў поўным сэнсе слова ашарашаныя той сустрэчай. І я чытаў захапленне на іх тварах, слухаў, што казалі яны пасля сустрэчы. «Які чалавек! Чаму ён у вас не выступае перад народам па тэлебачанні? — цікавіліся, усхваляваныя. — Гэта ж які трыбун!» І на той момант адказаць ім не было чаго. Не сакрэт, што, каб зрабіць свой самавіты крок, Машэраў павінен быў браць дазвол там, дзе не было ні той ягонай эрудыцыі, ні таго ягонага розуму, ні таго ягонага таленту гуртавацца з людьмі і, само сабой, не было і не павінна было быць ніякага самавітага трыбуна. Я скончыў.*

*Далей расказваў Папруга.*

**Папруга**: Галоўнай драмай для гістарычнай забудовы і гістарычнай планіровачнай структуры, для ўсяго масіву, які ацалеў у вайну, стала яго планамернае вынішчэнне пасля вайны. Афіцыйная версія сарамліва даводзіць, што падчас Другой сусветнай вайны гістарычны цэнтр быў цалкам знішчаны. Спецыялісты ведаюць, што гэта няпраўда. У Мінску за ўсю вайну не адбылося ніводнага вулічнага бою. Разбурэнні тут былі не большыя за разбурэнні іншых еўрапейскіх гарадоў, і непараўнальныя, напрыклад з бліжэйшай Варшавай. Дадам адно, што Мінск бамбавала наша авіяцыя пасля таго, як немцы ўжо пакінулі горад. Такая недарэчнасць. Тым часам ніводзін акупант у свеце нядольны знішчыць асноўнае



ў любым гістарычным горадзе — ягоную планіровачную структуру. Гэтым пасля вайны мэтанакіравана занялася савецкая адміністрацыя — у поўнай адпаведнасці з яшчэ даваеннымі планамі «рэканструкцыі» 1936–1938 гадоў.

Я не ведаю ў сусветнай гісторыі прыкладаў вынішчэння не толькі ўласнай спадчыны, але і чужой у падобных маштабах. Мы, бадай, адзіная нацыя на Еўрапейскім кантыненце, якая дагэтуль не ведае, што ў яе ляжыць пад нагамі.

**Вашчанка:** Бяда ў тым, што яшчэ дагэтуль стары горад не р э с т а ў р у е ц ц а, а рэканструюецца. Праўда, штосьці яшчэ захавалася. Але было б каштоўнага куды болей! Дык былы галоўны архітэктар горада Сяргей Мусінскі, знаходзячыся пад уплывам бальшавіцкай гігантаманіі, літаральна ўзламаў забудову Нямігі і пасадзіў на ёй свайго мастадонта — будынак на цэлы квартал. Атрымаўся «Гандлёвы Дом на Нямізе»! Наце вам... Гэтым домам была перакрытая вуліца Астроўскага (цяпер Ракаўская)... Па другі бок адсюль — знесена Няміга. А за Свіслаччу, у Траецкім прадмесці, — стылізацыя, дзе ні на грам аўтэнтычнага. У Траецкім прадмесці будынкі прылізаныя, асучасненыя — як ёсць фанерны горад! У цэлым шмат што парэзана, пакручана, знішчана без патрэбы.

**Папруга**: Цяпер у Беларусі сцерлі разуменне таго, што ёсць насамрэч рэстаўрацыйны працэс. Апаратам Мінкультуры свядома знішчана сама сістэма ацэначных крытэрыяў. Так званыя эксперты, якія даюць абгрунтаванне горадабудаўнічай палітыцы адміністрацыі горада, ідуць не ад свайго назапашанага вопыту, а ад асабістых ўспамінаў, што калісь дзесьці бачылі з вокнаў аўтобуса, ну, дзе-небудзь у Страсбургу ці пад час выпадковага наведвання Венецыі... Што насамрэч бачылі шаноўныя эксперты, застаецца і дагэтуль для іх загадкай, але суб’ектыўныя аргументы, ад якіх Беларусь штораз страчвае чарговы фрагмент сябе самой, гучаць і надалей. І сёння, скажам, ужо нікога не турбуе, што аўтэнтычна дахі жылой забудовы XIX стагоддзя ў Мінску ніколі ня мелі дахоўкі, а спрэс былі крытыя бляхай. Тым не менш, Траецкае прадмесце і дагэтуль уважаецца за прыклад і ўзор рэстаўрацыі.

**Вашчанка**: Неяк пад час нашых клопатаў па захаванні спадчыны з’явілася ў нашых мастакоў і дойлідаў ідэя стварыць у Мінску гісторыка-архітэктурны запаведнік па



прынцыпу Полацкага. Толькі не ў абстрактным сэнсе нейкай запаведнай тэрыторыі, унесенай ў дзяржаўны спіс. А ў статусе навукова-даследчай запаведнай установы: з адпаведным штатам даследчыкаў, гісторыкаў, з адпаведнымі правамі і паўнамоцтвамі. Пад адною страхой з такім запаведнікам, між іншым, мог бы знайсці сабе месца і музей гісторыі Мінска, пра які каля дваццаці гадоў ужо безвынікова вядзецца гаворка. Я ведаю, што вы, Уладзімір Адамавіч, гэту ідэю горача падтрымлівалі і падтрымліваеце. Мяркую, што ў сучаснай сітуацыі стварыўшы падобную даследчую ўстанову, якая б сумяшчала функцыі гаспадара і заказчыка, мы маглі б прыстойна і годна выйсці з сучаснага крызісу ў розных гістарычных кутках Мінска. Але ж чый гэта клопат? І — дзе ён, той гаспадар з падобнымі клопатамі?

*Неўзабаве, пакінуўшы Кастрычніцкую плошчу, мы выйшлі на плошчу Свабоды, спыніліся каля ратушы, аднаўленай ў апошні час. Раней яна, праўда, стаяла ў іншым месцы і выглядала інакш. Дармо... Цяпер мне даспадобы гэты высокі і адметны куток горада. Настрой, праўда, псуюць шматпалосная транспартная магістраль ды шыльды на спецыялізаваным нібыта піўным рэстаране, што месціцца ў былых гандлёвых радах. Шыльды выкананы ў тым жа кандовым, стараржэжымным расейскім духу: «Ресторанъ пивной». А побач: «У Адмирала», Ресторан «Винярня»... Слова вінярня, дарэчы, больш адпавядае не расейскаму стылю, а беларускаму ладу гучання. Дэманструецца ў цэлым недарэчнае атачэнне для ратушы! Але, пагадзіцеся, ужо сам факт аднаўлення ратушы, нават у такім не надта аўтэнтычным выкананні — свята душы.*

*Вось бы выканаць да канца вартае ўсялякай павагі рашэнне Мінгарвыканкама, акурат у адпаведнасці з якім была аднаўлена Ратуша ды аднавіць і рэнесансную царкву Святога духа, што выходзіла сюды сваім велічным фасадам!*

*Цяпер, калі я стаю тут і слухаю размераны бой «курантаў», меладычны і чысты, як сама вечнасць, мне адно кожны раз прыгадваецца, бадай, такі ж урачысты момант, што прамільгнуў за савецкім часам.*

*Адбівалі крок у плыні часу ці не шасцідзесятыя гады, а можа, то быў пачатак сямідзесятых... На сталічным*



*Галоўпаштамце майстры агучылі вялікі квадратны гадзіннік над цэнтральным уваходам у будынак. І вось гадзіннік праз пэўны тэрмін пачаў выдаваць мелодыю. Многія мінчукі павінны памятаць гэта. Прычым, не толькі бой разлягаўся ў бліжэйшай прасторы насупраць і блізу гасцініцы «Мінск» — на слых клалася і чароўная мелодыя песьні «Радзіма мая дарагая...». Усё гэта надавала гадзінніку ролю дзяржаўных курантаў, бо песьня ўспрымалася як гімн. Не думаю, каб такое чынілася ў сталіцы без увагі Машэрава, Кузьміна, не гаворачы ўжо пра гарадскія ўлады.*

*На жаль, той гадзіннік на Галоўпаштамце спяваў гімн аб этнакультурнай адметнасці і годнасці беларусаў усяго толькі месяц ці трохі болей — да часу, пакуль яго голас не пачулі ў Маскве. А пачулі і — досыць!*

*...Перад намі, калі мы трохі адышлі ад ратушы ў бок Свята-Духавага кафедральнага сабора (былога Жаночага бернардзінскага кляштара), адкрылася панарама Ніжняга горада. Яна бачылася ў нагрувашчванні камяніц уздоўж Свіслачы і па праспекце Пераможцаў (былой Паркавай магістралі). Леваруч, над зямлёй, вуліцу Нямігу перасякаў «пуцеправод», альбо мост з вуліцы Леніна на цяперашні праспект Пераможцаў. Папруга звярнуў нашу ўвагу на транспартны затор на вуліцы Леніна, як на нешта недарэчнае. А пад пуцеправодам, на Нямізе, сітуацыя з транспартным рухам была яшчэ горшая. Да таго ж, я ведаў, што там, каля «Гандлёвага Дома», дзе заўсёды густа ад натоўпу людскога, — дыму, смогу таго — не прадыхнуць.*

*Папруга бачыў іншае рашэнне транспартнай развязкі, і не толькі ў гэтым месцы.*

**Маладыя людзі** (звяртаюцца): Дазвольце спытацца, паколькі мы ўжо да вас прыклеіліся... Мы студэнты архтэктурнага факультэта і чулі, што з’явіўся альтэрнатыўны праект рэканструкцыі, рэстаўрацыі і аднаўлення гістарычнага цэнтра Мінска. Вы, спадар Папруга, будзеце ягоны аўтар? Тады скажыце... Гэта праўда, што вы, пакінуўшы пасаду ў Мінгарвыканкаме, колькі год працавалі адзін як ёсць над праектам? Бясплатна... Як вы жылі?.. А праект, кажуць, цікавы, варты працы цэлага інстытута!

**Папруга:** Сапраўды пяць гадоў я аддаў гэтаму праекту. Вялікім было расчараванне ад таго, што афіцыйна



ў архітэктурнай практыцы рабілася і робіцца дагэтуль. Хацелася нейкім чынам паспрыяць больш людскаму абыходжанню з гісторыка-культурнай спадчынай Мінска ды ўвесці яе ў прававое поле (створанае дзеючым, а тым часам, і нядзеючым заканадаўствам). Не мной адным, а групай спецыялістаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі быў накіраваны напачатку лютага 2005 года высокім асобам, Кіраўніку дзяржавы, Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь і ў Камітэт дзяржкантролю зварот з просьбай аказаць дапамогу. Яна патрэбна ў вырашэнні праблемы спадчыны, і не толькі спадчыны, але і далейшага лёсу сталіцы ў цэлым.

Фактаў шматлікіх парушэнняў нарматыўна-прававой базы, пералічаных у звароце, не аспрэчвалі, але і за рашэнне праблемы ніхто таксама не ўзяўся — нібыта з-за адсутнасці горадабудаўнічай альтэрнатывы.

Толькі ж акцэнты ў звароце ставіліся менавіта на прававыя пытанні, на іх вырашэнне, паколькі альтэрнатыўнага бачання не было прадстаўлена, а наш праект — яшчэ быў незавершаны. Галоўнае ўсё ж — дакладнае выкананне заканадаўства. Бо толькі гэта можа гарантаваць ад magчлівых памылак у абыходжанні з гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі і забяспечыць далейшую перадачу гэтага скарбу наступным пакаленням «ва ўсім багацці яго аўтэнтычнасці».

Да спецыяльнага прадметнага разгляду пытання там нават не дайшло. Вось так — не дайшло, а пытанне надзвычай актуальнае і сёння, — сітуацыя ж толькі пагоршылася.

Крыжападобная транспартная развязка Няміга — Паркавая магістраль, якую вы бачыце, — доўжыў Папруга, — была закліканая разгрузіць горад. На самай справе яна «пахавала» пад сабою найбольш каштоўную ў гістарычным плане тэрыторыю і неверагодна ўскладніла транспартны рух сталіцы. Як вынік: двухмільённы горад сёння практычна зведзены да адзінага «галоўнага» скрыжавання ў раёне ГУМа. Шасціпалосная Паркавая магістраль нечакана ўпіраецца ў сціплы дачны пасёлак у раёне Ждановічаў, а праезд Няміга — Багдановіча заканчваецца тупіком на вуліцы Кальцова. От што мы маем. З пункту гледжання горадабудаўнічай логікі, два «канцы» новастворанных восяў з'яўляюцца «шляхам у нікуды». Штучнасць і нежыццяздольнасць гэтай схемы відавочная.



Радыяльная гістарычная планіровачная схема у Мінску пасля вайны свядома знішчана, а альтэрнатыўную дагэтуль не стварылі. Транспарт, які карыстаецца згаданай тут развязкай, на 97 адсоткаў сёння з'яўляецца звычайным транзітам. У гэты самы цэнтр няма нават з'ездаў ад Гарадскога Валу — аж да вуліцы Купалы. Мы свядома, насуперак Закону «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», не толькі сабралі ўвесь мажлівы транзіт менавіта там, адкуль усе гарады яго выводзяць, але і актыўна замацоўваем гэтыя «дасягненні» новым нагрувашчваннем чужародных збудаванняў, у тым ліку і хмарачосаў, якія праектуюцца.

**Вашчанка:** Я мяркую, Уладзімір Адамавіч, што па абгрунтаванасці і глыбіні распрацоўкі, па арыгінальнасці ўрэшце ваш альтэрнатыўны праект не мае нічога, з чым яго можна было б супаставіць. Да яго будзе ўвага, не сёння дык заўтра — ніхто не асмеліцца праігнараваць сапраўды мастацкае і, перш-наперш, горадабудаўнічае рашэнне. Як не круці, а гэта ўжо гістарычны і факт і прыклад для вырашэння праблемы, і прафесійная адказнасць...

**Маладыя людзі:** Спадар Папруга, а што варта зрабіць у першую чаргу, згодна з вашым праектам?

**Папруга:** Гістарычны цэнтр сталіцы, пра які тут гаворка, складае ўсяго 0,3% ад яго сучаснай тэрыторыі. Дыяметр Старога Менска — 400–700 метраў, у адрозненне, напрыклад, ад 3–4 кіламетровага дыяметру гістарычнага цэнтра горада Рыма. Але ж там нікому і ў галаву не прыйдзе вырашаць горадабудаўнічыя праблемы нашымі дылетанцкімі метадамі. Вартасць гістарычнага Менска проста неацэнная. Тут, у гістарычным цэнтры, ягоная тысячагадовая душа, наш этнакультурны пачатак. Але — ці застанецца так надалей? Гэтае пытанне сёння па сутнасці і вырашаецца.

Каб не замацоўваць новымі гмахамі, сценамі, каменнымі тупікамі горадабудаўнічыя пралікі, зробленыя 70 гадоў таму, а, наадварот, звесці іх уплыў у будучыні да мінімуму, трэба тэрмінова перагледзець транспартную схему — асабліва ў абслугоўванні планіровачнага ядра сталіцы. І зноў жа з гэтым ніхто не спрачаецца, што нават дакументальна зафіксавана. Алімпійскі спакой!

Але... Пры незавершанасці і нескарэктаванасці гэтай схемы, на тэрыторыі гістарычнага цэнтра явачным парадкам закладваюцца камяніцы, якія састарэлую транспартную

схему замацуюць настолькі, што яе карэктыроўка, калі на тое, стане мажлівай толькі пры ўмове вынасу адсюль гэтых самых каменных навасельцаў, якія будуюцца і праектуюцца сёння.

Транспартныя праблемы планіровачнага ядра Мінска так ці іначай давядзецца вырашаць. Дый нашы нашчадкі не павінны мець горы камення замест жывога сэрца тысячагадовага горада.

Пракуратура краіны і Камітэт дзяржаўнага кантролю, прыйдзе час, дадуць кампетэнтныя адказы на ўсе пытанні, звязаныя з размяшчэннем і праектаваннем новых аб'ектаў на тэрыторыі і перыферыі Гістарычнага цэнтра Мінска сёння.

Толькі прамыя затраты на выпраўленне горадабудаўнічых памылак, якія цяпер інерцыйна дапускаюцца, будуць роўныя кошту сённяшніх інвестыцый.

Гутарка скончылася спадзевам на тое, што не заўсёды так будзе, каб чыноўнікі ігнаравалі закон. Фінансавая рызыка інвестараў між іншым бязмежная. І неяк ужо зусім шэра і бязрадасна на гэтым фоне бачацца тыя службовыя асобы, якія ідуць на прыняцце супрацьпраўных рашэнняў, на іх узгадненне.

**P.S.** *Прайшло тры гады. У вырашэнні пытанняў транспартнай развязкі ў цэнтры горада ўлады так нічога і не зрабілі. Але затое сваёй неабачлівай дзейнасцю яны выклікалі нараджэнне новых урбаністычных, этнакультурных і сацыяльных праблем.*

*Рыхтуючы гэты дыскусійны артыкул для кнігі, я патэлефанаваў народнаму мастаку Гаўрылу Вашчанку і пацікавіўся, як жа ён успрымае ведамкі апошняга часу аб продажу гарадской зямлі чужынцам і размяшчэнні ў гістарычным цэнтры Мінска — акурат насупраць Тэатра оперы і балета, пры Свіслачы, — арабскага квартала або — недзе воддаль — цэнтра кітайскіх дзелавых інтарэсаў і, асобна ўжо, кітайскага жыллёвага квартала. Ці не ператворыцца неўзабаве сталіца Рэспублікі Беларусь у Шанхай на Еўрапейскім кантыненце, а краіна ў цэлым — у адвольную кітайскую правінцыю?*

**Вашчанка:** Дэталёва я пакуль не вывучаў пытанне, толькі ведаю з гісторыі, што гуны загубілі Рым. Небяспека,



безумоўна, ёсць. Адно што застаецца рабіць, калі мы жабракі і мусім прымаць у свой дом кватарантаў... Адчуваю, складваецца нядобрая сітуёвіна.

*Потым мне спадобілася яшчэ пацікавіцца думкай на гэты конт у вядомай даследчыцы дэмаграфіі ў краіне, прафесара сацыялогіі Людмілы Шахоцька.*

**Шахоцька:** папярэдняе знаёмства са з'явай паказвае, што яна заслугоўвае самага сур'ёзнага вывучэння. Прынамсі заўважана хуткае нарастанне колькасці кітайцаў у апошнія тры гады. Іх кучкаванне ў Мінску і пад Мінскам, пры іх нязедольнасці альбо нежаданні адаптавацца, па меншай меры выклікае неспакой. Нам не варта заплюшчваць вочы на такую перспектыву.

*А вось як адрэагаваў на наш клопат Ігар Байцоў, таксама нестаронні чалавек, дойлід:*

**Байцоў:** Мяне як архітэктара ўсё ж хвалюе лёс вядомага ў свеце ансамбля цэнтральнай часткі праспекта Незалежнасці ў Мінску.

Гэты таленавіты ансамбль — яскравае сведчанне эпохі свайго стварэння. Ён унікальны. Па архітэктурна-мастацкіх якасцях і стылёвай гармоніі ён прэтэндуе на ўключэнне ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Між тым запланавана знішчэнне існуючага будынка Музея Вялікай Айчыннай вайны на Кастрычніцкай плошчы і пабудова на яго месцы высачэзнага гмаха гасцініцы. Да таго ж паміж Дзяржцыркам і ракою, побач з Праспектам, плануецца будаваць высокія сучасныя дамы, якія формай нагадваюць нейкія змылкі. Усе гэтыя нававбуды, калі яны з'явяцца, груба парушаць маштаб і стылёвае адзінства забудовы Праспекта, дый і ўвесь найкаштоўнейшы архітэктурна-прыродны ландшафт цэнтра беларускай сталіцы. Знікнуць падставы для ўнясення праспекта ў Спіс каштоўнасцей ЮНЕСКА. Будзе нанесена вялікая шкода культурна-гістарычнаму іміджу Беларусі!

Шкода, паўтараю: будзе шкода непараўнальна большая, чым ад знікнення вячыстых дубоў у Вязынцы ці драўляных пабудоў у Паўночным завулку ў Мінску – страты, вартыя вялікага жалю.

# КАБ ЗНЯЦЬ ГАНЕБНАЕ ТАЎРО



*Зварот да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнікоў заканадаўчай і выканаўчай галін улады Барыса Батуры, Уладзіміра Андрэйчанкі, Сяргея Сідорскага, міністраў і ўсіх грамадзян Беларусі*

*Ад грамадзянскай ініцыятывы «Інстытут нацыянальнай памяці»*

На пачатку 2009 года Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры — ЮНЕСКА аднесла мову беларусаў да моў, якія апынуліся пад пагрозай поўнага знікнення. Спецыялісты ЮНЕСКА склалі свайго роду Чырвоную Кнігу — атлас «Мовы свету ў небяспецы», куды трапіла і беларуская мова.

Выміранне моў на нашай планеце — вядомая і сумная гістарычная тэндэнцыя. Знікалі мовы, як правіла, разам з народамі ў выніку правядзення палітыкі генацыду з боку living рознага роду захопнікаў. І ёсць нямала прыкладаў, калі разам з мовай знікалі нават дзяржавы. У сучасным свеце мовы нярэдка аказваюцца ў палоне масавай культуры, працэсаў глабалізацыі, інтэнсіўнай міграцыі насельніцтва.

У выступленнях палітыкаў нашай краіны неаднойчы сцвярджалася, што найбольшым дасягненнем Беларусі апошняга часу з'яўляецца пабудова незалежнай дзяржавы. Пра самастойную і незалежную нацыянальную дзяржаву, якая б займала пачэснае месца сярод іншых народаў, марылі акурат лепшыя сыны Беларусі, змагары за яе шчасце. Яны разумелі неабходнасць развіцця і падтрымкі беларускай мовы і культуры, без чаго немагчыма паўнацэннае самавызначэнне народа і яго суверэнітэт.

Беларусь з'яўляецца адзінай у свеце краінай, якая не мае вышэйшай адукацыі на мове тытульнай нацыі, рэдкія чыноўнікі карыстаюцца ёю ў сваёй штодзённай практыцы.



І гэта ў той час, калі ў асноўным законе — Канстытуцыі краіны ясна запісана, што беларуская мова — мова дзяржаўная. Занядбанне ж роднай мовы — ці то адбываецца яно з благаславення ўлад, ці неяк стыхійна — падрывае асновы бяспекі дзяржавы. Чыя мова, таго і ўлада, зазначана яшчэ ў старажытным Рыме.

Прыняты ў 2008 годзе Закон «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» засведчыў пра клопат некаторых уладных устаноў аб функцыянаванні роднай мовы, але ж ён будзе нічога не варты, калі дзяржава і ўсе грамадзяне не спыняць працэс свядомай дэбеларусізацыі жыцця. У такім спыненні зарука не толькі ўсіх далейшых поспехаў суверэннай краіны, але і аснова выжывання нашай супольнасці — беларускага народа.

Таму мы з трывогай у сэрцы звяртаемся да кожнага беларуса: **«Шаноўны, што ты можаш зрабіць, каб жыла і развівалася ў кожнай сям'і і ў роднай краіне дзяржаўная беларуская мова?»**

Найперш мы звяртаемся да гаранта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: дазвольце, Аляксандр Рыгоравіч, паставіць перад Вамі некалькі пытанняў.

Яшчэ ў памяці многіх сучаснікаў змест Вашай гутаркі з карэспандэнтам Брытанскага інфармацыйнага агенцтва «Рэйтар» на пачатку 2007 года, калі Вы акрэслілі наяўнасць знешняй небяспекі для Беларусі. Але ж беспрэцэдэнтны факт занясення беларускай мовы ў атлас выміраючых моў — востры сігнал акурат пра небяспеку для суверэнітэту нашай краіны знутры. Бо, калі знікае мова, страчваюцца і духоўныя арыенціры, народ перараджаецца, краіна больш не адпавядае сваёй назве, гібее і гіне.

Мы спадзяемся на Ваша разуменне і зацікаўленасць прадметам гаворкі. Мы спадзяемся, што Вы не дапусціце знікнення Беларусі з палітычнай карты свету, і адсюль пытанне:

• *Ці не паставілі б Вы перад дзяржаўнымі службамі задачу распрацаваць больш годную нацыянальную палітыку дзеля захавання і развіцця духоўных набыткаў народа?*

Калі на тое, нам было б прыемна ўсведамляць, што Вы, якога шмат хто лічыць актыўным і дзейсным палітыкам у гаспадаранні, эканоміцы, можаце яскрава сябе паказаць і ў галіне нацыянальнай культуры, якая цяпер у стане глыбокага крызісу, таму:



*• Ці не маглі б Вы падаць асабісты прыклад — вярнуцца да практыкі ўжывання роднай мовы ў дні ўсенародных урачыстасцяў і ў дакладах па найбольш важных праблемах нацыянальнага жыцця?*

Наша родная мова яшчэ не згублена, бо захоўваюцца яе карані ў народзе, яшчэ жывая, так бы мовіць, грыбніца, гатовая прыняць шчыры клопат і ласку ад дзяржавы, каб адрадзіцца, ачысціцца і пайсці ў рост. Але ж, не сакрэт, шмат хто баіцца размаўляць на роднай мове, асабліва ў дзяржаўных структурах, таму:

*• Ці не знялі б Вы ганебнае таўро ненадзейнага чалавека, альбо яшчэ горш «апазіцыянера» з тых грамадзян, якія ведаюць беларускую мову і з задавальненнем карысталіся б ёю, калі б не баяліся, што іх залічаць у ворагі афіцыйнага курсу?*

У гэтай жа сувязі:

*• Ці не паставілі б Вы перад сваім дыпламатычным корпусам і супрацоўнікамі афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі задачу: выглядаць больш карэктна і весці размову па-беларуску, асабліва калі замежныя дыпламаты ці госці краіны звяртаюцца да іх на беларускай мове?*

І тут жа, калі на тое будзе Вашая ласка:

*• Ці не парэкамендавалі б Вы арганізацыі БРСМ, дзейнасць якой фінансуецца дзяржавай, больш актыўна выхоўваць патрыётаў нацыянальнай культуры, вывучаць не сфальсіфікаваную гісторыю Беларусі, а сапраўдную, шанаваць і ўжываць у сваім асяродку дзяржаўную беларускую мову? Гэта б садзейнічала пераадоленню сярод пэўнай часткі моладзі нацыянальнага нігілізму.*

Мы звяртаемся да заканадаўчай улады — кіраўнікоў Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў — Барыса Батуры і Уладзіміра Андрэйчанкі, да членаў і дэпутатаў гэтых установаў:

*• Паважаныя, ці не наважыліся б Вы рыхтаваць і прымаць законы на дзвюх дзяржаўных мовах, як гэта робіцца ва ўсіх краінах, у якіх дзве дзяржаўныя мовы? Тым самым Вы ліквідавалі б поўную дыскрымінацыю дзяржаўнай беларускай мовы ў заканадаўчай сферы.*

І яшчэ, калі пойдзе на добры лад:

*• Ці не палічылі б Вы за свой гонар прыняць дапаўненне да Закона аб дзяржаўнай службе, унёсшы ў яго*



*патрабаванне, каб усе дзяржаўныя служачыя ведалі абедзве дзяржаўныя мовы, як гэта мае месца ва ўсіх краінах.*

Цяпер мы звяртаемся да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і асабіста кіраўніка ўрада Сяргея Сідорскага:

• *Сяргей Сяргеевіч, пагадзіцеся, што ацэнка экспертамі ЮНЕСКА стану нашай мовы з'яўляецца прысудам ураду і кіруючым уладам краіны на розных узроўнях. То ці не наспеў час прыняць стратэгічна важныя для краіны і нацыі рашэнні аб сістэмнай беларускамоўнай адукацыі і ператварэнні ў бліжэйшы час пакуль хоць аднаго з універсітэтаў у нацыянальны па духу і мове навучання альбо адкрыцці новага паўнавартаснага беларускага універсітэта, чым паслаблялася б вастрыня дыскрымінацыі карэннага насельніцтва, якое складае звыш 80 працэнтаў ад агульнай колькасці жыхароў краіны? Вам напэўна вядома, што кіраўнікі Мінадукацыі не бачаць неабходнасці ў сістэмнай беларускамоўнай асвеце, якая пачынаецца з дзіцячых садоў і заканчваецца універсітэтамі. Такі ход падзей задавальняе міністэрскіх касмапалітаў і русіфікатараў, пры якіх, дарэчы, моцна ўпаў прэстыж запалоханага, загнанага безліччу справаздачных папер настаўніка; але ж беларускаму ўраду ў падобным выпадку зробіць гонар іншая, па-сапраўднаму нацыянальная палітыка*.

Як на нашу думку, наспеў час вярнуць значна скарочаныя гадзіны на выкладанне беларускай гісторыі, мовы і літаратуры, аднавіць практыку большага матэрыяльнага заахвочвання настаўнікаў роднай мовы і літаратуры.

З другога боку, дзяржаўных службоўцаў чакае зусім закінутае поле нацыянальнай рупнасці па прапагандзе лепшых узораў беларускай мастацкай літаратуры, арганізацыі іх перакладу на іншыя мовы свету, шчыры клопат пра спадчыну, адраджэнне парушанай і занядбанай тапанімікі, узяцце пад прававую ахову помнікаў фальклору, як і перавыданне ды прапаганда сярод студэнтаў і школьнікаў яскравых помнікаў літаратуры і мовы.

*Нарэшце, мы чакаем, што Вамі, кіраўніком урада, будзе зняты перакос у дачыненні да пісьменніцкіх саюзаў і што будуць адчынены дзверы дзяржаўных выдавецтваў, часопісаў, газет, радыё і тэлебачання для літаратараў з Саюза беларускіх пісьменнікаў, нароўні з тымі, хто карыстаецца падтрымкай дзяржаўных структур і мае ўсё*



*гэта. У пісьменніцкай арганізацыі, створанай у 1934 годзе, свае шматгадовыя традыцыі, сусветна прызнаныя майстры, таленавітыя сучасныя пісьменнікі, якія сумленна працуюць у імя славы роднай зямлі. Адлучаць іх ад удзелу ў грамадскім жыцці, не даваць ім магчымасці сустракацца з вучнямі і студэнтамі (што робіцца, да прыкладу, па распараджэнні міністра адукацыі Аляксандра Радзькова), замоўчваць іхнія творчыя дасягненні па меншай меры неразумна і стратна. Ад выпраўлення становішча тут значна выйграе міжнародны аўтарытэт, унутраная дзяржаўная палітыка, нацыянальная культура, літаратура, духоўнае жыццё грамадства.*

Мы звяртаемся да кіраўнікоў міністэрстваў адукацыі, інфармацыі і культуры, да іх працаўнікоў у цэнтры і на месцах з заклікам усвядоміць сваю адказнасць за тое, што беларуская мова трапіла ў лік моў, якім пагражае знікненне. Нельга не прызнаць аблудным і трагікамічным становішча, калі адзін з высокіх чыноўнікаў супакойвае грамадзян такім чынам: *«Не бойцеся, беларуская мова не знікне, бо мы заўважылі тэндэнцыю. Чым больш прыціскаем, тым больш жадаючых вучыцца па-беларуску*!» *Хіба ёсць яшчэ ў свеце дзяржава, дзеячы ад адукацыі ў якой так бесцырымонна, адкрыта і беспакарана прызнавалі б свой уціск тытульнай нацыі?*

Мы заклікаем міністраў інфармацыі і культуры Рэспублікі Беларусь выправіць перакосы з ужываннем моў у дзяржаўным перыядычным друку, кнігадрукаванні і кніжным гандлі, на тэлебачанні і радыё, у тэатрах і на канцэртных пляцоўках, у вытворчасці кінафільмаў, а таксама ў рэкламнай сферы.

Мы звяртаемся да прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей у Беларусі, рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, татараў, паставіцца з разуменнем і павагай да нашай трывогі аб мове і нашых прапаноў — так, як са шчырай павагай, цікавасцю і любоўю мы ставімся да іншых моў і нацыянальных культур, якім, як і беларускай, належыць жыць, развівацца, узбагачаючы свет сваёй разнастайнасцю, шматколернасцю, спрыяючы абнаўленню духоўных каштоўнасцей, у чым сакрэт устойлівага развіцця цывілізацыі.

Ад рашэння пазначаных тут пытанняў, безумоўна, выйгралі б усе, да каго мы звяртаемся, і выйграў бы кіраўнік



незалежнай краіны, з прыходам якога да ўлады па нейкім дзіўным непаразуменні пачаўся новы этап дыскрымінацыі беларускай мовы, багаты склад якой, годнасць і прыгажосць прызнаны далёка ў свеце.

На нашай гаротнай зямлі адвыклі ад клопату пра свае нацыянальныя каштоўнасці, духоўныя скарбы — на тое былі пэўныя і зусім няпростыя гістарычныя прычыны, — народ сам сабе не належаў. Але ж цяпер дазвольце спадзявацца, што наш Зварот знойдзе водгук у вашых сэрцах і душах.

З павагай:
*Сябры і прыхільнікі грамадзянскай ініцыятывы*
*«Інстытут нацыянальнай памяці»*

**Яўменаў** Леанід Фёдаравіч, доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, экс-прэзідэнт Камісіі ААН па правах чалавека

**Міцкевіч** Міхась Канстанцінавіч, доктар тэхнічных навук, майстар спорту СССР

**Нікіценка** Пётр Георгіевіч, эканаміст, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Штыхаў** Георгій Васільевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

**Якавенка** Васіль Цімафеевіч, каардынатар грамадзянскай ініцыятывы, пісьменнік, публіцыст, лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Ф. Нансэна

**Крукоўскі** Мікалай Ігнатавіч, доктар філасофскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі

**Лаўшук** Сцяпан Сцяпанавіч, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар

**Гайшун** Іван Васільевіч, матэматык, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Гніламёдаў** Уладзімір Васільевіч, пісьменнік, доктар філалагічных навук, акадэмік

**Бабосаў** Яўген Міхайлавіч, філосаф, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Гумілеўскі** Леў Мікалаевіч, Народны мастак Беларусі, скульптар

**Конан** Уладзімір Міхайлавіч, культуролаг, доктар філасофскіх навук

**Стэльмашонак** Уладзімір Іванавіч, Народны мастак Беларусі

**Шчамялёў** Леанід Дзмітрыевіч, Народны мастак Беларусі

**Бандарэнка** Зінаіда Аляксандраўна, Народная артыстка Беларусі



**Касцюк** Міхаіл Паўлавіч, акадэмік
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Дрынеўскі** Міхаіл Паўлавіч, Народны артыст Беларусі, кіраўнік
Нацыянальнага акадэмічнага Народнага хору імя І. Цітовіча,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар

**Лыч** Генадзь Міхайлавіч, эканаміст, акадэмік
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Збароўскі** Эдуард Іосіфавіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар

**Бураўкін** Генадзь Мікалаевіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай
прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы

**Гарэцкі** Радзім Гаўрылавіч, геолаг, акадэмік
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

**Мазынскі** Валеры Яўгенавіч, тэатральны дзеяч, рэжысёр

**Вайтовіч** Аляксандр Паўлавіч, фізік, акадэмік,
прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі
(1997–2000), старшыня Савета Рэспублікі (2000–2003),
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

**Кашкурэвіч** Арлен Міхайлавіч, Народны мастак Беларусі, лаўрэат
Дзяржаўнай прэміі, Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь

**Барадулін** Рыгор Іванавіч, Народны паэт Беларусі, лаўрэат
Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы

**Зайкоўскі** Эдвард, кандыдат гістарычных навук

**Зуёнак** Васіль Васільевіч, паэт, кандыдат філалагічных
навук, Ганаровы сябра Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэат
Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы

**Масарэнка** Алесь Герасімавіч, пісьменнік

**Дамашэвіч** Уладзімір Максімавіч, пісьменнік

**Рыбак** Алесь Пятровіч, пісьменнік

**Кудравец** Анатоль Паўлавіч, пісьменнік

**Законнікаў** Сяргей Іванавіч, паэт, публіцыст,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя
Янкі Купалы і іншых літаратурных прэмій

**Севярынец** Павел Канстанцінавіч, пісьменнік

**Камароўскі** Алесь Адамавіч, пісьменнік

**Лыч** Леанід Міхайлавіч, доктар гістарычных навук, прафесар

**Янкоўскі** Уладзімір Пятровіч, урач

**Трусаў** Алег Анатольевіч, археолаг, старшыня Таварыства
беларускай мовы імя Францішка Скарыны

**Астаповіч** Антон Уладзіміравіч, гісторык, грамадскі дзеяч

**Сыс** Сяргей Анатольевіч, пісьменнік

**Ялугін** Эрнест Васільевіч, пісьменнік

**Акаловіч** Леанід Аляксандравіч, краязнаўца, святар



**Тарасевіч** Зінаіда Антонаўна, педагог
**Канаш** Раіса Рыгораўна, пенсіянер
**Александровіч** Анастасія Уладзіміраўна
**Сінякевіч** Мечыслаў Адольфавіч
**Кім** Таццяна Андрэеўна, інжынер
**Міклашэўскі** Віталь, інжынер
**Бамбіза** Мікола Рыгоравіч, эканаміст
**Ліпскі** Уладзімір Пятровіч, гісторык
**Малько** Міхаіл Уладзіміравіч, фізік
**Антанюк** Іван Ігнатавіч, інжынер, пенсіянер
**Савіцкі** Мікалай Іванавіч, прафесар інфарматыкі
**Белы** Анатоль Яўхімавіч, старшыня клуба «Спадчына», літаратар, мастацтвазнавец, заснавальнік і кіраўнік Старадарожскага нацыянальна-мастацкага музея фонду А. Белага
**Сакалоўскі** Уладзімір Лявонавіч, спецыяліст па ўзаемасувязях культур, кандыдат філалагічных навук
**Рагуля** Аляксей Уладзіміравіч, прафесар культуралогіі
**Лісоўскі** Станіслаў Аляксандравіч, інжынер
**Малаковіч** Надзея Якаўлеўна, настаўніца беларускай мовы
**Якімовіч** Уладзімір Міхайлавіч, вадзіцель
**Фралоў** Аляксей Валер’евіч, музыкант, лаўрэат міжнародных конкурсаў
**Крывенка** Анатоль Дзмітрыевіч, мастак
**Лавіцкі** Мікалай Емельянавіч, журналіст
**Содаль** Уладзімір Ільіч, даследчык літаратуры
**Пухоўскі** Аляксандр Цітавіч, краязнаўца
**Саскавец** Ала Мікалаеўна, педагог
**Руская** Аляксандра Іванаўна, выхавацель дзіцячага сада
**Сармант** Надзея Сцяпанаўна, педагог
**Несцярэўскі** Мікалай, мастак
**Карпук** Міхась Андрэевіч, мастак
**Барыс** Сымон Вікенцьевіч, літаратар
**Мальдзіс** Яраслаў Адамавіч, дызайнер
**Копыл** Ілья Піліпавіч, пенсіянер
**Дзераш** Ала Андрэеўна, пенсіянерка
**Гучок** Яўген Сяргеевіч, паэт
**Мускі** Барыс Георгіевіч, пенсіянер
**Пыльчанка** Анфіса Іванаўна, пенсіянер
**Сіняўская** Ларыса Міхайлаўна, пенсіянер
**Кавальчук** Галіна Аляксандраўна, пенсіянер



**Юстыновіч** Лета Кастусеўна
**Янучок** Мікалай Іванавіч, пенсіянер
**Дземідовіч** Сафія Пятроўна, бібліятэкар
**Макавецкі** Іван Іванавіч, канд. тэхнічных навук, старшы навуковы супрацоўнік
**Крыцкая** Ала Васільеўна, зубны ўрач
**Шаўчэнка** Ларыса Елісееўна, інжынер
**Джэйгалс** Уладзімір Уладзіміравіч, інжынер
**Ліннік** Ніна Паўлаўна, пенсіянер
**Занкевіч** Сяргей Міхайлавіч, бухгалтар
**Шаўчук** Вольга Георгіеўна
**Мініна** Надзея Сяргееўна, студэнтка
**Азёма** Уладзімір Пятровіч, інжынер, намеснік старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны
**Касінец** Васіль Аляксеевіч, афіцэр запаса
**Кійко** Рыгор Іванавіч, мастак
**Млечка** Часлава Чаславаўна
**Шагулін** Алег Іванавіч, радыёінжынер, «Вынаходнік СССР»
**Рамяніца** Яўген Антонавіч, студэнт
**Дзядач** Аляксей Раманавіч, філолаг
**Квяцінскі** Ян Раманавіч, студэнт
**Ус** Ганна Іосіфаўна, студэнтка
**Шацінская** Марына Іванаўна, студэнтка
**Ганязоўскі** Яўген Іванавіч, студэнт
**Сянько** Віктар Генадзьевіч, рабочы
**Трухан** Валянціна Іосіфаўна, пенсіянерка
**Карэтнікаў** Юрый Вячаслававіч, старшыня аргкамітэту грамадскага аб'яднання «Правы Альянс»
**Карэтнікава** Людміла Юр'еўна, інжынер НВА «Інтэграл»
**Крыцкі** Уладзімір Анатольевіч, працоўны
**Паротнікаў** Андрэй Яўгенавіч, юрыст
**Купа** Ягор Віктаравіч — студэнт
**Міцкевіч** Дзмітрый Алегавіч, студэнт
**Шарафановіч** Алесь Анатольевіч, інжынер
**Шпакоўскі** Аляксандр Паўлавіч, настаўнік
**Чапіга** Ігар Аляксандравіч, студэнт
**Лашкевіч** Юрый Міхайлавіч, перакладчык
**Краўчанка** Кастусь Канстанцінавіч, чыгуначнік
**Апаровіч** Наталля Юр'еўна, студэнтка
**Салаш** Сяргей Аляксандравіч, журналіст



**Скуратовіч** Аляксей Анатольевіч, беспрацоўны
**Цыркуноў** Алесь Іванавіч, мастак
**Ліс** Арсень Сяргеевіч, доктар філалагічных навук
**Гілеп** Уладзімір Аляксандравіч, дзеяч культуры
**Цітоў** Леанід Сцяпанавіч, радыёінжынер
**Коўшар** Васіль Паўлавіч, аграном, кандыдат сельскагаспадарчых навук
**Сахута** Яўген Міхайлавіч, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і прэміі «За духоўнае адраджэнне
**Марцулевіч** Сяргей Мечыслававіч, студэнт
**Кузьміч** Таццяна Генадзьеўна, студэнтка
**Кундра** Аляксандр Уладзіміравіч, студэнт
**Кузьміч** Алена Генадзьеўна, студэнтка
**Акінчыц** Юрый Васільевіч, службовец
**Гайко** Алена Сяргееўна, студэнтка
**Самакар** Таццяна Станіславаўна, настаўніца
**Фурман** Ірына Станіславаўна, студэнтка
**Макарэвіч** Юрый Тадэвушавіч, студэнт
**Власавец** Ірына Аляксееўна, студэнтка
**Дуброўка** Вольга Аляксандраўна, студэнтка
**Урбан** Наталля Віктараўна, студэнтка
**Власавец** Вольга Аляксееўна, цырульнік
**Беліч** Андрэй Валянцінавіч, студэнт
**Лысова** Ірына Фёдараўна, студэнтка
**Кударэнка** Святлана Генадзьеўна, студэнтка
**Казлоўская** Іна Юр’еўна, студэнтка
**Ясюкевіч** Вольга Паўлаўна, студэнтка
**Вінтоў** Дзмітрый Аляксандравіч
**Гудойць** Ірына Станіславаўна, студэнтка
**Навіцкая** Вераніка Іванаўна, студэнтка
**Мазай** Юлія Чаславаўна, студэнтка
**Казлоў** Віктар Паўлавіч, электразваршчык
**Губарэвіч** Юрый Іванавіч, намеснік старшыні «Руху за Свабоду», магістр дзяржаўнага кіравання
**Бохан** Ірына Аляксандраўна, рэгіянальны мінскі каардынатар «Руху за Свабоду», юрыст
**Лява** Арцём Георгіевіч, журналіст
**Бабіцкі** Дзмітрый, эканаміст
**Рашчынскі** Алесь Уладзіміравіч, кампазітар



**Гаеўскі** Алег Міхайлавіч, інжынер-электронік

**Лухверчык** Ігар Вячаслававіч, журналіст

**Шакуцін** Уладзімір Парфір’евіч, старшыня праўлення Беларускага грамадскага аб’яднання былых вязняў фашызму «Лёс»

**Шыбека** Захар Васільевіч, доктар гістарычных навук

**Мушынскі** Міхась Іосіфавіч, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар

**Бернік** Васіль Іванавіч, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

**Скорабагатаў** Віктар Іванавіч, мастацкі кіраўнік творчага калектыву «Беларуская Капэла» Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета

**Біч** Павел Макаравіч, кандыдат тэхнічных навук

**Абухоўскі** Уладзіслаў Юр’евіч, геадэзіст

**Сімаковіч** Ларыса Іванаўна, кампазітар

**Казлоў** Анатоль Сяргеевіч, пісьменнік

**Баравікова** Раіса Сяргееўна, пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы

**Кулажанка** Лідзія Яўгенаўна, кандыдат гістарычных навук, рэдактар выдавецтва Пятра-Паўлаўскага сабора

**Казінец** Міхаіл Антонавіч, Народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар

**Гаявая** Валянціна Іванаўна, Народная артыстка Беларусі

**Булыка** Аляксандр Мікалаевіч, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар у галіне мовазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

**Дзягілева** Галіна Аляксееўна, артыстка

**Лемцюгова** Валянціна Пятроўна, доктар філалагічных навук, прафесар у галіне мовазнаўства

**Залётнеў** Алег Барысавіч, кампазітар

**Шаранговіч** Васіль Пятровіч, Народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, Заслужаны дзеяч культуры Польшчы, прафесар

**Лозка** Алесь Юр’евіч, кандыдат філалагічных навук, старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай школы»

**Багдановіч** Святлана Мікалаеўна, педагог-музыка

**Талстыка** Аляксандр Уладзіміравіч, эканаміст, прадпрымальнік

**Макаеў** Аляксандр Віктаравіч, індывідуальны прадпрымальнік

**Свіркоў** Ігар Леанідавіч, начальнік цэха

**Сороко** Эдуард Максимович, доктор философских наук, член-кореспондент Петровской академии наук и искусств



**Грыгаровіч** Ядвіга Дамінікаўна, доктар педагагічных навук, прафесар, Заслужаны дзеяч адукацыі Рэспублікі Беларусь

**Снапкоўская** Святлана Валянцінаўна, доктар гістарычных навук, прафесар

**Протаярэй Георгій Латушка**, настаяцель Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора ў г. Мінску

**Протаярэй Сергій Гардун**, дацэнт Мінскай духоўнай акадэміі, загадчык кафедры біблеістыкі Інстытута тэалогіі БДУ, клірык Мінскага Свята-Духавага сабора

**Дзіско** Уладзімір Антонавіч, ветэран педагагічнай працы, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь

**Савік** Лідзія Сымонаўна, прафесар беларускай філалогіі

**Рагойша** Вячаслаў Пятровіч, пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар

**Мартысюк** Уладзімір Кірылавіч, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь

**Левін** Леанід Мендэлевіч — архітэктар, лаўрэат Ленінскай прэміі, Заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

*Зварот на 13 старонках, уключаючы подпісы, падрыхтаваны грамадзянскай ініцыятывай «Інстытут нацыянальнай памяці» і асобамі рознага занятку і чыну, занепакоенымі станам беларускай мовы, лёсам роднай зямлі і краіны.*

*Каардынатар **Васіль Якавенка***

# Зыход у нікуды, або Каму замінае беларуская мова



*Аналітычны артыкул па выніках акцыі 2009 г.*

Недзе ў набліжэнні вясны 2009 года ў сеціве, якое ў нас большасць называе інтэрнетам, кінулася ў вока трывожнае паведамленне пра беларускую мову. Не ведаю, як на каго, а на мяне яно падзейнічала, быццам выбух перуна з нябеснае высі — калі ўсё неба запнутае шэрымі хмарамі і яго не відно з-за суцэльнага заімглёнага покрыва.

З інфармацыйнага паведамлення ў свядомасць грукнула: родная для цябе і таго асяродку, скуль ты родам, мова трапіла на грань, за якою адно — скат у прорву знябытага!

## «Моўную палітыку вызначае практыка»

Тая небяспека, што казаць, прадчувалася не адным мною, а кожным адданым беларусам, шчырым, свядомым, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі — толькі цяпер яна, няўклюдная, непамысная, была прызнаная ўжо ЮНЕСКА, аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыяй. Спецыялісты ЮНЕСКА занеслі беларускую мову ў своеасаблівую Чырвоную кнігу, а дакладней — Атлас моў, якім пагражае небяспека знікнення.

ЮНЕСКА нас папярэджвала, і мы, беларусы, павінны былі азвацца, адрэагаваць, грымнуць у звон, які б усе пачулі. Але праходзілі тыдні і месяцы — а нідзе ні гуку, ані ў друку шырокім, ані па тэлебачанні альбо ў радыёперадачах, — поўны штыль.

Наша абыякавасць, наша глухата і немата тады проста не давалі мне спакою. Што мы за людзі, Божухна?! Хто адсек наш розум і волю? Ці мы самі адмаўляемся ад сваёй роднай мовы, ад скарбу, які вынеслі з векавечных глыбінь? Не!.. То што ж і хто нас гвалтуе?



Мне прыгадваліся сустрэчы і размовы з моваведамі ранейшых часоў і асабіста з акадэмікам **Аляксандрам Падлужным**. Знайшлася і публікацыя гутаркі з ім пісьменніка Эрнеста Ялугіна, якая была надрукавана дзесяць гадоў таму ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Ці прадбачылі моваведы, што ЮНЕСКА аднойчы занясе нашу мову ў Атлас моў, якія знікаюць? Бадай, не. Моваведы не верылі ў хуткі канец роднай мовы, бо былі нармальнымі людзьмі і не маглі ўявіць сабе народ, што адмаўляецца ад сваёй мовы. Якраз на мове трымаецца нацыя, адзінае і непаўторнае — святая святых для чалавека!..

Пісьменнік Ялугін у гутарцы з А. Падлужным, дырэктарам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук, звярнуў увагу вучонага на пачварны эпізод — дзеяч Дзяржаўнай думы Расіі на нейкіх там міжнародных дэбатах у Бруселі выказаўся наконт беларускай мовы так, што такой мовы ўвогуле няма. Ялугін паставіў перад Падлужным прынцыповае пытанне: жыве яна, наша мова, ці падзяляе ўжо лёс лаціны? Аляксандр Падлужны шчыра адказаў:

*У беларускай мовы магільшчыкаў хапала даўно і хапае. А наконт выступлення аднаго з расійскіх дзяржаўных мужоў, пра што вы згадалі, то першая рэакцыя — здзіўленне. Здзіўляе, калі такое сыходзіць не ад выпадковага люду, не ад чалавека з вуліцы, які можа карыстацца ўласнымі эмоцыямі, чуткамі. Ды хай бы зазірнуў у любую нашу бібліятэку. І не толькі нашу, а, дапусцім, у тым жа Бруселі. Ці ў Парыжы, Стакгольме, Вашынгтоне. Там ёсць і мастацкая літаратура, і навуковая, і даведачная, і граматыкі, і слоўнікі менавіта на беларускай мове. Гэта што: нехта штучна прыдумаў, ці як? Прычым па выданнях можна прасачыць і за гістарычным развіццём беларускай мовы. Але, калі гаварыць пра сітуацыю, якая склалася на пачатку новага года, яна сапраўды вельмі няпростая і нялёгкая. Яно ж як атрымалася? Хоць рускую мову і зацвердзілі дзяржаўнай, але пры роўным статусе з беларускай. Фармальна, як цяпер высвятляецца. У параўнанні з рускай, якая, дзякуючы шматгадовай актыўнай дзяржаўнай падтрымцы паспела моцна ўкараніцца ў асяродку чыноўніцтва і шмат каго з дэнацыяналізаваных гараджан, беларуская вымушана здаваць шмат якія важныя пазіцыі.*



*Не сама мова, а людзі. Цяпер яна фактычна амаль не ўжываецца ў органах дзяржаўнага кіравання. А за гэтым жа стаіць прэстыж роднай мовы ў вачах простых грамадзян. Моўную палітыку вызначае практыка. І практыка ў першую чаргу эліты, у якую ўваходзяць як дзеячы навукі, культуры, так і дзяржаўныя кіраўнікі.* Так, практыка вызначае лёс мовы і культуры.

Шлях да нацыянальнай катастрофы вядомы, думалася мне, але што рабіць? І прыгадалася, як у 2002 годзе мы з Вольгай Іпатавай (яна тады ўзначальвала Саюз беларускіх пісьменнікаў) правялі ў Доме літаратара трохдзённы міжнародны сімпозіум «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі». У важным тым сімпозіуме ўдзельнічаў нават сам Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацууры, выступіў з прамовай пра важнасць захавання духоўнага скарбу народаў. Таму і мэтай таго шырокага форуму, у нашым разуменні, была прапаганда ідэі разнастайнасці, што ляжала ў аснове гарманічнага развіцця цывілізацыі, а ўжо потым — абарона беларускай мовы ад занядбання ўладамі і няспелым грамадствам.

## Мабілізацыя эліты

Пад час майго ранейшага грамадскага чыну надарыўся быў яшчэ адзін проста выключны выпадак, калі я пачуваў сябе пераможцам — па сёння тым ганаруся.

Людзі старэйшага веку памятаюць, як у васьмідзесятыя гады востра і балюча стаяла пытанне абароны прыродных абшараў, асабліва рэк і рачулак, ад заўзятай дзейнасці меліяратараў. Урэшце дабраліся меліяратары да Прыпяці, пачалі выпрамляць рэчышча, абвалоўваць, адсякаючы імклівую плынь ад поймы, а пойму — асушаць пад раллю. Праз 15–20 гадоў — не болей — там разыгралася б чарговая нацыянальная катастрофа: утварылася б сапраўдная пустыня.

Дык што мы, пісьменнікі, зрабілі?.. Падрыхтаваліся і прызначылі ў Доме літаратара навукова-практычную канферэнцыю, сабралі на яе ўсе зацікаўленыя бакі — і сваіх аднадумцаў, і апанентаў, — спецыялістаў розных узроўняў, акадэмікаў і міністраў, запрасілі калег-пісьменнікаў і вучоных з Украіны, і вось напрадвесні 1988 года наладзілі адмысловы дыспут, раз’ятраную «бойку» думак, сутыкненне розных



настрояў, пачуццяў — зрэшты, усё, што было ў актавай зале ДЛ, нагадвала Запарожскую Сеч! Менавіта з тых дат, з таго часу і пачалася ў нас новая палітыка ў меліярацыі...

Цяпер вось трывожыў не меншы клопат — пра мову, і ён пераходзіў у подумкі пра тактыку дзеянняў...

Шаноўныя, звяртаўся я ў думках да землякоў, ці не маглі б мы запазычыць трохі вопыту ў той прыродаахоўнай акцыі? Ну, хоць што-кольвек... Дарэчы, тая ж пераможная акцыя не магла не натхняць яе ўдзельнікаў і, прынамсі, мяне, яе арганізатара. Добра... Толькі што рабіць цяпер? Як што?.. Узняць на абарону мовы гонар нацыі, падрыхтаваць ліст. Самае простае на першы погляд. Але паўставалі пытанні: ліст якога зместу і каму?..

Родная наша мова — агульны нацыянальны боль, і тыя асобы, якія падпішуць ліст, павінны выступаць не ад нейкіх апазіцыйных сіл, не ад адной, хоць і добрай грамадскай арганізацыі як, напрыклад, ТБМ, а ад колаў шырокіх, якім ужо імя — НАЦЫЯ. Я ж другі год пачуваюся каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы «Інстытут нацыянальнай памяці»... Дык няхай гэта і будзе акцыя Інстытута нацыянальнай памяці. І тэкст звароту мусіць адпавядаць разгорнутай задуме, ён павінен быць не крыклівым, дзелавым, доказным, і — біць не столькі словам, колькі фактам. Таму, сябры мае любыя, хто любіць мову, адчыняйма дзверы насцеж калектыўнаму звароту Інстытута нацыянальнай памяці! Гэтак летуценна мне думалася... Хваляваўся і шукаў дарадцаў. Спыніўся на Леанідзе Яўменаве, яскравай постаці ў грамадскім і палітычным жыцці, — філосаф, дыпламат, праваабаронца, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Дапамог і Генадзь Бураўкін, паэт і дыпламат. Свае меркаванні па змесце выклаў акадэмік Аляксандр Вайтовіч. Тэкст узбагаціўся.

Найважнае, пра што мне горача даводзіў Яўменаў, было: *«Мова — этнічная аснова самавызначэння народа і нацыі, яна — жыццястваральная аснова дзяржаўнага суверэнітэту, яна — і абаронца народа, дзяржавы. Толькі зусім не цямячы гэтага, афіцыйныя ўлады знішчаюць беларускамоўную школу. Насуперак канстытуцыйнай норме наша мова фактычна застаецца ў стане, пакінутым нам расійскім царызмам. Больш за тое, стан яе занядбання з кожным годам паглыбляецца».*



Клопату з лістом было шмат, і, калі пачаўся збор подпісаў — па тэксце выказваліся самыя розныя меркаванні і парады. Цудам, улічваючы ўсё, удалося неяк вытрымаць змест у адзіным плане.

Пачаліся сустрэчы з магчымымі падпісантамі, а з некаторымі нават і не па аднаму разу. Парадавалі тыя, хто сярод першых падтрымаў зварот да вышэйшых эшалонаў улады, — вядомыя філосафы Крукоўскі і Конан, акадэмікі Нікіценка, Гайшун, Касцюк, Бабосаў, Лыч, Гарэцкі, Вайтовіч, Гніламёдаў... Апошні нават падзякаваў мне за тое, што не абышоў яго ўвагай і што ў гэтым падпісаным ім дакуменце быў як бы паратунак і ягонаму грамадзянскаму піетэту. А далей, вобразна кажучы, неслі да ўладаў Зварот народныя мастакі Беларусі Вашчанка, Стэльмашонак, Шчамялёў, Кашкурэвіч, Гумілеўскі, Шаранговіч, народныя артысты Бандарэнка, Гаявая, Дрынеўскі, Казінец, музыкі Скарабагатаў, Фралоў, Рашчынскі, сын Якуба Коласа — Міхась Міцкевіч, народны паэт Барадулін, святары Латушка, Гардун, славуты архітэктар Левін... Напачатку было сабрана 183 подпісы (ад акадэмікаў да рабочых і студэнтаў). Потым іх лік дасягнуў 900.

Паспяховы збор подпісаў стаў магчымы дзякуючы таварыскай падтрымцы акцыі Алега Трусава і асобных актывістаў ТБМ.

Свой унёсак у падрыхтоўку і ладаванне праекта зрабілі таксама вядомы праваабаронца Гары Паганяйла, старшыня ТБШ Алесь Лозка, Анатоль Белы са сваім культурна-асветніцкім клубам «Спадчына», праваабаронца са Слуцка Зінаіда Цімошак ды проста неабыякавыя і слаўныя людзі — Алег Шагулін і Галіна Івуць, Міхась Малько і Валерый Патапенка, Лідзія Кулажанка і Алег Гаеўскі (Мінск), Васіль Кухто і Эдуард Мамчыц (Віцебск), Уладзімір Дарагуж (Чэрвень).

## Пярэпалах у сценах Дома літаратара

Само сабой не засталіся ў баку сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, не кажучы ўжо пра Яўменава і Бураўкіна, — Зуёнак, Дамашэвіч, Кудравец, Рыбак, Законнікаў, Рагойша, Масарэнка, Ялугін, Камароўскі, Травень, Сакалоўскі, Содаль... Але пры сустрэчы са мной акадэмік-літаратар Уладзімір Гніламёдаў настойліва раіў мне звярнуцца таксама і ў «правільны» пісьменніцкі саюз, які ўтварыўся ў 2006 годзе.

Яго ўзначальвае Мікалай Чаргінец, генерал міліцыі і літаратар. Натуральна, прапанова акадэміка не разыходзілася з маімі прынцыпамі шматбаковага прадстаўніцтва абаронцаў роднай мовы.

Пачаў з рэдактараў, на якіх, як на тых сланах, трымаецца «правільны» саюз. Зварушліва паставіліся і падтрымалі сваімі подпісамі Зварот Раіса Баравікова («Маладосць») і Анатоль Казлоў («Літаратура і мастацтва»), а вось Мікола Мятліцкі («Полымя») з пагардай адмовіўся: «Я не лічу, што беларускую мову трэба бараніць, на наш век яе хопіць!» Я не спрачаўся — у кожнага свая галава. Дарэчы, пазней амаль тыя ж словы пачую ад А. Вярцінскага, колішняга рэдактара «ЛіМ».

Толькі скурай адчуваў халадок, калі ўваходзіў у Дом літаратара, заняты новым саюзам. Калісьці ў сценах гэтага будынка мы правялі дзівосны форум у абарону будынка, з гэтым будынкам звязаны лепшыя старонкі майго творчага і грамадскага жыцця.

Унутры будынка пасля праведзенага рамонту кідаліся ў вока шчасная прастора, чысціня і бляск.

Мікалай Чаргінец сустрэў мяне даволі ветліва — знешне прыязна. У шырокім кабінеце, занятым цяпер ягонай персонай, калісьці працаваў Максім Танк. Толькі штосьці не ранейшае, не танкаўскае было ў пакоі, яно, быццам рогам, упіралася ў мае плечы. Я зразумеў, у чым справа: прыкладна чвэртку альбо нават трэць кабінета па левую руку займала адгародка пад самую столь, і той закутак ужо меў асобныя дзверы. Знутры. Светлая прастора кабінета ламалася, але ж яна, трэба меркаваць, адпавядала духу, душы гаспадара кабінета, былога сенатара; адсечаны куток спатрэбіўся Чаргінцу для ўласнага «будуара», там у затулку ён прымаў і частаваў шаноўных гасцей.

А што да прыязнасці, то Чаргінец гэтак жа паважліва, прыхільна, ветліва, ставіўся і да іншых літаратараў з нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў. Больш за тое, яго ўвага заўжды пераходзіла ва ўгаворы пакінуць свой нацыянальны, як лічылася, саюз і перайсці ў ягоны — Саюз пісьменнікаў Беларусі, які быў прыгрэты ўладай, але пакуль не надта вызначаўся глыбокімі каларытнымі талентамі.

Да калектыўнага Звароту ў абарону беларускай мовы Чаргінец паставіўся адназначна адмоўна: маўляў, навошта



мітынгаваць, навошта збіраць подпісы — гэтак рабіць нягожа. Мы зрабілі інакш, казаў ён, склалі і паслалі ад свайго саюза ліст па мове «на самы верх» — пытанняў і прапаноў у ім шмат... Вось такі, маўляў, наш ход, і нічога больш не трэба!..

Калі шчыра, я парадаваўся ягонаму ўчынку, яго заступніцтву за мову, на якой ён, праўда, не пісаў і не размаўляў, парадаваўся паралельнаму лісту з «правільнага» боку — намаганні ж у любым разе складваліся і памнажаліся. Я папрасіў паказаць мне тэкст, толькі гэта аказалася немагчымым, бо ліст Чаргінцом быў падрыхтаваны і пасланы ў «закрытым фармаце», ён даступны толькі высокім чыноўнікам. Няхай сабе і так, думалася. Толькі ці не быў той ліст легендай?..

Ні на чым не настойваючы і нічога не прапануючы далей, я слухаў пра планы і задумы Чаргінца: узняць новы саюз, пашырыць работу — выдатныя ж перспектывы! — вось, да прыкладу, ляжаць сабраныя ў папках матэрыялы на тысячу найвыдатнейшых беларусаў свету, з замежжа, сапраўдныя дзеячы, каларытныя асобы, і трэба, каб нехта з пісьменнікаў гэтымі матэрыяламі заняўся, падрыхтаваў на гэтым грунце кнігі... Я ацаніў веліч задумы калегі і выказаў меркаванне, што да вырашэння такой шырокасяжнай і высакароднай задачы можна было б прыступіць аб'яднанымі сіламі двух творчых саюзаў. Толькі і гэта гаспадару кабінета не спадабалася... Ён затаіўся.

Размова скакала з прадмета на прадмет. Урэшце, пісьменнік Чаргінец не ўтрымаўся, каб не пахваліцца сваімі творчымі поспехамі, ён кінуў вокам на камп'ютэр, маўляў, сеціва там літаральна завалена заляцаннямі, ласкавымі водгукамі на ягоныя творы. Я ахвотна паверыў, адно падумаў сабе: то ж ёсць каму заляцацца і арганізоўваць водгукі, а вось ты, галубок шызакрылы, калі б быў беларусам, а не толькі народжаным у Беларусі, то і тых заляцанняў ад тваіх твораў, бадай што, паменшала б.

Я не хацеў дрэнна думаць пра калегу, толькі ж падумалася: калі параўнаць гаспадара кабінета з Максімам Танкам на ўзровень аб'ёму, то Танк — гэта ўвесь вялікі кабінет, а Чаргінец — адно тое, што ён там сабе выгарадзіў для будуара.

Паглядзеўшы на гадзіннік, я зразумеў, што наша дыпламатычная размова зацягнулася і час імчаць дадому, бо ў гэты ж дзень да мяне павінен завітаць народны артыст, кіраўнік ансамбля «Сябры» Анатоль Ярмоленка. Ён меўся



пад'ехаць, каб пазнаёміцца са Зваротам у абарону мовы, бо лічыў яго наспелым, патрэбным. Мне варта было спяшацца, і, развітаўшыся з Чаргінцом, я кумільгам выскачыў з Дома літаратара, а на вуліцы — дождж, проста залева! Пра тое, каб своечасова патрапіць дадому, не было як і думаць. Тады я нырнуў паўз будынак пад зялёны шацёр ліпы і з мабільніка патэлефанаваў Ярмоленку. Той пагадзіўся прыехаць к Дому літаратара. Толькі самога моманту, калі ён падкаціў на аўтамабілі, я не заўважыў, магчыма, спыніўся ён каля другога пад'езда. Я патэлефанаваў паўторна, калі ён ужо быў у кабінеце Чаргінца. Спяшаючыся, я ўзгробся па белай лесвіцы ўгору... Мы з ім сустрэліся ў вестыбюлі другога паверха, адно не паспелі прысесці да нізкага століка, які разам з крэсламі стаяў у куце, як са свайго кабінета выйшаў даўно не бачаны мной чалавек, мажны, з рудымі абвіслымі вусамі, — Віктар Праўдзін:

— Васіль Цімафеевіч, вы што тут робіце?!

— Бачыце, на хвіліну зайшлі...

— Вы правакатар! — выгукнуў ён, і гэта грукнула так, быццам пярун з неба. — Вы — правакатар!.. А вы, Анатоль Іванавіч, не слухайце яго, ён права-катар!

Паколькі ўсё, што адбывалася, было зусім нечаканым, алагічным, абсурдным, я ўспрыняў гэту сцэну як вадэвіль, я спярша нават не прыняў яе блізка да сэрца.

— Віктар Аляксандравіч, прашу паводзіць сябе прыстойна! — спрабаваў я ўняць агрэсіўнасць вусатага дзядзькі, які важным і рашучым крокам дэфіляваў уздоўж сцяны вестыбюля. — Урэшце, якая вам справа да нас?!

— Я першы намеснік старшыні саюза, і без майго дазволу сюды не павінна нават муха заляцець!

Анатоль Ярмоленка тым часам пагартаў старонкі Звароту, глянуў на подпісы і, сумеўшыся, развёў рукамі:

— Прабачце, але ў такой сітуацыі... давайце адкладзём.

— Правільна, і я так думаю...

— Вы правакатар, Васіль Цімафеевіч! — зацята ўсё яшчэ выгукваў Праўдзін.

Я, быццам ашпараны, спусціўся па лесвіцы ўніз і выйшаў з Дома літаратара, а пад вечар са сваёй кватэры надумаў патэлефанаваць Чаргінцу па мабільным.

— Мікалай Іванавіч, што гэта за фарс са мной разыгралі? — спытаўся я, і вопытны чыноўнік адразу парыраваў.



— А что же это вы, ссылаясь на мой авторитет и подставляя меня, приглашаете людей в Дом литератора?.. Вы вынуждаете их подписывать неизвестно что, потом люди приходят ко мне и жалуются. Они собираются подавать на вас в суд!

Я зразумеў, што фарс працягваецца і пераходзіць ужо ў драму; толькі цікава, хто гэта мне пагражае судом? Калі шчыра сказаць, мяне ўскалынула.

— Прашу прабачэння, Мікалай Іванавіч, але я ніколькі вамі не прыкрываўся і аўтарытэту не маю патрэбы ў кагось пазычаць. Скажыце лепш: хто да вас прыходзіў са скаргай на мяне?

— Гаявая!

Вось табе і маеш! Асоба, якая шчыра размаўляла са мной і са слязьмі на вачах расказвала, як яе ансамбль «Харошкі» пачалі высяляць з памяшканняў, якія яны займалі. А здарылася гэта адразу пасля таго, як са сцэны, пасля паспяховага святочнага выступлення, Гаявая заявіла натхнёна, што чакае адкрыцця ў Мінску Беларускага нацыянальнага цэнтра, абапіраючыся на які яе ансамбль будзе яшчэ лепш выступаць. «Нацыянальнае — проста костка ў горле дзяржаўных чыноўнікаў і тых, хто наглядае за імі», — падумалася мне, але тады я не знаходзіў слоў, каб яе ўсцешыць. А цяпер... Званю народнай артыстцы Гаявой:

— Валянціна Іванаўна, вы сёння хадзілі да Чаргінца ў Дом літаратара?

— Не-е, і — навошта? Ён мне, калі я раней звярталася, нічым не дапамог.

— І не тэлефанавалі яму?

— Не, і не тэлефанавала.

— І нават не адмаўляецеся ад свайго подпісу пад Зваротам у абарону беларускай мовы?

— Не, што вы! Хоць я і руская, але нацыянальную мову, на якой беларуская культура ўзнялася і дасягнула свайго росквіту, трэба берагчы!

Я падзякаваў ёй і з гэтага моманту выразна адчуў, што маё наведванне цяперашняга Дома літаратара з дзіўнага фарса і драмы ператвараецца ў трагікамедыю... З вядучым артыстам, майстрам па разыгрыванні ўсялякіх вострых сітуацый не толькі ў літаратурных творах.



## Ці хутка развіднее?

«Ці хутка развіднее на векавечных абсягах нацыянальнай культуры?» — пад такім загалоўкам газета «Народная Воля» надрукавала мой артыкул пра адраджэнне і далейшае развіццё беларускай мовы. Газета і асабіста яе галоўны рэдактар Іосіф Сярэдзіч надавалі немалаважнае значэнне адлюстраванню распачатай намі дыскусіі і, у прыватнасці, маёй перапісцы з рознымі ўстановамі. Гэта спрыяла нам і дазваляла часам пераходзіць ад абароны мовы ў наступ за яе адраджэнне.

Дружна выступіў з заявай аб актуальнасці і матываванасці пазіцый нашага Звароту калектыў філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта — ліст, ініцыяваны прафесарам Іванам Лепешавым і падпісаны 50 выкладчыкамі, дацэнтамі, прафесарамі, лабарантамі, паслалі на імя кіраўніка краіны.

Пад нашым зваротам пачалі падпісвацца сем'ямі. Прывяду характэрны і яскравы прыклад:

*Далучаемся да тых людзей, якія любяць сваю краіну, якія не ўяўляюць свайго жыцця без роднай Беларусі, якія добра разумеюць, што не можа быць сапраўднай нацыі без Роднай Мовы! А беларусам ТАК пашанцавала: бо наша мова не проста прыгожая, яна СМАЧНАЯ!*

*Сям'я Палхоўскіх, Аляксандр Сяргеевіч, працаўнік МТЗ, Марыя Мар'янаўна, руплівіца будаўнічай арганізацыі, дачка Таццяна, студэнтка БДПУ імя Максіма Танка і іх сын Дзяніс, вучань пятага класа, Мінск.*

Цікавыя былі і афіцыйныя водгукі.

**З Магілёва**: «Для вывучэння пытання ў аблвыканкаме была створана рабочая група ў складзе спецыялістаў адукацыі і культуры, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый. Выпрацаваны адпаведныя прапановы і рэкамендацыі па паляпшэнні стану спраў з роднай мовай у рэгіёне. Па даручэнні старшыні аблвыканкама вядзецца таксама выпрацоўка комплексных мер па падтрымцы беларускай мовы.

Дзякуй за адданасць роднай мове і клопат аб ёй!

Намеснік старшыні аблвыканкама В. А. МАЛАШКА».

**З Брэста** — амаль такі ж тэкст з падтрымкай; паведамлялася аб практыцы ўжывання беларускай мовы аблвыканкамам і асабіста старшынёй К. А. Сумарам. «Што да шэрагу прапаноў, выказаных у Звароце, то яны не знаходзяцца ў кампетэнцыі

Брэсцкага выканаўчага камітэта», — інфармаваў намеснік К. А. Сумара Л. А. Цупрык і адначасова выказваў нам сваю шчырую ўдзячнасць «за актыўную грамадзянскую пазіцыю».

**Міністэрства замежных спраў** выказала падзяку за занепакоенасць лёсам роднай мовы, якая як адна з дзяржаўных шырока ўжываецца ў справаводстве сістэмы МЗС. Намеснік міністра С. Ф. Алейнік адзначыў, што «МЗС займае актыўную пазіцыю па вяртанні на Радзіму нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны, што ў значнай ступені спрыяе павышэнню нацыянальнай свядомасці, выхаванню павагі да беларускай гісторыі, культуры і мовы».

**Міністэрствы адукацыі, культуры, інфармацыі** па рэкамендацыі Савета міністраў напісалі абагульнены адказ на перасланы ім Зварот. З першых слоў яны віталі наш клопат пра функцыянаванне роднай мовы. Але ж, фіксуючы тое, што робіцца на ніве адукацыі, службоўцы нічога прынцыповага, каб змяніць пагібельную сітуацыю, не прапанавалі. Больш канструктыўна, праўда, падавалася сітуацыя з ужываннем нацыянальнай мовы ў Міністэрстве культуры, дый сам міністр Павел Латушка паказвае прыклад у карыстанні беларускай мовай.

**Савет Рэспублікі і Палата прадстаўнікоў** Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь паведамілі, што яны плануюць у 2010 годзе падрыхтаваць і вынесці на разгляд праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы па пытаннях ужывання і развіцця дзяржаўных моў у Рэспубліцы Беларусь». Законапраектам прадугледжваецца адкарэкціраваць палажэнні раней прынятых законаў дзеля «дасягнення фактычнай роўнасці дзяржаўных моў на практыцы, як таго патрабаваў Канстытуцыйны суд сваім рашэннем № П-91/2003».

**Нарэшце, па цяперашніх часах амаль сенсацыя**: губернатар Віцебскай вобласці на «Славянскім базары» загаварыў на беларускай мове (палову — на беларускай, палову на рускай, улічваючы публіку).

**Савет міністраў** даручыў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі распрацаваць прапановы па адраджэнні і далейшым развіцці мовы тытульнай нацыі. Падаць падрыхтаваны дакумент належала, праўда, не ў Савет міністраў, а ў Адміністрацыю прэзідэнта. І ўжо з гэтай праявы ўскосна вынікала, што і там, у Адміністрацыі, наш Зварот не пакінулі без увагі.



**Нацыянальная тэлерадыёкампанія** доўга марудзіла, потым увосень прыняла рашэнне павялічыць колькасць беларускамоўных перадач радыё і тэлебачання, і — павялічылі... на адну кропельку — дзякуем, панове, за ласку! Ну, а далей, глыбей, шырэй — гэта калі?

Праяў увагі да Звароту было нямала, толькі варта зазначыць і тое, што Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь па сутнасці праігнаравала прынцыповую пастаноўку пытанняў у Звароце, яно, па сутнасці механічна, завучана, не ўпершыню пераслала разбухлую справаздачу пра тое, як шмат там рабілася і робіцца дзеля захавання ў школьных і іншых навучальных установах беларускай мовы. Насамрэч практыка дзейнасці гэтага міністэрства якраз і паставіла мову тытульнай нацыі на край гібелі, што, між іншым, было пераканаўча паказана ў маіх артыкулах у «Народнай Волі» — «Далучайцеся!» за 4.08.09 г., «Ці хутка развіднее?» за 15.10.2009 г. і «Баба Шура сказала, а што скажа прэзідэнт?» за 26.12.2009 г., як, зрэшты, і ў далучаных да артыкулаў водгуках чытачоў. Вось адзін з іх, найбольш паказальны.

## Міністру муляе «хамут»

*«Я выклаў усё гэта ў сваім лісце ў чатыры высокія інстанцыі. Па прасторах Беларусі шыбуе расійшчына, і першапрычынай таму стаў ганебны рэферэндум 1995 года. Ён нанёс такі ўдар па беларускай мове і культуры, якога яшчэ не наносілі ні Польшча, ні царская Расія, ні бальшавікі за час панавання на Беларусі. Вось да чаго можа прывесці адсутнасць клопату пра нацыю. Праграма «Культура» пачынаецца навінамі з Расіі, нібы ў культурным жыцці Беларусі нічога не адбываецца.*

*Адукацыя наогул натварыла такога, у чым ніхто не можа разабрацца. Усе павінны вучыцца па адной праграме! Майляў, думаць, аналізаваць не трэба, дзеля гэтага ёсць ідэолагі, палітыкі. Будзем рыхтаваць галавасцікаў, якія маглі б забіваць гайкі кувалдай. Вось да чаго схіляеце вы, спадар Радзькоў, у адукацыі. Пры вашай «дбайнасці» дайшло, што беларускую мову і гісторыю выкладаюць вучням па-расійску. Па звужанай праграме... Дзікунства! Пра адсутнасць у вас культуры і павагі да школьнікаў, іх бацькоў, усяго грамадства засведчыла ваша выступленне на рускай*



*мове пры тэсціраванні выпускнікоў школ па беларускай мове і літаратуры ў БДУ. Ганьба, спадар Радзькоў!* *

*Каб міністр адукацыі ды займаўся палітыкай і прымушаў да гэтага настаўнікаў у школе — гэта абсурд! Выбачайце, але вам, відаць, адукацыя мыліць шыю, як каню выпадкова знойдзены хамут. Зніміце яго з сябе і займіцеся хоць бы той жа таемнай для насельніцтва «Белай Руссю», яна вам будзе больш пасаваць.*

*Алег ЛАШУК, пенсіянер, былы інжынер-будаўнік. Гомель».*

Мне асабіста хацелася думаць пра лепшае, і ўвага нашай ініцыятыўнай групы была прыкавана да скрыжавання, на якім сустракаліся і ўсё часцей сутыкаліся, пры сваёй супярэчлівасці, грамадскія і дзяржаўныя клопаты, інтарэсы, імя ж яму — Адміністрацыя прэзідэнта. Паколькі да нас даходзіла інфармацыя, што там такі пра штосьці думаюць, пра нешта дбаюць у сувязі з распаўсюджаным намі Зваротам, мы чакалі адказу. А яго не было — не было больш за тры месяцы. І, нарэшце, прыйшоў. Ён быў даволі туманны і загадкавы: «Вашы лісты разгледжаны ў Адміністрацыі прэзідэнта, прапановы будуць па магчымасці ўлічаны зацікаўленымі дзяржаўнымі органамі ў рабоце па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў грамадстве».

Складваецца ўражанне, што на высокім уладным паверсе адказныя асобы чагосьці не дагаворваюць. Засталося пытанне: ці ёсць у нас органы, зацікаўленыя ў беларускай мове? Як на наш розум, яны былі вынішчаны яшчэ ў 1995–1996 гадах пасля сумна вядомага рэферэндуму. З іншых крыніц, праўда, неўзабаве высветлілася, што на тым «скрыжаванні» адбылася нарада аб адраджэнні мовы з удзелам міністраў і кіраўнікоў «зацікаўленых дзяржаўных органаў», што нарада прыняла рашэнне: пашыраць выкарыстанне беларускай мовы ў краіне, але рабіць гэта паступова, эвалюцыйным шляхам. Аднак пэўнасці як не было, так і няма. А эвалюцыя... Ніводзін вучоны яшчэ не дакапаўся наколькі эвалюцыяніравала чарапаха з часоў эпохі мамантаў і дыназаўраў.

---

* Суровая вымова чытача А. Лашука, напэўна, паўздзейнічала на спадара А. Радзькова, і, пакінуўшы пост міністра, ён перайшоў на працу ў Адміністрацыю Прэзідэнта краіны.



## Фінал моўнай акцыі

У снежні 2009 года ў агромністай і шыкоўнай зале Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску праходзіў установчы з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. На мой погляд, гэты новы саюз быў патрэбны не больш, чым і сама Саюзная дзяржава, балазе ў Маскве ўжо была Міжнародная супольнасць пісьменніцкіх саюзаў (МСПС), спадкаемца Саюза пісьменнікаў СССР. Але ж камусьці спатрэбіўся і гэтакі саюз — хутчэй за ўсё, каб далучыцца да спажыўцоў бюджэту Саюзнай дзяржавы.

Мне было ў пэўнай меры цікава прысутнічаць на пампезным, як у былыя савецкія часы, мерапрыемстве. Калі казаць аб прыемным, то найбольш спадабаўся даклад масквіча **Валерыя Ганічава** — сваёй немітуслівасцю, цывілізаванай адметнасцю. Мала таго, што па многіх пазіцыях ён не ўступаў дакладу Чаргінца, дык яшчэ Ганічаў спыніўся на неабходнасці захавання нацыянальных духоўных каштоўнасцяў народаў:

*Ясно, что одной из главных ценностей, о которой будет заботиться наш Союз, безусловно, являются русский и белорусский языки — это главная основа, на которой создается литература, наша опора в этом мире, это душа народа. Не надо превращать язык в орудие борьбы, он должен быть средством единения и сплочения. Для меня абсолютно ясно, что русский человек, который живет в Беларуси, должен знать белорусский язык. Это не только гражданская обязанность, это его богатство.*

Аднак тое, што для лідэра расійскай пісьменніцкай арганізацыі «абсолютно ясно», не ўсвядомілі за доўгае жыццё ў Беларусі некаторыя з тузоў, якія сядзелі за сталом прэзідыума: і той жа міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў (ён паёрзваў у крэсле, калі слухаў Ганічава, і нават дастаў з кішэні нататнік, каб сёе-тое пазначыць для памяці, але, відаць, своечасова згадаў, што ад яго нічога такога зверху не патрабуецца, дый супакоіўся), і Мікалай Чаргінец, які, відаць, лічыў, што ў яго ёсць «алібі» — сярэдняя мінская школа з англійскім ухілам, дзе ён вучыўся і дзе не хацелі ведаць беларускай мовы.

Пры падобных адносінах да мовы ці варта здзіўляцца, што ў праўленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, якім кіруе М. Чаргінец, камфортна пачуваюць сябе тыпы накшталт



Аўруціна і Герашчанкі. Паэт **Анатолий Аврутин** не аднойчы ў Мінску і Маскве негатыўна і грэбліва выказваўся і пра беларускую мову, і пра беларускую літаратуру. А невядомы пакуль у літаратуры **Андрей Геращенко** — дзяржаўны чыноўнік, начальнік аддзела па справах моладзі ў адным з раёнаў Віцебска, стварыў грамадскае аб'яднанне «Русский дом» як «неотъемлемую часть русского народа» і адкрыта, з апломбам разважае пра «штучнасць» беларускай мовы, адмаўляе існаванне беларускай нацыі.

Я не першы год задаваў сабе пытанне: якая глеба жывіць герашчанкаў і аўруціных, каб гэтак непрыхільна ставіцца да беларускай зямлі і яе народа? Азадачаны, уважліва сачыў за прамовамі кіраўніка краіны, у якіх ён часам незнарок мог даць адказ на самыя надзённыя і «прыхаваныя» пытанні. Блізіўся канец 2009 года, і Аляксандр Рыгоравіч вырашыў правесці прэс-канферэнцыю з беларускімі журналістамі.

Акурат перад гэтым мне патэлефанавалі з Савета Рэспублікі і тактоўна папрасілі выбачэння за затрымку з адказам на мой ліст — той, у якім я, нарэшце, спытаўся, ці ўнесена ў план працы Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі на 2010 год падрыхтоўка Закона аб зменах у дзеючым заканадаўстве па мове, «каб ліквідаваць на практыцы няроўнасць беларускай і рускай моў». Мне патлумачылі, што гадавы план работы Палаты прадстаўнікоў пададзены ў Адміністрацыю прэзідэнта, адно па незразумелых прычынах яго там доўга трымаюць. Запэўнілі, што неўзабаве, як толькі ўсё вырашыцца, яны мне адкажуць пісьмова.

Тая затрымка стала мяне ўсур'ёз непакоіць. Вырашаўся і завіс прынцыпова важны і лёсавызначальны для адраджэння мовы і нацыянальнай культуры пункт праграмы ў дзейнасці заканадаўчых устаноў. Я з нецярпеннем чакаў развязкі.

Яна прыйшла неспадзявана. На згаданай прэс-канферэнцыі дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Алесь Ліпай звярнуўся да кіраўніка дзяржавы: «Беларуская мова зараз знаходзіцца ў заняпадзе, у тым ліку з-за дэфіцыту падтрымкі з боку беларускай дзяржавы. Я прапаную ўвесці сістэму дзяржаўных грантаў і прэферэнцый для грамадскіх арганізацый, якія займаюцца моўнымі праблемамі, для беларускамоўных сродкаў масавай інфармацыі і для беларускамоўных класаў і школ». Але тое, што ўсе пачулі ў адказ, было надта падобным на выбух.



*...Мы договорились быть откровенными, и я вам скажу откровенно: вопросы языковые раз и навсегда в стране решены. По крайней мере, в тот период времени, пока я буду президентом. Мы этот вопрос однозначно решили на референдуме, и я не собираюсь вносить какие-то дополнения и новшества. Желаете разговаривать на белорусском языке — разговаривайте. Желаете говорить на русском языке — пожалуйста, говорите. Но,* — прыспеў час Аляксандру Рыгоравічу патлумачыць становішча, у якім ён знаходзіцца, — *если тебе помогают и ставят условия, тогда будь добр исполнять, во всем мире так принято. Так и по языку*.

Дык вось дзе сабака закапаны! Там, дзе і газ, і нафта. Яны адтуль, з усходу, нам — нафту, а мы ім, згодна з умовай, — раззбраенне духоўнае і культурнае, моўнае... Яны нам падтрымку доўгатэрміновай улады, а мы ім — «все, чего изволите». Баш — на баш! Толькі ці не назіраецца ў гэтакай міждзяржаўнай гульні ўжо здрада нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь? Рыторыка...

Я ажно пахаладзеў, калі прачытаў выказванні кіраўніка дзяржавы, бо зразумелым рабілася, што адказваў ён не аднаму спадару Ліпаю, адказваў паплечнікам, у тым ліку Здановічу, старшыні Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў, які рыхтаваў праект, адказваў усім, хто прыхільна паставіўся да адраджэння роднае мовы (а такіх, магу аўтарытэтна запэўніць, у патэнцыяле не адзін і не два мільёны), і бабе Шуры адказваў, якая, падпісваючы Зварот, мовіла: «Няхай бы хоць праўнук мой у беларускай дзяржаве пачуваў сябе беларусам!»

На пытанне А. Ліпая Аляксандр Рыгоравіч адрэагаваў энергічна, рашуча, запальчыва: «Меньше эту тему надо мусолить!» Раздражняла яго, пэўна, тое, што нават ягонае атачэнне ў Мінску, ягоныя людзі ў рэгіёнах пачалі схіляцца да адраджэння беларускай мовы. Вунь, як і Канстытуцыйны суд! Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі — туды ж! Яны, бачыце, за перагляд законаў па мове! Вось ён і выдаў усім наўкруг сваё крэда, свой лад думак, раскрыў вядомую, можа, аднаму яму матухну праўду!

Ужо быў студзень — снежны і марозны, як ніколі, — калі прыйшоў на мой адрас ліст з Савета Рэспублікі Нацыяналь-

нага сходу Рэспублікі Беларусь, падпісаны старшынёй Камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльнаму развіццю А. Л. Моравай. Яна тлумачыла сітуацыю з унясеннем гадавога плана працы на зацвярджэнне. Ліст заканчваўся словамі: *«Аднак, на жаль, у зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2010 года № 2 Плане падрыхтоўкі законапраектаў на гэты год названага законапраекта няма»*. Крыж на нашых высілках?

Але... На той жа прэс-канферэнцыі самога ўладара ахапіў раптам одум, ці не перагнуў ён палку ў запальчывасці? І сваю прамову ён скончыў словамі: *«Давайце спакойна, ціха навучым усіх размаўляць на нашай роднай, сакавітай беларускай мове»*. Уяўляеце? Давайце ціха самі сабе пакажам, што мы тут гаспадары. Каб іншыя не заўважылі... У словах уладара выявілася, больш за тое, паўтарылася, як новы доказ, тая ж несамавітасць, нямогласць і скутасць паняволенага беларуса. А калі больш выразна — ён выдаў і высек тут сам сябе... толькі не, не высек, бо не вызначыў, не ўсвядоміў цаны ўсяму таму, што зрабіў за некалькі сваіх прэзідэнцкіх тэрмінаў.

Што рабіць нам?.. Належнае. Доўжыць барацьбу за мову, несці праўду да суайчыннікаў, абуджаць і разнявольваць рабоў!

Акцыя 2009 года не засталася безвыніковай, яна як разведка боем засведчыла пра яшчэ нязгаслы інтарэс беларусаў да сваёй роднай мовы і нацыянальнай культуры — вялікага духоўнага скарбу, ад якога нас гэтак узмоцнена імкнуцца адвучыць і адлучыць.

Акцыя засведчыла, што лепшыя, свядомыя сілы ў грамадстве стаяць за адраджэнне, за нармальны ўжытак ды жыццё беларускай мовы.

Адно важна памятаць, што мова — гэта мы, хто называе сябе беларусамі.

Не будзе мовы — і нас не будзе.

**P.S.** Праблемы мовы і нацыянальнай культуры востра стаяць у многіх народаў. Вось толькі ў Германіі і Францыі, да прыкладу, яны найбольш паспяхова вырашаюцца. Не выпадкова ж там знайшлі сваё распаўсюджванне і падтрымку ў грамадскасці словы: *«Нямецкая мова — гэта тое, што аб'ядноўвае нашу нацыю, гэта ключ да інтарэсаў немцаў»*.



У Францыі чысціню мовы адсочваюць спецыяльныя службы. Па дадзеных на 2010 год, арганізаваным парадкам яны выкінулі з ужытку сваёй мовы ўжо больш чым 2 тысячы слоў! Бо чужародныя.

А вось у Расіі моўная сітуацыя аддалена нагадвае нашу, беларускую. Пра гэта падумалася, калі я пазнаёміўся з публікацыяй Надзежды Паповай у «Аргументах недели» (за 15 снежня 2010 г.); яна піша: *«Ученые утверждают — русский язык сегодня засорен до безобразия. Кто тому виной? Или что? Как тут не вспомнить предупреждение Александра Солженицына: «Русский язык сейчас в ужасающем состоянии. Это не просто болезнь языка — это болезнь души. Если не будет русского языка, не будет нас, русских, совсем»*.

Вядома, што нашу мосць — беларусаў, павінен цікавіць агульны падыход да праблемы, пра яе ж у Расіі, уласна, яшчэ Ламаносаў выказваўся: *«Язык укрепляет и охраняет весь быт, государственность народа, а распространяясь в иных странах, он способствует росту влияния народа среди других. Напротив, слабея языком, народ уступает другим не только свое духовное богатство, но и все жизненное пространство»*.

Варварызацыя мовы назіраецца ў нестабільныя перыяды жыцця грамадства, — лічыць прафесар МГУ **Уладзімір Елістратаў**: *«В эти периоды мы имеем дело со своего рода броуновским движением в языке и культуре. Нестабильность языка отражает нестабильность общества»*.

Проста дзіўна, якія мы варвары, калі не разумеем таго, што ў свеце шырокім людзі разумелі ўжо стагоддзі таму. І адкуль мы такія ўзяліся? Хто нас такімі зрабіў?.. Маўчым, калі памылкова альбо па дзяржаўнай знарочыстай і, тым больш, няўклюднай задуме ад нас адымаюць родную мову ці проста не даюць ёй развівацца і панаваць у навучальных установах; мы ж яшчэ самі паможам скрасці яе, да прыкладу, на рэферэндумах. А потым у ціхім одуме дзяржаўным мужам давядзецца шкадаваць пра нанесеныя народу страты. Магчыма... І захочацца выправіць свой пралік. І тады яны будуць разважаць і рабіць так і тое, як робяць лунацікі ў сне, запаволена і доўга, баючыся вокрыку з віртуальнай, няйначай, прасторы.



Прачытаўшы ў друку артыкул **«Каму замінае беларуская мова»**, мой добры прыяцель пісьменнік Валеры Санько напісаў ліст, разам з якім пераслаў мне сваё пранікнёнае выступленне яшчэ на Першым з'ездзе беларусаў свету, які праходзіў у ліпені 1993 года ў Мінску. Тэма — адносіны да роднай мовы. Цытую прамову Санько:

*Мы шмат і вельмі добра і правільна гаворым апошнім часам, што наш народ, працавіты і гаротны, добры народ, адракаецца ад роднае мовы, мовы дзядоў і бацькоў.*

*Гэта, даруйце, хлусня. Уласную недасведчанасць і лянoту думкі валім на механізатара, медсястру, тэхніка, прафесара, армейца. Не трэба лапцюжніць, і сваё недарэкства валіць на працавітых дабракоў і прасцякоў. Тыя робяць сваё, улада павінна рабіць сваё.*

*Здавалася б, неблагі намер любой нацыі — дзесяцігоддзямі паўзці да ўсведамлення, што без развіцця і ўдасканальвання роднай мовы няма нацыі, самой ідэнтыфікаванай дзяржавы. Але за гэтыя дзесяцігоддзі можа страсціся штозаўгодна, выраджэнне мовы, захоп прасторы чужой мовай, што і робіцца ў нас.*

*Сапраўдныя ўладнікі ведаюць іншы спосаб вывучэння мовы, даказаны і правераны практыкай усіх народаў. Пасля аб'яднання Кароны Польскай і ВКЛ у канфедэратыўнай дзяржаве палякі вывелі з пісьмаводства і дзяржаўнага ўжытку беларускую мову. Княства было ўтрая большае за Карону, тым не меней прывілеі і ўціск зрабілі ганебнае для ліцвінаў-беларусаў. За лічаныя гады на ўсіх дзяржаўных узроўнях запанавала пальшчызна. За рэдкімі выключэннямі.*

*У 1918 годзе княгіня Магдалена Радзівіл ва ўсіх памесцях, маёнтках, лясніцтвах увяла беларускую мову. Праз некалькі тыдняў яна і эканомы рушылі з праверкамі па ўсіх раёнах. Хто на польскай размаўляе — адзін дзень на пераход на беларускую. Або звальненне. Усе з ходу згадалі і па-новаму засвоілі беларускую — ахоўнікі, пакаёўкі, ляснічыя, вартаўнікі. Народ павесялеў: свая родненькая выйшла з загоння, не адно ў іхняй хаце, але і на двары. За месяц паўсюдна ва ўжытак увайшла беларуская мова. Яна ж, Магдалена, адкрыла чатыры беларускія школы.*

*Наступны прыклад — 1953 год. Аўтар прапановы — першы намеснік старшыні Савета Міністраў СССР Лаўрэн*



*Берыя, той самы — куратар сілавых структурaў, — падпісаў і разаслаў па ўсіх рэспубліках, краях, абласцях завізаваную членамі Палітбюро КПСС пастанову. Пераход на нацыянальныя мовы ўсіх дзяржаўных і партыйных устаноў у самы бліжэйшы час, не пазней двух месяцаў. На Беларусі справіліся ў тэрмін. Магілёўскі абкам, райкамы, райвыканкамы перайшлі за тры тыдні.*

*Рускія замоўчваюць. Аднак усё гэта жыццёвая і гістарычная праўда.*

Дадам да выкладзеных тут пісьменнікам В. Санько прыкладаў недзе ўжо згаданае мной.

Праз колькі гадоў пасля распаду СССР Міхаіл Гарбачоў, спазнаўшы вопыт уладкавання іншых краін, публічна прызнаўся: маўляў, зрабіў пралік, варта было б даць саюзным рэспублікам больш правоў у культурным, нацыянальным, іншым развіцці, што дазваляла зрабіць, дарэчы, і Канстытуцыя СССР. Не даў, не зрабіў сапраўднай перабудовы. Не прыняў ні да розуму, ні да сэрца тое, чаго ў канстытуцыйным парадку дамагаліся армяне Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці, з чаго там усё і пачыналася. І вопыт альбо хоць бы намер «агента міжнароднага імперыялізму Берыі», які зрабіў першыя крокі, што на справе маглі б уратаваць Саюз, не быў улічаны. Савецкая шматнацыянальная імперыя зжыла сябе і рухнула.

Мова — дом нацыянальна-духоўнага быцця. Цытую гэта па памяці. Словы належаць выдатнаму нямецкаму філосафу Марціну Хайдэгеру.

У любой дзяржавы павінен быць свой надзейны, закладзены народам духоўны падмурак. Інакш дзяржава ператвараецца ў безаблічную мадэль спажыўцоў і ад дэградацыі ды распаду яе ўжо анічога не ўтрымлівае.

# МІСІЯ БНР У БЕРЛІНЕ ЯК АПТЫМІСТЫЧНАЯ ТРАГЕДЫЯ



*Неабыякавыя нататкі*


Надзвычайная Місія
Беларускай Народнай Рэспублікі.
м. Бэрлін.
26 Лістапада ......1919.
№ 631

Чым далей ад нас адыходзяць тыя гады і тыя падзеі, калі беларускі народ, стаўшы на шлях самавызначэння, дамагаўся сваёй дзяржаўнай незалежнасці і бяспекі, тым глыбей асэнсоўваецца гістарычная роля і значэнне дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў жыцці народа і нацыі. Неацэнную паслугу тут нам аказваюць даследчыкі гістарычных падзей, так бы мовіць, рэстаўратары мінуўшчыны, сярод якіх пачэснае месца займае і Ўладзімір Сакалоўскі. Яго новая кніга **«Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925)»,** змешчаная ў часопісе Arche, № 3, 2009, стар. 1–328, прадметна і шматпланава раскрывае адзін з найбольш драматычных перыядаў у чыннасці, у рупнасці беларусаў па стварэнні і адстойванні сваёй дэмакратычнай народнай дзяржавы.

Адраджэнне краіны і імкненне беларусаў да самаідэнтыфікацыі, да еднасці, да нацыянальнай аўтаноміі, пра што напачатку боязна было нават падумаць, а неўзабаве і да самастойнасці — усё гэта выспявала пад моцным уціскам расейскага самаўладства, таму і было яно абачлівым, даволі стрыманым і павольным.

Паўстанне ў 1863 годзе, а потым рэвалюцыйныя падзеі 1905 года абудзілі і выкінулі да жыцця парасткі самаўсведамлення ў мясцовага насельніцтва (найперш у шляхетнай інтэлігенцыі), што вяло натуральна да паступовага фарміравання нацыянальнага руху. Імперыялістычная вайна 1914–1918 гадоў, цяжар уціску з розных бакоў, несправядлівасць,



нястача, незлічоныя ахвяры, роздум над прычынамі ўсяго гэтага выклікалі яшчэ большую цікавасць да самавызначэння і вызвалення з цянётаў Расеі. Разам з беларусамі, зрэшты, тыя ж памкненні мелі і іншыя народы, палякі і ўкраінцы, фіны і латышы, літоўцы.

Узрастанню незалежніцкіх настрояў на Беларусі ў значнай меры садзейнічала палітыка нямецкіх акупацыйных уладаў, такія акалічнасці менавіта як гатоўнасць немцаў прызнаць беларускі народ асобнай нацыяй і практычныя крокі — пераклад акупацыйных загадаў на беларускую мову, адкрыццё школ на роднай мове, дазвол весці набажэнства па-беларуску, наданне беларускай мове статуса самастойнай і роўнай па значэнні з мовамі іншых народаў рэгіёна, пра што яскрава засведчыў факт выдання «Слоўніка сямі моў (нямецкай, польскай, рускай, беларускай, літоўскай, латышскай, габрэйскай)». Усё-усё гэта красамоўна сведчыла, што і беларус можа мець сваю годнасць, сваю радасць ад усведамлення сябе гаспадаром ( а не прыгонным у неасяжнай Расейскай імперыі!). Словамі Змітрака Бядулі: *«Беларус пачаў разумець, што самабытнасць нацыі гэта ёсць вялікі скарб у агульна людскім прагрэсе»*. Гэтакае разуменне, урэшце, яшчэ больш спрыяла ўзрастанню незалежніцкіх настрояў і памкненняў.

Праца У. Сакалоўскага «Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне» уяўляе сабой зборнік дакументаў, упершыню гэтак поўна і з веданнем справы сабраных па архівах Берліна, Вільнюса, Мінска і ўкладзеных у асобную кнігу. Іх тут больш за дзве сотні ды яшчэ фатаграфіі з нямецкіх газет і часопісаў. Дакументы сістэматызаваны, уладкаваны па важнейшых напрамках дзейнасці Берлінскай місіі, з уводным словам да іх, напісаным ім жа, гэтым пранікнёным даследчыкам, супрацоўнікам Славістычнага семінара Бонскага універсітэта.

Гартаеш, чытаеш, удумваешся... Пачуццё глыбокай павагі, захаплення ды запозненай (на цэлыя пакаленні) трывогі, нематываванай віны ахоплівае душу. Якія асобы, і, ведаеце, іх шмат! І як шчыра, аддана, самаахвярна служылі яны роднай зямлі, прадвызначаючы для яе волю і свабоду! Які чын у дакляраванні, сцвярджэнні і абароне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі! Колькі высілкаў у спрэчках пры ўзгадненні пазіцый і ў пераадоленні перашкод, унутраных і знешніх, — колькі энергіі на ўсё гэта пакладзена! Сапраўды,



бессмяротны момант у жыцці нацыі! Апошнія словы належаць аднаму з удзельнікаў тых кранальных і закранаючых лёсы многіх беларусаў падзей.

Міжволі ўзнікае пытанне: як і дзе знаходзілі сілы мужы Рады і Ураду БНР, каб столькі часу упарта змагацца за сваю краіну, трываць няўдачы і доўжыць далей запраграмаванае? Прынамсі, у выпрабаваннях, якія выпалі на іх долю, беларусы даказалі, што здольныя адстойваць нацыянальную ідэю, ідэалы, каштоўнасці ўпарта, адчайна — як самаахвярнаю працай, так і цаною свайго жыцця; нездарма ж на золку беларускай незалежнасці склалі свае галовы 11 тысяч суайчыннікаў, патрыётаў, на памяці — Слуцкі збройны чын.

Надзвычайная берлінская місія беларусаў, апантаных ідэяй самавызначэння свайго народа і сцвярджэння дзяржаўнасці ў незалежнай дэмакратычнай краіне, з'явілася для даследчыка і ўкладальніка зборніка дакументаў У. Сакалоўскага адмысловай прызмай, праз якую раскрываецца драма, і — будзе дарэчы зазначыць — аптымістычная трагедыя БНР увогуле.

Дзейнасць дыпламатычнай місіі разбіта на сем раздзелаў:

- Пачатак адносін з акупацыйнымі ўладамі.
- Дыпламатычнае ўзвіжанне.
- Праца з ваеннапалоннымі.
- Прэс-бюро і культурна-асветная праца.
- Дзейнасць па сувязях з іншымі арганізацыямі.
- Фінансавая і гандлёвая рупнасць.
- Берлінская канферэнцыя 1925 года.

Падзеі адсочваюцца ад самага іх зародку і натуральна, што дакументы ў зборніку змешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці.

Адносіны немцаў да створанай у прыфрантавых умовах дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі на пачатку былі недаверлівымі і даволі складанымі; толькі з часам яны ўнармаваліся, чаму спрыялі вытрымка беларусаў. І пазней — узаемны давер. Залагоджаныя нямецкія ўлады перадалі кіраўніцтву новай рэспублікі нават пэўныя функцыі кіравання краінай.

Іншае назіралася з боку польскіх паноў, якія квапіліся на беларускія землі і потым захапілі заходнюю частку краіны. Пачынаючы са жніўня 1919 года, начальнік польскай



дзяржавы Юзэф Пілсудскі прыклаў шмат намаганняў да таго, каб залатвіць справу з нацыянальным беларускім рухам, які быў у жорсткай канфрантацыі з польскімі ўладамі. Пілсудскі зрабіў палітычны манеўр і пайшоў супраціўцам насустрач: выпусціў з турэмных засценкаў беларускіх дзеячаў нацыянальнага руху, арыштаваных падчас акупацыі, а яшчэ выдзеліў сродкі на адкрыццё беларускіх школ і культурных устаноў. Чым не падарунак?

Разам з тым прынцыповыя пазіцыі беларускай інтэлігенцыі не здаваліся Пілсудскаму вельмі моцнымі, і на аудыенцыі са старшынёй Савета міністраў Рады БНР Антонам Луцкевічам пан Юзэф адкрыта выклаў свае патрабаванні: маўляў, каб нацыянальны рух мог разлічваць на ягоную падтрымку, «неабходна ў поўнай меры прызнаць польскую дзяржаву, падпарадкавацца польскай уладзе і перастаць гаварыць пра незалежнасць Беларусі». Спадар Луцкевіч не даваў дый не мог даць пану Юзэфу пэўнага адказу, адносячы гэтае пытанне да кампетэнцыі Рады БНР. І Пілсудскі дазволіў правесці сесію Рады БНР у Мінску 12 снежня 1919 года. Безумоўна, ён разлічваў, што, будучы ў памежжы франтоў, у вельмі складанай, безвыходнай, беспатольнай для яе сітуацыі, правячая эліта беларусаў выкажацца за пэўную форму аб'яднання Беларусі з Польшчай. Ажно разлікі яго былі дарэмныя. Большасць сяброў Рады выступіла з асуджэннем каланізатарскай палітыкі Польшчы і выказала недавер старшыні Рады Язэпу Лёсіку і прэм'ер-міністру Антону Луцкевічу, акурат у намерах і дзеяннях каторых заўважыла згодніцкую палітыку.

На той жа сесіі Антон Луцкевіч выступіў з прамовай, якая захоўвае сваю актуальнасць і да гэтага часу:

*...Будаваць незалежную Беларусь павінны самі беларусы — і то беларусы нацыянальна свядомыя, беларусы, якія не на словах, а на справе — усім сваім жыццём, кожным сваім ступам умацоўваюць беларушчыну. Мы павінны цяпер, больш чым раней, сцерагчыся так званых «тоже беларусаў», якія, называючы сябе беларусамі, маюць у душы толькі пагарду да сваёй мовы, да сваіх браткоў сярмяжных, да ўсяго роднага, беларускага. Благі той будаўнічы, які закладвае падмурак велізарнага гмаху з нягоднага матэрыялу, яго будынак не будзе мець сілы і хутка разваліцца. Для таго, каб будоўля незалежнай Беларусі не спынілася, каб пры найгоршых абставінах мы засталіся самі*



*сабой, трэба ў аснову нашага дзяржаўнага будаўніцтва пакласці чыстую беларускую нацыянальную ідэю.*

Сябраў Рады, якія на снежаньскай сесіі выступілі супраць далучэння Беларусі да Польшчы, пілсудчыкі арыштавалі і пасадзілі ў астрог. Але ж яшчэ да гэтага моманту спадар Тамаш Грыб разам з большасцю рады абнавілі прэзідыум і даручылі Вацлаву Ластоўскаму, пісьменніку, публіцысту, сфарміраваць новы Урад БНР.

Не лепш ставіліся да Беларускай Народнай Рэспублікі таксама бальшавікі. Па сваёй ідэалагічнай сутнасці яны не маглі трываць аніякіх дэмакратычных уладаў, апроч «дыктатуры пралетарыяту», аніякай самастойнай формы дзяржаўнага ўтварэння, апроч камуністычнага кагалу. Імі груба фальсіфікаваліся гістарычныя факты і вялася зацятая паклёпніцкая кампанія супраць БНР. Жалю варта, адзначае даследчык, але ж яшчэ і да гэтага часу сустракаюцца ўпартыя і даволі цвердалобыя гісторыкі, якія карыстаюцца тагачаснымі бальшавіцкімі штампамі, перапісваюць тэндэнцыйныя і бязглуздыя тэзы пра БНР, спрабуючы даказаць яе несамавітасць, малазначнасць ды марнасць. Яны схільныя захапляцца, да прыкладу, Парыжскай камунай, з яе новай формай дзяржаўнага ладу, устанаўлення, што праіснавала некалькіх месяцаў, і зусім не чуюць, не бачаць шматгадовай напружанай самаахвярнай працы Урада БНР — перш на ўласнай тэрыторыі, а потым і за яе межамі.

Грунтуючыся на дакументах, аўтар слушна даводзіць пра галоўны напрамак у працы Берлінскай місіі — прызнанне Германіяй суверэннай Беларускай Народнай Рэспублікі, чаго яшчэ не было. Яе прызналі ўжо Украінская Народная Рэспубліка, Літва, Фінляндыя... Немцы ў цэлым прыхільна ставіліся да беларускай нацыянальнай ідэі, да беларускага эміграцыйнага ўраду і нават ахвотна ішлі на перамовы з ім, але ж яны пасля паразы ў вайне не мелі дастатковай волі на большае, не мелі права на самастойныя міжнародныя акцыі, бо іх правы і іх свабода былі падкарочаны Версальскімі дамовамі дый пагадненнямі Брэсцкага мірнага дагавору. Ім не выпадала ў ліку першых прызнаць беларускі ўрад пакуль гэтага не зробяць іншыя, асабліва краіны Антанты, Англія, Францыя.

Усё гэта так, але ж, аналізуючы дакументы, У. Сакалоўскі яшчэ і яшчэ раз паказвае, наколькі ўважлівымі і



клапатлівымі былі нямецкія ўлады ў адносінах да нашых дыпламатычных службаў, што прадстаўлялі БНР. Міністэрства замежных спраў Германіі, напрыклад, цыркулярам за 4 лістапада 1920 года, які разаслала ў Рыгу, Коўна, Маскву, Стакгольм, патрабавала ад сваіх дыпламатаў у той сітуацыі *«звярнуць асаблівую ўвагу на захаванне неафіцыйных адносін, паклаўшы іх у аснову дзейнасці з беларускімі прадстаўніцтвамі»*. І ўжо, некалькі адступаючы ад тэкстаў гэтага зборніка, вазьму на сябе смеласць зазначыць: на дваццаць гадоў пазней, у 2-ю сусветную вайну, з падобнаю ўвагай і прыхільнасцю ставіўся ў Менску да Беларускай Цэнтральнай Рады, якая доўжыла справу БНР у акупаванай краіне, Вільгельм Кубэ.

Цікава, што ў Германіі пасля Першай сусветнай вайны заставалася 60 тысяч беларускіх ваеннапалонных, і Надзвычайная місія пры неабходнасці аказвала ім юрыдычную і грашовую дапамогу, выдавала беларускія пасведчанні, а прыватным асобам — пашпарты, па якіх нашы грамадзяне маглі бэз перашкод ехаць на Бацькаўшчыну альбо жыць у замежжы. Дыпламатычная місія перадавала ў лагеры ваеннапалонных шмат беларускай нацыянальнай літаратуры, часопіс «З роднага краю», бюлетэні Беларускага Прэс–Бюро. Многія з паняволеных, альбо забраных (палонных) беларусаў гатовы былі паслужыць сцвярджэнню і адстойванню, са зброяй у руках, сваёй самастойнай дзяржавы, і місія, дый у цэлым Урад БНР, настойліва дамагаліся стварэння беларускага войска. Адно Польшча і Расея ўсяляк блакіравалі вырашэнне гэтага пытання нямецкімі ўладамі. Нямала шкодзілі ў запачаткаванні вайсковых спраў таксама расейскія генералы, што заставаліся ў Германіі і не прызнавалі Беларусь.

Беларускае Прэс–Бюро пры Надзвычайнай місіі выдавала бюлетэні на нямецкай мове. Яно асвятляла дзейнасць як самога ўрада, так і ягоных прадстаўніцтваў, выкрывала хлусню і дэзінфармацыю, што ў якасці памыяў шчодра вылівалася на дзеячаў БНР з боку польскіх і савецкіх сродкаў інфармацыі і прапаганды.

Пачынаючы з 1920 года, Прэс–Бюро рэгулярна раз ці два разы на тыдзень выпускала бюлетэні пра Беларусь. Гэта была адна з найбольш кампетэнтных крыніц інфармацыі для нямецкай грамадскасці, асабліва для прэсы і Міністэрства



замежных спраў Германіі і іншых краін, пра лёс беларускага народа. У бюлетэнях утрымліваліся найбольш дакладныя звесткі пра нацыянальны і сацыяльны ўціск, пра нечуваныя здзекі над людзьмі пры акрутным рэжыме Пілсудскага. Падавалася таксама дакладная інфармацыя пра паўстанні беларускага сялянства за Саветамі ды бальшавікамі, раскрывалася сама сутнасць дзейнасці, планы і задачы БНР; разам з тым рыхтаваліся агляды зарубежнай прэсы для свайго ўраду. Беларускаму Прэс-Бюро ўдалося ўсталяваць зносіны не толькі з рознымі прыватнымі тэлеграфнымі агенцтвамі, але і афіцыйнымі — «Вольфа», «Прэссэ-Вартэ», літоўскім «Эльта».

Успамінаючы пра той час, Васіль Захарка з задавальненнем адзначаў: *«Наша Прэс-Бюро разносіць весткі па ўсяму сьвету. Нас запрашаюць чытаць лекцыі, рэфэраты і наогул як можна больш інфармаваць немцаў у беларускай справе...»*

Пры Берлінскай місіі, дарэчы, існавала і выдавецкая суполка «Вызваленне». Гэта ў ёй былі выдадзены кніга А. Цвікевіча «Адраджэнне Беларусі і Польшча» (Берлін, 1921), часопіс для беларускіх ваеннапалонных «З роднага краю», аказана дапамога ў выданні на нямецкай мове кнігі В. Егера «Беларусь». Тут выштукавалі першыя дзяржаўныя заграпічныя пашпарты для цывільных, аддрукавалі паштоўкі з гербамі беларускіх ваяводстваў, а таксама карту Беларусі з удакладненнямі і дадаткамі.

Як паказваюць дакументы, Берлінская місія адыграла важную ролю ў навядзенні дыпламатычных мастоў. На пачатку была праведзена канферэнцыя паслоў усіх дзяржаў; такія канферэнцыі праводзіліся пасля развалу царскай імперыі — на тэрыторыях, што акаймоўвалі Расею з поўдня і захаду: Азербайджан, Грузія, Паўночны Каўказ, Украіна, Беларусь, Латвія, Эстонія. Многія важныя пытанні вырашаліся Урадам БНР таксама ў Берліне як горадзе, размешчаным у цэнтры Еўропы, куды зручней за ўсё было дабірацца, альбо запрашаць прадстаўнікоў з Канстанцінопаля, Прагі, Капенгагена, Рыма, Сафіі, Парыжа... Адсюль накіроўваліся на канферэнцыі — Парыжскую, Жэнеўскую, Генуэзскую і іншыя. З Берлінскай місіяй мела зносіны шырокая сетка карэспандэнтаў з усіх кантынентаў свету: гэта разнастайныя замежныя палітычныя і грамадскія дзеячы і ўстановы, агенцтвы і карпункты.



У дзейнасці Гандлёвай Камісіі актыўны ўдзел прымаў як сам кіраўнік Рады Міністраў Вацлаў Ластоўскі, так і Старшыня Рады Народнай Рэспублікі — Пётра Крачэўскі. Гандлёвы клопат місіі хаця і не прынёс асаблівых дывідэндаў БНР, тым не менш быў працяглым па часе, значным па багацці дакументаў, інтэнсіўным па ўдзелу ў ёй урадавых структур.

Апошнім этапам у дзейнасці Надзвычайнай місіі БНР у Германіі стала правядзенне сумнавядомай Берлінскай канферэнцыі 12–15 кастрычніка 1925 года. Дакументы праліваюць святло на актыўную арганізацыйную ды разам і змоўніцкую (пры ўдзеле Саветаў) ролю ў ёй Аляксандра Цвікевіча.

Тым не менш на гэтай няпэўнай у сваёй легітымнасці канферэнцыі была прынята рэзалюцыя «па справе так званай крывіцкай прапаганды»; дакумент па сваёй матываванасці і актуальнасці зноў жа ніяк не страчвае свайго значэння па сёння. Жалю варта, але ж тая слушная па сваёй матывацыі рэзалюцыя была забытая беларускай эміграцыяй у пасляваенныя — саракавыя і пяцідзесятыя гады, калі па прапанове неабачлівых і зацыкленых на мроях Ластоўскага навукоўцаў нашы суайчыннікі дапусцілі ў сваім асяродку раскол, падзяліўшыся на «крывічоў» і гэтак званых «зарубежнікаў» ды ажно да самай смерці вялі між сабой вайну. Адно прачытаем, на чым жа сышліся тады ў Берліне беларускія дзеячы?..

*Заслухаўшы даведку аб так званай «крывіцкай прапагандзе», Нарада лічыць, што думка аб перамене нацыянальнага імя Беларусі на «Крывію» ёсць сведчанне гістарычнага рамантызму, што ў плашчыне акадэмічнай не з'яўляецца небяспечным. Аднак прымаючы пад увагу... што гэта прапаганда ўносіць разлад у свядомасць народа... і што краявыя арганізацыі рашуча выказаліся супраць яе, — Канферэнцыя, не ўваходзячы ў акадэмічны разгляд пытання, лічыць «крывіцкую прапаганду» шкоднай інтарэсам беларускага нацыянальнага адраджэння.*

У гэтай рэзалюцыі праявіліся абачлівасць і мудрасць дэлегатаў лёсавызначальнай палітычнай нарады.

Але толькі і яны не маглі не дапусціць у той самы момант расколу беларускага нацыянальнага руху, які адбыўся ўжо з іншай нагоды. Сцэнар нарады, як сведчаць дакументы, па сутнасці быў распрацаваны ў Менску, акурат у сценах ЦК КП(б)Б, вядома, пры чынным удзеле Масквы.



Для людзей, надзеленых душой і сэрцам, асабліва патрыётаў сваёй зямлі, спакутаваных і знясіленых у беспатольнай працы на эміграцыі, вельмі зразумелая цяга на Бацькаўшчыну. І, вядома, было б больш выйгрышным і апраўданым, калі б спадар Цвікевіч, ахвяраваўшы сваім, у пэўнай меры эфемерным кабінетам міністраў, знайшоў у Савецкай Беларусі нешта лепшае, ну — скажам — тое самае, што шукаў разам з паплечнікамі. Праўду казаць, усё гэта яму і дакляравалі тамтэйшыя жанглёры ад палітыкі. Але ж Берлінская канферэнцыя, падтрымаўшы прапанову ўтрапёнага спадара Цвікевіча аб самаліквідацыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, дала пуцёўку і яму і ягоным аднадумцам ды змоўшчыкам Уладзіміру Пракулевічу, Леанарду Зайцу не ў краіну цудаў, а на эшафот.

Канферэнцыя пасеяла паняверку і паклала канец актыўнай дзейнасці ўрада БНР. Праўда, Рада — тая самая Рада БНР, якая шэсць — сем гадоў таму, разгарнула працу па стварэнні дзяржавы і прыцягнула ў значнай меры на свой бок народ, а ў выніку прымусіла бальшавікоў, што гулялі ў рожкі з ёй, пайсці на ўтварэнне БССР, не знікла, не, а толькі пацярпела значныя страты. Яна засталася. І Урад БНР быў утвораны па-новаму. Таму і не варта спадарам гісторыкам перабольшваць значэнне гэтай Берлінскай канферэнцыі, па-змоўніцку падрыхтаванай і небездакорна праведзенай. Важней зразумець апантанасць піянераў і першапраходцаў беларускай дзяржаўнасці, якія, робячы гістарычную справу, не знайшлі да сябе і сваёй высакароднай місіі спагады, не знайшлі падтрымкі ў дзейнасці ні з боку Англіі, ні з боку Францыі, не гаворачы ўжо пра Польшчу і Расею, спрактыкаваных адно на ўціску нацыянальнай годнасці беларусаў. І тут не лішне зазначыць: дапамагала Беларускай Народнай Рэспубліцы, чым магла, адно суседка з поўдня — Украіна.

Яшчэ раз паўтаруся, што падаецца дзіўным: пры сваёй актыўнасці — як трымаліся працяглы час і дзе знаходзілі сілы дзеячы БНР у эміграцыі? Пра гэта неспакойна і без патолі думаецца, калі знаёмішся з дакументамі кнігі. Праўда, атрымліваючы ад тэкстаў пэўны зарад энергіі і бачанне той, ужо гістарычнай рэальнасці, у якой жылі, рупіліся і змагаліся яны, вестуны беларускай дзяржаўнасці, пачынаеш разумець, што толькі поўнае ўсведамленне нацыянальных клопатаў і задач, іх велічы, што паўстала перад імі, ды першыя



ўдалыя крокі ў разбудове шляхоў будучыні надавалі ім аптымізму, памнажалі сілы. Сапраўды, больш вялікіх задач і высакародных памкненняў ніхто з іх не мог і ўявіць. Таму ўжо і рабілася стаўка цаною ў жыццё. Таму і паказальна, што ў апошнім дакуменце зборніка ўтрымліваецца фраза, якая адлюстроўвае дух, настрой гэтых дойлідаў БНР, і, спадзяюся, таксама падаўжальнікаў іх велічнай справы: *«Рэальнасць падпарадкоўвае слабейшых, а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэслівае новыя шляхі будучыні»*.

У працы У. Сакалоўскага раскрываецца яшчэ адна, дый можа не адна старонка гісторыі беларускага нацыянальнага руху на цярністым шляху станаўлення беларускай дзяржаўнасці.

Было б пажадана, каб пры асобным выданні «Надзвычайнай місіі БНР у Нямеччыне» аўтар-укладальнік зборніка зрабіў яшчэ больш грунтоўным уступны артыкул і ўвёў каментарыі, якіх у часопісным варыянце, на жаль, не хапае.

# Там, за лініяй фронту



*Ліст да сп. Бернгарда К'яры, аўтара гістарычнага даследавання «Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў (1941–1944 гг.)» (Мн., 2005).*




Шаноўны сябар беларускай культуры і гісторыі! Змястоўная, ёмістая фактурная кніга, якую Вы выдалі ў Германіі ў 1998 годзе, нарэшце ўбачыла свет і ў нас. У добрым і шчырым перакладзе Л. Баршчэўскага на беларускую мову, у добрым афармленні... Выйшла яна пры садзеянні Вашых сяброў Г. Сагановіча, С. Новікава і іншых. Кніга аказалася ў полі зроку нашага грамадства і, будзем спадзявацца, прыцягне да сябе цікаўных чытачоў.

У ёй падаецца шырокі нізавы зрэз грамадства, калі яшчэ можна назваць грамадствам тое хісткае, няўцямнае, прытоенае, насцярожанае, несуладнае, яршыстае або, наадварот, ліслівае, што засталося на месцы тады, калі адна дзяржаўная сістэма, што ўладарыла з дапамогай тэрору, хапатліва адышла, адступіла пад франтавыя грымоты, а другая, такая ж нялюдская, навалілася на краіну. Адзіным жаданнем у насельніцтва і паасобных яго прадстаўнікоў заставалася жаданне выжыць, да чаго абавязваў ужо, відавочна, інстынкт.

Тэма штодзённых пакут, спадзяванняў і радасцей простага чалавека і народа пад час акупацыі разглядаецца ў розных планах. Напачатку вызначаюцца навуковыя падыходы і робіцца экскурс у геаграфічную і гістарычную прастору зямлі, на якой змяніліся «гаспадары», ліха на іх, затым разглядаецца цывільная адміністрацыя і яе функцыі; асобным



раздзелам ідзе «калабарацыя, беларускі нацыяналізм і самакіраванне», не абмінаюцца «паліцыянты як злачынцы і ахвяры», даследуецца становішча дзяцей і вынішчэнне беларускіх яўрэяў, нарэшце, пад увагу бяруцца «палякі як ахвяры і злачынцы».

Ужо ў гэтым кароткім пераліку ёсць тонкасць, на якую не лішне звярнуць увагу. У адрозненне ад паліцаяў як злачынцаў і ахвяр — палякі перадусім ахвяры, а тады ўжо злачынцы. І гэта пры тым, што пад час акупацыі Беларусі немцамі яны дружна рынуліся на ўсход і запаланілі амаль усе паліцэйскія пастарункі і службы цывільнага кіраўніцтва, адразу ж пачалі правакаваць СД і СС на вынішчэнне беларускай інтэлігенцыі, якой уладнымі рэжымамі Польшчы і СССР ужо было вынішчана нямала. Армія Краёва і іншыя польскія падпольныя групоўкі стваралі на акупаванай тэрыторыі патэнцыял гвалту. У шэрагу выпадкаў яны наогул спрабавалі звесці пад корань беларускае насельніцтва.

Шаноўны спадар К'яры! Я маю ніштаваты досвед у пытаннях, якія Вы даследуеце, і, пры ўсёй станоўчай ацэнцы Вашай карпатлівай працы «Штодзённасць за лініяй фронту», дазвольце мне выказаць некалькі прынцыповых заўваг.

Для Вас, на жаль, зусім не існуе такога паняцця, як Заходняя Беларусь у складзе Польшчы, хоць Вы недзе і згадваеце Рыжскі мірны, так бы мовіць, дагавор 1921 года, калі краіна, якую Вы цяпер палюбілі, была гвалтоўна разарваная на часткі і тая частка яе, што трапіла пад Польшчу, амаль 20 гадоў запар непрыхавана і дзіка апалячвалася. Зусім не выпадкова, мяркую, Вы назвалі другі раздзел сваёй кнігі «Беларусь як перыферыйны рэгіён Польшчы і Савецкага саюза». Але ж гэта, шаноўны, тое самае, калі б пры нейкім выпадку я назваў былую ГДР не часткай Германіі, а перыферыйным рэгіёнам паміж Польшчай і ФРГ.

«Усходнія Крэсы» ў Вашым уяўленні ёсць польская тэрыторыя, анексіраваная ў 1939 годзе Саветамі. Аднак большасць беларусаў меркавала і мяркуе інакш. Жалю варта, толькі Вы спасцігалі гісторыю Беларусі не проста па наяўных крыніцах, а праз прызму заходняй гістарыяграфіі, і прызнаецеся ў гэтым: *«Асабліва істотнай для мяне была дапамога Станіслава Александровіча, які прышчапіў мне ўсведамленне значэння польскай гісторыі для Беларусі»*. Адсюль і істотнае змяшчэнне акцэнтаў амаль па ўсёй кнізе,



асабліва калі Вы, прашу прабачэння, не знаходзіце каранёў краіны і, згодна з заходнімі ўяўленнямі, лічыце Вялікае Княства Літоўскае гістарычным падмуркам не Беларусі, а сучаснай Літвы і калі Заходняя Беларусь для Вас — частка Польшчы. Тады не выклікае здзіўлення і гэтакая Ваша тэза: *«Пасля 1917 года ў рэгіёне працэс нацыятварэння і каранізацыі беларускай тытульнай нацыі адбываўся нібыта без усялякіх перадумоў»* (стар. 33).

А перадумовы былі якраз у гісторыі ВКЛ; гісторыя перагуквалася з новым часам як цераз агульнанацыянальную газету «Наша ніва», так і проста праз нашчадкаў знаных родаў Вялікага Княства Літоўскага, як памешчык Скірмунт...

От якраз гэты Скірмунт, ураджэнец Заходняй Беларусі, і сабраў 25 сакавіка 1917 года з'езд беларускіх арганізацый, на якім быў утвораны Беларускі нацыянальны камітэт, разгарнуў прапагандысцкую і арганізацыйную дзейнасць камітэта. Гэта стварыла базавы грунт і перадумовы для фарміравання ініцыятыўнай Рады І Усебеларускага кангрэса, які быў праведзены напрыканцы 1917 года, і паслужыла перадумовай для абвяшчэння потым, 25 сакавіка 1918 года, Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), як, зрэшты, і БССР у 1919 годзе.

Даследуючы архівы ў Германіі, Вы маглі б напаткаць дакумент — Мемарандум старшыні Рады БНР Васіля Захаркі, адрасаваны з Прагі ў красавіку 1939 года кіраўніцтву Трэцяга рэйха. Вось у ім яскрава, занепакоена і палымяна даводзіцца пра карані і гістарычна жывую крону ВКЛ, адкуль і выйшлі тыя віцязі ці, хутчэй, мужыкі, вобраз якіх Вы спрабуеце паказаць у кнізе на стар. 51: «Дабрадушныя. З прыязным позіркам. Ціхманыя. Знаходзяцца на вельмі нізкай ступені цывілізацыі і праз гэта недаверлівыя». Чаму?.. І пры чым тут цывілізацыя?.. Мужыкі былі недаверлівыя да польскіх і расейскіх паноў, і вядома чаму. Потым яны мужна абаранялі Беларускую Народную Рэспубліку, сваю краіну, пацярпелі няўдачу ў Слуцкім збройным чыне і неўзабаве зноў бунтавалі супраць савецкай падступнай улады — не адзін, а больш за сотню разоў.

Усё гэта істотныя моманты, прыдатныя і дзеля таго, каб зразумець «калабарацыю», пра якую Вы пішаце як пра з'яву. А па сутнасці яна і не была калабарацыяй, паколькі тыя людзі, беларускія патрыёты, не лічылі СССР сваёй радзімай і за чыннасцю СССР бачылі таксама варожыя праявы.



Сваёй краіне Беларусі яны не здраджвалі ні ў думках, ні ў дзеяннях, наадварот, шчыра і мужна адстойвалі яе інтарэсы, шукаючы нішу для аднаўлення дзяржаўнасці. Чаго не знайшлі. Драма і трагедыя гэтых этнічна свядомых людзей у Вашай, шаноўны даследчык, кнізе не знайшла вартага адлюстравання, бо Вы ці не ведалі, ці не прынялі таго, за што гэтыя людзі змагаліся, аддаючы нярэдка самае дарагое — жыццё. Вы ўбачылі ў іх згуртаванні марыянетачны ўрад...

Беларуская Народная Самапомач і БЦР у кнізе стэрэатыпна і грэбліва называюцца марыянетачным урадам, хоць гэтыя структуры ніякім урадам па вялікім рахунку сябе не лічылі, праўда, яны не супраць былі б мець свой урад.

Разам з тым, Вамі не ацэнены іх унёсак у развіццё нацыянальнай пісьменнасці і культуры ў тыя тры акупацыйныя гады, калі былі адчынены і працавалі 5 тысяч школ, і сярод іх шмат сярэднетэхнічных, адчыняліся інстытуты, тэатры, працавалі клубы, арганізоўваліся выставы мастацка-прыкладной творчасці — усё гэта ўносіла здаровы сэнс ў жыццё і ўпрыгожвала штодзённасць тых катэгорый людзей, якія Вы разглядаеце.

Між іншым, ведаеце, толькі пад нямецкай акупацыяй ў 1-ю і ў 2-ю сусветныя войны на Беларусі свабодна развівалася нацыянальная адукацыя. А цяпер — парадокс! — тут справы горш, чым былі па тым часе. Вось няхай бы Вы або нехта з Вашых калег-навукоўцаў зрабілі параўнаўчы аналіз на тэму: «Развіццё нацыянальнай свядомасці, мовы, культуры і адукацыі пры фашысцкім «новым парадку» і савецкім таталітарным рэжыме ў Беларусі. Тэма невычарпальных кантрастаў!

«Акупацыя, — як слушна пішаце Вы, — цягнула за сабой паўзу ў штодзённым жыцці, але не канец штодзённасці». Пры гэтым нястача, беднасць не замінала развіццю духоўных якасцей. Я шкадую, што ў кнізе засталася амаль не раскрытаю роля беларускіх патрыятычных сіл у развіццi беларускай нацыянальнай самасвядомасці, і таму ў мяне, грамадзяніна гэтай незразумелай для многіх замежных даследчыкаў краіны, выклікае пярэчанне пададзенае Вамі ў падзагалоўку як штамп: Прафашысцкі авангард: «Саюз беларускай моладзі». Пасля такой кідкай, адмыслова савецкай заяўкі ад аўтара кнігі варта было б чакаць доказаў, дзе, у чым і як канкрэтна праявілася «фашысцкае» нутро



гэтага асяродка моладзі, даволі масавага і прыцягальнага на справе, фарміруючага перш-наперш беларускі менталітэт і нацыянальны светапогляд. Доказаў Вашай тэзе (скажам, рабавалі, забівалі кагосьці) у кнізе няма. І адсюль — супярэчнасць паміж фактурай і вывадам.

Вы, спадар К'яры, дэталёва і грунтоўна раскрываеце тэму масавага вынішчэння яўрэяў. Прыводзіце факты варожага стаўлення да іх не толькі ў Германіі, Польшчы, але ў пэўнай меры і на Беларусі. Зноў жа, ад вагавітага даследавання, як Ваша кніга, варта было б чакаць раскрыцця прычын варожасці да яўрэяў і вынішчэння іх тут і там, без чаго ізаляваная канстатацыя фактаў не мае матывацыі і вартасць працы ад гэтага пэўным чынам зніжаецца.

Лічу, шаноўны, што Вы дарэмна абмежаваліся кароткім і, відавочна, запазычаным недзе штампам пры вызначэнні асобы генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ, трактуючы яго і праблемным і ганарыстым, што «адпавядала ўсведамленню сябе абсалютысцкім уладаром». І тут жа зусім не да месца, на мой погляд, Вы прыводзіце факт: маўляў, ён стварыў сабе «штабную ахову» з пяцідзесяці беларускіх маладзёнаў… А калі ж раскрыць сутнасць учынку, то давядзецца патлумачыць, што ва ўмовах зацяжной і зацятай барацьбы з гестапаўцамі, як што Кубэ выступаў супраць правядзення імі шырокамаштабных карных экспедыцый, яму лацвей было абапірацца на беларускую ахову, якой ён больш давяраў, чым сваім суайчыннікам. Да таго ж, В. Кубэ не фармальна, дзеля позы, цікавіўся беларускай гісторыяй і культурай. Дэкляруючы лозунг «Беларусь для беларусаў!», ён шмат зрабіў для ўсталявання ў грамадстве хоць кроплі даверу і пачування беларусаў беларусамі. Падрыхтоўка ж яго фізічнага знішчэння была ў інтарэсах не столькі беларускага народа, зусім не, колькі ў інтарэсах крамлёўскага швадрону бальшавікоў ды СС. І чаму гэта, гаворачы пра сваю прыхільнасць да Беларусі, Вы адмаўляеце В. Кубэ ў добрых пачуццях да гэтай краіны?

Такія мае асноўныя заўвагі.

Пралікі метадалагічнага характару, вядома, зніжаюць вартасць выдадзенай у нас кнігі і не дазваляюць чытачам больш выразна зразумець узаемадачыненні Беларусі і Літвы з Польшчай, якая моцна прэтэндавала на Заходнюю Беларусь і на Вільню разам.



Прадметам разладу паміж Польшчай і Літвой паслужыла Віленская акруга, гвалтоўна адарваная ад Беларусі і перададзеная Саветамі ў 1939 годзе Літве ўзамен анексіі прыбалтыйскіх зямель. Дарэчы, Вільня ўступалася літоўцам двойчы. Прывяду матывацыю яе перадачы ў 1920 годзе.

Даведка з архіва: *«Уступка ж гэта была настолькі нечаканаю, што выклікала немалое здзіўленне нават у расейскіх камуністаў. На іх запытанне, як гэта магло стацца, што да Літвы адыходзіць горад Вільня і такі абшар беларускіх зямель, які перавышае сабой усю этнаграфічную Літву, старшыня савецкай дэлегацыі Іофе адказаў: «Товарищи, есть ли о чем говорить? Сейчас мы ведем войну с Польшей. Уступая жадным литовским ксендзам белорусскую территорию с городом Вильно, мы этим не только обеспечиваем наш правый фланг, но в некоторых случаях получаем и помощь со стороны Литвы. Если мы Польшу победим, то и дни клерикально-буржуазной Литвы будут сочтены. Если же нам придется отступать в глубь Белоруссии, то мы оставляем этой ксендзовской Литве такое количество белорусского населения, которого она никак не переварит. В результате недоразумений между литовцами и белорусами, а их мы считаем неизбежными, мы будем иметь революцию, которая в свою очередь сотрет с лица земли клерикально-буржуазную Литву»*.

Нацыянальныя інтарэсы беларусаў у шэрагу выпадкаў былі проста разменнай манетай у руках больш моцных, нахабных і падступных гульцоў.

Ваша кніга, спадар Б. К'яры, багата ў чым уносіць навізну ў даследаванне вельмі складанай тэмы — жыцця пад акупацыяй і можа быць пастаўлена побач з такім грунтоўным і пранікнёным даследаваннем падзей таго часу, як «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» Юры Туронка, выдадзеным у Мінску ў 1993 годзе. Толькі, праўду казаць, у ягонай кнізе амаль адсутнічаюць недахопы, уласцівыя даследаванню «Штодзённасць за лініяй фронту».

Шаноўны сп. К'яры! Ва ўводзінах да свайго даследавання Вы справядліва зазначылі: «Гістарычная навука сутыкнулася з праблемай нявывучанасці пытання, з якім уласна насельніцтвам на тэрыторыі БССР узору 1941 года яна мае справу» (стар. 34). Дазвольце зазначыць: Ваша праца дае падставу меркаваць, што гэтае пастаўленае Вамі пытанне



застаецца нявывучаным некаторымі заходнімі дзеячамі па сённяшні дзень. Хоць, перакананы, адказаць на яго паспяхова маглі б школьнікі яшчэ тых гадоў.

«Сэнс навучання, пішаце Вы, нямецкая прапаганда фармулявала гранічна адназначна: «Мэта і задача школьнае палітыкі — даць беларускай моладзі пачаткі еўрапейскай адукацыі. Нямецкая адміністрацыя падтрымлівае нацыянальную самабытнасць і развіццё. З гэтае прычыны дадзеная задача не абмяжоўваецца адным спецыяльным зместам адукацыі, але набывае і палітычнае значэнне». А якое, спытаемся?.. Падтэкст невыразны.

І тлумачэнне адшукаем, бадай, у клятве моладзі СБМ.

Сябры саюза давалі клятву «на вернасць Беларусі» ды абяцалі актыўна змагацца супраць бальшавізму. І толькі!

Усе яны мелі добрыя, навукова абгрунтаваныя веды пра Беларусь, сваю краіну і народ, з якога выйшлі.

Жадаю Вам, шаноўны даследчык, далейшых поспехаў у працы, у культурных і гістарычных зносінах з беларускім народам, ад якога, словамі В. Быкава, «укралі мову». Хто ўкраў? — таксама пытанне. Самасвядомасць народа руйнуецца сёння сваімі ж дабрадзеямі, якія выкідваюць слоганы «За Беларусь», «Улада народа»... Гэта набывае ўласцівасці мечаных карт у гульцоў. Адно за ўсім гэтым стаіць вынішчэнне самавітага, багатага на гісторыю і культуру народа і нацыі.

# ДУМКАЙ – У БОНЕ, А ДУШОЮ – ДОМА



*Да 80-гадовага юбілею*
*У. Л. Сакалоўскага*



Чалавечы век у нашага імянінніка высокі, і я думаю, акідваючы ўнутраным зрокам увесь ягоны шлях, шлях пражыты, асветны, прасветлы: «А ўсё ж не дарэмна ягамосць з'явіўся на нашай зямлі! Упартай працай, творчай рупнасцю ўзяў усё тое, што яму цяпер належыць. Дый бацькі яму свой імпэт — заўзятасць у працы перадалі. Так... Яны: перш-наперш, Лявон Сакалоўскі, вясковы інтэлігент, змагар за сваю адмыслова беларускую прысутнасць на пракаветнай ліцвінскай і роднай яму зямлі — акурат на Слонімшчыне, як і маці Аляксандра з рэдкім і мілагучным прозвішчам — Славута, запраўская гаспадыня. Спалучыўшы свае шляхі-дарогі ў адно, яны й далі свайму сыну Уладзіміру жыццё, а з ім і добры духоўны падмурак для ўзлёту».

Сапраўды, Уладзімір заўсёды ганарыўся сваімі бацькамі, а тата ж, Лявон Аляксеевіч, быў адукаваным для свайго часу чалавекам: пад час 1-й сусветнай вайны і бежанства ў Таганрозе вучыўся ў гімназіі, а вярнуўшыся на Радзіму, скончыў некалькі курсаў Варшаўскага універсітэта. Адно як праваслаўны, ды яшчэ чалавек, які знаходзіўся на ўліку паліцыі, быў выключаны з універсітэту. Ён добра валодаў беларускай, польскай, рускай мовамі, а таксама ведаў нямецкую і лацінскую. Шчыры беларус, удзельнічаў у нацыянальна-вызвольным руху Заходняй Беларусі, у 1925–1935 гадах узначальваў мясцовую філію Таварыства беларускай школы (ТБШ).

Становішча ў час польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі і на Слонімшчыне было напружаным, асабліва ў вёсцы



Мяльканавічы, у якой у чэрвені 1930 года нарадзіўся ў іх сын Уладзімір і якая лічылася ненадзейнай, антыпольскай. Сюды часта наязджала польская паліцыя, вечарамі яна разганяла моладзь, што спявала песні на роднай мове. Часта прыязджалі карныя атрады і арыштоўвалі актыўных змагароў за беларускую справу, у тым ліку Лявона Сакалоўскага, дапытвалі у Чамяроўскім пастарунку. Затрыманых праз тыдзень найчасцей адпускалі збітымі так, што яны доўгі час не маглі працаваць. І нёс па жыцці Уладзімір тую крыўду за бацьку.

У 1939 годзе сынок Сакалоўскіх скончыў два класы польскай Мяльканаўскай пачатковай школы. Потым, як улады памяняліся, школа была ператворана ў савецкую. У часе 2-й сусветнай вайны заняткі праводзіліся нерэгулярна, а ў 1943 годзе яе спалілі партызаны, напэўна, палічыўшы за важны стратэгічны аб'ект. Каб працягваць вучобу, Уладзімір хадзіў у Слонімскую прагімназію. Пасля выгнання немцаў мяльканавічанскіх дзяцей вучылі на месцы, у вясковых хатах, і ў 1946 годзе хлопец скончыў сем класаў, а праз тры гады — і Азярніцкую сярэднюю школу. Паступіў далей вучыцца на нямецкае аддзяленне факультэта замежных моваў Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы; скончыў у 1953 годзе.

Чалавек, уганараваны дыпломам, стаў працаваць у Мастоўскім раёне, а неўзабаве здолеў пераўвасобіцца нават з настаўніка ў дырэктара сярэдняй школы, адной, потым другой... Малады, прыгожы, з пранікнёным позіркам вачэй, ён любіў вучняў, шчыра любіў сваю працу і, працуючы, усё глыбей спазнаваў жыццё ды свой родны кут, улучаны ў кусціста-зялёнае, блакітна-льняное наваколле, сонечнае скрозь, напоўненае духмяным водарам. Шкадаваў усё жывое, трапяткое, з чым парадніўся, сыноўняй сваёй любатой і шкадобаю. Разам з тым сэрцам яго неспадзеўна і назаўжды завалодала настаўніца Галіна Лукашык, абыходлівая, datклівая асоба, і вось ужо 55 гадоў крочаць яны па жыцці разам. У іх, спаважных і шчырых асветнікаў, ад самага паяднання шляхоў складвалася звычайная прыстойная сям'я, і была б яна і самадастатковай і нават шчаслівай у рамках той сонечнай савецкай рэчаіснасці, калі б не адна акалічнасць.

У 1962 годзе паспяховы дырэктар школы быў прызваны ў Савецкую Армію і накіраваны перакладчыкам у ГДР, дзе



служыў ажно па 1969 год пры розных установах: ваеннай часці, камендатуры, групе перакладчыкаў пры штабе Групы Савецкіх Войск у Германіі.

Калі апынуўся ў Германіі, яго моцна ўразіла тое, што немцы амаль не маюць аніякага ўяўлення пра Беларусь. З'явіўся неспакой, які межаваўся з трывогай: як так магло здарыцца, што жыццё яго 10-мільённага і па сутнасці суседняга народа амаль невядомае немцам. Няўжо Беларусь не знайшла аніякага адлюстравання ў нямецкай інфармацыйнай прасторы?

У Бюро перакладчыкаў пры штабе Групы Савецкіх Войск у Вюнсдорфе яму даводзілася чытаць заходнегерманскія газеты, часопісы, і яны ў значнай меры ўзбагачалі Уладзіміра, яго ўяўленне пра беларускую культуру ў шырокім свеце. У Дзяржаўнай бібліятэцы ГДР ў Берліне яшчэ трапіліся беларускія публікацыі на нямецкай мове: праца Я. Карскага «Гісторыя беларускай вуснай народнай творчасці і літаратуры», кніга В. Егера «Беларусь», а таксама невялікі зборнік вершаў М. Багдановіча ў перакладзе Я. Энгельгардта пад назвай «Беларускія лірычныя вершы аб Радзіме» і шмат чаго іншага. Тады гэта і падштурхнула яго заняцца вывучэннем беларуска-нямецкіх сувязей.

У нямецкіх бібліятэках ён адчыняў для сябе паступова дзівосны свет беларускай літаратуры 20-х гадоў, пра якую ў Беларусі і гаварыць не дазвалялася. А ўвогуле зацікаўленаму беларусу ўпала ў вока розніца ў асвятленні падзей і постацей на ягонай радзіме і ў замежжы. Сустрэчы і размовы з нямецкім славістам Норбертам Рандавым падштрухнулі Уладзіміра Сакалоўскага да пошуку ў бібліятэках ГДР матэрыялаў пра Беларусь.

Яму карцела даследаваць і паведаміць на радзіму, як і што пісалі і пішуць пра беларусаў нямецкія крыніцы, якія ацэнкі давалі і даюць асобам і падзеям розных часоў. Пошук новых дакументаў і сведчанняў усё больш інтрыгаваў даследчыка, навукоўца, у якога ён ператварыўся неспадзеўкі, нечакана для самога сябе. Было адчуванне, што патрапіў чалавек на скарб, які зусім нельга адпіхнуць нагой, праігнараваць. Але ж неўзабаве даведаўся ад сваіх прыяцеляў, блізкіх да афіцыйных структур у Мінску, што ў Савецкім Саюзе, куды ўваходзіла і яго радзіма, ягонымі пошукамі мала хто зацікаўлены. Гэта спачатку збянтэжыла, але не расчаравала. І тады ён звузіў свае даследаванні да



чыста літаратуразнаўчай і ўжо больш аддаленай ад палітыкі тэмы «*Беларуска-нямецкія літаратурныя ўзаемасувязі перыяду Веймарскай рэспублікі (1919–1933)*». Можна сказаць, што ў ягоным жыцці менавіта з гэтага і пачыналася літаратуразнаўчая «кар'ера».

Сярэдняга росту, не мітуслівы, і раней і цяпер, занепакоены ўрэшце станам свайго здароўя — ужо на другім канцы плённага жыццёвага шляху — і па той прычыне трохі разгублены, але ж па-ранейшаму ў думках аб працы і на працы за пісьмовым сталом, ён стаіць перада мной, літаратарам і, бадай што, суседам, якому, калі я разгортваў свой раман «Надлом» у трылогію, ахвотна і шчыра дапамагаў матэрыяламі з уласнага этнакультурнага архіва.

Скажы мне, чалавеча, звяртаюся да яго: вось пад час працы над інтэрпрэтацыяй беларускай літаратуры на Захадзе якія перашкоды давялося пераадолець?

І чую адказ:

*«Цяжкасці зносін. Калі я ўжо быў на радзіме, цяжка было мець надзейныя кантакты з зарубежнымі аўтарамі, бібліятэкамі, архівамі — за кожным тваім крокам сачылі і кожную заяўку разглядалі пад лупу. Але самым непрыемным для мяне было іншае. Я ўжо падрыхтаваў сваю першую кнігу «Пара станаўлення. Да гісторыі параўнальнага вывучэння беларускай і некаторых класічных зарубежных літаратур. 1986». Рукапіс тры гады праляжаў у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Толькі пасля, як звярнуўся туды навуковы савет Інстытута літаратуры імя Я. Купалы, манаграфію перадалі ў выдавецтва. І хоць яе, урэшце, выдалі кніжкай, але далей Беларусі яна нікуды не трапіла. А яе ж замаўлялі бібліятэкі Германіі — Дзяржаўная бібліятэка ГДР, бібліятэка Гумбальдскага універсітэта, і не толькі яны, у чым я пераканаўся пазней. Пісаць праўду пра ўзаемадачыненні з краінамі Захаду было непапулярна і нават небяспечна. У Інстытуце літаратуры не зацвердзілі і маю наступную тэму даследаванняў «Беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі пасляваеннага часу. 1945–1985». Замест гэтай была зацверджана тэма «Беларуская літаратура ў ГДР».*

*Цяжка было надрукаваць што-небудзь. Напрыклад, «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» замовіла мне артыкул пра публікацыю Станіслава Станкевіча*



*«Праўдзівы й схвальшаваны Янка Купала (1892–1942)», які ў ФРГ быў надрукаваны на трох мовах: беларускай, нямецкай і англійскай. Аднак мой допіс на старонках энцыклапедыі так і не з'явіўся. Тое самае сталася і з артыкулам пра Васіля Быкава «Успрыняцце і інтэрпрэтацыя творчасці Васіля Быкава на Захадзе», які быў напісаны для навукова-рэфератыўнага бюлетэня «Зарубежная літаратура». Нават у самім Інстытуце літаратуры, калі я напісаў станоўчы каментар пра дзейнасць Р. Абіхата ў час першай нямецкай акупацыі, то ён быў заменены высокаідэйным допісам іншага навуковага супрацоўніка.*

*Па ініцыятыве сакрэтнага замежнага аддзела пры АН БССР мне быў забаронены выезд у Капенгаген для ўдзелу ў Міжнародным сімпозіуме ЮНЕСКА «Культурныя сувязі скандынаўскіх і славянскіх краінаў у XIX і XX стагоддзях» (Капенгаген, 1984), дзе я павінен быў выступіць з дакладам «Да рэцэпцыі скандынаўскіх літаратур у Беларусі».*

Як бачым, цярністы шлях не абышоў і Сакалоўскага-сына. Так, не пазбег, не ўнікнуў тых лядашчых клопатаў творчы чалавек.

Цяпер я шкадую, што напачатку гэтых нататак пра свайго калегу і блізкага прыяцеля ахарактарызаваў ягоны поступ угору, у людзі, далей і далей нібыта нічым не азмрочаным — «светлым». Справа ў тым, што ў першыя ж гады пасля страшэннай і лютай вайны многім здавалася, што шчасцейка, як і сонейка, кожнаму свеціць у хату. Так і нам... Аднак на справе было далёка не тое. І нашаму даследчыку міжнародных культурных сувязей Уладзіміру Лявонавічу Сакалоўскаму давялося ладнага часу блытацца, шукаючы выйсця з цянётаў савецкага раю.

Скажы, чалавеча, які ж перыяд у тваім няпростым занятку быў найбольш спрыяльным?

*«Добрым і плённым быў час, калі загадчык Славістычнага семінара Бонскага універсітэта прафесар Ганс Ротэ прапанаваў мне выканаць пад яго кіраўніцтвам праект «Беларусь і Германія. Інтэлектуальна-культурныя адносіны (1914–1941)». Праца над тэмай пачалася са збору дакументаў і матэрыялаў, што дало мне магчымасць на працягу амаль дзесяці гадоў актыўна працаваць у важнейшых нямецкіх архівах. Былі знойдзены многія тысячы каштоўных дакументаў. Акрамя таго, у бібліятэках Гер-*



*маніі ўдалося выявіць шмат неабходнага і цікавага па сувязях Беларусі з гэтай краінай. Першы этап пошукавай працы быў закончаны выданнем на нямецкай мове «Бібліяграфіі» (Bibliographie. Weissrussland und Deutschland. Geistes und Kulturbeziehungen 1914 und 1941. 2000, XII +320 S). Гэта аб'ёмнае выданне на 332 старонках, якое ўтрымлівае 3694 бібліяграфічныя адзінкі па многіх галінах сумесных дачыненняў: у культуры, гісторыі, палітыцы і эканоміцы.*

*Гэтае выданне было прыязна сустрэта як у Беларусі, так і ў Германіі. У рэцэнзіі С. Новікава «У люстэрку дакументаў» адзначалася: «З выданнем першага тома ў ФРГ пачалося знаёмства шырокай грамадскасці, у першую чаргу навукоўцаў, з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі… без чаго сёння практычна нельга праводзіць сур'ёзныя навуковыя даследаванні…».*

*Нямецкая славістка Соня Хайл таксама высока ацаніла выданне. У рэцэнзіі для часопіса па славістыцы «Zeitschrift für Slawistik« яна пісала, што «духоўнакультурныя адносіны паміж Беларуссю і Deutschland да гэтага часу не сталі прадметам навуковых даследаванняў… Зараз такі недахоп ліквідаваны выданнем грунтоўнай працы У. Сакалоўскага».*

*Аднак другі этап гэтага праекта затрымліваецца. С-абраныя і падрыхтаваныя да друку матэрыялы чакаюць у Германіі часу свайго выдання»*

А час, як вядома, шмат што перайначвае, і калі ў сярэдзіне 80-х ідэалагічная блакада вольнага духу, чалавечых парыванняў ужо зменшылася, чаму асабліва паспрыяла гарбачоўская перабудова, Уладзімір Сакалоўскі прыступіў да пашырэння абсягу сваіх даследаванняў і зноў вярнуўся да назапашаных гістарычных матэрыялаў. Мне спадобілася пісаць рэцэнзію на яго кнігу **«Надзвычайная місія БНР у Нямеччыне (1919–1925)»** (ARCHE Nr. 3, 2009). Цудоўнае даследаванне, якое значна дапаўняе і пашырае гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі. Яно чакае свайго выдання асобнай кнігай.

І зноў жа, не ведаючы стомы ў пошуку і выяўленні мала вядомых фактаў гісторыі ды сцвярджаючы сваю даследчыцкую годнасць, Уладзімір Лявонавіч піша грунтоўную крытычную рэцэнзію на выдадзены ў Германіі *«Дапаможнік па*



*гісторыі Беларусі»* (Handbuch der Geschichte Weißrußland Göttingen, 2001), у складанні якога прымалі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы: П. Лойка, Г. Сагановіч, З. Шыбека, А. Кіштымаў, А. Каханоўскі, І. Чыквін, М. Іваноў. Іх артыкулы рэалістычна адлюстроўваюць гістарычныя падзеі на Беларусі. Але ж канцэптуальная арыентацыя рэдактараў выдання Д. Байрава і Р. Лінднэра, заснаваная ў асноўным на працы польскіх, рускіх (у тым ліку савецкіх), літоўскіх і некаторых іншых зарубежных вучоных, паслужыла таму, што беларускія гістарычныя матэрыялы былі адсунуты на другі план, праігнараваны таксама працы такіх еўрапейскіх вучоных, як А. Брукнер, Р. Абіхт, Х. Штанга, В. Концэ, А. Іпель, што чэрпалі свае высновы з першакрыніц, — усё гэта прывяло да адыходу выдання ад найбольш аптымальнага варыянту ў разглядзе гісторыі Беларусі. То была ўжо не гісторыя беларускага народа, які тварыў яе, а хутчэй гісторыя рэгіёна, дзе размешчаны беларусы. Такі падыход не даў магчымасці стварыць сапраўдны Handbuch (Дапаможнік), ён хутчэй за ўсё нагадвае зборнік нарысаў па гісторыі Беларусі.

Мне ж згадваецца іншае, пра што ўжо ў гэтай кнізе «На чым стаім, панове?» таксама засведчана. Нямецкі даследчык мінулага Бернгард К'яры напісаў кнігу **«Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў (1914–1944гг.)»**, і мяне ўразіла зашоранасць замежнага грамадзяніна спадара К'яры, ягоная амаль нічым не прыкрытая закамплексаванасць на чыста савецкіх ідэалагемах і штампах, а тым часам і няведанне беларускай гісторыі, стэрэатыпнае бачанне нават свайго суайчынніка В. Кубэ, генеральнага камісара Беларусі.

Скажы, чалавеча любы, дасціпны, нястомны, чаму на Захадзе да гэтага часу ў цывілізаваную чалавечую свядомасць яшчэ не ўвайшло, што Вялікае Княства Літоўскае — калыска беларускай нацыі і культуры?

Гэта ж прыкра. Ці не спрабаваў ты як вучоны, тым больш прафесар пры Бонскім універсітэце, пераканаць у нечым сваіх нямецкіх калег?

*«Так, сапраўды, тэндэнцыя атаясамлівання Літвы з Вялікім Княствам Літоўскім як у Германіі, так і ў іншых краінах Захаду ёсць. Але ж далей болей, спадзяюся, яна будзе страчваць да сябе давер. Апошнія даследаванні ў самой Германіі прафесараў Г. Ротэ, Ф. Шольца, Г. Адрыяні*

*паказваюць, што яны сталі больш уніклівымі, наблізіліся да праўды факта і, думаю, адыдуць ад навуковай фальсіфікацыі нашай гісторыі, пра што я неаднаразова напамінаў у сваіх артыкулах і даследаваннях. З усіх немцаў (тамтэйшых навукоўцаў) найлепей разумелі гістарычную сутнасць пытання В. Концэ і А. Брукнер, яны засноўваліся на вывучэнні старажытных крыніц. Лінгвіст і філолаг Аляксандр Брукнер уважліва прааналізаваў выдатны помнік старажытнай беларускай культуры і гісторыі «Кодэкс місцэланеус з бібліятэкі графа Рачынскага ў Познані», створаны недзе каля 1580 года.*

*А. Брукнер назваў і характэрныя асаблівасці беларускай літаратурнай мовы, што існавалі ўжо ў 16 стагоддзі; гэта поўнае вызваленне ад залежнасці царкоўнаславянскай мовы не толькі ў галіне лексікі, але і марфалогіі, ад многіх лексічных паланізмаў.*

*Брукнер больш за стагоддзе таму паказваў на самастойнасць беларускай мовы і прысвяціў Беларусі некалькі публіцыстычных артыкулаў, што друкаваліся ў гады першай сусветнай вайны ў нямецкамоўных часопісах «Полен», «Польнішэ блетэр» ці выходзілі асобнымі выданнямі. У шматлікіх публікацыях вучоны абуджаў цікавасць да Беларусі.*

*Калі я чытаў лекцыі для нямецкіх студэнтаў, а таксама друкаваў артыкулы, у якіх паведамляў пра друкарскую дзейнасць беларускіх асветнікаў Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, С. Буднага, пра Статут ВКЛ, то само сабой тут раскрывалася сутнасць гісторыі.*

*Немалаважнае значэнне мелі таксама і выдадзеныя на нямецкай мове Каментарыі да факсімільнага ўзнаўлення Бібліі Ф. Скарыны (Мінск, 1990–1991).*

*Яны напісаны вядомым нямецкім славістам Гансам Ротэ і беларускімі спецыялістамі па скарыназнаўству: У. Конанам, У. Жураўскім, Г. Галенчанка, І. Саверчанкам, В. Шматавым, У. Свяжынскім.*

Бачыце што, і я ўсведамляю, вельмі шаноўны і паспяховы прафесар: пэўныя намаганні з нашага боку былі і ёсць, так. І ёсць нейкі вынік. Але ж былі і няўдачы, пра што можна толькі пашкадаваць. Адно размова не пра іх. Тое, што зроблена за адно жыццё Уладзімірам Сакалоўскім, уражвае, радуе, выклікае ўдзячнасць.



Я ведаю, што гэта яшчэ не апошні вянец і на стале ў яго ляжыць шмат чаго яшчэ незавершанага.

Дарэчы, ў жыцці Сакалоўскім апаноўвала нярэдка такая стыхія, што хацелася пісаць вершы, і пісаў, не афішуючы сябе паэтам, напісанае складваў, так бы мовіць, у архіў. Потым паглядзеў — ладная горка набралася, а паміж вершамі і свае ўласныя думкі, празаічныя выказванні на розныя жыццёвыя тэмы. Чымсьці вартасным, не пустым і не другасным усё гэта грэла душу. Пры праглядзе і адборы найбольш годнага, чым заняўся літаральна ў вялікі свой юбілей, прыйшоў да думкі, што частка вершаў магла б трапіць у зборнік для нешырокага друку. Ну, вось як гэты, напрыклад:

Калі летняя бура з грымотамі
прагавіта ломіцца ў дом —
гэта сэрца мае ўзбунтаванае
ў дзікім шале смяецца над злом.

Калі восенню позняй, дажджліваю,
вецер плача, і моліць, і б'е —
гэта сэрца маё змардаванае
з жалем просіць прытулку ў цябе.

Калі зімняю ноччу марознаю
енчаць, выюць снягі за сцяной —
гэта сэрца мае зганьбаванае
кліча ўсіх змардаваных на бой.

Так што, мяркуючы нават і па гэтым вершы, ёсць, ёсць у чалавека яшчэ порах у парахавіцах!

Дай Бог далейшага творчага плёну!

# НА РАЗЛОМЕ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ, АБО БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА НА ВОЧЫ ЗАМЕЖНЫХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ






Беларусы забываюць, адкуль яны родам.

А як трымаць у сэрцы, як памятаць, калі больш паловы нас для сваёй зямлі ўжо чужыя. Ці не?.. На гэта нібыта паказвае... Ёсць статыстыка. Толькі ж не хочацца верыць параду афіцыйных лічбаў.

Праўда ў тым, што мы, беларусы, якія адарваліся ад зямлі, не супраць вярнуцца да магіл сваіх продкаў, успомніць мову, якою продкі да Бога і нашчадкаў сваіх прамаўлялі. Адно як дайсці... як дайсці да Беларусі, з якою раней былі душою палучаныя? Пра гэта марыў паэт-летуценнік Юрка Віцьбіч, пра гэта мараць іншыя, і тое ж засведчыла Валянціна Піскунова, беларуска з Эстоніі, у сваім занепакоеным выступленні на гэтак званым Усебеларускім народным сходзе у снежні 2010 года. З гэтых меркаванняў адкінем убок катэгарычнасць сцвярджэнняў і нават «статыстыку адчужэння», якая сведчыць: падчас перапісу 2009 года 60 адсоткаў насельніцтва назвалі роднай моваю беларускую, але дома ёю карыстаецца толькі 30



адсоткаў. У 1999 годзе беларускую мову лічылі роднай 73,6 адсотка жыхароў краіны, а ў сем'ях ёй штодзённа карысталася 37 адсоткаў. Страты, тут, безумоўна ёсць, але, шаноўнае спадарства, бяруся сцвярджаць, што не статыстыка цяпер вырашальная, а дух, атмасфера ў грамадстве.

Дарэчы, яшчэ адно даследаванне, праведзенае ў 2009 годзе сацыялагічнай лабараторыяй «НОВАК» (пры падтрымцы ЗБС «Бацькаўшчына» і Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў пад кіраўніцтвам Віталя Сіліцкага). Яно паказала: 31,6% грамадзян добра размаўляюць і пішуць па-беларуску, 42, 7% чытаюць па-беларуску, свабодна разумеюць мову, але размаўляць на ёй ім нязвычна, 22% разумеюць мову, толькі з цяжкасцю чытаюць па-беларуску, нарэшце, 2% ніяк не разумеюць мовы тытульнай нацыі; дапускаю, што і не хочуць яе разумець.

Прыкладна палова апытаных назвалі прычыну, чаму яны адносна рэдка карыстаюцца беларускай мовай, — адсутнасць беларускамоўнага асяроддзя альбо хаця б дастатковага кола знаёмых, якія таксама размаўлялі б на мове, і — яшчэ як прычына прычын: ігнараванне мовы свайго народа вышэйшым кіраўніцтвам краіны.

Перад вачамі жывая карцінка, даволі тыповая для апошніх гадоў. У тралейбусе, да прыкладу, набітым пасажырамі, двое размаўляюць на сваёй роднай мове. Збоку зыркае на іх насурмлены грамадзянін; ён, урэшце, не вытрымлівае і тонам загаду кідае: «Да гаворыце вы на правильным языке!..».

Яму няўцям, што на правільным размаўляюць тыя, а ён, дэнацыяналізаваны элемент, — разбуральнік свайго духоўнага скарбу. Далей узнікаюць спрэчкі і насурмлены «правільны» пасажыр стараецца знікнуць.

У кожным разе тут знаходзіцца адна ці дзе асобы, зазвычай жанчыны, якія падыходзяць бліжэй і выказваюць беларускамоўным сваё захапленне: «Як хараша і ўцешна слухаць, калі гучыць сапраўдная беларуская мова!» Аказваецца, і яны таксама ведаюць беларускую мову, але ж не адважацца гаварыць на ёй.

Чым я быў найбольш уражаны ў апошнія гады? Не, не месцам сваёй краіны паміж Еўропай і Азіяй, або паміж Еўропай і Афрыкай, даруйце... У любым выпадку, паводле маёй асабістай «арыентацыі» і светаўспрымання, мая айчына знаходзіцца на нейкім жахлівым разломе паміж кантынен-



тамі. Я даўно гэта заўважыў, дакладней, пачаў адчуваць вантробамі, ад чаго рабілася і робіцца няўтульна — няўтульна і шчымліва трывожна, як пры пастаяннай няўхільнай, наканаванай лёсам пагрозе для ўсёй нашай-нашанскай грамады, для сябе асабіста.

З большага адукаваны і дасведчаны чалавек, я з дзяцінства меў цікавасць да навакольнага свету, да свайго роду і сваёй зямлі — тады ўсё існавала ў атмасферы даверлівасці і любаты. Калі не ў школе, то потым, а праўдзівей, ужо ў пасталелым узросце для мяне адкрылася і ўвайшла ў свядомасць праўда пра гістарычную краіну ліцвінаў-беларусаў — Вялікае Княства Літоўскае. Не адразу, вядома, уцяміў, чаму ж такую вялікую праўду народа ад народа хавалі, і як, і чаму ўсю веліч і славу ВКЛ камусьці ўдалося скрасці. Ужо сам велізарны памер той кражы як бы не дапускаў думак пра магчымасць падобнага чыну.

Але, калі я ўжо меў выразнае ўяўленне пра гісторыю сваёй краіны і ў сваіх творах пачаў нават прапагандаваць штоніштo, мяне надта здзівіла і да брыдоты ўразіла кніга нямецкага даследчыка Бернгарда К’яры «Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў (1941–1944 гг.)». Мн., 2005. І не тым уразіла, што, уласна, у ёй даследавана, а тым, у якой перакошанай аправе ўсё падавалася; балазе тэксты рыхтаваліся нашымі ж Л. Баршчэўскім — перакладчыкам з нямецкае мовы, і Г. Сагановічам — рэдактарам, нацыянальным гісторыкам.

Я напісаў ліст аўтару кнігі Б. К’яры, з якім не меў дагэтуль знаёмства, адкрыты ліст, — я спадзяваўся надрукаваць яго ў беларускай перыёдыцы, але так склалася, што ён «убачыў свет» не адразу і толькі ў маёй кнізе «Нячывелле» (2008). А цяпер падаецца яшчэ раз.

Шчыра скажу, не было б тут патрэбы спасылацца на пасланне да спадара Б. К’яры, як і на ягоную кнігу, каб погляды даследчыка на Беларусь і яе гісторыю не былі ўсё яшчэ распаўсюджаныя на Захадзе, асабліва ў Германіі, пра што неаднойчы даводзіў мне мой харошы прыяцель, якому спадобілася займацца даследчыцкай працай за рубяжом, чытаць лекцыі ў Бонскім універсітэце. Там, казаў ён, атаясамліваюць Вялікае Княства Літоўскае з сучаснай Літвой і не хочуць слухаць ніякія іншыя тлумачэнні альбо пярэчанні. І ўсё гэта нягледзячы на тое, што вядомы мовавед і



літаратуразнаўца — немец Аляксандр Брукнер (Alexander Brückner) яшчэ ў гады першай сусветнай вайны рэзка крытыкаваў Літву за яе прэтэнзіі на беларускія землі. На працягу дзесяцігоддзяў, пачынаючы, бадай, з 1886 года, Брукнер даследаваў помнікі беларускай мовы і літаратуры часоў сярэднявечча. Адштурхоўваючыся ад аналізу «Кодэкса місцэланеус з бібліятэкі графа Рачынскага ў Познані», напісанага каля 1580 года, куды ўвайшлі «Літоўская хроніка», беларускія пераклады сярэдневяковага пісьменства: «Аповесць аб Трышчане», «Аповесць аб Баве», «Гісторыя аб Атыле, каралю ўгорскім», ён пісаў, што *«...важнейшыя характэрныя рысы мовы («Кодэксу») у гуках, формах і словах — беларускія, якія пасрэднічаюць паміж мала- і вялікарускімі, аднак ні з першымі, ні з другімі не супадаюць: калі б спатрэбілася, то можна было б толькі на аснове гэтага помніка пераканаўча даказаць самастойнасць беларускай мовы»*. А вось падчас 2-й сусветнай вайны немцамі быў выдадзены ў Ляйпцыгу (па матэрыялах перакладчыцкага Бюро пры галоўным упраўленні OST) «Сямімоўны слоўнік» — нямецкай, польскай, рускай, беларускай, літоўскай, латышскай і ідыш моў. Ва ўступным артыкуле ягоныя складальнікі пра беларускую мову пісалі: *«Гэта зусім старая, найстарэйшая славянская мова, ужываная насельніцтвам, якое амаль толькі з сялян і сплаўшчыкаў лесу складаецца і толькі ў нязначнай меры належыць індустрыі. У абставінах цалкам рускага кіравання мова пастунова зазнала ўплыў рускай асіміляцыі. Цяпер беларусы жадаюць эмансіпіравацца і садзейнічаць развіццю ўласнай мовы»*. І ніжэй дадаецца: *«Гаворка ідзе пра цаліну ў гэтай галіне, навукова амаль што не распрацаваную»*. І гэтак пісалася насуперак таму, што, з палітычных меркаванняў, самастойнасць старажытнай беларускай мовы не прызнавалася ні польскімі, ні расейскімі, а тым больш літоўскімі даследчыкамі.

Праходзіў час, у Беларусі вяліся дэбаты. Толькі ж у замежнай прасторы да крыўднага мала што ў адносінах да нашай краіны мянялася.

Але вось аднойчы на грамадскім кніжным гарызонце з'явілася нешта дыхтоўнае, сабралася і раптам як быццам паласнула маланкай, асвятляючы хмарнае неба. Прынамсі, такое ўражанне было ў мяне, калі я ўзяў у рукі і разгарнуў кнігу матэрыялаў «круглага стала», які адбыўся ў Варшаве 11–12 лі-



стапада 2006 года па тэме: **«Геапалітычнае становішча Беларусі ў Еўропе і свеце»**. Праводзіліся такія форумы і пасля, але толькі гэты сімпозіум мне падаўся знакавым.

Двухдзённую дыскусію наладзілі Інстытут Грамадзянскай Прасторы і Сацыяльнай Палітыкі (Варшава) і асабіста **Анджэй Суліма Камінскі**, паляк, народжаны на беларускай зямлі, ён жа прафесар Джорджтаўнскага ўніверсітэта ў Вашынгтоне і замежны член Польскай Акадэміі Навук. Пры Інстытуце ўтварыўся незалежны беларускі цэнтр, якому належала правесці даследаванні; каардынатарам цэнтра стаў Валер Булгакаў, кандыдат філасофскіх навук, нязменны рэдактар адмысловага гістарычнага часопіса»ARCHE» ў Беларусі.

Назаву яшчэ колькі замежных асобаў, што прынялі ўдзел у сімпозіуме: Ітан С. Бургер — навуковец Амерыканскага ўніверсітэта ў Вашынгтоне і Джорджтаўнскага ўніверсітэта, юрыст. Імке Гансэн — выкладчыца кафедры ўсходнееўрапейскай гісторыі Гамбурскага ўніверсітэта. Рыгор Ёфе — прафесар геаграфіі ўніверсітэта Рэдфарда (ЗША). У полі ягоных навуковых інтарэсаў, як было паказана, знаходзяцца таксама працэсы фармавання мадэрнай беларускай нацыі. Дэвід Р. Марплз — прафесар кафедры гісторыі ўніверсітэта Альберты, даследчык сучаснай Украіны пры Канадскім інстытуце ўкраінскіх даследаванняў. Барбара Скінэр — прафесар гісторыі ўніверсітэта Індыяны (ЗША). Стывен Л. Уайт — прафесар міжнароднай палітыкі ўніверсітэту Глазга (Польшча). Тэадор Р. Ўікс — прафесар гісторыі ўніверсітэта Паўднёвага Ілінойса (ЗША). Эндру Ўілсан — старшы выкладчык украінскага ўніверсітэцкага каледжа Лондана. Кола ягоных інтарэсаў: гісторыя, палітыка, украінскі нацыяналізм, дэмакратызацыя і ідэнтычнасць постсавецкіх краін. Павел Казанэцкі — старшыня выканаўчай рады Усходнееўрапейскага дэмакратычнага цэнтра (Польшча). Рафал Садоўскі — аналітык Цэнтра ўсходніх даследаванняў пры Міністэрстве эканомікі Польшчы. Алег Латышонак — гісторык, ад'ютант-прафесар кафедры беларускай культуры ўніверсітэта ў Беластоку.

Дык у процівагу таму ранейшаму ўражанню ад памянёнай нядобрымі словамі кнігі Бенгарда К'яры тут было чаму парадавацца. Дзіва што: усе пералічаныя вышэй і не пералічаныя асобы выявілі сапраўднае веданне вытокаў беларускага



народа, аперыравалі фактамі з яго гісторыі і сацыяльна-палітычнае становішча на сучасным адрэзку часу. Як гэта здарылася? Няйначай, скандальная слава Беларусі, ачоленай «апошнім дыктатарам Еўропы», паслужыла таму, што даследчыкі на розных кантынентах такі ўсур'ёз зацікавіліся гісторыяй нашай краіны і пачалі шукаць аб'ектыўнага погляду на яе ў цэлым. Заглыбляліся яны і ў псіхалогію тых жа ўдзельнікаў варшаўскіх пасяджэнняў за «круглым сталом».

Вось некалькі разгорнутых цытат з кнігі:

Дэвід М. Марплз: **«Ці ёсць у Беларусі беларусы?»**

*Мадэрным нацыям патрэбны міты мінуўшчыны... За Лукашэнкам гісторыя як форма дзяржаўнай палітыкі абмяжоўваецца савецкім перыядам і абсякаецца — за кошт важных асноватворных перыядаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай... Некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што такім чынам Беларусь набывае пэўную савецкую ці постсавецкую ідэнтычнасць, хоць на справе стан рэчаў выглядае трохі больш складаным... Але і ад самага пачатку пытанне, кім ёсць беларусы, вырашалася часткова за кошт канстатацыі таго, кім яны ня ёсць. Яны, напрыклад, не грамадзяне СССР, і, нягледзячы на пэўныя прыкметы настальгіі па савецкім часе, у іх няма жадання адрадзіць яго. Не з'яўляюцца беларусы і часткай Расеі, нягледзячы на моц гістарычных сувязяў. Беларусь... знаходзіцца хутчэй паміж ЕС і Расеяй, або паміж НАТА і Расеяй, займаючы унікальнае месца на мяжы дзвюх канкурэнтных сістэм, што застаюцца ў пэўнай меры перажыткам «халоднай вайны». Беларусы ня могуць далучыцца да аднаго ці другога боку і амаль пароўну падзяляюцца за тых і не тых... і ўсё гэта дапамагае рэжыму фармаваць ідэнтычнасць «пад сябе». ...Рэжым звязаў сучаснае адраджэнне беларускай мовы выключна з апазіцыяй, і перш за ўсё з русафобскім нацыяналізмам, у авангардзе якога стаяў Беларускі народны фронт на чале з Зянонам Пазьняком... Пасля рэферэндуму пачалося закрыццё беларускамоўных школаў, а тыражы перыядычных выданняў на расейскай мове зноў, як і ў савецкія часы, сталі перавышаць тыражы беларускамоўных... Беларусь у гэтым сэнсе нагадвае Квэбэк на паўночна-амерыканскім кантыненце, з усіх бакоў абкружаны англамоўным насельніцтвам. Але,*

*у адрозненне ад Квэбэку, Беларусь ня мае нічога супраць такога становішча.*

Асэнсоўваючы самавітыя выказванні прафесара Марплза, я згадваю, як у першыя гады на пасадзе прэзідэнта А. Лукашэнка пачаў было карыстацца беларускай мовай і звяртацца да глыбінных пластоў гісторыі Беларусі. Паказваючы сваю дасведчанасць, ён адзначаў, напрыклад, знакавую постаць у нацыянальных абсягах Льва Сапегі, стваральніка Статута Вялікага Княства Літоўскага. Статут па ідэі з'яўляецца ўзорам дэмакратычнага ўладкавання краіны ў сярэднявечнай Еўропе. Але ж неўзабаве Аляксандру Рыгоравічу падказалі прыстаўленыя людзі з ягонага атачэння, што і той статут, і суайчыннік Сапега — яму не таварышы, і пачалі шукаць іншых куміраў, ужо абмінаючы спадчынныя каштоўнасці беларускага народа. А шкада, бо тут была магчымасць паразумення з усім народам, развіцця жыватворных сіл нацыі. Магчымасць упушчаная. Адсюль і невыразнасць нацыянальнай ідэі, што і мацуецца — і не мацуецца, а хутчэй адрываецца ад этнакультурнай асновы ў дзяржаве.

Рыгор Ёфе: **«Беларусь: дзяржава, але яшчэ не нацыя».**

*Як сведчыць агенства Eurasian Monitoring, амаль палову апытаных у 2006 годзе ў Беларусі зусім не турбуе магчымая страта нацыянальнай адметнасці і традыцыяў. Дзеля параўнання: у Расеі такіх рэспандэнтаў усяго 28 адсоткаў, ва Украіне — 33 адсоткі. Здаровы сэнс падказвае: той, хто дакладна не ўяўляе, што ён мае ці можа мець, не баіцца гэта страціць. І тут мы падыходзім да ключавое праблемы: шмат хто з беларусаў дакладна ня ведае, што азначае быць беларусам. Прынамсі іх думкі на гэты конт розняцца. Яны ня маюць пэўнай акрэсленай нацыянальнай свядомасці. Як рэзка заявіў Валер Булгакаў, у беларусаў ёсць дзяржава, але няма нацыі. Падобную думку выказаў і Захар Шыбека.*

*Стыпендыянт Рэйгана–Фасэла Нацыянальнага фонду ў падтрымку дэмакратыі Віталь Сіліцкі,* — працягваў Рыгор Ёфе, *— напісаў артыкул пра лукашэнкаўскую тактыку прэвентыўных удараў па дэмакратыі, якая ўлучае выдаленне «з палітычнай арэны нават слабых лідэраў апазіцыі» і «спалучэнне ціску, паклёпу і прадуманай*



*прапаганды», каб дасягнуць сваёй мэты. У гэтым сапраўды выдатным англамоўным творы шараговыя беларусы калі і прысутнічаюць, дык толькі як ахвяры рэжыму, а ніякім чынам не ягоная сацыяльная база, і ўжо тым болей не добраахвотныя памочнікі. Палітычна гэтая карціна цалкам адпавядае афіцыйным заявам Злучаных Штатаў Амерыкі датычна Беларусі. Але, баюся, яна нічым не дапаможа тым нешматлікім людзям на Захадзе, якія імкнуцца зразумець беларускія рэаліі як яны ёсць, ня ўплішчваючы іх у ідэалагічныя шаблоны заходняй вытворчасці.*

*...Аднойчы скляпаныя палітычныя клішэ жывуць сваім уласным жыццём, ад іх цяжка пазбавіцца. Таму, магчыма, некаторым дасюль цяжка зразумець, што галоўная праблема Беларусі — не Лукашэнка, а недафармаванасць нацыі. Шмат у чым Лукашэнка — прадукт гэтага працэсу, што зайшоў у тупік.*

Адразу ж хочацца зазначыць: вялікая праўда ў тым, што *«шмат хто з беларусаў дакладна ня ведае, што азначае быць беларусам»*. Прыкладна палова маіх землякоў — ціхія і ўмоўна цёмныя людзі. З іх галоў даўно выбілі разуменне пра нацыю і свой адметны народ. Выбілі тое разуменне працяглай і мэтанакіраванай гістарычнай апрацоўкаю — з аднаго боку палякі, з другога — расейцы ды яшчэ й вялікія інтэрнацыяналісты з бальшавіцкай падкладкаю ў СССР.

Толькі ж, людцы мілыя, і ў гэтым маім сцвярджэнні можа быць перабольшванне, як, зрэшты, і ў сцвярджэнні філосафа Валянціна Акудовіча наконт таго, што на самой радзіме беларусаў ні ў пару БНР, ні пазней не была сфарміраваная этнакультурная ідэя, маўляў, наш нацыянальны канон сфарміраваўся на эміграцыі, куды ў мностве з'ехалі лідэры нацыянальнага руху пасля прыходу да ўлады бальшавікоў.

*«Адтуль,* — даводзіць Акудовіч, — *гэты канон і быў экспартаваны ў Беларусь напрыканцы 80-х (XX ст.), дзе праз шырокі нацыянальна-дэмакратычны рух адыграў прыкметную ролю на пачатку сталення незалежнай Дзяржавы»*. (Ад «Дудкі беларускай» да думак пра Беларусь. «Звязда» за 5 снежня 2010).

Лічу гэткае паданне В. Акудовіча грубай гістарычнай памылкай, як што беларускае этнакультурнае жыццё на эміграцыі расквітнела толькі пасля Другой сусветнай вайны, а не пасля прыходу бальшавікоў на Беларусь. Грушы



на вярбе? Міжволі думаецца... Яно ж расквітнела перш не дзе-небудзь там, а ў самой Беларусі. Безумоўна, штуршок яму быў дадзены ўтварэннем Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года і дзейнасцю ўрада гэтай рэспублікі. Згадаем тут і Слуцкі чын... Затым яно канструктыўна і плённа развівалася ўжо ў БССР — да моманту калектывізацыі і масавых рэпрэсій. Потым па-новаму ажыло падчас акупацыі ў Другую сусветную вайну, як ні дзіўна. Яскравыя сведчанні таму вы знойдзеце ў маёй трылогіі «Пакутны век». Этнакультурнае жыццё перакінулася з Бацькаўшчыны ў эміграцыю разам з дзесяткамі і сотнямі тысяч нацыянальна свядомых беларусаў як сталых, так і маладых ды юных на той час. Гэта — па-першае.

А па-другое, спадар Акудовіч: казаць пра экспартацыю нацыянальнага руху на Бацькаўшчыну ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя наогул абсурдна. Ніякіх сур'ёзных доказаў таму няма, а я асабіста быў не толькі сведкам, але яшчэ і носьбітам этнакультурнай плыні на месцы, менавіта напрыканцы 70-х і ў 80-я гады і ведаю, як ён, гэты рух, нараджаўся, шырыўся, мацнеў, дзякуючы такім натхніцелям як пісьменнікі Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, і носьбітам, як Міхась Дубянецкі, мастакі Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Яўген Кулік, філосаф Мікола Крукоўскі, гісторыкі Мікалай Прашковіч, Мікола Ермаловіч, Зянон Пазьняк або яшчэ як ініцыятар стварэння і кіраўнік патрыятычна-асветнага клуба «Спадчына» Анатоль Белы, ды таксама ж актывісты суполак «Талака» і «Майстроўня» (а дзе і з кім быў тады філосаф Акудовіч? Не, ён тады яшчэ не быў ні філосафам, ні гісторыкам, чаго яму і цяпер бракуе).

На пасяджэннях варшаўскага сімпозіума неаднойчы згадвалася (амаль нікім не падтрыманая) ідэя «грамадзянскай нацыі», вартасць якой Акудовіч, наш патрыёт-беларус, як ён гэта даводзіць, імкнецца ўсяляк прапагандаваць і дома і за рубяжом. Найбольш акрэслена на гэты конт ён выказаўся ў згаданай вышэй публікацыі «Звязды»: *«Той інтэлектуальны непакой, які вярэдзіць мяне цягам ужо многіх гадоў, якраз і паходзіць з таго, што «свой твар» мы так і не набылі — ды і ў перспектыве ягоныя абрысы не асабліва праглядваюцца. Між іншым, якраз з гэтага і паўстала задумка, што, можа, мы хочам убачыць сябе не такімі, якімі ёсць насамрэч? Мае пошукі — гэта пошукі тоеснасці*



*паміж Беларуссю ўяўнай і рэальнай, паміж той, якую нам прыдумалі ідэолагі, і той, якая існуе сама ў сабе і сама па сабе. Магчыма, па мерках «этнакультурнай» канцэпцыі Беларусь, якая яна ёсць, і мала чаго вартая, але што нам больш істотна: нашыя нацыянальна-патрыятычныя трызненні ці сама Беларусь? Як мне ўяўляецца, канцэпцыя «грамадзянскай нацыі» якраз і дазволіць нязмушана выявіцца ўсім адпаведнасцям паміж Беларуссю ўяўнай і рэальнай»*.

Не ведаю, ці здолеюць мае чытачы спасцігнуць ход думкі філосафа-мудраца і ўсё тое, чым наталяецца свет з таямнічых глыбінь ягонай душы. Адмыслоўцы ківаюць, што ён не прастак, то — пэўна. Мне вядомыя нараканні аднаго з аўтараў зборніка навукова-публіцыстычных артыкулаў «Беларусь превыше всего! (О национальной белорусской идее)», 2011, — Д.Сасноўскага: *«Наши деятели, — зазначае ён, — пишут сложно, витиевато, иной раз так, что их не понимают даже единомышленники. Вот и выходит, что свои идеи они адресуют исключительно друг другу. Почитайте, например, сочинения философа Валентина Акудовича или публициста Юрия Дракохруста. Сами увидите»*.

Зрэшты, вытлумачаныя ў «Звяздзе» філасофскія «пошукі», усё-ткі паддаюцца ўсведамленню — як фантазіі з добрай доляй нігілізму і фанабэрыі. Усведамляецца, прынамсі, што нашы лепшыя думкі пра радзіму, пра нацыю вучоны, як ён сам сябе бачыць, вызначае *«нацыянал-патрыятычнымі трызненнямі»*. І дзівакамі ўжо выглядаюць Ф. Скарына, Л. Сапега, Ф. Кміта-Чарнабыльскі, Ф. Багушэвіч, Я. Купала і сотні тысяч лепшых сыноў і дачок беларускага народа — сам народ у гэтых сваіх «трызненнях». Цяжэй, аднак, зразумець, дзеля чаго спадар Акудовіч заклікае адмовіцца ад уласцівай тутэйшым этнакультурнай супольнасці, якая — свая — заўжды грэла душу. Ён раіць адмовіцца ад яе і перайсці да аніякай, чужынскай, незнаёмай карэннаму беларускаму люду *«грамадзянскай нацыі»*. На ўзор лацінаамерыканскіх краін, якім у свой час каланізатары навязалі сваю мову і культуру. Дзівіць надта, адкуль у чалавечай натуры (якую дала краіне свіслацкая зямля, што на Гродзеншчыне) вытокі гэткіх разважанняў і навязлівых прапаноў? Тут міжволі задумваешся і ставіш пытанне: «А ці не даводзіцца наш добрадзей Валянцін родным братам Мардахею Марксу Леві?» На тое ж паказвае.



Аднак цяпер, каб больш грунтоўна разабрацца ў парадыгме «нацыянальнага філосафа», дадамо да нашага тэксту яшчэ некаторыя выказванні, напрыклад, з інтэрв'ю, якое ён даваў «Еўрарадыё» у перадачы «Когда белорусы станут нацией?» (на рускай мове) за 19 верасня 2010 года. *«В Беларуси, если мы упремся в то, что язык определяющий для нас как нации, то будем до конца своих дней «румзаць як бабры», ведь, скорее всего, с языком ничего не получится. Язык — серьезнейшая проблема. Я уже давно говорю, что в своем нациестроительстве нам надо вынести язык за скобки, в отдельную проблему, но не связывать с ней проблему формирования белорусской нации. Иначе мы и не увидим, что белорусская нация сформировалась».*

Карацей кажучы, калі ісці ад Акудовіча, нам варта забыць пра мову, і тады мы ўжо знойдзем самі сябе і сваю нацыю, якую ў стагоддзях шукалі! Дзякуй жа пану за жартачкі, адно іх няможна назваць беларускімі. І паляк на такое не здольны, і рускі, і не кожны яўрэй. І не кожны з іх можа глядзець на ўсё гэта, весела паціраючы рукі. Менавіта Валянцін Акудовіч запэўніў слухачоў «Еўрарадыё», што яму робіцца весела:

*«Если бы я был националистом возрожденческого типа, я бы по этой причине грустил. Но поскольку я понял, что наш классический национальный канон скорее всего не сработает, то на все это я смотрю весело, ведь это естественно».*

Яму, бачыце, весела. А толькі разам з мовай мы страчваем гістарычную памяць, беларускі менталітэт і нацыянальную культуру — як мінімум. Робімся іншымі, зусім дэградуем.

Цяпер — пра нашу дзяржаву, ад нараджэння якой павінен быць арганічна ўласцівы клопат пра незалежнасць, суверэнітэт, ідэнтычнасць; але ён, гэты клопат, ёю дрэнна ўсвядомлены і, мусіць, не рупіць угары нікому, ніяк. Перада мною наша гісторыя з каланіяльнай залежнасцю зямель Беларусі то ад польскай Кароны па факту, то ад Расіі, то ад Савецкай імперыі. А цяпер... Ці не тое ж самае? Антыхрыст, як пішуць на Захадзе, «топча выдатную частку Еўропы». Калі ж меркаваць па выніках, то адсюль і дыскрымінацыя беларусаў па мове. І пераніцоўка, а па сутнасці — адмаўленне ім, карэнным, тутэйшым, пракаветным, у сваёй нацыянальнай гісторыі і паступовы, але няўхільны перавод 80 працэнтаў



беларусаў на ролю «нацыянальнай меншасці». У сваёй жа краіне! І цяпер улады, асабліва іх афіцыйныя СМІ — свядома ці не? — трымаюць народ у недасведчанасці. Нават у пытаннях нацыі, нацыянальнай ідэі, якую нечакана ў Беларусі «згубілі».

Аднак можна страціць прытомнасць ад жуды, калі ўжо наш дасціпны ў сваіх вышуках і надзелены чуццём асяроддзя «гарант Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» — той Канстытуцыі, у якой утрымліваўся, дый цяпер яшчэ застаецца падмурак нацыянальнай дзяржавы, не знаходзіць акурат таго, на чым ягоны народ дагэтуль у стагоддзях трымаўся. Гэта ўсё можна вытлумачыць фразай, запазычанай мной з прадмовы да «Ідыш-беларускага слоўніка» (2008) «Матчына мова, або Якія чэрці растуць у “Герадотавым” ціхім балоце». Цытую. *«А дэнацыяналізаваны чалавек часцяком становіцца ня проста абыякавым, але — горш таго — варожым да сваёй нацыі, да тых, хто ня страціў яшчэ сваёй гістарычнай памяці, культуры й мовы»*. Так, і бьюць мяне пыльным мяшком па галаве словы: *«С белорускостью надо кончать!»* Пасаж, якому цаны няма і няма рады.

На вялікі жаль, і гэта шчыра — я вельмі шкадую, што постаць кіраўніка нашай дзяржавы з кожным годам выклікае ўсё больш крытыкі за рубяжом, у тым ліку па нацыянальных пытаннях, якія ён лічыць, напэўна, толькі унутранай справай, а калі ўнутранай, то ўжо толькі ягонай. Але ж тамака так не лічаць, бо свет узаемазвязаны.

Кожнаму шчыраму грамадзяніну любой краіны хочацца мець падставы для гонару за свой урад. Лагічна?.. Толькі я не магу пагадзіцца з паважаным прафесарам Р. Ёфе ў тым, што «*галоўная праблема Беларусі — не Лукашэнка, а недафармаванасць нацыі*». Бо не ў народ жа ўпіраецца вырашэнне пытання, а менавіта ў яго, носьбіта вышэйшай улады, у чым, мяркую, і пераконвае мой допіс «Каму замінае беларуская мова», які выштукаваны, выраблены па выніках грамадзянскай акцыі ў абарону беларускай мовы (2009).

Можна спаслацца і на іншыя факты. На апошнім Усебеларускім народным сходзе ў снежні 2010 года надта ж красамоўнай была падтрымка беларускі з Эстоніі. Калі яна, Валянціна Піскунова, як і пісьменніца Вольга Іпатава калісьці ў гэтай жа зале, узяўшы слова, на поўны голас, адкрыта, пераконана, занепакоена і пераканаўча — як пра даўно і скрозь



набалелае — загаварыла пра занядбанне роднай беларускай мовы на Бацькаўшчыне, пра неабходнасць яе адраджэння і развіцця, зала ў 2,5 тысячы чалавек — адукаваных і асвечаных прадстаўнікоў сваёй нацыі — адрэагавала на яе голас дружнымі воплескамі. І кіраўнік дзяржавы ў сваім заключным слове на форуме знайшоў мэтазгодным ужо не абысці пытання, а паабяцаць у бліжэйшы час вярнуцца да яго прыстойнага вырашэння. Ён мусіў гэта зрабіць, запрашаючы беларусаў-эмігрантаў вяртацца на Бацькаўшчыну: *«Я жду три миллиона человек, а может, и больше, которые, живут па-за межами нашай дзяржавы. Я понимаю, что они если и захотят вернуться, то не все сразу и не так быстро. Но, тем не менее, я хочу сказать вам, белорусам, которые волею судеб оказались за пределами нашей страны: вы помните, вам за нас стыдно не будет. І, калі вы хочаце, каб мы размаўлялі на беларускай мове больш, мы абавязкова гэта зробім. Можа, заўтра, можа, сёння, як вам будзе лепш»*.

Нечаканы разварот падзей адразу пасля выбараў-2010, зразумела, абярнуўся для Піскуновай, як і для ўсіх дэлегатаў народнага сходу, дзіўнай і жахлівай грымасай. Але ж выказанае там застаецца, і я вяртаюся да тэзы Р. Ёфе пра «недафармаванасць нацыі». Адкуль жа ў нас гэтая недафармаванасць і ці не абумоўліваецца яна сёння самім кіраўніцтвам дзяржавы?

Пётра Рудкоўскі. ***«Беларуская афіцыйная ідэалогія...»***

*Беларуская афіцыйная ідэалогія маскіруе адсутнасць нацыянальнай, мэтапалітычнай ідэі. Тое, што прапануецца дзяржаўнымі ідэолагамі, зазвычай спавядае толькі частка насельніцтва Беларусі. Цяперашняя версія «ідэі» найбольш адпавядае расейскамоўным людзям з крэольска-спартанскай ментальнасцю, якія пераважна абыякавыя да беларускай культуры. Афірмацыя беларускасці, нярэдка дэкляраваная ідэолагамі, ня мае тут асаблівага значэння, кожны разумее, што гэта зроблена дзеля «адчапнога». Каб было больш парадаксальна, побач з ігнараваннем беларускай культуры, ідзе містыфікацыя беларускага народа як крыніцы палітычнай улады і легітымізацыі канкрэтных дзеянняў, у тым ліку і пераследу палітычных апанентаў. Многія непрывабныя і заганныя бакі сучаснай палітыкі*



*лёгка апраўдваюцца ідэалагемамі тыпу: «народ адназначна выказаўся... народ пацвердзіў правільнасць курсу... народ даверыў... народ чарговы раз аказаўся мудры...». Разам з тым гэта ідэалогія замацоўвае паставы неталерантнасці і паглыбляе раскол у грамадстве. Аўтарытарна-калектывісцкая па сваёй сутнасці, яна скіраваная супраць свабоды чалавечай асобы і ўтварае сталую пагрозу для сумлення паасобных беларусаў, бо ўяўляецца як вярхоўная ісціна... У цэнтры Сусвету Дабра і Праўды знаходзіцца беларускі прэзідэнт. Сваю сілу і поспех ён заўдзячвае «народу» — ананімнай безаблічнай масе. Народ-і-прэзідэнт, прэзідэнт-і-народ злучаны ў адно цэлае і ўтвараюць святы сімбіёз...*

Да выказанага вышэй адносіцца і кпін за «круглым сталом» Алега Латышонка, які, як і В. Піскунова, зацікаўлены ў захаванні нацыянальных набыткаў:

*У незалежнай краіне беларусы сталі часцяком карыстацца ангельскамоўнай тэрміналогіяй, а гэта вядзе да блытаніны. Па-ангельску слова «нацыянальны» суадносіцца з канцэпцыямі як нацыяналізму, так і дзяржавы. Але гэтыя дзве рэчы нельга блытаць. Для мяне, беларуса, які нарадзіўся па-за межамі Беларусі, дзяржаўная ідэалогія — гэта не тое самае, што беларуская нацыянальная ідэя. Няма прычынаў разглядаць існую там ідэалогію як нацыянальную. Гэта дзяржаўная ідэалогія, адарваная ад беларускай нацыі. Мяне як беларуса абсалютна не абыходзіць, ці існуе беларуская дзяржава, бо мне ад яе няма ніякай карысці. На маю думку, дзяржаўная ідэалогія нічога не кажа пра беларускую нацыю і беларускае жыццё.*

І тут зноў згадваецца выступ Валянціны Піскуновай. Беларусы-замежнікі дружна выступаюць за развіццё этнакультурнай асновы на Бацькаўшчыне, і акурат гэта на беларускай зямлі і мае для іх неадольную сілу і веліч, што родніць іх і цягне з чужыны сюды.

Перад тым, як закрыць кніжку «Геапалітычнае становішча Беларусі ў Еўропе і свеце», прывяду **вытрымкі з артыкула названага вышэй Анджэя С. Камінскага**, які падаў яго у якасці «Уступу» да зборніка. А што ж пан Камінскі цяпер нам даводзіць? Увага:

*З прамоваў многіх удзельнікаў форума паўстае вобраз дзяржавы, у якой дзяржаўная ўлада, засяроджаная*



*ў руках прэзідэнта-аўтакрата, а таксама ўсёмагутныя спецслужбы прыціскаюць, пераследуюць і маргіналізуюць усялякую (а не толькі дэмакратычную ці нацыянальную) апазіцыю, якая, у адрозненне ад сваіх папярэдніц у Польшчы або Славакіі, ня здолела дагэтуль знайсці універсальных лозунгаў і сімвалаў, што зрабілі б яе духоўным лідэрам нацыі. Таму нічога дзіўнага, што горкая іронія і сарказм так часта ўзнікалі ў дыскусіях, прыхоўваючы пачуццё глыбокай бездапаможнасці. Мой вердыкт, відавочна, будзе засяроджаны на тым, чаго ў прамовах удзельнікаў не ставала. Гаворка тут не пра абмінутыя тэмы, а пра праблемныя вузлы, якія былі забытыя ці разгледжаныя мінімальна, кідаючы тым самым досыць нязначнае святло на стан сучаснай беларускай ідэнтычнасці... Прычын гэтага, пэўна, некалькі, але найважнейшая з іх, на маю думку, палягае ў страце ўласнай гісторыі. Згасанне веды аб айчыннай гісторыі зайшло так далёка, што беларускія сямікласнікі сваімі нацыянальнымі героямі лічаць, поруч з Янкам Купалам і Францішкам Скарынам, — Кацярыну Вялікую (sic!), Суворава і забойцу полацкіх базылян Пятра I (звесткі з апытання, праведзенага ў 1994/1995 навучальным годзе). Затое сярод найвялікшых злачынцаў XX стагоддзя называюць Гітлера і Гарбачова. Злачынствам апошняга, відаць, лічыцца развал Савецкага Саюзу. Прозвішча Сталіна, які колькасцю сваіх ахвяр у шмат разоў пераўзышоў Гітлера, сустракаецца толькі спарадычна. У такой сітуацыі адсутнасць частых спасылак на беларускую гісторыю ў ходзе нашай канферэнцыі мела досыць балючае гучанне. Вядома, гэта можна было паправіць, уключыўшы яшчэ два-тры выступленні на строга гістарычную тэматыку, якія б мелі на мэце палегчыць разуменне сучаснасці, але рэч не ў колькасці запрошаных гісторыкаў, а ў нястачы свядомасці ў выступах палітолагаў, эканамістаў і сацыёлагаў... Барбара Скінэр, прафесар Індыянскага універсітэту, падчас дыскусіі звярнула ўвагу прысутных якраз на гэту нястачу адсылак да мінуўшчыны пры аналізе сучаснасці і складанні прагнозаў на будучыню. Заўвага гэта не выклікала ніякага водгуку. Таму складваецца ўражанне, што нягледзячы на намаганні групы гісторыкаў — такіх, як Генадзь Сагановіч, Андрэй Катлярчук, Алесь Краўцэвіч, — распачатая імі вайна за*



*айчынную гісторыю не разглядаецца як неабходная ўмова перамогі ў барацьбе супраць запаведніка саветызму, які акапаўся ў Мінску.*

*Для большасці суседзяў Беларусі (як і для большасці еўрапейцаў) гісторыя з'яўляецца скарбніцай аргументаў, якія заклiканы абгрунтаваць іх сучасныя палітычныя задумы. Аднак ніводная з «вялікіх» палітычных дыскусій ніколі не абыходзіцца без зваротаў да «голасу продкаў». І якраз гэты голас, а тым больш усвядамленне яго важнасці, быў прысутны ў кожным сур'ёзным палітычным утварэнні, кожным уплывовым інтэлектуальным асяроддзі. ...Заходнія еўрапейцы, а нават і беларусы пачалі на працягу XIX стагоддзя забывацца, што некалі, дзякуючы магдэбургскаму праву, павятоваму самакіраванню, літоўскім статутам і Літоўскаму трыбуналу, межы Еўропы даходзілі да Дняпра.*

*Імперская ўлада знішчыла грамадзянскую супольнасць. Расеец, пераехаўшы гэтую мяжу, упадаў у поўнае аслупяненне, у чым лёгка пераканацца, узяўшы ў рукі хоць бы падарожны дзённік Пятра Талстога (прыезд і апісанне Магілёва). Дзвесце гадоў панавання царскай, а затым Савецкай Расеі нішчылі і нявечылі памяць аб еўрапейскай спадчыне. ...Беларусы, у адрозненне ад многіх іншых нацыяў свету, маюць вельмі багатыя традыцыі самакіравання і грамадзянскай супольнасці. Пазіраючы на сваіх далёкіх продкаў, яны маюць падставы для гонару. Сёння яны ведаюць пра іх мала, але гэта ўжо іншая рэч, якую не так цяжка і паправіць. Нельга, аднак, больш цярпець навязанае педагагічнае невуцтва і хлусню.*

Як робіцца відочным з матэрыялаў міжнароднага форума, свет усё больш бачыць нас, беларусаў, і ўсё больш разумее — нас саміх у гісторыі і нашу гісторыю. Гэта цешыць, аднак гэтага мала, каб задавальняцца, а тым больш спыніць дэструктыўныя працэсы, што наносяць шкоду і замінаюць далейшаму фармаванню і развіццю этнакультурнага поля ў грамадстве, развіццю беларускай нацыі. І мара паэта пасляваеннай эміграцыі Ю. Віцьбіча «дайсці да Беларусі», як ні дзіўна, застаецца на сённяшні дзень неўзабаве неспатоленай марай і большасці насельніцтва ў самой Беларусі, марай усяго беларускага народа.

# БРАТЭРСТВА НА РОЗНЫ ЛАД



*Гутарка паэтэсы і журналісткі Алены Шуваевай-Петрасян з Васілём Якавенкам*

Краіна Арменія паступова заняла ў маёй душы трывалае месца. Я пісаў пра яе, я дакранаўся ў Матэнадаране да гістарычных скарбаў яе, а яшчэ сябраваў з пісьменнікамі і журналістамі, жыў іх праведным і шырокім клопатам, іх смуткам і болем, іх радасцямі. Я хваляваўся пасля распаду Саюза ды абвалу грашовай сістэмы, страты традыцыйных каштоўнасцяў, у тым ліку сувязяў, перажываў за лёс сяброў і іх жыцці. Нядаўна ў чарговы раз мне выпала радасць пабываць там. Ня ўсіх, ня ўсіх добрай памяці сяброў і знаёмых заспеў у жывых — ні Гранта Матэвасяна, ні Гранта Багразяна, ні Максіма Аванесяна... Адышлі ў лепшы свет Сільва Капуцікян, Вардгес Петрасян... Вялікім атрымаўся прагал ва ўзаемасувязях і кантактах — страціў як бы частку сваёй душы. Але знайшліся новыя сябры, і мне прыемна было атрымаць ад маладой і гожай асобы, журналісткі і рускамоўнай паэткі Алены Шуваевай-Петрасян пытанні...

Гэтае інтэрв'ю было надрукавана ў скарочаным выглядзе ў армянскіх газетах «Азат Арцах» за 15 мая 2009 года і ў «Новом времени» за 26 мая 2009 года. Потым у «Дзеяслове» яно друкавалася ў перакладзе на беларускую мову ў поўнай рэдакцыі.

*— Васіль Цімафеевіч, як і калі вы ўпершыню трапілі ў Арменію?*

— Надараецца, лёс робіць чалавеку падарунак.

Неяк рэдакцыя літаратурнага часопіса «Нёман» прапанавала мне, ужо вядомаму тады публіцысту, паехаць у адну з

рэспублік Саюза ССР і напісаць нарыс пра яе жыццё-быццё і розныя гістарычныя альбо этнакультурныя варункі. Той-сёй з літаратараў напіша аб іншых народах і нацыях, а ў цэлым будзе ўтварацца карціна... Акцыя была задумана рэдакцыяй у сувязі з набліжэннем 60-й гадавіны СССР, ішоў тады 1981 год.

Чаму я абраў Арменію? Магчыма таму, што гэтая рэспубліка, у маім уяўленні, была вельмі старажытнай краінай, на што паказвала нат' школьная праграма па гісторыі, і, да таго ж, была экзатычна загадкавай. Яна не мела, праўда, бясконца сумнай і кранальна лірычнай песні «Суліко», якую пасля вайны ў нас, на Палессі, нярэдка можна было пачуць ад маладых жанчын або дзяўчат, ня мела і гучнага ансамбля «Арэра», які захопліваў — браў цудоўна адлюстраваным у сцэнічным мастацтве тэмпераментам народа... Затое згадвалася спявачка Зара Далуханава... Недзе там, за высокімі гарамі Каўказа, невыказна чароўна, прасветлена і прызыўна гучалі яе песні і напевы. А яшчэ захаплялі слухачоў (відавочна не ў адной Беларусі) армянскія анекдоты. Потым, пазней, чытаючы аповесць Гранта Матэвасяна «Твой род», напоўненую народным каларытам і тонкім, як шоўкавая пража, гумарам, я зразумею адно: у анекдотах «Армянскага радыё», незалежна ад таго, складалі іх армяне альбо нейкія іншыя перасмешнікі за армянаў, цудоўным чынам выяўляліся непадробныя інтанацыі і матывы армянскай натуры, знаходлівай і жывой народнай душы.

А што яшчэ? У той надзвычай гарыстай краіне жыў выдатны навуковец-акадэмік, астраном Віктар Амбарцумян, і акурат яму сваім уздымам адпавядала гара Арарат.

Не выключаю, аднак, што ў тым рашучым намеры паехаць у Арменію для мяне адыграла пэўную ролю і інтуіцыя.

Бо там я знайшоў такое, чаго не мела ці страціла ў дрымотных стагоддзях пад наплывам варвараў мая родная Беларусь.

*— Што вы, як публіцыст, думаеце аб трагічных старонках гісторыі Арменіі? Як гэтая краіна прадстаўленая ў вашым аб'ёмістым нарысе «Глаза Наири»?*

— Гістарычна на землях Арменіі складвалася нацыя са старажытнай самабытнай, багатай і самадастатковай культурай, з развітым пісьменствам, навукай. Яна шчыравала ў пазнаннях навакольнага свету і дастала сабе прыстойных



ведаў у розных галінах. Трэба адзначыць глыбока маральныя і гуманныя праявы нацыянальнай культуры Арменіі. Адсюль складваецца ўражанне аб дасціпным і вартым усялякай павагі народзе, на долю якога выпалі пакуты, што ў страшным сне не прысняцца.

У нарысе «Глаза Наири», надрукаваным у «Нёмане», потым у кнізе «На что нам жизнь дана» (М., «Советский писатель», 1991) я імкнуўся вырашыць, уласна, творчую задачу, якая мне тады здавалася звышзадачай, — перадаць міралюбны, стваральны дух народа, паказаць яго спакутаваную і, тым ня менш, багатую і прыгожую душу.

— *Раскажыце пра вашую місію ў Нагорным Карабаху.*

— Мая паездка туды ў 1988 годзе аніяк не падавалася мне адмысловай місіяй. Проста была вострая цікавасць да таго, што там адбываецца. СМІ дазіравалі праўду, штампавалі ідэалагемы, узводзілі турусы на калёсах, пра што ўжо не цяжка было і здагадацца. Там упершыню ў жыцці ў бліскучай камуністычнай краіне я ўбачыў на вуліцах і на плошчы Леніна шчыльныя рады вайскоўцаў, узброеных празрыстымі шчытамі і дубінкамі. Узнікала пытанне: супраць каго яны ашчаціліліся?

Калі я трапіў у Сцяпанакерт, калі адчуў псіхафізічны, скарыстаем гэтае слова, зарад і подых шматтысячнага натоўпу, што мітынгаваў на стадыёне і вуліцах горада, я зразумеў, што маю справу з народам армянскай нацыянальнасці. На мяне, беларускага літаратара, калі там даведаліся, хто я такі, адразу градам пасыпаліся пытанні кшталту: дзе ж Масква і чаму яна не адказвае на рашэнне абласнога Савета Нагорнага Карабаху, які прыняў рашэнне аб далучэнні да Арменіі; дзе, нарэшце, братнія народы Саюза і чаму яны не рэагуюць на разню армянаў у Сумгаіце; урэшце рэшт, дзе ж праўдзівае асвятленне падзеяў у прэсе і чаму хлусяць карэспандэнты, якія называюць народ кучкай бадзягаў, бунтаўшчыкоў, бандытаў? Слухаючы ўсё гэта, мне рабілася не па сабе. Я разумеў, што людзі на гэтых схілах каўказскіх гор апынуліся ў вакууме, засталіся ў палітычнай блакадзе, падобнай на змову супраць іх... І гэта ў момант так званай перабудовы, якая і натхніла на дзеянні разняволены люд.

Рэдактар газеты «Нагорный Карабах» Максім Аванесян прапанаваў мне даць інтэрв’ю. Не буду казаць, што ў той момант я не адчуваў боязі за гэты палітычны крок, але

пераадолеў у сабе перасцярогу, і радасці у той момант таксама не памятаю, толькі халадок прайшоў па сэрцы, і было ўсведамленне гістарычнай, варта зазначыць, асабістай адказнасці падчас выканання грамадзянскага абавязку. Я зразумеў, што маё асабістае знаходжанне на гэтай зямлі сапраўды ператвараецца ў місію. Мне спадобілася апеляваць да малавядомых гістарычных фактаў, якія, магчыма, хавалі таксама і ад народа Азербайджана. Шчыра і, мусіць, ужо наіўна я апеляваў да праўды і справядлівасці.

Газета з тым інтэрв'ю са мной выйшла 31 жніўня 1988 года. Я паказаў, што разумею палітычную сітуацыю і праўду, якая гэтак хвалюе армян Нагорнага Карабаха, выказаў думку, што ў сваіх спадзяваннях на спачуванне і падтрымку звонку армяне не будуць падманутыя. А для мяне асабіста прыемным стаў такі эпізод, які адбыўся, калі я ўжо быў у Мінску. Мяне адшукала незнаёмая жанчына-армянка. Назвала сябе Святланай. Перадала мне бутэльку каньяку. «Ад каго?» — пытаю. — «Ад армянскага народа!» — адказвае з павагаю. Дык вось як?! Дзякую!

Іншая рэакцыя, як вядома, была з боку азербайджанцаў. Публікацыя звалілася на іх, як снежная груда на галаву. Першым памкненнем у іх было абвергнуць мяне. І гэтую адказную місію ўзялі на сябе кіраўнікі пяці творчых саюзаў, пачынаючы, зразумела, з пісьменніцкага саюза на чале з вядомым тады Анарам... Іх скарга... Наш саюз, да яго гонару, лічу, на адным са сходаў разабраўся-такі, што да чаго, і не даў мяне ў крыўду. Сумленне маё было чыстым.

— *Вы нядаўна зноў былі ў Арменіі. Прайшло 20 гадоў, як змянілася наша краіна?*

— Міністэрства культуры і Саюз пісьменнікаў Арменіі запрасілі мяне на Форум перакладчыкаў, пісьменнікаў і выдаўцоў краінаў СНД і Балтыі. Па сутнасці зроблена спроба пэўным чынам аднавіць творчыя сувязі літаратараў, перапыненыя распадам Савецкага Саюза.

Адметным момантам тут з'яўляецца тое, што рамяство перакладу для Арменіі традыцыйнае, даўняе, старажытнае. Таму не выпадкова ў вас на дзяржаўным узроўні і адзначаецца Дзень перакладчыка. Гэта цудоўна!

На жаль, у гэты свой прыезд я не мог убачыць Арменію, як раней. Быў абмежаваны часам. Адно ўсцешыла, што цяпер у гэтай краіне ўпарадкаваліся і сталі больш цеснымі



*Хачкары — узор каменнага дойлідства армянскага народа*

культурныя і, магчыма, гаспадарчыя сувязі з Нагорным Карабахам. Карабах стаў даступней, хаця па-ранейшаму застаецца ў складзе Азербайджана. Прыемна і тое, што Саюз пісьменнікаў Арменіі захаваў свае пазіцыі ў грамадстве, у адрозненне ад сітуацыі з пісьменнікамі ў Беларусі. А горад Ерэван засвяціўся мноствам неонавых рэклам прыватных фірмаў, стаў ярчэй.

У армянаў засталося нямала савецкага патрыятызму, як, урэшце, і нігілізму да ўласных духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў. І гэта было не самае лепшае ў армянскай душы. Разам з тым узрасла і нацыянальная самасвядомасць, прынамсі, у моладзі, што я адзначыў з задавальненнем пры сустрэчах і гутарках са студэнтамі. Гэта трэба цаніць, бо самасвядомасць і гонар за нацыю складаюць аснову для далейшага аздараўлення і развіцця грамадзянскай стваральнай і творчай супольнасці, не толькі ў Арменіі.

*— Па сутнасці ў Расіі засталіся толькі Беларусь і Арменія, якія ніколі не вызначаліся хістаннямі ад аднаго фронту да другога... Што вы думаеце пра гэта?*

— Так, калісьці ўсе народы ў аграмадным Саюзе былі пабрацімамі. Магчыма, і засталіся імі. Разам перажылі найскладанейшыя дзесяцігоддзі, у якіх былі і працоўныя



поспехі, і войны, пакуты, радасці, урачыстасці і, прабачце, усялякія бязглуздзіцы, дэспатызм, самападман… Было, паўтараю, усялякае. Але мне падалося, што ў вашых словах чытаецца адданасць Расіі. Хацелася б ведаць, ці не дапускаецца тут зман у паняццях? Бо народы і рэспублікі аддзяліліся не ад Расіі, фактычна яны выйшлі са складу СССР, членства ў якім было «добраахвотнае». А Расіі-матухне, магчыма, падалося, што яны пакінулі яе.

Не варта атаясамліваць СССР з Расіяй ці, калі хочаце, з Расійскай імперыяй. Праўда, у палітыцы, якую прадвызначае цяпер расійская эліта, усё яшчэ пераважае намер да сцягвання вялікіх тэрыторыяў, і робіцца гэта замест належнага напаўнення жыцця расіян на ўласных землях. Адсюль і нажніцы, якімі, на мой розум, падразаецца само існаванне карэннага рускага насельніцтва і народа наогул. У кожнай імперыі, бяруся зазначыць, абмяжоўваюцца ў правах нетытульныя народы. Гадоў сем-восем таму М. Гарбачоў, выступаючы ў друку, прызнаў свой пралік. Падчас перабудовы, маўляў, трэба было даць рэспублікам больш свабоды… Так, і хіба не падзеі ў Нагорным Карабаху, Прыбалтыцы, Грузіі гэта яму падказалі? Вядома! Ды позна… Я пісаў яму ў 1987 годзе пра непаўнацэннасць перабудовы, яе прабуксоўку і атрымаў ад сакратарыяту ЦК КПСС падзяку за тыя неспакойныя разважанні, нараканні і прапановы… Але ж, калі да справы, то работа матора доўжылася ўхаластую.

Нашай саюзнай дзяржаве катастрафічна не хапала таго, каб літары Канстытуцыі адпавядала жыццёвая практыка. Пакутавалі народы і нацыі. Не ў апошнюю чаргу руская.

— *Рускі народ пакутваў і за сябе і за іншых…*

— Для мяне было б легкадумным сёння аналізаваць адносіны паміж Арменіяй і Расіяй. Сябры ўсё-ткі… У нас — сябры наўкруг… На жаль, аднак, дружба і братэрства — на самы розны лад. Даводзіцца шкадаваць, што дружба абарочваецца дабром не заўсёды і далёка не скрозь. Ствараюцца перашкоды, напрыклад, для Грузіі, а ў складаным становішчы з-за гэтага аказваецца краіна Арменія. І — яшчэ прыклад: у сумніўнай сітуацыі Расія дэкларуе незалежнасць (ад Грузіі) Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, у той жа час «высокія» прынцыпы не дазваляюць ёй пайсці на прызнанне незалежнасці Чачні і Нагорнага Карабаху.





*Васіль Якавенка з Сільвай Капуцікян, народнай паэтэсай Арменіі ў Калоннай зале Дома Саюзаў. Масква, 1994 г.*

— *Вы стрымана гаворыце пра Расію...*

— Я з вялікай павагай стаўлюся да расійскай культуры і сёння, пры адпаведнай павазе да мяне, гатовы падзяліцца хлеб-соллю з кожным рускім пісьменнікам, на роўных рабіць агульную справу. Знешне адносіны ніяк не прадвяшчаюць вайны. Дэкларуецца дружба. Але ж пад напаўпразрыстым мірным флёрам многае ўтойваецца. Падзеі, якія некалі гэтак хвалявалі нашых продкаў, — драматычныя і трагічныя падзеі выпалі на дно. Ілам пакрыліся. І ўсё... Выкінуць былое з памяці вон?.. Прабачце, аднак мне даводзіцца займацца нацыянальнай гісторыяй, і вось тут прыходзяць на памяць радкі з песні:

Нелюдимо наше море,
День и ночь шумит оно.
В роковом его просторе
Много бед погребено.

У глыбіні гісторыі нам страшна заглядваць. Але як жа іначай? Там вытокі нашых сённяшніх падзеяў, лёсаў і нават характараў. Гісторыя Беларусі доўгі час ляжала ў архівах, маладаступных для свайго народа. Тым больш — для суседніх

народаў. Справа ў тым, што ў нас ніколі не было агульных каранёў з Масковіяй альбо Расіяй. Па крыві мы розныя, і гэта паказалі сваімі даследаваннямі ленінградскія і мінскія генетыкі яшчэ ў сярэдзіне 20-х гадоў мінулага стагоддзя. А іншыя даследчыкі пацвердзілі тое ж пазней... Менталітэт у нас розны тым больш.

*— Нават так?.. У чым жа розніца ў менталітэтах? Суседзі... Славяне...*

— Кожны народ мае сваю годнасць — не нова, і я, ведаючы цану сваёму калу́, свайму двару, з павагай стаўлюся да чужога. Адсюль і мая талерантнасць. Наш народ больш прывязаны да зямлі, земляробчай працы, прыкладной (гаспадарчай) творчасці, ён як правіла вызначаўся спакойным, ветлівым норавам, пра што сведчыць багацейшы ў свеце фальклор. Па крайняй меры, жыццёвы лад не быў ні разбойным, ні рабаўнічым. Хоць паходы на землі суседзяў па розных прычынах і былі. А што ва ўсходняга суседа? Там гістарычна арыентацыя склалася інакш.

*— Прабачце, але ж і ў Расіі пераважалі сяляне і патрыярхальны лад...*

— Так, прымаю заўвагу. Тым не менш — наш усходні вялікі сусед атрымаў у спадчыну ад трохсотгадовага татара-мангольскага «уціску», як яго называлі раней, неабсяжныя прасторы ў Еўропе і Азіі. А разам з землямі — усходнюю кроў і, дадам, захопніцкую палітыку. Нездарма ж рускі цар Аляксандр II сцвярджаў, што Расія — дзяржава не земляробчая і не прамысловая альбо гандлёвая, а ваенная, якая абапіраецца на армію і флот.

Між нашымі народамі было шмат кровапралітных войнаў. У жорсткай вайне, навязанай Масковіяй Вялікаму Княству Літоўскаму (а гэта гістарычная беларуская дзяржава) і адначасова Польшчы ў XVII стагоддзі, загінула больш за палову нашых продкаў. Па гарадах — да 97 працэнтаў. Шмат гадоў — бадай, два стагоддзі! — ад самых кацярынінскіх часоў, Беларусь (а раней Літва) былі самай сапраўднай калоніяй Расіі. У ёй, Беларусі — Літве, якая раней з'яўлялася куды больш, чым Расія, развітай краінай, забараняліся адукацыя, пісьменства на роднай мове. Народ апускалі ў морак, у цемру. А пасля антырасійскага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе забаранілі ўжо нават і назву (другую па ліку) Беларусь, і мы



сталі расійскім Паўночна-Заходнім краем. Потым прыйшлі да ўлады Саветы…

*— Вы шмат гаворыце пра гісторыю. Таму адкажыце: ці мае дачыненне да сённяшняга дня тое, што было раней?*

— Безумоўна, мае! Вы пацікавіліся розніцай у менталітэтах двух нашых народаў, і я адказваю. Існуе, напрыклад, акадэмічная думка, што пэўнаму менталітэту народа адпавядае тое ці іншае ўладкаванне ў дзяржаве. І менавіта гэтую думку развіваюць расійскія філосафы, культуролагі. У Расіі больш прыймальная ідэя сацыя-цэнтрызму, практычна – іерархіі, практычна — цара, на якога моляцца і якога абагаўляюць, бо за ім — ісціна, сіла і права. Дэмакратыя тут не мае грунту, каб прыжыцца, што і паказвае нам расійская рэчаіснасць.

Другая мадэль: персона-цэнтрысцкая. Гэта ўжо калі ўладарыць у грамадстве закон, якому падпарадкоўваюцца ўсе, і кароль, і чыноўнік, і бомж. Тут незалежнымі выступаюць галіны ўлады. Тут нормы права і мараль супадаюць… На Беларусі гістарычна складвалася і ажыццяўлялася дзяржаўнае ўладкаванне менавіта па другой мадэлі. Яно сугучна ментальнасці народа і замацавана ў дзяржаўным Статуце ВКЛ яшчэ ў XVI стагоддзі. Адно цяпер таму, ранейшаму, ніякім чынам не адпавядае ўладарная вертыкаль, утвораная спахвацістымі людзьмі. Па-бальшавісцку. Нахрапам. Такое ўладкаванне выклікае неадэкватнасць, дыскамфорт, псіхалагічнае напружанне ў грамадстве. Збоку гэта, мусіць, складана ўспрымаецца…

*— Але ж у вас ужо свая суверэнная краіна…*

— Так, свая, і праўда… На жаль, дэ-юрэ. А практычна – не настолькі. Нам варта б так ці інакш дамагчыся сур'ёзнай ідэнтыфікацыі. Дзеля чаго? Для ходу ў сваю прышласць, у прасветлы дзень! Разумныя людзі здзіўляюцца, чаму мы, беларусы, гэтак занядбалі сваю родную мову. На літаратурных сустрэчах у мяне са шкадобай пыталіся менавіта рускія, што жывуць у Беларусі.

Прывяду адно выказванне па закранутай тэме. Цытую па газеце. Прафесар з Масквы, карэнная масквічка, інтэлігентная жанчына, гэтак ціха і цвёрда сказала: «Ненавижу белорусов — холуйская, рабская нация! Даже язык свой и тот предали!»

Крыўдна… Беларусь, як вы сказалі, суверэнная… Толькі ж, прафесар-масквічка мела рацыю. Адтуль яно гэтак бачыцца.



Праўда, яна не дайшла да сутнасці, да вельмі істотнага пытання: чыімі рабамі аказаліся беларусы? Чаму так адбываецца? І ці не выпадкова і сёння скарачаецца колькасць беларускіх школаў, уразаюцца праграмы выкладання беларускай мовы, скасаваны курс беларускай гісторыі як самастойны прадмет, і кніжкі ў крамах на 90 працэнтаў расійскія. Дык што ж гэта, як не здача пазіцыяў беларускім кіраўніцтвам? Нашы ўлады ўжо самі праводзяць расійскую каланіяльную палітыку! Ці чуў хто-небудзь такое з часоў Нярона?! Нас вядуць у нікуды... Дзе ні імя, ні гонару, ні славы! Калі б ведалі там, у Маскве, прафесары, тая дый іншыя, нашу гісторыю, калі б чулі... Расія, магчыма, не рабіла б сабе свой імперскі калідор на захад. Топчучы суседа...

*— Як вы ахарактарызуеце дзейнасць інтэлігенцыі ў сваёй дзяржаве?*

— Нашу інтэлігенцыю ніхто з дзяржаўнікаў нават не паспрабаваў аб'яднаць вакол натуральнага стрыжня — нацыянальнай ідэі, і яна рассыпаецца. Многія пакідаюць краіну.

Некалі пісьменнік Васіль Быкаў з сумам, але дасціпна заўважыў, што ў нас укралі народ. Дадам, гэтая акцыя крадзяжу не аднадзённая, працэс працягваецца і, каб ён не паймеў зваротнай ходы, робіцца ўсё дзеля ўчэпістых абдымкаў пад слоган: два народы — адзін народ! Чынная маскоўская дама, што купляе ў Англіі каралеўскія палацы і, магчыма, збіраецца закупіць саму Англію, будуе ў Мінску не адзін мікрараён... Але ж гэта толькі семкі ў параўнанні з іншымі суседскімі паслугамі Беларусі.

Як бачыце, павінен вас засмуціць сваімі адказамі. Сяброўства прадугледжвае нешта іншае, як мінімум, павагу да звычаяў, мовы і культуры суседа, павагу да яго суверэнітэта. Буду рады, калі ў вас тут, на армянскай зямлі, з Масквою, стасункі іншыя. Дай Бог!

*— Што аб'ядноўвае Беларусь і Арменію?*

— Безумоўна, перш за ўсё — гісторыя. Мы сябры па няшчасці. Ці ж не так?

*— Магчыма. Армяне цярпелі прыгнёт не адно стагоддзе з боку турак. Палітыка генацыду армянаў склалася канчаткова напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя. У 1896 годзе былі выразаны 300 000 армянаў. Армяне перанеслі генацыд і ў 1905 годзе. Потым, падчас Першай сусветнай вайны, туркі выразалі да 1,5 мільёна армянаў, а 2 мільёны*



*перасялілі на пагібель у пустыні Месапатаміі, забралі іхнія землі. Рэцыдыў генацыду меў месца таксама і нядаўна, у канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя — у Сумгаіце, Баку, у чым і вы ўскосна былі сведкам.*

— Так. І тут і там нас білі... Беларусь за сваю гісторыю перанесла падобнае ліха тройчы. У 1654–1667 гадах, аб чым я ўжо казаў. Потым паўзучы генацыд нацыянальнай культуры, мовы, менталітэту, які працягваўся ўсё XIX стагоддзе, — краіна была ў складзе Расіі. Затым фізічнае і этнічнае знішчэнне ў 30-я крывавыя гады, гады, аддадзеныя на водкуп Яжову, Берыі і самому «айцу ўсіх народаў». У завяршэнне ж драмы і трагедыі беларусаў палітычны інтрыган і гандляр землямі Сталін адабраў у нас у 1940 годзе гістарычную сталіцу — горад Вільню, а ў 1944-м, каб аблегчыць фарміраванне «народнага» рэжыму ў Польшчы, падараваў часоваму ўраду гэтай краіны (у якасці салодкага перніка) спрадвечна беларускую Беластоцкую вобласць, у складзе чатырнаццаці адміністратыўных раёнаў. Менавіта па прычыне падобных абставінаў я і спачуваў армянам у Карабаху, успрыймаючы іх боль, іх смутак, журбу як сваю.

— *Шкада, але ж гісторыі Беларусі я не ведала.*

— Не вам у дакор... Цяпер, калі хочаце, некалькі словаў аб плённым супрацоўніцтве з армянамі. На гістарычных беларускіх абсягах. Справа ў тым, што ў мінуўшчыну, як адзначаюць нашы вучоныя, дваранскае саслоўе, якое ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы называлася шляхтай, аказалася ў палоне міфаў аб сарматах, якія насялялі раней паўднёвыя абшары Украіны. Ствараліся зманлівыя легенды аб уплыве гэтых плямёнаў і на ліцвінаў, палякаў. З'явілася мода на вопратку з арыентацыяй на сарматаў, а практычна — на Усход, на персаў. У складзе мужчынскага ўсходняга касцюма трапляе сюды, у самы цэнтр Еўропы, кунтушавы пояс. Армянскія купцы прывозяць са Стамбулу і Канстанцінопалю праз Галіцыю тавары, сярод якіх асаблівым поспехам у шляхты карыстаюцца даўгія, расшытыя золатам і срэбрам, расфарбаваныя, шырокія і цупкія паясы. Яны хутка сталі сімвалам заможнага жыцця, багацця, прыгажосці, як, дарэчы, і знакам адрознення вышэйшага саслоўя ад іншых. У 30-х гадах 18 стагоддзя князь Міхал Радзівіл (Рыбанька) адкрывае ў Нясвіжы ўласную мануфактуру па вытворчасці кунтушавых паясоў.



Навучае людзей гэтай справе ў Галіцыі, дзе ўжо дзейнічала армянская мануфактура. У хуткім часе адтуль ён пераманьвае ў свой двор маладога, але вопытнага майстра Аванеса Маджаранца (па-мясцоваму — Яна Маджарскага). Дазваляе яму перавезці з Канстанцінопалю сваю сям'ю. Радзівілы потым пераносяць мануфактуру з Нясвіжу ў Слуцк, пашыраюць яе. Ян і яго сын Лявон удасканальваюць вытворчасць паясоў з улікам беларускага каларыту, арнаменту, бытавых традыцыяў. Іх тавар, няўрокам кажучы, прымушае неўзабаве трымцець перад сабой вяльможаў і шляхту. «Слуцкія паясы» засланілі сабой усе астатнія паясы ў Еўропе, яны сталі карыстацца попытам таксама ў Маскве.

Але гэта таксама ж сівая гісторыя. А ў 1940 годзе вялікая калекцыя слуцкіх паясоў, з густам падабраная ў Мінску, дэманстравалася на выстаўцы ў Маскве. З вайной яна там і засталася. З Масквы, дарэчы, не вярнулася ў Беларусь і такая нацыянальная святыня, як Крыж Ефрасінні Полацкай, выкананы ў XIIстагоддзі. У першыя дні вайны, уцякаючы з Беларусі, першы сакратар ЦК КПБ(б) П. Панамарэнка прыхапіў з сабой  найкаштоўныя музейныя рэчы, у тым ліку і Крыж Ефрасінні Полацкай з Магілёўскага музея. У Маскве перадаў усё гэта ў падарунак Сталіну, каб дагадзіць уладару.

*— Пра сённяшні стан адносінаў з Арменіяй што можаце сказаць?*

— У Беларусі ёсць армянская дыяспара; я знаёмы з яе прадстаўніком — прадпрымальнікам Арменам Хечаянам. Ён чалавек дзівосна багатай духоўнай культуры, гісторык, сацыёлаг, публіцыст, нарэшце, каардынатар выдання цудоўнага ілюстраванага часопісу «Анив».

Нашы краіны сёння аб'ядноўваюць тыя ж пачуцці братэрскіх сувязяў і зусім прагматычныя гандлёва-эканамічныя адносіны. За сем гадоў таваразварот узрос у дзесяць разоў, дасягнуўшы прыкладна 30 мільёнаў долараў. Зразумела, гэта не многа. Мне здаецца, што ў міжурадавай камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве павінны б больш актыўна папрацаваць вучоныя і тэхнолагі, прычым з абодвух бакоў.

У 2008 годзе Мінская вобласць прыняла прадстаўнічую дэлегацыю з Сюніцкай вобласці Арменіі. На ўзроўні мэраў гарадоў падпісаны пратаколы аб намерах і прадметным

супрацоўніцтве паміж гарадамі Каджаран — Жодзіна, Кафан — Барысаў, Агарак — Салігорск, Мегры — Мядзел, Гарыс — Нясвіж, Сысіян — Слуцк.

Што датычыцца культурнага супрацоўніцтва, то яно нядаўна таксама стала адраджацца. У 2007 годзе прайшлі Дні армянскай культуры ў Беларусі.

*— Што вас зараз хвалюе як пісьменніка?*

— Сказаць па праўдзе, гісторыя дала добры ўрок ваяўнічай Германіі, і, пасля Другой сусветнай вайны, развязанай Гітлерам, там прыйшлі да пакаяння... У апошні час мяне вельмі дзівіла і азадачвала, калі я чуў ноткі гітлераўскай патэтыкі ў некаторых прамовах, асабліва падчас увядзення расійскіх войскаў на Каўказ. Пры гэтым настолькі нахабна хлусілі палітыкі і міністры, што міжволі ахопліваў сорам. Да чаго дойдзе свет, калі такі нахабны падман, падмена паняццяў і шулерства з боку дзяржаўных дзеячаў? Калі ўсё гэта будзе прынятае за норму ў дыпламатычнай і іншай дзелавой практыцы?.. Далібог, няўтульна пачуваў я сябе! І адкуль гэта ідзе? Магу нагадаць, у свой час на падобную дзейнасць савецкіх палітыкаў звяртаў увагу Рузвельт.

*— Да чаго ж ідзе свет?..*

— Калі б нехта нам вытлумачыў... А зрэшты, і не трэба быць вялікім прарокам. Калі няма каму і як стрымліваць апетыты капіталу... Недзе там зноў дзейнічаюць піраты. Прасцей сказаць, бандыты, на моры і ў акіянах. А хіба расійскіх міліардэраў нельга параўнаць з піратамі? Не злічыць спрытнюг і хапуноў.

Узмацняецца спакуса пераразмеркаваць здабыткі, якія зазвычай атаясамліваюцца з нарабаваным. Таму ў дадатак да ранейшых зладзюг, казнакрадаў, шулераў, бандытаў на вялікай дарозе з'яўляюцца новыя агенты прагнага бізнесу: ганстары, хакеры, рэкеціры, карупцыянеры, кілеры... Заходняя цывілізацыя! А мы пад яе ўплывам... Яе насяляюць у масе сваёй абывацелі. Яна ўсё больш страчвае сваю самадастатковасць у плане высокай маралі. Хацелася б мець больш пэўнасці: а ці ведаюць там дзяржаўныя галовы нейкі шлях да больш высокага развіцця народаў і нацый у Еўрасаюзе?

Нам пра тое, спадарыня, не дадзена ведаць, адно ўзнікаюць пытанні такога парадку: у гэтым стагоддзі мы зусім развітаемся з мараллю ці пачакаем крыху? Заходняя ж



культура абмяжоўваецца, няйначай, прапагандай жаночага цела і сексу за кожным вуглом. Жанчыны прадаюцца. Жанчын прадаюць... Усё гэта вядзе да звужэння і страты інтарэсаў асобы, да чыста жывёльнай насалоды і дзетабоязі, да рэзкага скарачэння дзятвы, а разам і дэсацыялізацыі псіхікі. Навідавоку чалавек здае пазіцыі як разумная і адухоўленая істота.

Заходняя цывілізацыя можа дрэнна скончыць свой век. Не выбавіць яе ад нямогласці і амерыканская праграма падрыхтоўкі да кібервойнаў альбо касмічных войнаў. Наадварот... Жыруючы і спаведуючы толькі кайф ад матэрыяльных выгод і бясплоднай любові яна проста перавядзецца і аднойчы знікне з зямное прасторы. Трывожна й сумна, людцы мілыя, але...

Я неяк гутарыў са сваімі сябрамі з Міжнароднага сацыяльна-экалагічнага саюзу — гэта адметная, са сваім вопытам, традыцыямі грамадская экалагічная арганізацыя; яна дзейнічае на расійскіх прасторах і шырэй. Дык МСаЭС раней меў у Маскве офіс, канструктыўна працаваў, з ім лічыліся чыноўнікі. А зараз церпіць няўдачы, нястачу... Я спытаўся ў энтузіястаў, ці вядомыя ім выпадкі, калі нехта з расійскіх багацеяў дапамог ім — ну, не ім — іншым айчынным эколагам, дапамог, скажам, дзеячам культуры, тэатра... Няма падобных прыкладаў! Магнатаў там — легіён, а Савы Марозавы перавяліся.

Цікава, аднак, навошта хціўцам мільярды? Сваім розумам ніяк не спасцігну. Я раней ведаў і сярод армянаў аднаго алігарха, які заснаваў літаратурную прэмію. Шкада толькі: век яго быў кароткі. Ёсць прыклады таксама і ў нас. Прызнаны беларускі асветнік, матэматык Барыс Кіт... Пасля вайны стаў распрацоўшчыкам вадароднага паліва для касмічных караблёў. Капсула з яго імем замураваная ў сцяне Капітолія, а сам ён потым, пасяліўшыся ў Германіі, зноў вярнуўся да клопатаў аб Бацькаўшчыне, нацыянальнай культуры і яе дзеячах, заснаваў прэмію для беларускіх пісьменнікаў і вучоных. Не алігарх, чалавек не надта багаты, але прыстойны, адданы радзіме, свядомы, сумленны.

Хочацца думаць, што ў армянаў багацце, грошы і патрыятызм таксама знаходзяцца не ў адваротнай прапорцыі.

# Альберт Налчаджан *: «Паглядзі на сябе праз прызму народа»



*Гутарку вядзе пісьменнік Васіль Якавенка*



Родныя, род, народ... Нябачнымі і разам з тым моцнымі нітамі ўсё гэта знітаванае. У нетрах вякоў і стагоддзяў!..

Аднак што ж гэта за з’ява або дзея спектакля? Што за п’еса жыцця, дзе кожны з нас выконвае сваю адметную ролю? Або не настолькі ўжо і адметную?.. Разгадаць, спасцігнуць тайны народа, своеасаблівы ўзор ягонай душы, сукупнай прыгажосці, паводзінаў, дынамікі развіцця, яго моцы і поспехаў, як і няўдач, удаецца не кожнаму. Гэтым займаюцца рэдкія спецыялісты — этнапсіхолагі, а яшчэ філосафы, сацыёлагі... Да іх ліку належыць і мой сябра Альберт Налчаджан, сярэдняга росту, паважны, убелены сівізной чалавек. Прымаю за асабістую ўдачу свае сустрэчы і гутаркі з ім. У кастрычніку 2009 года я пабываў у яго ў гасцях — у Ерэване, а жыве ён у кватэры з вокнамі на гару Арарат —

* Альберт Агабекавіч Налчаджан — вядомы армянскі этнапсіхолаг, доктар псіхалагічных навук, прафесар, старшыня Цэнтра псіхалагічных даследаванняў, кіраўнік даследчай групы ў Інстытуце чалавека (Ерэван) і навуковы кіраўнік навукова-даследчага комплексу «Татэў» (Ерэван), сябра Міжнароднага савета псіхолагаў, Міжнароднай асацыяцыі медыцыны паводзінаў, псіхатэрапіі і кансультавання, Таварыства псіхалагічнага даследавання сацыяльных праблем (ЗША) і іншых навуковых таварыстваў.



гістарычны сімвал Арменіі. Як я перaканаўся яшчэ раней, гэты прыцягальны выгляд гары кожнаму паважаючаму сябе армяніну саграе душу і сэрца — сціскае сэрца і душу, — такі неадназначны нябесны зарад у вяршыні Арарата!

Прайшло крыху болей чвэрткі стагоддзя, як у артыкуле «Глаза Наири» я расказваў сваім чытачам аб Арменіі — дакладней, пра феномен Арменіі. У мастацка-публіцыстычным творы мне спадобілася адлюстраваць гісторыю, раскрыць жыццё і ў нейкай меры саму душу армянскага народа. Потым, вярнуўшыся ў родны куток, я прыступіў да вывучэння падзей і характараў, постацей і лёсаў у гістарычным мінулым Беларусі; стварыў «Пакутны век», раман-трылогію пра беларусаў. Прыпамінаю зараз гэта, каб патлумачыць, чаму я так высока цаню тое, чым займаецца псіхолаг Альберт Налчаджан. Ва ўсякім разе мая гутарка з ім, прапанаваная чытачам ніжэй, ма́е зусім не прыватны характар.

*— Альберт Агабекавіч, як вы лічыце: ці маюць пісьменнікі нейкія адносіны да тэмы вашых навуковых вышукаў?*

— Маюць! Прычым самыя непасрэдныя! Вы ж у сваіх творах адлюстроўваеце думкі, памкненні, раскрываеце духоўнае жыццё народа, а мы, навукоўцы, навуковымі метадамі даследуем яго псіхалогію. Я вельмі цаню тое, што далі свайму народу армянскія пісьменнікі. Без іх мы былі б невідушчымі. Дарэчы, цікава, каго з іх, нашых армянскіх літаратараў, вы чыталі і цэніце, хто вам бліжэй?

*— Адкажу. Я чытаў многіх вашых паэтаў. Каб спасцігнуць лад армянскай душы. З Сільвай Капуцікян быў асабіста знаёмы, дый з празаікам Сяро Ханзадзянам. Але ж да тэмы нашай сённяшняй гутаркі, як мне гэта бачыцца, бліжэй за ўсіх стаіць Грант Матэвасян. Яго проза — гэта сама паэзія і музыка ў прозе, там і гумар, усмешка, падтэкст, і ўсё тое, што складае армянскі характар. Калі чытаў яго кнігу «Твой род» у перакладзе на рускую мову, то кожнай сваёй клеткай адчуваў вялікую павагу да аўтара. Мне было чаму павучыцца ў гэтага майстра, тонкага псіхолага, мудраца (хочацца сказаць — з народа). Шкадую, што ў першыя свае наведванні Арменіі не пазнаёміўся з ім. А потым стала позна... Жыццё мяняе кадры на стужцы быцця. Вось цяпер перада мною вы — дзякуй Богу! І, калі дазволіце, прыступім непасрэдна да тэмы нашае гутаркі.*



*Многія са школьнай парты ведаюць, як з асобных плямёнаў утварыліся народы. Праўда, бываюць і загадкі, вось як з армянскім народам: адкуль ён раптам узяўся ды заззяў багатай культурай сваёй?.. У Матэнадаране — гэтай скарбніцы старадаўніх рукапісаў — няма адзінага адказу на пастаўленае пытанне. Зрэшты, і на еўрапейскім кантынενце не ўсё адчынена позірку — мінулае ў пэўнай меры агорнута мглою. Узяць хоць бы гісторыю славян. Усе нашы плямёны займалі тэрыторыю, якая ахоплівае сённяшнюю Беларусь, Беласточчыну, Смаленшчыну, Браншчыну, часткова Пскоўскую і Чарнігаўскую вобласці. Менавіта тут у XIII стагоддзі ўтварылася Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). Што гэта такое? Ды проста прарадзіма беларусаў — дзяржава, у межах якой і сфарміраваўся этнас, да якога, як бачыце, я таксама належу. Насельніцтва называла сябе ліцвінамі. Зрэшты, і русінамі таксама — па адзінай веры ці хутчэй — па агульнапрынятаму ранейшаму асяродку славянаў.*

— Калі можна, удакладніце, каб было больш пэўнасці: насельніцтва называла сябе ліцвінамі, а не літоўцамі?

*— Не-не, не літоўцамі, зусім не! Бо тыя літоўцы, якія жывуць сёння на паўночны захад ад Беларусі, зваліся тады інакш, і толькі пасля Грунвальдскай бітвы з Тэўтонскім ордэнам яны былі паяднаныя з ВКЛ. А гэта ўжо як-ніяк XV стагоддзе.*

— Дзякую, зразумеў. Этнічна там быў не славянскі, а іншы народ.

*— Балцкі народ... Пытанне да вас, адмысловага спецыяліста: якой вам бачыцца дынаміка дзівоснага пераўтварэння — народа ў нацыю?*

— Даследаванне сутнасці з'явы можна пачаць з канца. Паставім пытанне інакш: якімі прыкметамі павінна валодаць супольнасць людзей, каб мы мелі падставы назваць яе нацыяй?

Як вы разумееце, нацыя павінна мець сваю мову і чым больш развітую, з большымі патэнцыяльнымі магчымасцямі, тым лепш. Нацыя павінна мець свой сектар культуры, які ствараецца пры дапамозе мовы. Культура — гэта вельмі вялікая, калі не знакавая, адметнасць. Нацыя павінна валодаць этнічнай самасвядомасцю. Члены этнічнай супольнасці як мінімум павінны ўсведамляць, што яны належаць



да гэтай супольнасці і без яе страчваюць частку сваёй чалавечай тоеснасці. Гэта значыць, Я ёсць Я таму што Я — армянін. Вы маеце здольнасці, розныя чалавечыя якасці не толькі таму, што Вы ёсць Вы, але і таму, што Вы з'яўляецеся беларусам, гэта значыць, у склад Я альбо Я-канцэпцыі кожнага чалавека ўваходзіць таксама і этнічная Я-канцэпцыя. Гэта частка існавання ў жыцці асобы, і гэта пэўная прыкмета таго, што на вашай зямлі бытуе нацыя. Зразумела, важнай прыкметай яшчэ з'яўляецца агульная тэрыторыя і сама дзяржава — гэта значыць сістэма органаў, што кіруе жыццядзейнасцю супольнасці.

У народнасці ці народа не ўсе гэтыя прыкметы могуць існаваць, але каб этнагенез меў месца, яны павінны стварацца. Значыць, калі перад вамі супольнасць, якая не мае ўсіх гэтых прыкмет, вы як канкрэтны прадстаўнік гэтай супольнасці можаце паставіць перад сабой задачу развіваць у людзей, у сваіх суайчыннікаў якасці, якіх не хапае, і гэта ёсць працэс нацыягенезу. Чаму прынята лічыць, што інтэлігенцыя выконвае найважную ролю ў стварэнні нацыі? У этналогіі ёсць нават такі напрамак — канструктывізм. У ім сёе-тое памылковае і часам гучаць сцвярджэнні, што інтэлігенцыя як свядомая частка супольнасці бярэ ў свае рукі гэтыя этнічныя працэсы, паскарае і накіроўвае іх да вызначанай мэты і на самой справе садзейнічае стварэнню нацыі. Але калі б раней пройдзеных альбо прамежкавых этапаў не існавала, то інтэлігент нічога не мог бы зрабіць.

*— Ну, а роля творчай інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікаў, прасякнутых духам свайго народа? У нас апошнім часам нярэдка выказваецца меркаванне, што беларускую нацыю стварылі пісьменнікі. Гэта, перш за ўсё, Янка Купала — геніяльны паэт. Плячом да пляча з ім ішлі Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі. А раней — Францішак Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч. Літаратура спрыяла ўзнаўленню і развіццю нацыі, раскіданай у крывавых стагоддзях. Цяпер возьмем другі прыклад. Аж да XVII стагоддзя ўключна мы былі донарамі для ўсходняга суседа, і гэта тэма асобнай гутаркі. Але вось на тых расейскіх (калі казаць па-сучаснаму) землях неўзабаве з'яўляюцца Ламаносаў, Глінка-ліцвін, Пушкін... У цэлым фарміруецца руская культура. І вазьміце ўжо Расію XIX стагоддзя! Згодна з маім асабістым досведам і ўражаннямі гэта падобна да*



*На кватэры ў Альберта Налчаджана*

*магутнага выбуху ў творчасці, у самім працэсе станаўлення і развіцця не толькі літаратуры, але і ўсіх іншых галін мастцтваў.*

– Безумоўна. Уплыў рускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры на развіццё сваёй нацыі велізарны.

*— Класічныя віды і формы расійскай культуры глыбока хвалююць і захапляюць, прычым не толькі нас з вамі. А вось ва Украіне аднадушна сцвярджаюць, што нацыю стварыў Тарас Шаўчэнка, паэт, мысляр... Як вам гэта? Прымаем іх сцвярджэнне?.. Прымаем! Украінцам на месцы відней. Адно калі да Беларусі, за першы этап, безумоўна, трэба прыняць Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае (так называлі яго ўжо пасля перамогі пад Грунвальдам). У тым княстве былі ўсе пералічаныя вамі прыкметы нацыі. У дзяржаве ВКЛ па сутнасці сфарміраваліся народ, яго мова, пісьменства, звычаі, вера, фальклор, магчыма, нават ментальнасць, хаця ментальнасць, мусіць, мае больш глыбокія карані. Скажу болей, прыняўшы Статут ВКЛ у 1529 годзе — а на справе гэта была Канстытуцыя, — Вялікае Княства Літоўскае рэальна ўжо тады выйшла на дэмакратычны ўнутрыдзяржаўны лад развіцця!*

— Нават так? Вашы меркаванні лагічныя і з майго боку ніякіх прынцыповых заўваг не выклікаюць. Толькі я падоўжу сваю думку.



Народ вялікі, але калі ў ім няма адметных асоб — этнагенез згасае. Нярэдка гэтаму садзейнічае бюракратызм, які звязвае ініцыятыву. Тады народ трапляе пад уплыў іншых народаў, маючых больш моцных лідэраў.

У грамадстве, надараецца, не любяць таленавітых людзей, пераследуюць, забіваюць. Гэтую з'яву этнолагі назіралі ў адсталых народаў Інданэзіі... А ў Расіі — прыклад Пушкіна, Лермантава і іншых. Адна з трагічных старонак Арменіі заключаецца ў тым, што таленавітых людзей — Месропа Маштоца, Маўсэса, Харэнадзі, Давіда Анахта і іншых — пераследавалі свае ж суродзічы, не давалі тварыць свабодна, вольна, у поўную меру сіл і здольнасцей. Але ж калі чалавек надзелены воляй, ён усё роўна стварае, не звяртаючы ўвагі на перашкоды і нязручнасці. Праўда, не кожны гэтак зможа. Цікава, ці назіралася падобная з'ява агрэсіі да таленавітых асобаў у гісторыі беларускага народа?

*— Не, а зрэшты... Страты ёсць і не малыя. Праўда, не зразумела, каму іх прыпісваць, сваім аглаедам, альбо асталопам савецкага часу. З сярэдзіны 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі выйшла з друку манаграфія Мікалая Крукоўскага «Логіка прыгажосці», у БДУ імя Леніна пачала паспяхова фарміравацца школа беларускай эстэтыкі. Яе прадстаўлялі ўсё новыя і новыя кнігі (апошняя — «Бляск і трагедыя ідэалу. Філасофскія эцюды пра ідэалы, дэмакратыю і суверэнітэт». Беларускі кнігазбор, 2004), а яшчэ каля двух дзясяткаў аспірантаў прафесара Крукоўскага. Аднак з-за таго, што вучоны абапіраўся на працы Гегеля і час ад часу рабіў спасылкі нават на Шпенглера, а гэтых карыфеяў філасофскай думкі не вельмі шанавалі ў Маскве, — шлях да поспеху ў перспектыве яму быў перакрыты. Да таго ж яшчэ праявіў і «наватарства»: бы той дзівак, пачаў сур'ёзны навуковы разгляд фізічнай прыгажосці чалавека наогул, а неўзабаве прыступіў і да разгляду прыгажосці жаночага цела — нонсенс у савецкай эстэтычнай думцы! — яго сталі трэціраваць, усяляк абыходзіць, замоўчваць. Ён жа з пачатку 90-х гадоў пачаў выкладаць студэнтам філасофію на беларускай мове. Звольнілі ўрэшце сваю беларускую годнасць. Пры такіх акалічнасцях беларуская школа эстэтыкі распалася. Незадоўга да распаду Саюза.*



*Ці вось такое. На самай мяжы гэтых апошніх стагоддзяў складвалася і набірала поспех у педагагічным універсітэце імя Максіма Танка ў Мінску школа беларускай культуралогіі, з арыентацыяй на нацыянальныя матывы. Школа была з'арыентаваная зноў жа на патэнцыял супольнага суб'екта — нацыі. Узначальваў школу прафесар Аляксей Рагуля, чалавек энцыклапедычнага досведу. І што вы думаеце?.. Знайшлося дастаткова прыхільнікаў абстрагаванай навукі, каб гэты напрамак, гэты курс, гэты прадмет даследаванняў ліквідаваць. І як тут не ўсклікнуць: даруй ім Божа, бо яны не ведалі, што робяць!*

*Так што схільнасць есці, рэзаць таленавітых можна знайсці не ў адных толькі армян.*

— Дзякуй, падтрымалі, што называецца! І каб скончыць сваю думку. Пераход ад узроўню народа на ўзровень нацыі азначае развіццё і ўмацаванне самасвядомасці, развіццё мовы і ўсіх аспектаў супольнай культуры, стварэнне дзяржаўных органаў, якія сваёй уладай пакрываюць увесь тэрытарыяльны анклаў і ўсе падгрупы народа — тады і завяршаецца падобны пераход. Усё гэта патрабуе псіхалагічнага аналізу.

*— Можа здацца дзіўным, але ж мы ў Беларусі — у масе сваёй — гэтых палажэнняў яшчэ не засвоілі. Па розных прычынах. Адна з іх, як мне бачыцца, у касмапалітычным дыктаце ідэолагаў ад улады, у штучным, як і раней, падзеле творчай і навуковай эліты на часткі, адна з якіх выслужваецца перад чыноўнікамі, а другая — больш незалежная... Ну, і векавая дыскрымінацыя беларускай мовы, якая доўжыцца і сёння. Нам вядома, што роднай мовай, якую Ф. Багушэвіч трапна назваў апраткай душы, штодзённа карыстаецца нязначная доля грамадзян, зразумела, не ўлічваючы тых, што размаўляюць на «трасянцы». Яна складаецца з мешаніны, на ёй размаўляе большасць. Беларускую мову ЮНЕСКА занесла ў Атлас тых моў, якім пагражае небяспека знікнення. Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь яшчэ ў 2003 годзе прызнаў падобнае становішча з роднай мовай процізаконным і прызваў улады, якія не выконваюць закон аб мовах у краіне, выправіць становішча. Заклік праігнараваны.*

*Вы, Альберт Агабекавіч, закранулі вельмі хвалюючую для нас тэму — гэта грэбаванне сваім духоўным вопытам,*



*здрада нацыянальным традыцыям, увогуле — нацыі. Колісь у Вялікім Княстве Літоўскім, палучаным з Польшчай, вышэйшае саслоўе — шляхта — дзеля эгаістычных выгод выдыгала перад польскімі ўладамі. Але тады мова і культура ўчэпіста трымаліся за вясковую грамаду. Пазней быў клопат у Расеі — падмінаць нацыянальную культуру — у камуністаў, савецкіх уладаў... Дый на тых не скончылася. Сёння ў суверэннай і нібыта ўзорнай, згодна з афіцыйнай версіяй, дзяржаве — я кажу пра Беларусь, асабліва стараюцца парусець міністры, міліцыянты, амапаўцы. Экіпіраваныя, з тварамі, закрытымі маскамі, палююць за маладымі патрыятычна настроенымі людзьмі, пераважна тымі, хто размаўляе на беларускай мове.*

— Калі падыйсці да этнагенезу прынцыпова — у свеце мала завершаных нацый, і працэс «выспявання» можа быць вельмі доўгім. Ён працягваецца сёння і ў Арменіі, і ў Беларусі, Расіі... У Еўропе — таксама, хаця і прынята лічыць, што нацыягенез там з сярэдніх вякоў ужо атрымаў свае формы.

*— Мне згадваюцца працы Гумілёва. Як вядома, Гумілёў падагуліў і сфакусаваў ідэі, якія разглядаліся яшчэ Платонам у старажытнай Грэцыі, або нават арабам ібн Халдунам у XIV стагоддзі. Вы гэта знаеце. У Беларусі ў гэтым жа плане паспяхова працуе той жа Мікалай Крукоўскі. Толькі Гумілёў усім вядомы і таму — галоўны. У сваіх кнігах ён разглядае саму дынаміку этнагенезу, выдзяляе ў развіцці нацый перыяды пад'ёму і спаду як адметную з'яву, вызначае «пасіянарнасць» этнасаў... Вы падтрымліваеце яго тэорыю?*

— Канешне, я арыентуюся на працы Гумілёва. Этнагенез пачынаецца тады, калі ў супольнасці з'яўляюцца энергічныя, адораныя, актыўныя асобы. Па Гумілёву, яны — не што іншае, як пасіянарыі. Яны прапануюць новыя ідэі, ставяць перад народам новыя мэты, вядуць народ за сабой, і народ уздымаецца да новых культурных вяршынь.

*— А ці з усімі тэзісамі Гумілёва вы згодныя?*

— Прызнаюся, мне цяжка пагадзіцца з версіяй Гумілёва ў тым раздзеле, дзе ён устанаўлівае рамкі цыклічнасці і лічыць, што 1500 гадоў — поўны перыяд развіцця нацыі, пасля чаго пачынаецца спад. Вывучаючы гісторыю розных народаў, бачыш іншае. Падобная абсалютызацыя магчымая хіба ў выпадку, калі народ развіваецца спакойна, спакваля



праходзіць праз усе этапы развіцця. Але ж ці часта такое бывае, каб суседзі дазволілі народу распараджацца сабой. Калі ўзяць Арменію, то колькі разоў туркі перашкаджалі армянам нармальна жыць і развівацца, завяршыць нацыягенез як след! Магчыма, у вас, у Беларусі, тыя часы былі іншымі?

*— Лёсы нашых народаў падобныя. Калі на беларускіх землях утварылася Вялікае Княства Літоўскае — усё ішло на ўздым, культура была не ніжэй той, што ў Еўропе. Адно мы цярпелі ад нашэсцяў і войнаў з усходу, з боку Масковіі. Каб выстаяць ад накатаў зтуль, аб'ядналіся з Польшай у Рэч Паспалітую, прычым, захавалі сваю Канстытуцыю. На той час — стратэгічны акт. Гэта дало нам свае плюсы і мінусы разам. Мінусы ў тым, што мы, праваслаўныя, па сутнасці не ўратаваліся ў складзе Польшы ад акаталічвання і паланізацыі. Плюсы... Супраць Масковіі быў створаны-такі стрымліваючы нейкі час яе кулак. Затым, у канцы XVIII века, — Расія, Аўстрыя, Прусія, аб'яднаўшыся, раздзёрлі і падзялілі Рэч Паспалітую. У выніку на нашу долю прыйшлася ўжо каланіяльная залежнасць ад Расіі. Працэс этнагенезу перарваўся. Ён і ў складзе СССР замаруджваўся, ламаўся. Цяпер... я правільна вас зразумеў? — пры больш спрыяльных умовах нацыя, як той пабураны дом, можа аднаўляцца, этнагенез па-новаму набірацца сілы, развівацца і мацнець?*

— Так, безумоўна! Калі толькі пасля вымушанай дэпрэсіі (па прычыне этнацыду) захаваўся патэнцыял. Тэрмінам этнацыд вызначаецца працэс дээтнізацыі. Зразумела, без гэтага ў вас не абышлося. Мяркуючы па вашых словах, цяпер не этнагенез, а этнацыд працягваецца. Дзіўна! А вось ці быў на вашых землях генацыд, як у Арменіі, што значыць фізічнае вынішчэнне часткі або ўсяго насельніцтва?

*— Патлумачу пану. Усё XIX стагоддзе на беларускіх землях, бясспрэчна, быў этнацыд. Нічым не прыкрыты, свядомы і жорсткі. Не прызнавалі нашу беларускую мову, дарэчы, і фізічна распраўляліся, асабліва калі народ паўстаў у 1863 годзе супраць царскага прыгнёту. Было... Так, было, скажу я вам. Сплыло... Адраджэнне этнасу пачалося ў канцы XIX–XX стагоддзях. Асабліва калі слабейшай стала царская Расія з-за рэвалюцый і войнаў. Стварылі Беларускую Народную Рэспубліку без бальшавікоў, а потым — БССР — пад бальшавікамі. З трыццатых гадоў, аднак,*



*пайшоў адкат адраджэння — нацыягенезу. Падсеклі пад корань усю інтэлігенцыю, знішчалі лепшых, як цяпер гэта бачыцца, прадстаўнікоў народа. У ліку нявінных ахвяраў, дарэчы, значыцца і бацька маёй мацеры — мой дзед Васіль.*

— Уяўляю... Гэта мне, як і многім, знаёма, гэта, канешне, ужо не толькі этнацыд у культуры...

*— Цяпер, Альберт Агабекавіч, хацелася б пачуць, як вы ўяўляеце будучыню нацый у нашым расхістаным свеце. Ці доўга нацыі будуць трымацца, мадзець, як Беларусь, напрыклад? Нагадаю, што згодна з дэкларацыяй ЮНЕСКА, разнастайнасць нацыянальных моў і культур, ёсць абавязковая ўмова для развіцця і прагрэсу.*

— Прадбачыць будучыню цяжка. У свеце адбываюцца супярэчлівыя працэсы. З аднаго боку, з'яўляюцца нацыянальныя дзяржавы і ў іх праяўляецца нацыяналізм, этнацэнтрызм... Этнацэнтрызм, дарэчы, гэта ўяўленне чалавека аб сваёй нацыі як аб чымсьці галоўным. Скажам, свая нацыянальная культура мае пэўную вартасць і ў нейкіх адносінах лепей іншых культур. Што ж, гэта рэальнасць. Гэтую пазіцыю трэба паважаць. Калі я хачу належаць да свайго народа, я павінен хоць у нейкай ступені быць эгацэнтрыстам. Але горш, калі чалавек наогул адмаўляе чужое, гэта ўжо хвароба, гэта небяспечная рэч. Падобныя з'явы былі ў немцаў, турак...

*— Пэўна. І не толькі ў іх. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба.*

— Вядома, да чаго яны прывялі. Усё гэта трэба ўлічваць... А толькі ж з іншага боку — у свеце пашыраецца глабалізацыя і інтэрнацыяналізацыя жыцця. І, калі паспрабаваць зрабіць правільны прагноз на будучыню, мы павінны ўлічваць хаця б наступнае. Этнасы і расы ўзніклі па законах прыроды. Этнасы альбо перадэтнасы ўжо існавалі ў далёкім мінулым — 15–20 тысяч гадоў таму, калі з'явіўся на зямных абсягах чалавек сучаснага тыпу — гомасапіенс. Гэты чалавек першапачатково яшчэ не ўсведамляў усёй дынамікі жыцця, этнагенезу, не разумеў, як усё адбываецца, і не мог умешвацца ў ход падзей. Паўтараю, этнагенез — натуральны працэс, і паралельна могуць працякаць асіміляцыя, дэасіміляцыя насельніцтва — усе гэтыя з'явы назіраюцца ва ўсім свеце. Аб чым даводзіцца шкадаваць?.. Калі чалавек умешваецца ў натуральныя працэсы, мы нярэдка маем штучныя, а часам



і трагічныя наступствы. Вось глядзіце: згодна з дадзенымі этналогіі на пачатак нашага летазлічэння — дата нараджэння Ісуса Хрыста — на зямным шары існавала больш 20 тысяч этнасаў. А зараз іх усяго каля 2 тысяч. Этнічная гісторыя свету — гэта няўмольнае вынішчэнне этнасаў. Вынішчэнне ў выглядзе дээтнізацыі, асіміляцыі пры фарміраванні больш значных супольнасцей, і, як вядома, нават фізічнага вынішчэння. Гэта таксама натуральны працэс, які не вельмі паддаецца ўплыву, трэба сказаць, хоць на ўзроўні дзяржаў нейкія захады ўсё ж прымаюцца.

Цяпер пра будучыню чалавецтва. Я мяркую, што логіка рэчаў не будзе абвергнутая і, каб не скараціць сабе жыццё, чалавецтва будзе жыць асобнымі нацыямі. Нацыя застанецца адзінкай чалавечай супольнасці. Канешне, унутры нацый ёсць падэтнасы, а звонку — суперэтнасы, скажам, суперэтнас славянскіх народаў, куды ўваходзяць усходнія славяне, паўднёвыя славяне і іншыя. Я мяркую, што яны будуць існаваць. Суперэтнас можа нават умацоўвацца, зыходзячы з тых ці іншых мэтаў і намераў сваіх народаў.

Урэшце, улічваючы законы прыроды, скажу: той, хто гаворыць, што нацыя — састарэлае паняцце і што яна не патрэбная, маўляў, лепш стаць касмапалітам і да таго падобнае, той, на мой погляд, моцна памыляецца. Нельга пагарджаць прыроднымі этнічнымі працэсамі.

*— Калі ласка, разгледзім «этнас» і «асобу». Якім чынам этнічная культура і ментальнасць народа фарміруюць асабістыя якасці? І ці становіцца іншым псіхалагічны камфорт нейкага там асобна ўзятага чалавека, калі ён адрываецца ад нацыянальнай культуры — па ўласнай волі альбо не па ўласнай, калі ўваходзіць у іншы этнічны асяродак?*

— Падам тут прынятыя ў навуцы меркаванні. Кожны чалавек, індывід, нарадзіўшыся, фарміруецца пад уплывам культуры навакольнага асяроддзя, а гэта і мова, і звычаі, прывычкі, і мастацкая літаратура, і філасофскія ўяўленні, школа... Ён ператвараецца ў асобу менавіта пад уздзеяннем гэтага культурнага асяроддзя. Таму мы гаворым пра этнічную сацыялізацыю чалавека. Калі вы пазбавіце чалавека сваёй роднай этнічнай культуры, ён, магчыма, будзе наследаваць толькі расавыя характарыстыкі, уласцівыя яго народу, таму як адным са складнікаў этнічнасці з’яўляецца



і расавая прыналежнасць. Праўда, чыстыя расы рэдка сустракаюцца. Дык вось, калі пазбавіць чалавека этнічнай культуры, застаюцца толькі антрапалагічныя рысы. Гэтага недастаткова для фарміравання асобы. Калі вы пазбаўляеце чалавека сваёй нацыянальнай культуры і даеце яму іншую культуру, чалавек у значнай меры будзе ўжо іншай асобай.

*— Прыкладам...*

— Ну вось нарадзілася дзіця ў сям'і армяніна, але толькі ў Расіі. Ходзіць у рускую школу, навучаецца стэрэатыпам паводзінаў рускіх. Дапусцім такі выпадак, калі ніякіх сувязяў са сваім народам у яго няма. То будзе рускім чалавекам, і яму цяжка будзе адаптавацца, знайсці поўнае ўзаемапаразуменне з этнічным армянскім асяродкам.

Калі народы маюць неабмежаваныя зносіны і агульныя рысы ў культуры фарміруюцца, гэта добра, але ўсё-такі ўзаемная адаптацыя павінна мець межы. Чаму? Кожны этнас са сваёй культурай — гэта цэннасць, якая ўзнікла ў працэсе развіцця чалавецтва. Зазірні ў сябе праз прызму народа, зразумей яго і сябе, забяспеч сваю будучыню! Навошта губляць свой твар? Ведаеце, калі народ думае на сваёй роднай мове, ён больш жывы, прадпрымальны, больш творчы, чым калі ён думае на мове другога народа. Тым больш, калі другую мову ён вывучыў пазней, ужо ведаючы сваю родную мову. Значыць, родная мова неяк арганічна звязана з псіхікай чалавека, мова становіцца часткай сутнасці чалавека, і на гэтай мове пачуцці, думкі, перажыванні перадаюцца самым спантанным чынам.

*— Нам на працягу двух, па меншай меры, стагоддзяў «старэйшыя браты», як з аднаго, так і з другога боку прывівалі комплекс непаўнацэннасці, не прызнавалі і забаранялі мову, адымалі імя ў народа, я ўжо казаў... Адсюль вынікае пытанне: ці павінна было ўсё гэта адбіцца на псіхічным стане беларусаў? І — калі так, то якім чынам?*

— Уплыў незваротны! Усе гэтакія працэсы адбіваюцца на псіхіцы, псіхічным стане народа, нават адно толькі змяненне імя — этноніма. Народ мае ясную, выразную самасвядомасць, калі называе сябе так, як называў сябе спрадвечна, гэта значыць традыцыйна. Аўтаэтнонім датычыцца непасрэдна самасвядомасці і абумоўлівае яе. У армян ёсць назва армяне, але мы называем сябе хайкі, што звязана з нашым даўнім прабацькам Хайкам. А вось армянамі нас называюць іншыя,



чужыя, і нават гэта можа аказваць на этнас уплыў. Калі я размаўляю з кімсьці з армян, я не кажу: я армянін, не, я — хайк. Гэта мой і наш аўтаэтнонім. І гэта замацавана ў сама-свядомасці. Больш за тое, калі пэўны этнас трапляе пад уладу іншага, пануючага этнаса, пануючы этнас стварае цэлую сістэму адмоўных стэрэатыпаў аб гэтым народзе. Адметны працалюбівы народ, калі трапляе пад уладу гвалтаўніка, становіцца і слабым, рабалепным, і бяздарным, тупым. Але што тут ужо трагічна? Калі падначаленне гэтага народа доўжыцца доўга, то падначалены народ пачынае глядзець на сябе вачыма пануючага этнаса. Ён сам сябе прыніжае тымі ж навязанымі стэрэатыпамі. Гэта самае страшэннае! І адсюль фарміруецца комплекс непаўнацэннасці. Праяўляецца ён нават у навуцы, літаратуры. Скажам, беларус робіць значнае адкрыццё, стварае адметную рэч. Астатнія беларусы могуць не паверыць, што ён сапраўды быў здатны на гэткае вынаходніцтва. А адкуль ты ўзяў гэта? У каго запазычыў?.. З'яўляецца няўпэўненасць у сваіх сілах. Ці заўважалі гэта вы там, у сябе? Апынуцца пад панаваннем другога народа для самабытнага этнаса празмерна непрыемная рэч.

*— А вы ведаеце, няўпэўненасць у сваіх сілах у нас ператварылася ў хваробу, імя якой: нацыянальны нігілізм. І гэта жудасна! У нашым друку нярэдка апелююць да яго, жаляцца на яго, клянуць яго, а ён сабе жыве і, відавочна, ніколькі не мізэрнее. Шкада!.. І зноў жа не пустое пытанне: як мяняецца менталітэт народа з адмаўленнем ад роднай мовы і нацыянальнай культуры? Нярэдка можна пачуць нават з вуснаў адукаваных людзей: якая розніца, на якой мове я размаўляю?*

— Розніца вялікая! У агульным кантэксце мы гэтае пытанне ўжо абмеркавалі. Мовы задаюць псіхічны і культурны змест. Кожная мова індывідуальная ў гэтых адносінах. Вельмі многа страчвае чалавек, калі адмаўляецца ад роднай мовы. І што тут надзвычай важна. Мова — не проста тэхнічны сродак зносін. Мова — гэта характар мыслення, структура мыслення. Мова ж уплывае на структуру асобы, і таму светаўспрыманне ў розных народаў featuresрознае, яно ідзе таксама ад мовы.

Мовазнаўцы даўно стварылі паняцце лінгвістычнай адноснасці. Чаму? Заўважана, што свет ўспрымаецца рознымі народамі па-рознаму, у прыватнасці, пад уплывам розніцы



ў мовах. Мова — нешта накшталт сваёй этнічнай прызмы, праз якую народ глядзіць на з'яву. Нават эксперыменты праводзіліся. Жанчына жыве ў Японіі, але амерыканка па паходжанні. Ёй прапануюць тэму: напішы аб жаночай эмансіпацыі, аб жаночым руху. Калі яна піша аб адным і тым жа на розных мовах, яна выказваецца па-рознаму і выказвае розныя ўстаноўкі. Культура ў цэлым і мова ўплываюць на яе мысленне. Чалавек можа нават не ўсведамляць, што на розных мовах аб адным і тым жа прадмеце ён гаворыць не заўсёды адно і тое ж. Вось такі глыбокі і тонкі ўплыў аказвае мова на псіхіку чалавека. Таму лепей захоўваць сваю мову, але ведаць і іншыя мовы.

*— Нядаўна мы з сябрам, едучы ў Маскву, апынуліся ў адным купэ вагона з маладым чалавекам, мінчанінам, гадоў трыццаці ці крыху болей... Правільны авал усёй галавы з кароткай стрыжкай, на твары — паважлівасць, лагода і воля, хутчэй за ўсё гэта быў нейкі прадпрымальнік. Дык вось, паслухаўшы, як мы з калегам размаўляем паміж сабой, ён ажывіўся і са здзіўленнем прамовіў: «Даўно не даводзілася чуць, каб вось так блізка і натуральна людзі размаўлялі на чыстай беларускай мове! А я ж ведаў і адвык. Размаўляю па-руску, хоць лічу сябе беларусам і падчас перапісу насельніцтва ў калонцы «Родная мова» напісаў — беларуская. Шкадую, што дзеці мае не вывучаюць родную мову — проста няма дзе, беларускія школы пазачынялі, вышэйшыя навучальныя ўстановы даўно перавялі на рускую мову, таму многія бацькі і грэбуюць беларускай мовай. Быццам няма ў ёй перспектывы».*

*Пасля гэтых слоў у нас са спадарожнікам склалася поўнае ўзаемаразуменне; калі мы заўважылі, якая страта наносіцца народу і нацыі, калі іх вымушаюць адмовіцца ад сваёй роднай, вытрыманай і выпеставанай у вяках мовы, — церпіць абавязкова культура, мяняюцца светаўспрыманне і менталітэт людзей — малады чалавек прывёў яскравы, як падалося нам, прыклад: «У мяне брат афіцэр, дваццаць гадоў жыве ў Маскве. У апошні час мы, да свайго жаху, пачалі заўважаць, якім ён стаў чужым! Менавіта чужым стаў па настроі душы, вобразу думак, светаўспрыманні, мы ўжо з ім — як не родныя. А дзеці яго ставяцца да нас, беларусаў, звысака, з пагардай. І вось толькі цяпер, у ходзе бяседы з вамі, я зразумеў, у чым справа».*



Налчаджан тут жа ўсклікнуў:

— Прыклад, скажу я вам, Васіль Цімафеевіч, проста выключны!

*— Нарэшце, да вас, псіхолага, яшчэ такое пытанне, парадаксальнае і, бадай, рытарычнае: ці можна выхоўваць патрыётаў сваёй краіны, бацькаўшчыны на мове суседняй дзяржавы і яе прыярытэтаў?*

— Ведаеце, парадокс гэты смешны. Усё-такі лепей на сваёй мове. Іншая справа, калі існаваў Савецкі Саюз, тады паняцце савецкі патрыятызм было не пустым паняццем. Сапраўды быў такі патрыятызм, і я, як памятаю сябе, асабліва ў маладосці, быў савецкім патрыётам. Аднachасова быў і армянскім этнічным патрыётам. Так і ў вас, у Беларусі, павінны быць свой этнічны патрыятызм. Цяпер нехта можа спытаць: які патрыятызм у чалавека пераважае? Канешне ж, этнічны, калі чалавек не асіміляваўся поўнасцю, не стаў касмапалітам, такія рэчы таксама існуюць.

*— А ці можна звязваць этнічную псіхалогію народа з яго гісторыяй, з тым, што гэты народ перанёс, перажыў? Ці можна сказаць, што сумныя падзеі, сацыяльныя ўзрушэнні, катастрофы, як напрыклад Чарнобыльская катастрофа, адбіліся на псіхалогіі цэлага этнаса?*

— Так, абавязкова, узрушэнні пакідаюць свой адбітак на псіхіцы кожнага народа. Адбіваюцца як перамогі, так і няўдачы, паражэнні. Бо псіхіка народа, яго менталітэт, характар, здольнасці, псіхічны склад у агульным выглядзе развіваюцца дынамічна, яны змяняюцца на працягу гісторыі. Перамога вядзе да развіцця ўзвышаных пачуццяў, нацыянальнага гонару. А працяглае перажыванне нацыянальнага гонару можа стаць рысай характару. З іншага боку, калі у народа трагедыі, многа няўдач, паражэнняў, гэта ўжо пакідае іншы адбітак на характары — няўпэўненасць у сваіх сілах, комплекс непаўнацэннасці, агульны страх, а ў побытавым зрэзе можа быць і жабрацтва. І нават культура церпіць змены, з’яўляецца схільнасць да журботных песнапенняў — напрыклад, шэраг армянскіх пісьменнікаў, пачынаючы ад старадаўніх, стварылі журбу па радзіме. Склалася традыцыя. Разумееце, з аднаго боку гэта рэалістычна, у нас, армян, трагічны лёс, нас знішчалі, прыціскалі і гэтак далей — культура павінна адлюстроўваць рэальнасць, і гэта добра. Але калі журбота паглыбляецца і не мінае, культура прымае



не вельмі добры напрамак развіцця, што ўплывае на характар народа.

Этнацыд з боку Асманскай імперыі пакінуў глыбокі адбітак на культуры і на псіхіцы армян. Гэта — безумоўна! Мы кожны дзень успамінаем трагічныя падзеі, мы кожны дзень нешта прапануем, нешта патрабуем. Мы хочам справядлівасці. Мы прыйшлі да высновы вельмі дрэннай для ўсіх: у свеце няма справядлівасці! Людзі лічаць, што свет справядлівы, і кожны атрымлівае па справах, але для армяніна гэта не так, свет несправядлівы да мяне, да майго народа, у свеце няма справядлівасці. Адно калі чалавек не верыць у існаванне справядлівасці, ён затарможаны, ён абмяжоўвае сябе ў магчымасцях і больш асцярожна ставіць перад сябой вялікія мэты, хаця пры іншым стане душы мог бы іх дасягнуць. Маўляў, яго праца не будзе ацэнена...

На жаль, усё гэта прыводзіць да пэўнай пасіўнасці, а можа выклікаць адваротную рэакцыю — імкненне змяніць свет. Сярод армян ёсць людзі, не здолеўшыя вырашыць свае ўнутраныя праблемы, якія робяцца грамадзянамі свету, імкнуцца змяніць агромністы свет. Дык вось, нядаўна адзін з нашых дзеячаў заявіў, што можа змяніць псіхічны склад турэцкага народа, зрабіць яго больш справядлівым, самакрытычным, каб ён прызнаў сваю крывавую гісторыю. Божа мой, ды як жа вы зменіце чужы народ, яго менталітэт і ўсё, да чаго ён вякамі быў схільны? Калі ён карыстаецца дабротамі сваіх злачынстваў... Гэта ж немагчыма! Чалавек, які ўвесь прагнуўся, бачачы злачынства, не можа папярэдзіць яго, калі сам не ўцягнуты...

*— Калі я па каліву збіраў гістарычны матэрыял для кніг «Надлом», «Пакутны век», сустракаўся з людзьмі, сведкамі мінулых падзей. У чым я пераканаўся? У душы народа па сённяшні дзень не знятыя сцяжкі, і яны нясуць з сабой па жыцці страх, ухіляюцца што-небудзь успамінаць і расказваць, давярацца, асабліва чужому, хаця ад жахлівых трыццатых — саракавых гадоў прайшло столькі часу!*

*Рабы пажадалі застацца рабамі*
*І ў рабстве сваім сілкавацца далей.*

*Гэтыя гаркавыя радкі аб сваім народзе належаць Лявону Эмілату.*



*І як бы ў развіццё гэтай думкі ў яго гучыць:*

*Народ, народжаны ў няволі,*
*Жадаць не будзе прагна волі,*
*А будзе моўчкі ўсё трываць*
*Ды хлеба лепшага чакаць.*

*На жаль, гэта праўда. Наша грамадства не аднавілася ў той ступені, у якой павінна б аднавіцца, атрымаўшы сваю краіну, свой суверэнітэт. Страх не знайсці абароны ад дэспатызму і быць без віны пакаранымі, боязь страціць працу і сродкі да існавання, боязь за сябе, дзяцей і ўнукаў застаецца ў душах — татальна і з'яўляецца тормазам у псіхіцы, памкненнях, у дзеяннях насельніцтва...*

— Псіхічна і душэўна здаровы сталы чалавек — гэта такі чалавек, які рэалістычна, цвяроза глядзіць на свет, правільна ацэньвае небяспеку, перавагі, магчымасці і ставіць перад сабой упаўне дасягальныя мэты. Але калі ў мяне моцная трывога і боязь, я гэтага не магу рабіць. Калі чалавек увесь час перажывае трывогу і боязь, ён ужо не зусім здаровы чалавек. Трэба памагчы яму пазбавіцца ад гэтага цяжару, а гэта можна зрабіць толькі шляхам паказу лепшых дасягненняў свайго народа і прапаганды справядлівасці. Трэба перавыхоўваць людзей, трэба працаваць, каб пераадолець змены ў псіхіцы, якія адбыліся пад цяжарам гнятлівага мінулага.

*— На мой погляд, у палітычным, эканамічным, сацыяльным жыцці беларусаў сёння ёсць адна непрыемная дзея. Нітуецца яна з дэмаграфіяй. Карэннае беларускае насельніцтва з кожным годам усё памяншаецца — у асноўным па прычыне нізкай нараджальнасці і вялікай смяротнасці, а таксама з-за ўплыву радыяцыі пасля Чарнобыльскай катастрофы. Да гэтых прычын мушу далучыць яшчэ і неадэкватную нашаму грамадству палітыку сацыя-цэнтрызму ў дзяржаве, кіраўніцтва якой зышло з нацыянальнай платформы само і сцягвае іншых. Беларусь пакінулі і пакідаюць дзесяткі, калі не сотні тысяч найбольш адораных і адукаваных людзей, пераважна маладых.*

*Дзяржава падтрымлівае нараджэнне трэцяга дзіцяці і болей. Толькі ж урад, адчуваючы, што гэтакага стымулявання мала, знайшоў і другі, больш радыкальны, як падаецца яму, спосаб выправіць становішча.Толькі ж той спосаб,*



*як кажуць, от лукавого! І мне цяпер нярэдка па начах не спіцца.*

— Патлумачце, чаму?

*— З галавы аніяк не выходзіць кітайскі квартал, што плануецца для забудовы. У цэлым — кітайская забудова і асталяванне чужакоў у Мінску.*

— У вашай сталіцы? Кітайскія кварталы… Навошта?

*— Так… Раней запрашалі ў Беларусь расіянаў і прадстаўнікоў іншых бліжэйшых народаў, чыё жыццё там недзе неўладкаванае, абяцалі для іх умовы лепшыя, чым для беларусаў. І прыязджалі ды прыязджаюць ад 30 да 40–50 тысяч чалавек штогод. Цэлы горад дадаецца! Хто яны нам? «Міратворцы», бачыце, казакі, і, да прыкладу, нашчадкі яіцкіх казакаў-старавераў… Далей болей утвараецца камуналка ў краіне, што вядзе да яшчэ большай сацыяльнай нестабільнасці, наколькі я разумею. Дысананс! Ад яго ж мне мулка робіцца. Штосьці рогам упіраецца ў сэрца, бытта пры страце радзімы. Віртуальны Кітайскі квартал… гандлёвы… за ім — жылы. А ці тое яшчэ будзе, як спяваецца ў песні, калі ў Беларусі пачнецца будаўніцтва расійскай па сутнасці атамнай станцыі? Адсюль і пытанне: як вы, дасведчаны чалавек, этнапсіхолаг, ставіцеся да факта рашучага павелічэння маргіналаў у краіне?*

— Эва! Я моцна азадачаны вашым паведамленнем. Штосьці нечуванае ў практыцы! Падобныя факты ніяк не вяжуцца з сапраўднай нацыянальнай палітыкай. Штогадовы наплыў такой вялікай колькасці мігрантаў не можа не выклікаць неспакою ў карэннага насельніцтва. Уладам патрэбны працоўныя рукі?

*— Нельга сказаць. У нас беспрацоўных і лішніх людзей на прадпрыемствах шмат. Няма таго пачуцця, што людзей уздымае Няма таго, што яднае і што кліча.*

— Ведаеце, ступень этнаграфічных і этнапсіхічных наступстваў ад падобнага наплыву залежыць увогуле ад прыроды шукальнікаў шчасця, скажам так. Калі б гэта былі свае, беларусы, якія вяртаюцца на гістарычную радзіму, то такі прыток можна толькі вітаць! Калі ж гэта прадстаўнікі іншых славянскіх народаў, гатовых асімілявацца ў масе беларусаў, то і ў гэтым выпадку, як мне здаецца, няма сур’ёзных прычын для трывогі. І толькі калі сярод мігрантаў шмат прадстаўнікоў іншых этнасаў ды яшчэ прадстаўнікоў іншых



рэлігійных канфесій — становішча спраў пагаршаецца і не можа не выклікаць сур'ёзнай заклапочанасці сярод тых, хто з'яўляецца прыхільнікам моцнай і згуртаванай нацыянальнай дзяржавы. Ці маюць месца падобныя працэсы ў Арменіі?.. Яны назіраліся ў нейкай меры ў гады бальшавізму і савецкай улады, але зараз іх няма. Сёння ў Арменію перасяляецца невялікая колькасць прадстаўнікоў нашай дыяспары, і гэта вітаецца як урадам рэспублікі, так і народам, паколькі такім шляхам умацоўваюцца сувязі з нашымі замежнымі суайчыннікамі. Мы нават сваіх не ўсіх у стане прыняць, не можам іх асіміляваць.

*— Баюся, што ў нашых уладаў іншыя задумы, і далёка не ўсе ў нас усведамляюць, што робяць. Некаторыя ж мае суайчыннікі скачуць, напрыклад, пад дудку маскоўскага праваслаўнага патрыярха Кірылы: маўляў, яднайцеся, бо няма ні беларускага, ні ўкраінскага народаў, ёсць адзіны рускі народ! Уга!..*

*Я ведаю, Альберт Агабекавіч, што ў Беларусі вам бываць не даводзілася, тым не менш, вы добра начуты пра беларусаў. Сёе-тое, верагодна, чыталі, мелі стасункі з нашымі людзьмі... Якое ўражанне склалася ў вас ад нашага народа? Які сукупны вобраз выпрацаваўся ў вашым уяўленні?*

— Вы ведаеце, я сустракаў беларусаў, калі служыў у арміі і калі працаваў у Расіі. Я сустракаўся таксама са студэнтамі, аспірантамі. У мяне ў цэлым спрыяльнае ўражанне, гэта вялікадушны і міралюбны народ, які вельмі цярпіма адносіцца да іншых людзей. Беларусы сімпатычныя таксама знешне. Прычым, у мяне ўражанне такое, што яны добрыя салдаты, добра выконваюць ваенны абавязак, таму я думаю, што у вас, у Рэспубліцы Беларусь, добрая армія. Гэта таксама вельмі важна. З аднаго боку — лагода, з другога боку — баявы дух і гатоўнасць бараніць сваю краіну. Але скажу і адмоўнае: ніводны беларус, калі мы мелі зносіны, не праявіў ведання сваёй мовы; нешта ж я не чуў яе, калі яны размаўлялі між сабой. Асіміляваліся?.. Асіміляцыйныя працэсы ў вялікай краіне былі відочныя. Гэта называлася тады інтэрнацыяналізмам і было ўмовай для «пераходу ў камунізм», мір праху яго! Але калі размова ідзе аб асіміляцыі, з дзвюх застаецца адна мова, так не бывае, каб дзве мовы абточваліся і абагачалі адна адну, таму што мовы сінтаксічна і



не толькі сінтаксічна ўтвараюць розныя сістэмы. Мовазнаўцы сцвярджаюць, што мовы зліваюцца не могуць, скажам, армяна-турэцкую мову стварыць немагчыма, мы можам узяць турэцкія словы, але калі мы з тых слоў састаўляем сказ, гэта будзе армянскі сказ па сваёй структуры, хаця і з іншамоўнымі словамі. Карацей, перамагае ў працэсе асіміляцыі адна мова. А што, хіба мая мова горшая?! Можна ж даказаць, што мая мова мае і пэўныя перавагі!

*— Альберт Агабекавіч, у заключэнне проста нельга не сказаць: беларускі, армянскі дый украінскі народы выйшлі з гістарычных выпрабаванняў, з тысяч і тысяч самых сур'ёзных перашкод на шляху свайго развіцця, таму псіхічна аказаліся аслабленымі. Проста дзіўна, як яны яшчэ не згубілі сваёй этнічнай і культурнай адметнасці. Адсюль пытанне: што рабіць? Якой павінна быць палітыка дзяржавы і якімі, скажам, павінны быць намаганні грамадства, каб не вярнуцца ў пячоры ў стане поўнай дэградацыі?*

— У цэлым нашым нацыям патрэбны капітальны «рамонт», этнічная сацыялізацыя, каб тыя, хто адарваўся, дасягнулі псіхалагічнай тоеснасці са сваім народам. Этнічная сацыялізацыя — ператварэнне чалавека ў паўнавартаснага прадстаўніка свайго этнаса. Гэты працэс у нас ідзе саматужна. Часам з-за непаразумення ім пагарджаюць. У школе няма прадметаў, арыентаваных на выхаванне паўнацэнных прадстаўнікоў нацыі. Сярод фактараў, спрыяючых ператварэнню дзіцяці, школьніка ў асобу, якая б адпавядала інтарэсам сваёй нацыі, важную ролю павінны адыгрываць гістарычна ўзніклыя сімвалы. У сукупнасці гэта прадметы, вобразы альбо дзействы, у якіх у сціслым выглядзе падаецца тая ці іншая інфармацыя аб этнасе. Гэта згусткі этнічнай інфармацыі.

І вось калі дзіця з малых гадоў успрымае гэтыя сімвалы, калі яны становяцца часткай яго ўнутранага свету, яно уцягваецца ў этнічную сацыялізацыю.

Задача нацыянальнай дзяржавы заключаецца ў тым, каб сабраць разам этнічныя сімвалы, выбудаваць іерархію, падаць так, каб была магчымасць выкарыстаць іх у сямейным выхаванні, школьнай і пазашкольнай асвеце. Этнічнымі сімваламі могуць быць і сцяг, і геаграфічныя аб'екты прасторы, і гістарычныя асобы. Дзіцяці цяжэй успрымаць абстрактныя рэчы, ідэі, яму лягчэй запомніць сімвалы. І трэба



фарміраваць уяўленне аб мінулым продкаў, вобразы якіх узнімаюцца да нас праз пакаленні; аддаленае мінулае прывяло да жыцця непаўторны этнас і тыя, хто застаўся ў мінулым жыцці, непрыкметна ўплываюць на нас.

*— Ці не ў гэтым падтэкст афарызма: «Жыццё кароткае, але Радзіма вечная»?*

— Іменна. Этнічная памяць праяўляецца праз калектыўнае несвядомае і нярэдка праяўляецца ў складзе інстынктаў, перадумоў для таленту, геніяльнасці, у характэрных формах паводзінаў. Чым больш я вывучаю псіхалогію, тым мацней упэўніваюся, што пакаленні продкаў, аддаленыя ад нас на тысячы гадоў, фактычна знаходзяцца побач з намі, таму і не абыходзіцца без іх уплыву, безумоўна, усё гэта перадаецца праз тонкія матэрыі. Калі чалавек разумны, ён ведае і цэніць сваіх продкаў. Цаніць продкаў — учынак, скіраваны на тое, каб цаніць сябе і абумовіць сабе перспектыву. Тут пэўны сэнс і, калі хочаце, сама дабрадзейнасць. Я шчыра, ад усяго сэрца вітаю беларусаў і жадаю ўсім вам заставацца вартымі сваіх продкаў і сваіх гістарычных каштоўнасцей!

# НЯХАЙ ПАРУПЯЦЦА ЗА НАС...



*Роздум пасля форуму аб устойлівым развіцці*

У сталіцы Беларусі Мінску адбылася прыстойная і даволі значная падзея. Яе сутнасць не так проста зразумець, а тым больш выкласці ў звычайных словах. У рамках праведзеных у краіне (і мала кім заўважаных) мерапрыемстваў у кастрычніку 2010 года пад дэвізам *«Да поспеху — праз стратэгіі інавацый і партнёрства!»* прадстаўніцтвамі ААН/ПРААН і ЕС была наладжана ІІ-я Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя *«Устойлівае развіццё тэрыторый. Мясцовыя павесткі 21-га стагоддзя ў Беларусі: вопыт, праблемы, перспектывы»*.

На першы погляд, для культурнага ўладкавання жыцця дый нашай ці то прытомленай, ці змардаванай супольнасці ўсе гэтыя «інавацыі» і «павесткі — позвы» 21-га веку падаюцца нечым надуманым, падкінутым сюды, у наш прасцяг, з Захаду. Яно і нязвычнае, дый падобнае нават на выклік, трывожыць. Тым часам і адмовіць прагрэсістам ПРААН ды ЕС у вынаходніцтве і прапагандзе праекта не выпадае. Няхай праводзяць мерапрыемствы, калі ім трэба, няхай практыкуюцца, калі гэта на іхнія сродкі; балазе з тых сродкаў і нашай мосці ў міжнароднай «гульні» штосьці перападзе. Шкоды не будзе...

Аднак, калі глянуць трохі глыбей, калі засяродзіцца на прадмеце клопату — усё выглядае куды больш суладным і матываваным, прынамсі, на самім праекце ляжыць знак надзённасці. Тэма пошуку на самай справе выглядае глабальнай, бо скрозь патрабуецца захаванне здавальняючых прыродных умоў жыцця, у ліку якіх і чыстае паветра, і чыстая вада, а да таго ж неабходны яшчэ ўзнаўляльныя рэсурсы. У выкананні такіх перадумоў і ляжыць прынцып устойлівага развіцця. Таму сёння гэты клопат ужо не павінны выклікаць сумненняў ні ў багацея, ні ў грамацея.



Варта зазначыць, аднак, што падыход уладаў нашай краіны да ідэі ўстойлівага развіцця зафіксаваны 2004 годам, калі на дзяржаўным узроўні быў прыняты дакумент аб нацыянальнай стратэгіі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Я не стану тут пераўвасабляцца ў эксперта і аналізаваць, што там ёсць, чаго няма. Толькі ж гэтакае ўстойлівае, пазначанае ашчаднасцю, забяспечанае наяўнымі матэрыяльнымі і духоўнымі рэсурсамі, розумам і шырокім грамадскім клопатам развіццё ніадкуль яшчэ само па сабе не бралася і нікому ў рукі не падала з неба. Адно калі на яго мы ўважаем, яно павінна зрабіцца часткаю нашай душы, каб потым скрозь і ва ўсім зыходзіць ад нас як уласны набытак. Уяўляеце, тут позвы павінны ісці ўжо на тое, каб памянялася наша самасвядомасць.

Гэта ўсё асэнсавана і ацэнена лепш заходняй цывілізацыяй, і яна, цывілізацыя, зыходзячы з гуманных прынцыпаў, падала нашай маладой краіне, яе супольнасці руку падтрымкі і дапамогі. Першы крок зроблены акурат Федэральным ўрадам Германіі; прынамсі, адтуль па розных праграмах развіцця рушыла у Беларусь фінансавае забеспячэнне розных новых адукацыйных, сацыяльных, экалагічных (энергетычных) праектаў, як і ўвогуле садзейнічанне рэгіянальнаму развіццю ў краіне.

А метад далейшага чыну — дэманстрацыя і перадача заходняга вопыту ў комплексным вырашэнні задач на месцы, вывучэнне магчымасцей і далейшая падтрымка пры ўмове, што за гэта бярэцца мясцовая грамадзянская ініцыятыва. Беларусам належыць адно той чынны заходні вопыт асэнсоўваць і, творча ўспрымаючы, прымяняць.

Раней, акурат у 2007 годзе, адбылася першая міжнародная канферэнцыя па тэме «Мясцовых павестак 21»; тады па праекту рупіліся 16 мясцовых ініцыятыў, але гэта, зазначу, не ўсе, а толькі тыя, з якімі працавалі замежныя партнёры. Цяпер жа, паводле інфармацыі эксперта «Праграмы падтрымкі Беларусі» Алега Сівагракава, над уласнай «павесткай 21» самастойна працуюць больш за 60 школ, вёсак, гарадскіх раёнаў і ў цэлым гарадоў. Школа № 16 горада Оршы, напрыклад, ператварылася як бы ў сапраўдны экалагічны бастыён з легіёнам вучняў-эколагаў, творцаў. Найбольшае прызнанне ў выглядзе добрых слоў, ганаровых дыпломаў і грамат, сувеніраў на II канферэнцыі акурат і атрымала гэтая



сярэдняя школа; адзначаны ўзнагародамі таксама асобныя школы Шчучынскага, Браслаўскага, Касцюковіцкага, Клецкага, Бярозаўскага раёнаў, горада Полацка, гімназіі — № 19 у Мінску, № 10 у Маладзечна, а таксама гімназія ў Ветцы...

II Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя на тэму «Устойлівае развіццё тэрыторый...» праходзіла ў канферэнц-зале Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Йёханэса Рау. У ёй узялі ўдзел прыкладна 100 чалавек, пераважна работнікаў сістэмы адукацыі, настаўнікаў. На адкрыцці выступілі Антоніус Брук, кіраўнік прадстаўніцтва ААН, і Петер Дзетмар, Пасланнік ФРГ у Беларусі. Яны віталі грамаду, падкрэслілі сугучнасць часу як «павесткі 21», так і самой канферэнцыі.

Грунтоўна і кампетэнтна, адкрыта і шчыра выступіў на пленарным пасяджэнні мой даўні прыяцель Аляксандр Рачэўскі, начальнік упраўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Адчувалася непадробленая зацікаўленасць тэмай таксама і ў паведамленні Анатоля Багдановіча, намесніка дырэктара Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі. Гучалі даклады, практыкаваліся панельныя дыскусіі, было шмат змястоўных стэндаў дзе дэманстравалі школьны досвед і майстэрства, а таксама прыборы па энергазберажэнні і сонечнай энергетыцы, праводзіліся абмеркаванні розных пытанняў па секцыях — два дні ўдумлівая, карпатлівая праца на канферэнцыі радавала. Праўда, удзельнікі штораз адзначалі, што на месцы ім вельмі цяжка шукаць і знаходзіць партнёраў, што мала хто з раённых і гарадскіх адмыслоўцаў іх разумее, нават у аддзелах адукацыі... Большасць начальнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў наогул не бачаць патрэбы ў іхніх навацыях, у іх «самадзейнасці». Вось тут і ствараў пад незразуметую ў дзяржаве ідэю сваю групу прыхільнікаў альбо, тым больш, грамадзянскую супольнасць...

Згодна з праектам па некаторых раёнах былі адкрыты і «дзейнічалі» ўжо колькі гадоў на грошы дабрадзейных партнёраў цэнтры ўстойлівага развіцця з павесткай 21, але толькі ж і на гэтыя цэнтры мясцовае кіраўніцтва не звяртае ўвагі. І ці выпадкова тут выявілася, што кіраўнікі і актывісты цэнтраў не знаходзяць для сябе прадмета занятку і, бы сляпыя, пастаянна тыкаюцца з аднаго боку ў другі, ад экалогіі



да сацыяльнага развіцця і наадварот... Зрабіць нешта пэўнае і патрэбнае не ўдавалася.

Цяпер патлумачу: я асабіста, як, зрэшты, і грамадскае аб'яднанне Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль», якое больш за 20 гадоў узначальваю, не былі ўдзельнікамі праекта ЕС/ПРААН «Устойлівае развіццё тэрыторый. Мясцовыя павесткі 21...» Мяне, тым не менш, ласкава запрасілі на выніковую канферэнцыю, за што я ўдзячны аргкамітэту, а сказаць шчыра, дзеля такога запрашэння былі і падставы.

Ніхто сёння, напярэдадні 25-й гадавіны Чарнобыля, не стане аспрэчваць ролі нашых грамадскіх аб'яднанняў, як і такіх неабыякавых і палымяных асоб як Васіль Несцярэнка, Алесь Адамовіч — у той ахоплены радыяцыйным полымем час. Нагадаю, да прыкладу, што БелСаЭС «Чарнобыль», які выпускаў даволі дзёрзкую і папулярную газету «Набат», альбо Беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля», заснаваны медыкамі, шукалі, дзе б і чым дапоўніць намаганні дзяржаўных установаў у змяншэнні наступстваў ад апраменьвання людзей радыяцыяй і якраз тут нямала зрабілі.

На гэтай канферэнцыі, аднак, разам з добрымі пачуццямі ў мяне з'явілася і маркота. Прычынай таму — пытанні без адказу або, дакладней, патанні, на якія адказ мяне зусім не задавальняў.

Ну, вось чаму ў аснову праекта аўтары паклалі «Мясцовыя павесткі 21», іншымі словамі, задзейнічалі ўсяго пры ўсім ніжэйшы ўзровень грамадства?.. Магчыма, сціпласць Дзмітрыя Фрышына, кіраўніка праекта, не дазволіла яму адначасова выйсці і на верхні узровень, падключыць да справы дзяржаўны генералітэт? Прывяду словы з праграмнага бюлетэня яго паплечніка А. Сіваграката, эксперта, а ў гэтым выпадку яшчэ і кансультанта праекта ЕС/ПРААН: **«Принятием в 2004 году на государственном уровне «Национальной стратегии устойчивого социально-экономического развития Республики Беларусь» были созданы основы для процессов Местной повестки 21».**

Дык вось што: і не хацелася б, але варта паставіць пад сумненне такое сцвярджэнне; яно аказалася далёкім ад праўды. Чаму? Бо тым «стратэгічным» дакументам ніякіх перадумоў на месцы, у рэгіёнах, не было закладзена. Стра-



тэгію прынялі, і на яе забылі. Забылі, бадай, усе, апроч адной экалагічнай установы — Мінпрыроды. А калі б у рэальным жыцці было па-Сівагракаву, то і карціна руху згодна з «Мясцовымі павесткамі 21» была б іншая, прынамсі, куды больш каларытная.

Урэшце, няхай сабе і так: паспадзяваліся, зрабілі пралік у вызначэнні перадумоў да праекта... Але чаму ж тады для ўдзелу ў рэспубліканскай канферэнцыі па ўстойлівым развіцці не запрасілі членаў ураду, міністраў, іх намеснікаў? Тэма ж абмеркавання (тым больш **адзін раз на тры гады**) і важная і актуальная. Пашукаў на сваё пытанне адказу, і прабачце, папрок бяру назад — запрашалі...

Так, запрашалі адказных асобаў зверху, але цяпер, мусіць, не той час і не той выпадак, каб з урадавых вышыняў спусціцца да грамадскасці. Гэта калісь на канферэнцыі, калі ў паўнюткай зале Дома літаратара мы разам з беларускімі і ўкраінскімі вучонымі і літаратарамі абмяркоўвалі лёс Прыпяці і праблемы Палесся, побач з намі сядзелі тры міністры, два акадэмікі ды яшчэ партыйны функцыянер. І гонар ім акурат зрабіла не тое, што яны абаранілі раней ухвалены імі і ўжо дзеючы праект па спрамленні і абвалаванні Прыпяці, асушэнні поймы (што прывяло б да ператварэння Палесся ў пустыню), а наадварот, тое што яны прыслухаліся да сцвярджэнняў розуму і сумлення і адмовіліся ад свайго праекта — спахваціста, у той жа момант, у той жа зале падпісалі дакумент пра сваю згоду з рэзалюцыяй навукова-практычнай канферэнцыі, якая ставіла крыж на заганным чыне.

Няўдзел прадстаўнікоў урада ў міжнародным па сутнасці форуме па ўстойлівым развіцці «Мясцовыя павесткі 21» ні пра што ўжо не сведчыць, што пасавала б камусьці да твару.

Як мне падалося, на пасяджэннях у канфераэнц-зале, выдатна выконвала сваю місію менеджэра Соф'я Савелава, дасціпная і энегічная асоба, дацэнт кафедры кіравання Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Менавіта яна пастаянна ўводзіла ў вушы сваім слухачам, што ёсць *экалогія душы, адукацыя душы* і чаго патрабуе ад нас сістэма ўстойлівага або збалансаванага (у англійскім варыянце) развіцця тэрыторый.

Дакладна не ведаю, як там за межамі, на Захадзе, — што людзі разумеюць пад словам «тэрыторыі» і ў якіх сэнсах гэта



слова ўжываюць. Калі ж ісці ад выказванняў і пажаданняў добрай памяці Йёханэса Рау, Федэральнага прэзідэнта Германіі, якія ён выказаў бацькам нямецкіх дзецей, пры нейкай нагодзе ў царкве, яго імя, дарэчы, мы згадалі вышэй, то ў нас няма разыходжанняў у індэнтыфікацыі родных абшараў і тэрыторый, што носяць пэўныя ўласныя назвы, бо для немца Рау, безумоўна ж, як і для многіх з нас, было ўласціва глыбокае пачуццё сваёй зямлі і радзімы; ён казаў — наказваў суайчыннікам, што варта давесці сваім дзецям:

*Скажыце ім, што нашы вытокі — гэта нашы мацеры і бацькі.*

*Скажыце ім пра тое, што без ведаў гісторыі і традыцый немагчыма пабудаваць прышласць, вартую чалавека.*

*Скажыце ім пра тое, што, выпраўляючыся ў іншыя краіны, важна мець радзіму ўнутры сябе. Таму што калі не маеш дому, не маеш і суседзяў.*

Адно ў нас, тутэйшых, з душаў якіх, па прычыне гістарычных абставін, вытравілі пачуццё свайго дому і радзімы, такі спрошчаны і нейтральны выраз «устойлівае развіццё тэрыторый» не вырашае пытання збалансаванага і ўстойлівага развіцця краіны, народа (супольнасці) і ўвогуле нацыі.

Ці ж можна ігнараваць гісторыю этнасу, яго культуру, традыцыі, ментальнасць і яшчэ тое-сёе не меней істотнае? Падобна, аднак, што гэта рытарычнае пытанне. Дый у размовах пра турыстычныя сцежкі не рэдка называліся помнікі, гістарычныя і культурныя, і гаварылася пра іх важнасць. А я тым часам думаў пра мову. Да чаго ж мы, нячысцікі, яе занядбалі! І ці ж яна менш вартая ўсяго таго і ўсіх тых, названых і неназваных, помнікаў на турыстычных сцяжынах? Адмаўляць ёй у гэтым ніхто не асмеліцца. Тым больш не зразумела, чаму тады ніхто з удзельнікаў форуму пра яе не сказаў ні слова? Адна са спанатраных актывістак, між іншым, седзячы за сталом прэзідыума і згадваючы, як магло б гучаць на рускай ці ўкраінскай мовах нейкае там зусім непадуладнае перакладу англійскае слова, забыла, што, апроч тых, рускай і ўкраінскай, ёсць, бытуе, жыве яшчэ і беларуская мова...

А ці можа быць у нашай краіне ўстойлівае, вольнае, суверэннае развіццё і культурнае ўпарадкаванне без мовы тытульнай нацыі? Тэрыторыі ж можна засяліць рускімі, ну няхай расіянамі, як гэта практыкуецца цяпер усё часцей у



нашым азёрным кутку на Віцебшчыне. Недахоп насельніцтва на тэрыторыях можна папоўніць казахамі, казакамі, што і робіцца, — урэшце, кітайцамі… І тэрыторыі будуць неяк далей «развівацца», хоць помнікі, як і дух беларускасці, пацiху знікнуць зусім. І, хто падкажа, чаго толькі вартая будзе такая краіна, якая дапусціць замяшчэнне свайго карэннага насельніцтва і згубіць нацыянальныя духоўныя каштоўнасці, згубіць сімвалы і сімволіку свайго пракаветнага ўладкавання на гэтай зямлі?

Да разумення гэтакай этнакультурнай катастрофы, чулася мне, бліжэй за ўсіх стаяла ў сваіх разважаннях і рэміністэнцыях (але ж не выказала таго) ўніклівая спадарыня Савелава. Адукацыя душы, пра якую яна аргументавана гаварыла, не можа быць без этнічна-патрыятычнай адукацыі і ўмацавання духу ўсяго народа, а найперш — тытульнай нацыі. Без гэтага ў краіне так ці інакш нарастаюць дэструктыўныя працэсы — чуе волю і пасяляецца, бы тля на дрэве, гэтак званая масавая культура, дэградуе супольнасць і народ спакваля ператвараецца ў бязбацькавічаў, па-Айтматаву — манкуртаў, ужо на безаблічных і бясколерных «тэрыторыях».

Тым часам на Беларусі ў міністэрскіх лабірынтах выспявае новы «нацыянальны даклад» аб устойлівым развіцці. Чым ён будзе адрознівацца ад папярэдняга? І ці не прыпадзе яму на долю тое, што і папярэдняму дакладу, — занядбанне, забыццё? Хто тут парупіцца за ўрад? Сам урад?..

Альбо ўсе і ніхто?..

Тым часам ў Нацыянальную праграму асобным пунктам упісваецца такая пярліна: «Оптимизация внешних миграционных процессов с учётом национальных демографических интересов». Па мудрагелістасці, па супярэчлівасці сацыяльных і палітычных сэнсаў — чым гэта не шэдэўр? Ды ён жа — не што іншае, як закамуфляваны ў чыноўніцкія рэгістры знак бяды. Знiміце з фразы псеўданацыянальную ахоўную покрыўку, і вы ўбачыце бліскучы Кітайскі квартал, што прасціраецца на ўсю-усюсенькую Беларусь. Нават не ў перспектыве, а ўжо сёння. Бо ён знаходзіць тут сваё канцэнтраванае выяўленне як факт безадказнай, разбуральнай дэмаграфічнай, з дазволу сказаць, палітыкі.

У Германіі напрыклад, пытаннямі ўстойлівага развіцця штодзённа займаецца спецыяльна ўтвораны сакратарыят

пры федэральным урадзе. У нас жа, мяркуючы па выказваннях удзельнікаў канферэнцыі, было б не лішнім стварыць пры ўрадзе краіны Савет па ўстойліваму развіццю, у які ўвайшлі б не толькі дзяржаўныя мужы, але і прадстаўнікі дзелавой і культурнай грамадскасці, самавітыя вучоныя, публіцысты…

На маю думку, акурат час засяродзіць увагу на аздараўленчых павевах у свеце. Цікава! Міжнародныя эксперты ўжо колькі гадоў раяць беларускаму ўраду не цешыць сябе ілюзіямі з нагоды шырокай міграцыі ў краіну. Засцерагае ад гэтага і такі адмысловец з Венскага інстытута дэмаграфіі як Сяргей Шчэрбаў. У любым выпадку разлік на мігрантаў паставіць краіну проста ў тупік і паспрыяе зыходу беларускага народа ў нікуды. Гэта ж яскрава паказала ў сваім артыкуле «Мы придем всерьез и надолго. Вы нас ждете?» Святлана Балашова. «Свободные новости плюс», 2011, 6 сакавіка. Не менш зварушлівай і яскравай атрымалася і рэакцыя чытачоў на яе публікацыю — водгукі сыпанулі на сайт газеты. Адразу ж… Асноўнае, што трывожыць многіх, выказала ў сваім лісце Ала Пятроўна Магучык з горада Жодзіна :

*Я не расістка, але супраць кітайскіх кварталаў і імігрантаў. Прыйшлося з імі некалькі гадоў назад папрацаваць – гэта зусім іншы свет, іншыя паняцці дабра і зла, іншая псіхалогія. Ніякай карысці для нашай краіны яны не прынясуць. Адзіны іх плюс – добра размнажаюцца ў нецывілізаваных умовах пражывання. Але ад азіята ці негра ніколі не народзіцца сапраўдны беларус. Мы страцім свае этнічныя карані. Навошта наступаць на граблі, на якія ўжо наступіла Еўропа?*

У свеце ў апошнія гады і дзесяцігоддзі — быццам у піку інтэграцыйным працэсам і глабалізацыі — узмацніліся памкненні да дзяжаўнай самастойнасці і самаіндэнтыфікацыі народаў — розных, вялікіх і малых. Гэтаму, дарэчы, спрыяе палітыка ААН. Паўтару ўжо згаданае ніжэй у гэтай кнізе. У 2001 годзе арганізацыя ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) прыняла «Сусветную дэкларацыю аб культурнай разнастайнасці», у тым ліку моўнай. Падкрэслена, што такая разнастайнасць з’яўляецца крыніцай развіцця, *«столькі ж неабходнай для чалавецтва, як і біялагічная*



*разнастайнасць для жывой прыроды*». У 2002 годзе мне асабіста спадобілася быць адным з арганізатараў Міжнароднай канферэнцыі «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі», якая прайшла ў Мінску пад эгідай ЮНЕСКА. Прайшла, як і багата што праходзіць... Адно што і калі ўжо нас пройме?!

У гэтакай нягеглай сітуацыі адносін дзяржавы да скарбу сваёй тытульнай нацыі мне падаліся ўжо сюрпрызам публічныя выказванні ў падтрымку беларускай мовы чалавека з таго ж Захаду — Часовага паверанага ў справах ЕС у Беларусі Жан-Эрык Хольцапфеля. Пазіцыя ў спадара Хольцапфеля прынцыповая, і ў прыватнай гутарцы ён патлумачыў мне: *«ЕС прызнае, што мова і нацыянальная самасвядомасць цесна ўзаемазвязаныя і што мова самым непасрэдным чынам нітуецца з культурай. Палітыка, якую праводзіць ЕС у гэтай галіне, скіравана на павагу да моўнай разнастайнасці, на развіццё шматмоўнасці і, калі спатрэбіцца, — абарону моў, якія знікаюць»*. Унушальна сказана і, мяркую, усцешна і пахвальна! Яно і добра было б, калі б неабходнасць падобнага чыну нехта ўклаў яшчэ і ў галовы нашых чыноўнікаў.

У чым мяне пераканалі ўдзельнікі рэспубліканскай канферэнцыі па ўстойлівым развіцці: усе яны, за рэдкім выключэннем, добра валодаюць беларускай мовай, але ў канферэнц-зале падчас дзелавых выступаў і дыскусій не карысталіся ёй, няйначай, таму што гэта ўжо выйшла з практыкі, перастала быць звычаем. А дарэмна... Застаецца чакаць, што гэта наперадзе, і зусім не выключана, што наступная канферэнцыя па ўстойлівым развіцці беларускіх рэгіёнаў пройдзе на роднай беларускай мове.

# ФІЛАСОФСКІ КАМЕНЬ



*Роздум над кнігай*




Не што іншае, як філасофія была навукай маёй мары, праўда, у сталым узросце, і адчуў я гэта даволі выразна, калі пачаў вучыцца на універсітэцкім факультэце журналістыкі. Працэс навучання там быў гранічна зашлакаваны гісторыяй партыйна-савецкага друку, рознымі пастановамі, навуковым камунізмам... Амаль не было аналізу твораў і творчасці аўтараў, іх стылю і характару, а потым не ставала і веды пра развіццё культур, цывілізацый, пра ролю і месца этнакультурных ідэй, нацыянальных каштоўнасцей у жыцці чалавека і развіцці грамадства; дарэчы, усведамлялася мне марнасць паступлення на журфак і па той адмысловай прычыне, што на той час я ўжо валодаў рамяством — пісаць для друку, як што займаўся гэтым, так бы мовіць, засаб з ранняга школьнага ўзросту і меў у тым поспех.

Праўда, ў часы, калі я пільна ўглядаўся ў аддаленыя навуковыя гарызонты, савецкая філасофія таксама знаходзілася ў палоне дактрыны КПСС і навуковага камунізму, складзеных штучна на патрэбу партакратыі. Нават не ведаю, ці асмельваўся тады хто з навукоўцаў разглядаць у сапраўдным святле філасофскай навукі пытанні нацыі і наогул нацый як шырока распаўсюджанай з'явы на зямлі. Гэтакі разгляд у СССР быў без патрэбы. Адно ці не з-за гэтага, шаноўныя таварышы, і рухнуў СССР? Бо, як паказвае вопыт развіцця чалавецтва, пачуццяў і ладу, строю душы, якімі надзелены этнас, нацыя, ніяк нельга цурацца ў палітыцы. Дык вось штука, якой у свой час не ўлічыў К. Маркс, дакляруючы звяз



пралетарыяту без межаў! Адсюль, дазволю сабе паставіць пытанне: ці не церпяць няўдачу дзяржаўныя дзеячы, якія спрабуюць абыходзіцца без нацыянальных падмуркаў? З вялікімі высілкамі захарактарана, заўзята яны будуюць і будуюць штосьці, а потым аказваецца — картачны домік на пяску!

Не так даўно наш адмысловы палітык, які неяк насамрэч і дакляраваў, што ён адзіны ў краіне палітык, кінуўся шукаць стратэгію ўлады і назваў гэта пошукам нацыянальнай ідэі. Не выпадкова і, мусібыць, правільна, бо ў маладой суверэннай краіне без такой ідэі ўтвараўся вакуум, яго належала запоўніць. А па вялікім рахунку і было чым. Народ, маючы агульных продкаў і сваю мову, заўжды носьбіт культурнай самавітасці, з якой вынікаюць ментальнасць і ідэнтычнасць у гістарычным працэсе. Наш народ сёння аб'ядноўваюць і зямля, якая засталася яму ў спадчыну, і гісторыя, якой варта было б толькі больш пранікнуцца, і пачуццё грамады, а шырэй — роднаснай супольнасці, з якой ён і далей хацеў бы існаваць і спрыяць яе росквіту, яе дабрабыту. Тым больш, калі ёсць сацыяльная канструкцыя, у нашым выпадку — дзяржава, у інтарэсах якой — задавальняць матэрыяльныя, культурныя і духоўныя запатрабаванні народа. І ўсё гэта разам узятае і выліваецца ў нацыянальную ідэю.

Не чуў, аднак, каб у тым пошуку філасофскага каменя нашаму ўладарнаму корпусу дапамагалі беларускія філосафы. Разам з тым і не сумняваюся, што ў навуковым асяродку такія знаныя асобы, як Майхровіч, Яўменаў, Конан альбо нават шматгранны Бабосаў, не гаворачы ўжо пра глыбокага тэарэтыка Крукоўскага, своечасова падказалі б кіраўніцтву дзяржавы, дзе яна, тая загадкавая нацыянальная ідэя, і як, абапіраючыся на яе, плённа, прыгожа і дальнабачна ладаваць дзяржаўную палітыку. Назіраючы за гэтым «пошукам» загадкавай ідэі, газета «Звязда» не вытрывала і надрукавала матэрыял пад зусім цвярозай назвай: «Беларуская нацыянальная ідэя: ці трэба шукаць тое, што маем?»

Тым часам, не чакаючы запрашэння да ўдзелу ў дыскусіі, самахоць знайшоў лаканічны адказ на пытанне аб нацыянальнай стратэгіі маладзейшы з філосафаў — Анатоль Астапенка. На Кангрэсе дэмакратычных сіл у 1999 годзе ён выказаў думку, якая потым легла ў аснову яго манаграфіі «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Думка тая набыла





*Анатоль Астапенка*

наступную форму: **«Нацыянальная ідэя — гэта праект рэалізацыі нацыі»**. Коратка, ёмка і яскрава.

Так, сапраўды, нацыянальная ідэя — гэта перш за ўсё клопат пра развіццё нацыі, чым, відавочна (насуперак логіцы і агучанай задачы), не хацелі абцяжарваць сябе дзяржаўныя дзеячы, калі імітавалі доўгі і ўпарты філасофскі пошук. Не маглі яны падабраць з-пад ног філасофскі камень і ўвасобіць яго ў нацыянальную ідэю. Няйначай, чмур на іх найшоў, і, па непаразуменні ды неабачлівасці, пачалі шукаць ўжо не ідэю этнічнага захавання і далейшага развіцця нацыі, а ідэю моцнай і бестэрміновай улады. Усяго пры ўсім толькі. З тым сваім няпэўным «набыткам» і засталіся.

Хто і ў чым абманваецца?.. У Пасланні беларускаму народу (2003) прэзідэнт сказаў: *«И дай Бог, чтобы при нашей жизни получилось, что мы найдем эту нашу национальную идею, которая бы поднимала дух и народ не только в трудную годину, но и в мирное время, на борьбу за лучшую жизнь»*. Як відна з гэтага выказвання, філасофскі камень ніяк не даецца ўладам у рукі, хоць яны аб яго і спатыкаюцца альбо будуць спатыкацца далей болей, пакуль не зруйнуюць тое, чаго не разумеюць і што ім, магчыма, процістаіць.

У часе між тым з’явілася і ляжыць перада мной навукова-публіцыстычнае даследаванне беларускага нацыяналізму — тоўстая кніга Анатоля Астапенкі **«...И где зродилися и ускормлены суть по Бозе...»**.

На белым полі вокладкі гэтая фраза, узятая з кантэксту скарынінскіх сачыненняў, пададзена ў тагачасным графічным выяўленні. Сказаць па праўдзе, для многіх простых чытачоў найменне ў такім выглядзе амаль нечытабельнае, яго няможна ідэнтыфікаваць сучасным шрыфтам... І, тым не менш, некаторым навукоўцам і літаратарам гэтая назва падабаецца, як, дарэчы, і аўтару. Адно, зыходзячы з уласнага літаратурнага вопыту, я, напрыклад, шкадую пра гэта. Няхай... Што да зместу — кніга вельмі карысная сваім багатым і канцэптуальным асвятленнем ды раскрыццём



глабальнай тэмы. Яна ўвабрала ў сябе і аўтарскі досвед, з паказам свайго асабістага шляху ў філасофію, і гістарычны грунт, сагрэты беларускай душой, і міжнацыянальны вопыт, і адносіны да прадмету гаворкі розных рэлігій, як, безумоўна, і выказванні на гэты конт адмыслоўцаў, філосафаў розных краін і народаў, і спробы сістэмнага аналізу. Нават стылёвая разнаітасць аўтарскіх тэкстаў яе не дужа псуе, як што чытаючы і ловячы сэнсы, не зважаеш на стыль, навуковы ён, да прыкладу, альбо публіцыстычны; наадварот, адпачываеш на прастаце і даступнасці мовы.

А. Астапенка — мой зямляк, на пачатку жыццёвага шляху ён палюбіў тэарэтычную фізіку, стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук. Мала таго... Падабраўся і асядлаў яшчэ філасофію. Ну і прысвяціў гэту сваю, па-беларуску шчырую, споведзь і філасофскі досвед памяці сваіх бацькоў; а яго бацька Уладзімір Іосіфавіч, між іншым, у свой час выкладаў фізіку ў Васілевіцкай беларускай школе і быў адным з маіх настаўнікаў. Зрэшты, да нацыянальнай філасофіі ўсё гэта ніякіх дачыненняў не мела і не магло мець, хоць у школьнай тагачаснай навуцы беларускі народ і нацыя ўсё ж прысутнічалі і адсочваліся як свая адметная Бацькаўшчына, яна ішла да нас праз творы і мову пісьменнікаў Купалы, Коласа, Чорнага ды іншых, якіх мы так ці інакш насілі ў сэрцы і разумелі, з дазволу сказаць, на генетычным узроўні.

Будучы студэнтам, А. Астапенка трапіў у тыпічную для многіх беларусаў сітуацыю, калі і хацеў бы гаварыць на роднай мове ды от непярэліўкі: не ставала слоў і язык не слухаўся — адвык. У выпадку з ім было так, што па-беларуску хораша і вольна гаварылі госці — дзяўчаты, студэнткі з Польшчы, якія прыехалі на стажыроўку ў Мінск. І Анатоль паспрабаваў падтрымаць з імі беларускую гутарку, аднак не атрымалася — малады чалавек быў пасаромлены на ўсё жыццё. Тут і задумаўся, хто ён і што мы ёсць за беларусы. Цытую з уступу да кнігі: «Відаць, менавіта тады ўва мне і стаў нараджацца нацыяналіст. Імкненне выправіць сітуацыю з мовай, потым — сітуацыю з нулявымі ведамі з гісторыі Беларусі, потым... потым яшчэ шмат з чым беларускім і прывяло мяне да таго, што маю».

У даследаванні неаднойчы пракідаюцца аўтарскія заўвагі, што на постсавецкай прасторы, як і ў Беларусі, людзі старэйшага веку да гэтага часу носяць у сваіх душах



зашмальцаванае клішэ пра нацыяналізм як штосьці варожае і страшнае ў грамадскім абыходку. За мяжою, наадварот, гэта з'ява лічыцца нармальнаю, натуральнаю і нават дужа спрыяльнаю шматфарбнасці свету і ўстойліваму развіццю чалавецтва. А. Астапенка даводзіць усім сваім фаліянтам, што і на нашай зямлі нацыяналізмам не варта палохаць — ні ўдзень, ні ўначы, ні ў школе, ні на вуліцы. Аўтар глыбока сам усвядоміў і перадае чытачам сваё разуменне тых акалічнасцей, што нацыяналізм можа быць апірышчам у найбольш удалай і гуманнай будове дзяржавы. Разам з тым, нацыяналізм наогул — адзін з уплывовых чыннікаў у фармаванні гісторыі. У апошняй тэзе, на маю думку, ён, аўтар, сыходзіцца з вядомым амерыканскім сацыёлагам Імануэлем Валлерстайнам, які дапускае, што «нацыяналізм з'яўляецца асноўнаю статутнай ідэнтычнасцю, якая падтрымлівае сучасную светабудову, а тая (ідэнтычнасць) у сваю чаргу абапіраецца на структуру суверэнных дзяржаў».

Няма патрэбы пераказваць кнігу, таму спынюся на некаторых дыскусійных момантах, як, напрыклад, нараджэнне беларускай нацыі.

Большасць незалежных гісторыкаў нашага часу прымаюць за яе, нацыі, калыску сярэдзіну альбо другую палову XIX стагоддзя — перыяд, на які прыпадае дзейнасць пісьменнікаў і мысляроў Яна Баршчэўскага, Рамуальда Падбярэзскага, Кастуся Каліноўскага, Сігізмунда Серакоўскага — паплечніка Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча; а потым ідзе паласа пасталення ў XX стагоддзі... А. Астапенка перабраў, перацёр, як кажуць, у пальцах усю беларускую гісторыю з яе адметнымі дзеячамі — ад Кірылы Тураўскага, Ефрасінні Полацкай да Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава. Даследаваў духоўную і філасофскую спадчыну. Такая вялікая праца, між іншым, пазбавіла яго пэўнасці ў думках, дакладней, пэўныя шчырыя думкі знайшлі нечакана той прадмет, які не ўкладваўся ў традыцыйныя ўяўленні вучоных.

Аўтар паведамляе, стар. 36: «*Традыцыйна лічыцца, што пачатак нацыі і нацыяналізму як тэарэтычнага абгрунтавання нацыі бярэ адлік ад французскай рэвалюцыі 1789–1793 гадоў*». Няхай сабе... І потым на стар. 61, у пункце **1**. **Мой погляд на беларускую нацыю**, а погляд паслядоўны і лагічны, — чытаем: «*Пачатак утварэння нацыі*



*(сярэдзіна — канец XIX стагоддзя)»*. Толькі на стар. 98, прытрымліваючыся яшчэ ўсё той жа думкі, ён піша: *«I хоць насельніцтва ВКЛ нельга лічыць беларускай ці ліцвінскай нацыяй, але ў гэтым народзе ўжо было шмат прыкметаў будучай нацыі, і такія поліэтнічныя ўтварэнні можна назваць протанацыянальнымі»*.

Так, зазначым. З падобным сцвярджэннем ужо належыць пагадзіцца. Адно ўзнікаюць сумненні ў паўнаце вызначэння нашай *протанацыі*. Аўтар не тлумачыць, якіх *прыкметаў* канкрэтна тут не ставала да тых, якімі зазвычай надзелена нацыя. Для чытача незразумелыя, прынамсі, не расшыфраваныя таксама і словы *поліэтнічныя ўтварэнні* ў княстве. Што за ўтварэнні і якія плямёны альбо народы маюцца на ўвазе?

Іх называе іншы філосаф — Ігар Бабкоў у сваёй працы «Генеалогія беларускай ідэі», змешчанай у калектыўным зборніку *. Дык вось вам пералік: *«беларускае сялянства, дзвюхмоўная шляхта, поліканфесіянальны клір і яўрэйская абшчына»*, і далей ён дадае, што разам яны *«утваралі адну супольнасць, якую мы рэтраспектыўна можам лічыць беларускай (не ў сэнсе этнічнасці, а ў кантэксце тутэйшасці)»*. Дапусцім гэткі *кантэкст* тутэйшасці на момант. Разбяром, аднак, па костачках пастулат, які цяпер на ўзбраенні не толькі І. Бабкова, В. Акудовіча, Б. К’яры, але і ўсіх, каму карціць паказаць, што ў беларусаў не было і няма этнічных, а тым больш нацыянальных каранёў і што тут мы маем справу з *«містычным “нежаданнем” беларускага этнасу усведамляць сябе як нацыю... (паводле Бабкова)»*.

Калі ўдумацца, то няма нічога ненатуральнага ці надта ўжо супярэчлівага ў этнічным плане паміж дзвюхмоўнай беларускай шляхтай і беларускім сялянствам ва ўмовах Рэчы Паспалітай, хоць і лічыцца, што шляхта, паддаючыся акаталічванню і паланізацыі, першай здраджвала свайму народу. Няхай... Толькі, знаходзячыся ў перыферыйнай этнічнай зоне, яна ў сваёй бальшыні заставалася беларускай. Дый не заўсёды так было, каб шляхта дэфармавалася пад польскім ці расейскім прэсам, паколькі раней не было таго прэса, балазе беларускі (ліцвінскі) этнас сфармаваўся яшчэ

* Беларусь превыше всего! : (О национальной белорусской идее) / Под ред. А. Е. Тараса. — Смоленск : Посох, 2011.



да ўступлення ВКЛ у Рэч Паспалітую, а потым у паднача-ленне Расіі.

Другі пункт: *поліканфесіянальны клір*... І, пэўна ж, такі быў. Асабліва — зазначым — пад час Рэчы Паспалітай... Але, праўду казаць, ліцвіны на тыя часы не дужа мянялі канфесіі, і працэс нацыягенезу не спыняўся і не замаруджваўся, прынамсі, да самых польскіх абдымкаў.

Трэці пункт: *яўрэйская абшчына*... Пытанне з пальца высмактанае. Бо нідзе ні з якіх дакументаў не відаць, што яна праявіла сябе падчас існавання ў дзяржаве ВКЛ? Наадварот, фіксуюцца сведчанні, што яўрэі-літвакі ў сярэднявечча лёгка адаптаваліся і пераходзілі на дзяржаўную мову беларускую (яшчэ тую, ранейшую), упісваючыся ў кантэкст ліцвінскай супольнасці і пераймаюць ад яе некаторыя характэрныя адзнакі ментальнасці.

То якія ж, прабачце, тут поліэтнічныя ўтварэнні?.. Гэта цяпер нашым філосафам льга скакаць з эпохі ў эпоху і абмінаць цэлыя стагоддзі, спыняючыся толькі там і на тым, што выгадна каб падмацаваць свае не заўсёды шчырыя і не абавязкова праўдзівыя тэзы. Да прыкладу, адкрытае Бабковым *«містычнае “нежаданне” беларускага этнасу усведамляць сябе як нацыю»* тлумачыцца проста бояззю, страхам паспалітага люду, які перажыў трыццатыя гады і наогул таталітарную савецкую прапаганду, нават чуць пра «нацыяналізм», за які рэпрасавалі і якім да смерці палохалі і палохаюць нават цяпер. На ўсё ёсць прычыны. Таму якая ж можа быць філасофія без паглыбленага разумення гістарычных прычын?.. З майго немалога цяпер жыццёвага вопыту, як і з аналізу грамадзянскай шырокай акцыі па мове, праведзенай у краіне ў 2009 годзе, выпадае засведчыць пра іншае. Не, яшчэ не згібела і жыве, жыве ў беларускім народзе ўласцівая яму ментальнасць, што красуецца ў мове, яшчэ жыве ідэнтыфікацыя душы, якая вынікае з мовы; адно, сябры, сёння, падчас узурпацыі і дэфармавання грамадзянскай свядомасці, гэтым і іншым чыннікам беларускасці пачувацца ў натуры ой, як нясоладка. Адсюль, дазвольце зазначыць, нашым інтэлектуалам, вучоным, а спадар Бабкоў, да таго ж, яшчэ і літаратар, было б нейк больш прыстойна і годна падтрымаць этнакультурныя клопаты нацыі, а не наладжваць па Беларусі хаўтурны звон.



У любым вымярэнні старабытнае Вялікае Княства Літоўскае — феномен, прычым, не разгаданы многімі, у тым ліку, вядома ж, і філосафамі, вольнымі ад нацыянальных інтарэсаў і нацыянальнай адказнасці.

Мне здаецца, што калі б А. Астапенка неўпрыцям пералічыў на пальцах важнейшыя прыкметы нацыі, то кожную з іх, тых прыкмет, і знайшоў бы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Цяжэй было б засяродзіцца на думцы і падмацаваць тую думку, што ліцвіны ўсведамлялі сваю прыналежнасць да ліцвінскай, альбо русінскай этнакультуры і беларускага (пасучаснаму) этнасу. Але ж — чаму? Паглядзіце, ужо Кірыла Тураўскі і Ефрасіння Полацкая ўнутраным зрокам акідвалі свой народ і прамаўлялі да яго. У шчырым і неўтаймаваным сваім асветніцтве і прапагандзе хрысціянскіх прынцыпаў маралі ім хацелася бачыць усіх у краіне сваёй «як душу адзіную».

Таму пазней не толькі Ф. Скарына насіў у сэрцы пачуццё сваёй роднай зямлі і народа, што выяўляў у сабе ідэнтыфікацыю этнасу. Лісты Ф. Кміты-Чарнабыльскага (1530–1587), выдатнага дзеяча і, як па сённяшніх мерках, публіцыста дзяржавы ВКЛ, напрыклад, бліскуча даказваюць, што ён добра адрозніваў свой народ ад суседняга, ад палякаў альбо маскоўцаў, быў палымяным патрыётам зямлі ліцвінскай і русінскай, што амаль атаясамлівалася.

У лісце да О. Валовіча, каштэляна троцкага, Кміта скардзіцца на прадажнасць сваёй шляхты ўва ўзаемаадносінах з польскімі панамі: *«Мы тут, слуги вашей милости, размовляем больш около своих... панов, сенаторов нашых. Ино некоторые мовят: «Не дай Бог ляху быть! Вырежет Литву, а Русь поготову!» Давно резать почали литвина. И тот, де, с прыроженя натуры на себе сам необычное... просто як овца: где их больш берет волк, там оне дальше за ним идут! Большы будет жычлившый народу польскому, нижели своему»*.

Баюся, што даследчыку нацыяналізму А. Астапенку нейкай кроплі аптымізму і смеласці не хапіла выйсці з-пад уплыву зманлівага гістарычнага стэрэатыпу і даказаць, што ў сярэднявечча на беларускіх землях ужо сфармавалася нацыя, якая мела абарону і падтрымку ад сваёй дзяржавы і, больш за тое, мела свой зусім дэмакратычны Статут Вялікага Княства Літоўскага, які адпавядаў звычаям і ладу



душы альбо ментальнасці свайго народа. Чым гэта не козыр для нас? Іншая справа, што ў тыя часы такое адмысловае аб'яднанне яшчэ не афармлялася ў словы і паняткі «нацыя» і ад яго вытворныя, чым карыстаецца Астапенка. Мая заўвага тут падаецца яшчэ больш слушнаю, калі ўлічыць, што на стар. 122, спрачаючыся з В. Акудовічам і В. Булгакавым, якія сцвярджалі, маўляў, беларуская нацыя пачала ўтварацца толькі ў Расійскай імперыі канца XIX стагоддзя, Анатоль Астапенка ў поўны голас адрэзаў, не: *«Да гэтага часу беларуская нацыя, пэўна ж, існавала і як гістарычная супольнасць людзей, і як народ, адметны сваімі старажытнымі традыцыямі ды звычаямі і, больш за тое, на гэты час сфармавалася беларуская мова ў сучасным сваім выглядзе, якая тады ўжо пачала свой цярністы шлях літаратурнага ўнармавання»*.

Сёння мы можам знайсці пацвярджэнне нацыянальнай тэзы і ў акадэмічным выданні 2-га тома **«Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычный думкі Беларусі. Протарэнесанс і Адраджэнне»**, які выйшаў у 2010 годзе.

Філосаф Аляксей Дзермант, каментуючы ў сеціве гэтую падзею, зазначае: *«Галоўнымі асаблівасцямі рэнесанснай культуры на Беларусі з'яўляюцца нацыянальнае самавызначэнне, пачатак узрастання нацыянальнай годнасці, за карані якой мы моцна трымаемся сёння, пэўны моўны выбар»*.

У кнізе значнае месца займае аналіз творчасці такіх адметных прадстаўнікоў беларускага Адраджэння, як Грыгорый Цамблак, Францыск Скарына, Сымон Будны, Мікалай Радзівіл Чорны, Леў Сапега.

Вось вам і свежа ўтвораны (калісьці) на патрэбу далейшага развіцця гаспадарства ВКЛ н а ц ы я н а л і з м .

Патрыятызм і адданасць бацькоўскай зямлі ў пэўным этнакультурным арэале былі настолькі ўстойлівымі і жывучымі, што праяўляліся і далей, у XVIII–XIX стагоддзях, пры самых неспрыяльных абставінах. Прынамсі, гэта зафіксавана ў асобах яе сыноў-ліцвінаў як Адам Міцкевіч ды іншыя, і ў той жа шляхты, што пераканаўча праілюстравана нашым даследчыкам на старонках выдання. Геніяльны паэт А.Міцкевіч даваў высокую ацэнку мове:

*На беларускай мове, якую называюць русінскай, гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек. Гэта найбагацейшая*



*і найчысцейшая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацаваная. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для свайго дыпламатычнага ліставання.*

І гэтакая ацэнка даецца мове на той час, калі яна яшчэ як след не была дагледжана, не адгаблявана ў літаратурным ужытку. А вось як бы адрэагаваў Адам, будзь перад ім мова XX–XXI стагоддзяў?

Аўтар прыводзіць словы Караля Радзівіла, які казаў: *«Я люблю Карону, пане каханку, але няма лепш, як наша Літва. У мяне і ў Кароне ёсць кавалак зямлі, але чорт бы там сядзеў!»*

Як на мой погляд, дык у пэўнага кола нашых філосафаў, якія так ці інакш закранаюць беларускую нацыянальную генеалогію, ёсць адзін прынцыповы і як бы дзіцячы па сваёй непасрэднасці пралік. Яны бяруць пад увагу і трымаюць у полі зроку не суб’ект даследавання, у дадзеным выпадку — ліцвінскі (беларускі) народ. І бяруць, калі бяруць, не ў яго гістарычным развіцці ды фізічнай і духоўнай прысутнасці ў стагоддзях, а выхопліваюць і падаюць толькі фрагментарнае паасобку, няйначай, у дробных аскабалках люстэрка. Без адлюстравання дынамікі ў часе. Прычым, ніхто не спрабуе скласці гэтыя фрагменты, каб атрымаць агульную карціну.

Параўнаем наш народ з цягнікам, які рухаецца па рэйсах часу; ён пакінуў за сабою XIII стагоддзе і, пераадольваючы эпоху за эпохай, не спыняецца, хоць яго прытомлены ход сёння і замаруджаны. Ягоны рух дзе-нідзе зафіксаваўся ў абрыўках гістарычных сведчанняў, дакументаў, што замяняе сабой на справе тое ж люстэрка, і, гледзячы туды, нашы даследчыкі кожны раз усклікваюць: «Прамільгнула новая ідэнтычнасць народа!» Падобна, што яны не прызнаюць свой народ, сфармаваны ад самага пачатку руху і скіраваны сваім ходам у перспектыву.

Праілюструем з’яву вытрымкамі з таго ж артыкула І. Бабкова. Расказваючы пра падзел Рэчы Паспалітай у 1772 годзе і акупацыю усходніх зямель ВКЛ расійскімі войскамі (з матывацыяй неабходнасці абароны праваслаўнага насельніцтва ад засілля каталікаў і рэалізацыі ўвогуле свайго «гістарычнага права на рускія землі»), даследчык паказвае, з чым жа сустрэлася тут расійская адміністрацыя. А замест «Русі» расейскай на набытых тэрыторыях яна знайшла нешта зусім



адрознае ад свайго грамадства: *«дзвюхмоўную (польска-беларускую) шляхту, ва ўладанні якой знаходзілася ўся зямля, каталіцкую сістэму адукацыі і беларускую вёску, якая не разумела маскоўскую мову»*.

А далей Бабкоў ужо робіць высновы:

*На гэтай базе к сярэдзіне XIX стагоддзя пачала складвацца новая беларуская ідэнтычнасць, якая набыла голас, аформілася ў творчасці Яна Баршчэўскага, Рамуальда Падбярэзскага і другіх польска-беларускіх аўтараў.*

І трохі ніжэй — пра тое ж:

*У 1891 годзе ў Кракаве, на тэрыторыі тагачаснай Аўстра-Венгерскай імперыі, выйшла сціплая кніжыца пад назваю «Дудка беларуская», якая адкрыла новую эпоху і апавясціла аб узнікненні новай беларускай ідэнтычнасці.*

Даруйце, а толькі ж для беларускага народа тая ідэнтычнасць была не новай (пра што, дарэчы, ведалі і суседзі). Дый склалася яна яшчэ ў сівыя стагоддзі.

І што яшчэ цікава... і што зноў жа хінецца да парадоксу: ні на пачатку XX стагоддзя, ні ў паласе БНР, ні ў часе БССР, ні ў сярэдзіне альбо напрыканцы таго веку, калі наш народ ужо меў не толькі «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіча, а шматгалосую і вялікую беларускую літаратуру, калі ён сябе паказаў як шчыры і сумленны творца і ў іншых галінах мастацтва і гэтак узбагаціў сваю нацыянальную культуру — ва ўсе пералічаныя часы і часіны філосаф І. Бабкоў *«новай беларускай ідэнтычнасці»* больш не знаходзіць. Таму з ёю і сёння непярэліўкі, проста няма яе, а ёсць адны поліэтнічныя дысанансы ў межах краіны і адсутнасць беларусаў як нацыі. Хіба, можа, ў Польшчы ці Украіне поліэтнічныя складнікі і дысанансы адсутнічаюць? А калі не?.. Варта б праверыць правамоцнасць украінскай і польскай нацый наогул...

Вось да чаго прыводзіць пэўная заангажаванасць постаці даследчыка. Ці ж не назіраюцца нелагічнасць і разарванасць думкі ў ягонай працы? А, можа, я памыляюся? Добра было б. Як што сумна бачыць усё гэта. Сумна, калі вучоныя і завучаныя асобы прымаюць нас за дурняў.

Аднак сапраўдны подзвіг у захаванні адмысловых нацыянальных каштоўнасцей і забеспячэнні далейшага поступу нацыі належыць нашаму народу, тутэйшым, якія праз вякі і нягоды пранеслі сваю духоўную і побытавую культуру, мову, фальклор — багацейшы ў свеце арсенал вуснай народнай

творчасці, ад паганскіх часоў... То ці ж гэта не доказ старажытнасці беларускай нацыі, для вольнага дыхання якой сёння, на вялікі жаль, штучна перакрываецца паветра.

Аўтар кнігі аб нацыі А. Астапенка ў цэлым блізкі да праўды, калі зазначае, што ў наш няўстойлівы час этнакультурны нацыяналізм беларусаў церпіць паразу пад «націскам палітычнага» нацыяналізму кіраўніка дзяржавы. Але ці ўся праўда тут?.. Для працягу аналізу выказанай тэзы працытуем зноў жа кавалак тэксту з кнігі, стар. 412:

*Такім чынам, рэальным на сённяшні дзень з'яўляецца тое, што з 1996 года ідзе працэс стварэння новай беларускай нацыі, якая якасна розніцца ад традыцыйнай беларускай нацыі, працэс стварэння якой амаль завяршыўся пасля аб'яшчэння незалежнасці 27 ліпеня 1991 года. Гэта значыць, што гістарычная, заснаваная на прымардыяльнай канцэпцыі беларуская нацыя можа саступіць месца постмадэрнісцкай канцэпцыі самага нечаканага і радыкальнага кірунку, замешанай на прагматычна-утылітарнай расійскай субкультуры.*

Я асабіста не схільны лічыць, што сёння ў Беларусі назіраецца «палітычны нацыяналізм»... Сам панятак «нацыяналізм» для зацуглянай адным чалавекам улады надта чысты, маральны, высакародны. Я не стану, таксама, лічыць, што адумысна выконваецца задача па стварэнні новай, альбо мадэрнізаванай беларускай нацыі, так... Бо няма арыгінальнага матэрыялу і перадумоў для таго, каб яе ствараць. Дый, Бог у сведкі, не просты гэта працэс — па ўказу альбо заказу караля, імператара пераніцаваць народ. Каралі сцягвалі і аб'ядноўвалі землі, і тут імі кіраваў, магчыма, уласніцкі інстынкт. Наш — хутчэй аддасць, падорыць сваю зямлю суседняй імперыі, бо вельмі ж падобна, што душа яго там. А калі не падорыць, дык заселіць Беларусь маргіналамі. Ці ж не так? Інакш пра што могуць сведчыць ягоныя словы, вынесеныя на газетнай паласе ў загаловак: «Я ВОПРЕКИ ВСЕМУ БУДУ ДЕЛАТЬ ТАК, ЧТОБЫ РОССИЯНАМ ЗДЕСЬ ЖИЛОСЬ ГОРАЗДО ЛУЧШЕ...». Сімптом надзвычай трывожны, адно хто скажа, — чаго сімптом, якое хваробы? Але з тым, што існуючая беларуская нацыя, прыгожая па сваёй самавітай і сакавітай мове ды іншых культурных каштоўнасцях, свядома ці напаўсвядома разбураецца — цяпер ніхто спрачацца не будзе.



Толькі ж у кампетэнцыі ўлады, за якой стаяць моц і сіла, якраз і спыніць гэты недалужны працэс, які, дарэчы, добра чуе і якому ўсяляк імкнецца дагадзіць сваёй думкай, сваімі экстравагантнымі «філасофскімі» тэзамі яшчэ адзін, з дазволу сказаць, патрыёт В. Акудовіч. І да яго сачыненняў А. Астапенка ў сваёй кнізе ставіцца вельмі крытычна. Калі ж разбуральны працэс нашай пракаветнай супольнасці, на ўцеху такім дабрадзеям і апалагетам нацыі без роднай мовы, як Акудовіч, у бліжэйшы час не спыніцца, то ў тым ужо належыць бачыць добра асэнсаваную палітыку кіраўніцтва краіны, палітыку ў духоўным абяззбройванні свайго ж народа і ператварэнні яго з нацыі ў масу насельніцтва, у статак наёмных функцыянераў, рабочых, гастарбайтараў. Але ж гэта будзе зусім не «новая» і ўжо, прабачце, не ранейшая нацыя, дый народ — не народ. Застанецца нешта несамавітае, прыгнобленае, рабскае, застанецца духоўна выпатрашаны і абяздолены рэгіён усходняй імперыі. Такая падступная «палітыка», калі яна здзейсніцца, павінна расцэньвацца адно як найвялікшае злачынства перад сваім народам і нацыяй, перад памяццю продкаў, дый усім чалавецтвам.

Аўтар філасофскай кнігі Астапенка, калі далей па тэксту, безумоўна, не бачыць анічога людскага ў штучнай падмене нацыі. Тым не менш, ён моцна занепакоены працэсам пераніцоўкі і настойліва піша пра мадэрнізацыю грамадства і абсурд «панаўлення», от як на стар. 412:

*Аднак, калі знішчыць культуру і мову народа, што складвалася вякамі, то чым запоўніцца культурны вакуум, які непазбежна ўтворыцца ў выніку? Мяркую, што шлях тут апрабаваны, асабліва ў кабінетах спецслужб. Галоўнае — змясціць кожнага чалавека ў адпаведнае інфармацыйнае асяроддзе, у «басейн», дзе ён жыве цэлымі суткамі і ніколі адтуль не выходзіць. Такім басейнам ёсць найперш СМІ і, перадусім, тэлебачанне. Людзі, якія з'яўляюцца жыхарамі сучаснай Беларусі, цалкам уцягнутыя ў культуру суседняй дзяржавы — Расіі. Яны чуюць паўсюдна выключна расійскую мову, ведаюць усіх расійскіх спевакоў і спартсменаў, і, як гэта ні парадаксальна, ведаюць расійскіх алігархаў і палітыкаў больш, чым сваіх... Моладзь уцягнутая ў арбіту расійскай папсы, і тыя нешматлікія нацыянальныя калектывы, накшталт N.R.M. ці Крамы, знаходзяцца па-за межамі асноўнай сферы ўплыву.*



*Культура, узгадаваная стагоддзямі, замяняецца на субкультуру, бездухоўнасць. Таму растуць злачыннасць, наркаманія, алкагалізм.*

Так, гэта цяпер усіх трывожыць, і, бадай, кожны бачаць гэта, а дэградацыя, выміранне і колькаснае змяншэнне народа тым часам працягваецца, нарастае. Адно з падобным няшчасцем у дзяржаве можа эфектыўна змагацца толькі дзеючая нацыя, у якой руляцца ўсе інстытуты і пыніцца грамада, альбо грамадзянская супольнасць, аб'яднаная агульнымі інтарэсамі. Вось тады паступова і нават непрыкметна для грамадзян, дазволю сабе выказаць думку, утвараецца ў самой нацыі ці па-над нацыяй своеасаблівая аўра.

Вось аўра, скажам, створана і, калі так, яна пачынае сваю карэкцыю, направу, палагоджванне па прынцыпу сілавога поля, уздзейнічае пры гэтым на любога і кожнага. Менавіта тады *«нацыянальнасць уваходзіць у іерархію ступеняў быцця»*, паводле Бярдзяева, і менавіта ў такіх, зазначу, нацыях моцна зацікаўлена чалавецтва, з чым не разыходзяцца, а, наадварот, падмацоўваюць тэзу і амерыканец І. Валлерстайн, і беларус Мікола Крукоўскі. А на Мікалая Бярдзяева, вядомага расійскага філосафа і публіцыста, спасылаецца наш даследчык на стар. 54, і, каб спасылка была больш зразуметаю, працытуем Бярдзяева ў большай паўнаце думкі:

*Нацыянальнасць не можа прэтэндаваць на выключнасць і універсальнасць, яна дапускае іншыя нацыянальнасці і ўступае з імі ў зносіны. Нацыянальнасць уваходзіць у іерархію ступеняў быцця і павінна займаць сваё прадвызначанае месца, яна іерархічна падпарадкоўваецца чалавецтву і космасу.*

Шмат пазіцый, паваротаў, нюансаў разгледжана ў раскошнай кнізе ў кантэксце нацыянальнага жыцця краіны. Не абыдзены і палітычныя партыі і рухі, у большасці з іх пра нацыю няма амаль ніякага клопату. А пра адносіны розных рэлігійных канфесій да нацыянальнай ідэі — гэтага існага філасофскага каменя чалавецтва — у кнізе, мне думаецца, аж зашмат матэрыялу, прычым, у розных ракурсах.

Што цікава... Незалежна ад дзейнасці той ці іншай канфесіі, Святое Пісанне — Біблія трывала стаіць на павазе да розных моў і культур. Калі ты прышлы чалавек — май ласку прыязна паставіцца да звычак народа, у які прыйшоў,



і ведаць яго мову і культуру. А валадар (гаспадар) павінен звяртацца *«да... народу на мове яго, каб кожны муж пачуваўся гаспадаром у доме сваім і каб гэта было абвешчана кожнаму на прыроднай мове ягонай»*. (Эст. 1; 22).

Калі ж вярнуцца ў беларускую сітуацыю, А. Астапенка не падтрымлівае выказаную кімсьці думку пра тое, што Беларусь заўсёды імкнулася ў еўрапейскую прастору ды, маўляў, з прычыны самых розных гістарычных абставін, аказвалася вырванай з гэтай прасторы. З ягонага ж досведу вынікае, стар. 403:

*Беларусь ніколі нікуды не імкнулася. Яна «імкнулася» толькі быць сабой, беларусы вялікія дамаседы. Наадварот, мала якая краіна так была сама сабой, як Беларусь. У нас стагоддзямі існавала сваё праваслаўе, якое ў цяжкіх умовах процістаяння маскоўскаму праваслаўю захоўвала сваю аўтакефалію (XIV–XVI стагоддзі). Мала якая краіна так упарта не рабілася неафітскай у сэнсе непрыняцця каталіцызму ў дзяржаўных маштабах. Як нейкі кампраміс была прынятая унія, але не каталіцызм. Так было яшчэ толькі ў Украіне. А ў Еўропе так не рабілася. Пратэстанты, прыкладам, лёгка ўзгадаваліся ў сэрцы каталіцызму — Германіі, Францыі, — і імгненна запаланілі ўсю Заходнюю Еўропу. Некаторыя краіны нават цалкам ці бальшынёй насельніцтва сталі пратэстанцкімі (Швецыя, палова той жа Германіі, іншыя). Беларусы ж упарта захоўвалі веру продкаў — праваслаўе, часткова, праўда (243 гады), у выглядзе уніі, якая, аднак, таксама захоўвала усходні абрад.*

У пытаннях рэлігіі я менш дасведчаны, чым аўтар філасофскай кнігі, аднак, думаецца, не надта ўжо памылюся, калі скажу, што культура нацыі патрабуе нацыянальных святароў, нават у часы, калі не адноўлена аўтакефальная царква. Бо, як вядома, царква ўпаўне можа функцыянаваць асобна ад дзяржавы. Так лічыцца, але пры прагных рэжымах так не заўсёды бывае. А царква асобна ад нацыі не павінна пыніць сваю дзейнасць, ніколі, бо ўзнікаюць пытанні іншага кшталту.

У ходзе сваёй эвалюцыі чалавецтва перабрала шмат якіх форм і сродкаў аб'яднання ўва ўстойлівыя грамадскія супольнасці. Былі роды і плямёны, былі касты, з іх жорсткай іерархіяй, былі класы, абшчыны... І толькі пазней



утвараюцца нацыі па прыкмеце мовы, тэрыторыі, гісторыі, магчыма, веры, расы, генатыпу, традыцый і звычак. Даследчык адзначае, што нацыянальныя асаблівасці сталі істотна ўплываць на ўзаемаадносіны людзей з канца XVIII стагоддзя, але ж асобныя праявы палітычнага нацыяналізму вядомыя гісторыі і ў больш раннія перыяды. Прыкладам таму з'яўляецца этнічна ўсвядомленая рэакцыя насельніцтва Сіцыліі, Маўрытаніі, Неапаля і іншых мясцін Італіі ды паўночнай Афрыкі на экспансію немцаў, што яскрава выявілася ў крыжовых паходах апошніх пры Гогенштаўфенах (1137–1254) і асабліва пры каралю Генрыху VI у Свяшчэннай Рымскай Імперыі.

Рост і пашырэнне нацыянальных рухаў сталі яшчэ больш характэрнай з'явай у XIX–XX стагоддзях, што тлумачыцца імкненнем народаў, якія былі ў каланіяльнай ці іншай залежнасці, да набыцця палітычнай волі і развіцця нацыянальных аб'яднанняў. У кнізе адзначаецца, што акурат мінулы век, калі была ўтворана і Беларуская Народная Рэспубліка, стаў векам нечувана абвостранага нацыяналізму. Аўтар піша, стар. 504:

*Усе гэтыя прыклады прыводзяць да лагічнай высновы: такая з'ява, як нацыя і яе ідэалагічная аснова — нацыяналізм, ёсць з'ява пэўнай ступені прагрэсу чалавечага грамадства, яго эвалюцыі.*

*Нацыяналізм — гэта з'ява сучасная, з'ява духоўнага плану. Гэта істотна якасны крок у бясконцым руху чалавека да Бога. Важнасць падзелу чалавечага грамадства на народы стала, фактычна, зразумелай толькі цяпер, хоць пра гэта сказана яшчэ ў Святым Пісьме: «І напоўніліся ўсе Духам Святым і пачалі гаварыць на іншых мовах, як Дух даваў ім вяшчаць... Як жа мы чуем кожны сваю мову, у якой нарадзіліся, Парфяне і Мідзяне і Еламіты, і жыхары Месапатаміі, Юдэі, Кападокіі, Понта і Асіі, Фрыгіі і Памфіліі, Егіпта і частак Лівіі...». Паводле гэтага урыўка Евангелля, Можна гаварыць рознымі мовамі, і гэта азначае, што розныя народы (этнасы, нацыі) аднолькава важныя для Бога.*

У апошнія гады інтарэс беларускага грамадства да гэтай нашай тэмы напэўна ўзрос, і ў беларускім друку усё часцей пачалі з'яўляцца публікацыі пра нацыю і нацыянальную беларускую ідэю. Прызнацца, не чакаў, і таму дзівам падалося мне, калі, пасля нават беглага агляду надрукаванага,



выявілася няздольнасць (ужо не толькі службовага люду) нават ахвочых да разгляду нацыянальнай тэматыкі асоб з асяродку інтэлігенцыі знайсці здавальняючае вызначэнне нацыянальнай ідэі. І гэта, на мой погляд, паказвае, як далёка мы адышлі ад сутнасці пытання, ад паўнакроўнага адухоўленага жыцця нацыі, ды яе клопатаў.

Ну вось апошні гарачы блін з выдавецкай патэльні: названая ўжо намі кніга «Беларусь превыше всего!» Камусьці відочна падалося, што ў першых трох словах назвы і ўтрымліваецца тое, што трэба, і што ён такі, урэшце, Бога за бараду схапіў. А гэта ж не так, і выстрал, што называецца, у малако. Філасофскі камень і тут выслізнуў з рук. Урэшце, той, хто цешыць сябе ўдачай, можа парадніцца неўпрыцям з пашанотным жартаўнікам Акудовічам.

У навукова-публіцыстычным даследаванні А. Астапенкі «...И где зродилися и ускормлены суть по Бозе...» нацыяналізм трактуецца як высокі дарунак, дадзены ўсяму народу, які нітуе, гуртуе, звязвае яго — нягледзячы на індывідуальныя адрозненні людзей — у адзінае цэлае (па М. Кляпеніну). Аўтар гэтай пранікнёнай кнігі слушна даводзіць, што без пачуцця духоўнага і крэўнага, генетычнага адзінства са сваім народам мы шмат страчваем і адчуваем непаўнацэннасць жыцця. А пачуцці і праявы нацыяналізму, калі хочаце, ужо ад нараджэння натуральна ўласцівы кожнаму чалавеку, толькі ў пэўных гістарычных абставінах — пад уздзеяннем рознага ўціску грамадства — яны могуць не раскрывацца. І, калі падобны ўціск доўжыцца невядома колькі, пачынаецца аслабленне тых нітуючых скрэпаў, адбываецца распад нацыянальнай памяці, і народ, увесь народ, як вялікі недагледжаны сад, драбнее, дзічэе, страчвае сябе ў хмызняках, калі не ў балоце; у чым і боль, і трывога, і праблематыка новай кнігі.

Як добра было б,
каб наша беларуская мосць
нейкім чынам
ды ўсвядоміла
гэта.

# БЛІСКУЧАЯ ІДЭЯ, АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ЯКОЙ ДАЕ ВЫНІК ЗВЫРОДНЫ



*Прамова на грамадскім форуме «У будучыню — без камунізму!», праведзеным у сядзібе БНФ «Адраджэнне» 3 кастрычніка 2007 г.*

*(Акурат у гэты ж дзень у Палацы Рэспублікі ў Мінску праходзіла Міжнародная канферэнцыя камуністычных партый, прысвечаная 90-годдзю Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі).*

*«Блукае прывід па Еўропе, прывід камунізму» — Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс. Сярэдзіна 19 стагоддзя.*



Прывід заўсёды трывожыць як штосьці невыразнае, да пары да часу няўцямнае, што не мае рэальнага аблічча; ён як прадвеснік таго, чаго не было і што хоцькі-няхоцькі насоўваецца ці можа насунуцца.

Адно толькі К. Марксу і Ф. Энгельсу за гэтым прывідам у Еўропе бачылася паласа дабрачыннага — гэтакая новая грамадская фармацыя, дзе будуць свабода, роўнасць, братэрства...

І вось старэйшым людзям, якія яшчэ жывуць сёння, нашым бацькам і дзядам на ўласныя вочы адкрыўся той прывід — ўжо не прывід, а самы сапраўдны, і зманлівы, і паскудны, а які ж раскрывавы, крый Божа, лад жыцця! І гэтакі лад заўзятыя і мройлівыя альбо, наадварот, прагматычна ліняючыя палітыкі дый філосафы называлі, з дазволу сказаць, камунізмам.



Я асабіста цярпліва і паважліва стаўлюся да розных палітычных поглядаў і арыентацый. Але, калі пачнуць плесці сваю старасвецкую павуціну альбо вешаць локшыну на вушы такія лідэры сучаснага камуністычнага і быццам бы рабочага руху як Зюганаў, Ампілаў з суседніх абшараў ці наш карыфей — прафесар-філосаф і акадэмік невядома якіх камуністычных акадэміяў Іван Акінчыц — невыносна сумна робіцца і боязна за чалавечы розум, — ці ёсць ён у чарапных каробках у некаторых?

Хочацца зрабіць выключэнне з гэтага шэрагу для Сяргея Калякіна, першага сакратара ПКБ, хоць бы таму, што, мяркуючы па ўсім, ён прымае гісторыю бальшавізму такою, якой яна была, і разлічвае ўзяць адтуль толькі лепшае. Высакародная мэта! Як, зрэшты, і ў кагосьці раней — было... Аднак дазволю сабе працытаваць ягоныя словы:

*Гісторыя Кастрычніка — не пыльны архіў, а наш усеагульны універсітэт. Калі мы не прааналізуем прычыны як найвялікшых дасягненняў, так і не меней маштабных памылак, параз, трагедый нашай мінуўшчыны, то непазбежна асудзім сябе на блуканне без руля і ветразяў у будучыні.*

Тэарэтыкі сёння могуць вызначаць і даказваць, у чым заснавальнік навукі пра рэвалюцыйны камунізм вялікі і геніяльны эканаміст К. Маркс (Мардахей Маркс Леві) не памыляўся, паўтараю, у чым не памыляўся... А вось пра памылкі і пралікі марксізму-ленінізму цяпер на поўных падставах могуць гаварыць ужо не толькі тэарэтыкі. Амаль тры чвэрткі стагоддзя мы на практыцы і на ўласнай скуры спазнавалі, што гэта за лад, што за чыннасць такая — камунізм, якому (перад самым ягоным сконам) ханжы і лісліўцы спрабавалі надаць «чалавечы твар», дарэмна прыкрываючы чалавечаю маскай яго звярыную пашчу.

Дык вось, па маім глыбокім перакананні, першы пралік геніяў камуністычнай фармацыі быў у тым, што, паводле іхніх уяўленняў, пралетарыям, або люмпенам павінна належаць будучыня («гвалтаванне — спавівальная бабка гісторыі»).

Будучыня не магла ім належаць, бо ім, малаадукаваным і нават малапісьменным, не належала і ў прынцыпе не магла належаць улада ў краіне. Таму на спінах «гегемона рэвалюцыі» — пралетарыята да ўлады дапяла, дабралася



спанатраная ў палітычным штукарстве партакратыя, у большасці сваёй такая ж, як і люмпены, малаадукаваная і ў справах дзяржаўных нявопытная, затое самаўпэўненая і пыхлівая. Усе свае прыхамаці здзяйсняла іменем рэвалюцыі і толькі.

Але не менш істотны і сацыяльна-эканамічны пралік, які дапусцілі Маркс і марксісты. Ён у змене адносін да працы, уласна, у тым, што папярэдне не былі ўлічаны і належным чынам не былі ацэнены змены ў вытворчых адносінах пры камунізме (сацыялізме), асабліва на вёсцы, а яны ж скрозь пагоршыліся, упалі мала што не да тых адносін, якія былі ў рабаўладальніцкіх краінах.

Ні Маркс, ні Ленін як рэвалюцыйныя лідэры не разумелі прыроды сялянскае працы і не здагадваліся, што ў земляроба свае неардынарныя стасункі з зямлёй і што зямля мае над ім, шчырым, заўзятым селянінам, сваю прыязную ўладу. Услед за Марксам ідэолагі-камуністы бачылі адно — ідыятызм сялянскага жыцця; праца ў сялян сапраўды была цяжкая, але ж ні ў кога з адарваных ад зямлі партыйных таварышаў, самаўпэўненых і чванлівых, не знайшлося спачування да земляроба як да творчай і прадпрымальнай асобы. У Беларусі ў 20-я гады працаваў народным камісарам земляробства Зміцер Прышчэпаў, выдатны знаўца сельскай гаспадаркі, прыхільнік Сталыпіна, гаспадар, якія рэдка сустракаюцца. Ён ашчаджаў сялянскія двары і спрыяў развіццю скааператаванай вытворчасці. Дык, як і многіх, яго, камуніста Прышчэпава, спасцігла расправа. І клас сялян знішчылі пад самы корань, безаглядна, бязглузда і жорстка, бы тыя вінаградныя лозы пад час гэтак званай перабудовы.

Згаданая гістарычная акцыя са знішчэннем сялян як класа з'яўляецца нечуваным злачынствам перад усімі народамі СССР — краіны-камуны, краіны, якая далей болей пераўвасаблялася ў адзіны і звонкі ад бравурных песень канцлагер.

А да наступнага праліку К. Маркса спрычынілася, напэўна, ужо яго этнічнае паходжанне, што абумоўлівала вельмі слабае адчуванне ім сваёй зямлі і радзімы. Гэты момант меў на ўвазе, закранаючы інтэрнацыяналізм як з'яву, яшчэ Міхаіл Бакунін, нарадаволец, і на гэта ж спасылаецца беларускі філосаф Мікола Крукоўскі ў кнізе «Бляск і трагедыя ідэалу», калі разглядае прыроду інтэрнацыяналізму К. Маркса, таго інтэрнацыяналізму, які, будучы састаўной



часткай навуковага камунізму, прапагандаваўся і ўкараняўся паўсюль.

Для К. Маркса нацыянальная ідэя — нешта чужое, яна для яго наогул не існуе. Адсюль — як раз плюнуць — геніяльная тэза: «рабочыя не маюць айчыны»! Яны, чуеце, — не адухоўленая ні сваёй зямлёй, ні сваім народам, ні сваёй верай і нацыянальнай культурай — маса, акурат як пясок-напаўняльнік у будаўніцтве, які можна перасыпаць і перавозіць куды хочаш, і ад гэтага яго ўласцівасці, яго якасці не мяняюцца... інертны. Бяскрыўднае нібыта на паперы вызначэнне ды, вядома, і памылковае, яно дало камуністам падставы для руйнавання нацыянальных святыняў, нацыянальных каштоўнасцей, этнічных межаў культур. Прыгадаем тут хоць бы тое, як і наколькі рэвалюцыйна прагныя камунякі нішчылі, рэзалі як саміх нас, так і нашы этнічныя тэрыторыі, па-жывым рэзалі, — з блаславення бальшавікоў, Леніна і Сталіна!

Як ні дзіўна, сярод яўрэйскага насельніцтва К. Маркс быў першым антысемітам *. Маркс вельмі крытычна ставіўся да сваёй нацыі і асабліва да «капіталу ў бруднай яўрэйскай форме яго праяўлення», нават выношваў праекты, як раз'яўрэіць, разбанкірыць і, так бы мовіць, цывілізаваць народ, з якога сам выйшаў, зрабіць яго больш лаяльным і спагадлівым да прадстаўнікоў іншых этнічных і культурных пластоў.

Але ж, разважаючы над асаблівасцямі натуры і характару свайго народа, ён, пэўна, ніяк не спадзяваўся, што яўрэі адыграюць у сацыяльнай рэвалюцыі ролю, ні ў чым не ўступаючую ролі пралетарыяту. І ўжо нават не ён, прабеглы ў эканамічных разліках Маркс, а Вільгельм Мар, нямецкі пісьменнік, яшчэ пры жыцці Маркса зазірне наперад у гісторыю: «*Яўрэйскія змоўшчыкі выклічуць у Расіі рэвалюцыю, якой свет яшчэ не бачыў... Пасля таго, як Расія будзе пераможана, ім ужо не будзе чаго баяцца*».

Пры сённяшняй інфармаванасці грамадства можна не сумнявацца ў разуменні таго, што роля гегемона ў рэвалюцыі належала не аднаму пралетарыяту і не столькі яму, колькі яўрэйскай супольнасці, растрэсенай у свеце. Не пралетарыят,

* Дарэчы, мяркуючы па вершах, вельмі крытычна ставіліся да свайго роду і такія вядомыя паэты-псіхааналітыкі, як Ігар Губерман, Барыс Слуцкі...



а людзі гэтай нацыі ўсчалі наперад спланаваны імі за мяжой рэвалюцыйны пераварот у Расіі, аслабленай зацяжною вайной. Яны кінуліся дагаджаць у Петраградзе люмпенам, раздавалі ім грошы за удзел у мітынгах, дэманстрацыях, засыпалі народ пракламацыямі, улёткамі, хлуслівымі абяцанкамі і — чаго ж яшчэ варта было чакаць? — першымі апынуліся каля штурвала ўлады! Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зазірнуць адно ў спіс кадравых персаналій дзяржаўных і партыйных устаноў РСФСР у 1917–1921 гадах.

Што спіс паказвае? Яўрэяў у апараце Савета Народных Камісараў усяго з 22 асобаў — 17 (а на пачатку было нават і болей), у Ваенным камісарыяце з 43 — 34, у Камісарыяце унутраных спраў (разам з петраградскай і маскоўскай надзвычайнымі камісіямі) з 64–43, у Камісарыяце фінансаў з 30–26, у Камісарыяце юстыцыі з 19–18, у Камісарыяце народнай асветы з 53–42, сярод правінцыйных камісараў з 18–17, у газеце «Праўда» з 15 журналістаў (разам з М. Горкім) — 14 і г. д. і д. п. Адным словам, разлік К. Маркса на пралетарыят, як носьбіта рэвалюцыі, тут праваліўся цалкам — пралетарыят хутчэй за ўсё адыграў ролю цягла.

Адносіны з простым людам у чыноўнай праяўрэйскай партакратыі пачалі складвацца — як у швондзераў з шарыкавымі (паводле М. Булгакава). Пры распадзе Саюза, дарэчы, швондзеры першымі кінуліся рабаваць дзяржаву і вывозіць за мяжу капітал, наносячы непамерныя страты Расіі.

Сёння ў нас, у мяне, напрыклад, ёсць сумненні ў тым, штó менавіта кіравала ўчынкамі новай касты чыноўнікаў-бальшавікоў, якія дзейнічалі за шырмай бліскуча пастаўленай савецкай сацыялістычнай прапаганды, якая, бадай, нікольк не ўступала гебельсаўскай. І ці былі ў бальшавікоў пры ўладзе, асабліва ў лідэраў, сапраўдныя клопаты пра ўвасабленне ў жыццё ідэй камунізму? Камунізму, з ягонай свабодай, роўнасцю, справядлівасцю?.. Прынамсі, ёсць нямала доказаў таму, што верх над гэтымі клопатамі брала жаданне раз і назаўсёды падпарадкаваць масы. А каб лягчэй было кіраваць людам — апрацаваць, абкатаць, стандартызаваць душы, люмпенізаваць і манкуртызаваць краіну, выбіць зямлю з-пад ног у сялянства, ліквідаваць індывідуальную сям'ю, пашырыць інтэрнаты, пакінуць у памяці «новага чалавека» адно камуністычныя лозунгі і абавязкі працаваць у імя ідэі. Тут няма перабольшвання, як што падобнае



бачанне камунізму публічна выказваў яшчэ адзін марксіст, паплечнік Леніна — Л. Троцкі. Дый падаўжальнік іх справы І. Сталін не далёка адышоў ад Троцкага і дзеля далейшага здзяйснення ідэі абсалютнага ўладарання шырока ўжываў метад нагнятання страху праз рэпрэсіі, катаванні і крывавыя лазні.

Не ведаю, не чытаў (магу памыліцца), каб К. Марксам і Ф. Энгельсам былі прадугледжаны няшчадны тэрор, разбурэнне палацаў, сабораў, велічных помнікаў чалавечай культуры. А вось пры Ульянаве-Леніне гэта культывавалася ў глабальным маштабе, і ён першым загаварыў пра ахвяры: маўляў, дзеля таго, каб расчысціць шлях да камунізму, гатовы ахвяраваць паловай насельніцтва Расіі, калі не болей... Хітры нячысцік, няйначай, даў яму на тое права!.. Зразумела, і Сталіну даў... Прыхамаці Сталіна, што было ў гісторыі, не дагадзіў XVII з'езд партыі, і ён амаль усіх дэлегатаў з'езду спісаў у расход, зусім як Ленін кранштацкіх матросаў. Чым жа не Іван Жахлівы?!

Масавыя палітычныя рэпрэсіі пачаліся пры Ільічу, і не хто іншы, як ён, расстраляў тыя 30 тысяч кранштацкіх матросаў, якія выступілі супраць крывадушша ў партыйнай палітыцы — як што пад лозунгам «Уся ўлада Саветам!» адбыўся пераход ўлады да партыі. Пры Леніне ж атрутнымі газамі вынішчалі, бы якіх прусакоў, цэлыя расійскія вёскі, сяляне каторых нутром сваім не прымалі камуну.

Ідэалогія камунізму дазваляла Іосіфу Сталіну і далей і заўжды шукаць «ворагаў народа» і пракладваць у сацыялістычным нібыта грамадстве крывавыя тунелі смерці. Асабліва пацярпела ад рэпрэсій (калі браць у працэнтных адносінах) Беларусь, прычым, знікалі ў турэмных засценках і фізічна знішчаліся не толькі людзі — найбольш здольныя і таленавітыя, чым наносіліся значныя страты генафонду карэннай нацыі, разам вытраўлялася і духоўная культура. Прыкладам, за адзін толькі 1935 год ў бібліятэках, кнігарнях, у школах БССР сабрана і знішчана 12 мільёнаў асобнікаў кніг беларускай літаратуры, нярэдка сапраўднай класікі, прычым, у лік крамольных патрапілі творы не толькі аўтараў савецкага перыяду, але і напісанае ў XIX-м стагоддзі. У двары мінскай турмы «амерыканкі» палілі рукапісы ашальмаваных без дай прычыны пісьменнікаў. А пазней беларускамоўныя школы, прафесійна-тэхнічныя вучэльні,



інстытуты прымусовым парадкам пераводзілі на рускую мову і ў беларускіх дзяцей адабралі магчымасць набываць адукацыю на мове сваёй карэннай нацыі. Становішча не выпраўлена дагэтуль. Усё паказвае на зараней спланаванае вынішчэнне, на генацыд беларускага народа, і з гэтым ужо ў наш час перагукваецца экспрапрыяцыя, інакш не назавеш, Саюза беларускіх пісьменнікаў, калі па нейкіх «палітычных прычынах» у аб'яднання творчых і патрыятычна настроеных людзей — пісьменнікаў забралі будынак паліклінікі, а потым і Дом літаратара, выкінулі з Дома літаратара сабраную ў пасляваенныя гады пісьменніцкую бібліятэку, а з ёю разам і каля сотні мастацкіх палотнаў з партрэтамі класікаў беларускай і савецкай літаратуры, затым ужо дабраліся да падмурку — ліквідавалі Беларускі літаратурны фонд і пачалі гандляваць ягонаю маёмасцю — за бясцэнак прадалі сцены Дома творчасці «Іслач»... І гэта зрабілі памешаныя на ўладзе і сваволілі беларусы, нібы пераняўшы вопыт руйнавання жыцця ад даваенных антыхрыстаў.

Але ж, прабачце, сёння гістарычныя крыніцы з няўмольнай праўдзівасцю сведчаць: у Мінску сярод энкавэдыстаў, якія чынілі арышты, а потым — дазнанне, мардаванне, катаванне, расстрэлы, руйнаванне духоўных каштоўнасцяў практычна не было ні беларусаў, ні ўкраінцаў. Займаліся гэтым пякуча ідэйным промыслам зазвычай тыя, хто прынёс сюды рэвалюцыю, а таксама выхадцы з расійскіх аддаленых абсягаў. Што да яўрэяў, то, нягледзячы на шырока вядомую іх ўзаемавыручку і падтрымку адным аднаго, тут спачування альбо скідак нікому не было, і тыя, што пры ўладзе і зброі, знішчалі сваіх, абылганых і скрыўджаных, гэтак жа, як і ўсіх астатніх. У душах катаў над усім бралі верх, відаць, нейкія іншыя разлікі, пачуцці і якасці.

І яшчэ дзеля развіцця тэмы светабачання.

К. Маркс, як і ягоны папярэднік матэрыяліст Феербах, бралі ва ўлік і ацэньвалі адно матэрыяльную культуру. У аснове вартаснага кошту К. Маркса ляжала толькі фізічная праца, а разумовая — свядома ці не — апускалася. У выніку — аж па сённяшні дзень у нашым грамадстве недаацэньваюцца інтэлектуальная праца, менеджмент, арганізацыйная дзейнасць, а на развіццё занядбаных галін навукі і культуры зазвычай адпускаецца ўсяго да 1–2% сродкаў ад дзяржаўнага бюджэту краіны.



Бальшавікі адмянілі багата чаго і спрабавалі адмяніць законы развіцця грамадства і прыроды.

Яны, марксісты і ленінцы, так і не набыўшы высокай чалавечай культуры, зачастую непісьменныя, але фанатычна і па-валюнтарысцку настроеныя, палюбілі хуткія вынікі, дасягнутыя любою цаною, пяцігодкі ў тры гады, апладысменты, вялікія праекты па затапленні жыццядайных прыродных тэрыторый, збудаванні плацін і, наадварот, асушэнне шырокіх абсягаў, агаленне і разворванне поймаў рэк, што вяло і вядзе да іх перасыхання і гібелі, узяліся былі і за выпрамленне рэчышча і ператварэнне ракі Прыпяці у канаву.

Сама прырода стала помсціць бальшавікам. У Чарнобылі яна аднойчы грозна чмыхнула. А вынік які?!

Ці выпадкова савецкая імперыя развалілася? Мы ж ведаем, мы помнім, хто жыў тады ў СССР, і добрае, і пэўныя свае дасягненні, і розныя прыемныя моманты, радасці. Але толькі ж ці забяспечвала вялікая і надзвычай багатая на прыродныя рэсурсы краіна сама сябе, тым болей што праца ў ёй абвяшчалася справай гонару і найпершага абавязку... Дык ці забяспечвала яна хоць бы свае патрэбы ў прадуктах харчавання і прадметах першай спажывецкай неабходнасці? Калі забяспечвала, то чаму тады у паласе распаду цэлымі эшалонамі вывозілі золата за мяжу, агаляючы тым самым казну?.. Не, не, даруйце, асобнымі дасягненнямі ў пэўныя часы ніяк не апраўдаеш звыродлівасць дзяржаўнага ладу, занядбанне раней урадлівых зямель, холад і голад, ману і страх, драмы і трагедыі, якія перажылі ў такой меры і без меры савецкія людзі. І, як-ніяк, для распаду Савецкага Саюза былі аб'ектыўныя прычыны.

Марксісцка-ленінская навука, як мне бачыцца, канчаткова вычарпала сябе пасля адмены НЭПа, у паласе пераходу краіны да СССР як адмысловага ГУЛАГу, і шырэй — глабальнага лагера сацыялізму, у якім, здавалася, адшылі эксплуататараў. Тым не менш, самым жорсткім, уніфікаваным эксплуататарам, калі не сказаць рабаўладальнікам, выступіла ўжо сама разгуманная, з дазволу сказаць, камуністычная дзяржава.

І апошняе. Як вядома, дзякуючы клопатам Палітбюро, наш савецкі сацыялізм быў распаўсюджаны не на адну краіну. Яго з хлебам і без хлеба паспыталі багата якія народы, і, што характэрна, у сацыялізму скрозь адны і тыя ж



хваробы: гэта і культ асобы, і валюнтарызм, і дэспатызм, дыктатарства, бестэрміновае панаванне нейкага ідала замест пануючай дэмакратыі, замест дабра і справядлівасці і конча абяцанага скрозь братэрства. Таму не дзіва, што з зямель, далёкіх і блізкіх, змардаваных камуністамі і таму жалю вартых, шмат уцекачоў і выгнаннікаў...

Урэшце, перад намі выніковы і брутальны паказальнік «прагрэсу»: камуністычныя дзяржавы скрозь плятуцца ў хвасце эканамічна развітых краін!

Падняць бы геніяў, заснавальнікаў камунізму, з магіл, хай бы яны падзівіліся на вынік сваіх важных клопатаў, якімі гэтак прагнулі ашчаслівіць ўсё чалавецтва!

# ШТО, КАЛІ ФРОНТ БЕЗ ТЫЛУ



*Каментар да 20-й гадавіны патрыятычнага руху*

Беларускі народны фронт, заснаваны творчай і навуковай інтэлігенцыяй горада Мінску, з'явіўся сапраўдным адраджэнцкім інструментам і дзейсным сродкам у галіне нацыянальнай культуры і будовы дзяржаўнасці. Стварыць яго падказала, можна сказаць, само жыццё і, як вядома, тое, што атрымала назву Перабудовы. Ён паходзіць з грамадзянскай актыўнасці маладзёжных суполак і перш за ўсё «Талакі», з ажыўленых і працяглых дыскусій пісьменнікаў і вучоных па роднай мове на Беларускім радыё, з такіх жа дыскусійных палымяных і вострых артыкулаў у пісьменніцкім штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», з масавых (падрыхтаваных паціху) зваротаў інтэлігенцыі, мастакоў, пісьменнікаў, а таксама рабочых — у Маскву, у Маскву з патрабаваннем спыніць працэс асіміляцыі і этнацыду; нарэшце, з абнародавання археолагам З. Пазьняком вынікаў раскопак у Курапатах. З гэтага кіпучага булёну і выкрышталізаваўся і стаўся Аргкамітэт народнага фронту «Адраджэнне», у якім пачэсную і актыўную ролю ад самага пачатку адыгрывалі і В. Быкаў, А. Марачкін, В. Вячорка, М. Купава, М. Ткачоў, М. Чарняўскі, П. Садоўскі, М. Дубянецкі, В. Івашкевіч, А. Мальдзіс і дзесяткі іншых беларускіх дзеячаў, да ліку якіх, лічу за гонар, далучыць і сябе .

Пазней, пасля распаду СССР і нараджэння незалежнай Рэспублікі Беларусь, найвялікшую арганізацыйную і юрыдычна-заканадаўчую працу (мазгавога цэнтра) узяла на сябе дэмакратычная парламенцкая апазіцыя, утвораная Беларускім народным фронтам «Адраджэнне» на чале з З. Пазьняком. А ў гэтым цэнтры ўжо пыніліся: С. Антончык, Ю. Беленькі, А. Трусаў, Л. Баршчэўскі, І. Гермянчук, Л. Зданевіч, Г. Сямдзянава, В. Голубеў, М. Аксаміт, Л. Зданевіч, У. Грыбанаў, М. Крыжаноўскі ды іншыя іх паплечнікі.



Парламенцкая апазіцыя, карыстаючыся доступам да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, здолела раскрыць перад народам новыя перспектывы, натхніць яго у пераважнай сваёй гурме і абаперціся на ягоную падтрымку. Яна падрыхтавала і дамаглася прыняцця ў парламенце важнейшых заканадаўчых актаў, дзякуючы якім краіна ў 1991–1994 гадах зрабіла ўпэўненыя крокі па шляху сапраўднага адраджэння нацыянальных асноў жыцця і ўтварэння грамадзянскай супольнасці.

Аднак пасля несумненных поспехаў у ажыццяўленні праграмы Беларускага народнага фронту неўзабаве наступіў перыяд няўдач, што прывяло патрыятычны рух да крызісу і паразы ў грамадстве. Прычыны таму розныя: унутраныя, пераважна суб'ектыўныя, і знешнія, злавесныя, схаваныя ад грамадства. Маё бачанне фіналу выкладзена ў нарысе-эсэ «Чэленджар перабудовы» (В. Якавенка. «Нячывелле», зб. апавяданняў, публіцыстыкі, дакументаў. Мн., 2008).

З іміджам З. Пазьняка ўва многім нітуецца поспех апазіцыі, і гэта правільна. Такі Пазьняк патрэбен быў. Ён патрэбен быў яшчэ разумнейшым, каб не палохаць народ і сваіх паплечнікаў авантурыстычнымі закідамі. Але з разумнейшым не выстарчыла. І ў поспеху лідэра ўсё выразней адчуваліся і ягоныя заганы, пралікі, яны неаднойчы выклікалі вострыя спрэчкі ў асяродку БНФ дый у цэлым у грамадстве, якое ўсё больш расчароўвалася ў кіраўніцтве БНФ. Характэрным было выступленне Зянона на Кастрычніцкай плошчы (на мітынгу) падчас першых выбараў прэзідэнта краіны, дзе ён заявіў, маўляў, калі прыйдзем да ўлады, будзем вешаць камуністаў вунь на тых слупах...

Незалежны назіральнік з асяродку беларускіх эмігрантаў, дасведчаны ў палітыцы чалавек Васіль Мельяновіч, слухаючы Пазьняка пад час ягонага публічнага выступу па тэлебачанні ў якасці кандыдата на выбарах прэзідэнта, усклікнуў з горыччу: «Доўбень! Замест таго, каб аб'ядноўваць людзей вакол сваёй платформы, ён настройвае адных супраць другіх! Ён клін убівае ў грамадзянскую супольнасць, пасяляе варожасць! І — гэта вельмі дрэнна, ну, што ты скажаш — доўбень!» І гэтым многае тлумачыцца. Дый не толькі ў той незайздроснай гісторыі Народнага фронту — акурат і ў нашым жыцці, акурат у цяперашніх «пяцігодках», бо не цяжка правесці аналогію паміж тым і



гэтым — валявымі і важнымі, захарактаранымі і помслівымі, хцівымі...

Лідэр БНФ рабіўся тормазам у далейшым развіцці руху. Толькі ж гэтая тэма ўжо для асобнага разгляду.

Чалавек высока развітага інтэлекту і адначасова вялікі зайздроснік, раўнівец, шукальнік плоймы ворагаў у сваім асяродку... Першае межавала з другім, і другое нярэдка брала верх, абарочваючыся агрэсіўнасцю.

Пасля пастаянных падкопаў і грубай абразы аднойчы я не вытрымаў і ўступіў яму — выйшаў з аргкамітэта, які ўзначальваў, але і таго Пазьняку падалося мала. Ягоным памкненнем на мяжы стагоддзяў было перапісаць усю гісторыю БНФ пад сябе як правадыра і пачынальніка. Адсюль і фальсіфікацыя ў энцыклапедычных артыкулах пра Народны фронт і па-д'ябальску задуманае ды сціху выкананае шулерства — допіс пра БНФ і яго стварэнне (з адчайнай пераніцоўкай і скажэннем фактаў) у кнізе В. Быкава «Доўгая дарога дадому». Угадваюцца стыль, почырк і знявага «сааўтараў» Васіля Уладзіміравіча. Толькі ж Быкаў, вярнуўшыся з доўгай дарогі дадому, пра тую афёру, бадай, нічога не ведаў. Наадварот, па тэлефоне з вялікай цеплынёй і нават пяшчотай прамаўляў да мяне, віншаваў з раманам «Надлом», якім, адчувалася, быў уражаны, і абодва мы тады спадзяваліся на хуткую і радасную сустрэчу.

Далейшым крокам з боку Пазьняка ў ахайванні і паклёпу на сваіх былых паплечнікаў стала кніга «успамінаў» Зянонавай жонкі Галіны Пазьняк «Беларусь у маім сэрцы». І тут побач з фактамі — выдумкі, фантазіі, беспадстаўныя інсінуацыі. А ён адно ніколі не ставіўся да сябе самакрытычна, і таму не ў стане быў зразумець «здрады» — так менавіта ўспрымаюцца ім самім дзеянні яго ранейшых паплечнікаў і сяброў.

Я аргументавана і доказна адмёў у друку ману Г. Пазьняк («Народная воля» за 3 кастрычніка 2008 г.). Тады ўжо сам Зянон узнік на старонках той жа «Народнай волі» за 16 кастрычніка. У артыкуле «Праца, якая заслугоўвае пахвалы» ён зноў абвінавачвае і ганіць В. Якавенку, цяпер, праўда, зусім за іншае: *«Праблема была шырэйшай, пра якую у Фронце ведалі далёка не ўсе... Якавенка прыйшоў не адзін, адразу прывёў з сабой прыгожую маладую сакратарку, якая пісала ўсе пратаколы Аргкамітэта і добра гаварыла па-беларуску...»*



Дапусцім. Але ў чым тут крамола? Аказваецца, была жонкай афіцэра КДБ!

Аднак факт новага аблуднага чыну заключаецца ў тым, што ніякую такую маладую сакратарку, жонку афіцэра КДБ, у Аргкамітэт я не прыводзіў і наогул не памятаю падобнай асобы, а прозвішча той Пазняк не называе. Па дамоўленасці са мной пратаколы вяла вельмі прыстойная і аддадзеная патрыятычнай справе жанчына ўжо сталага веку — пісьменніца Святлана Клімковіч.

У гэтым сваім артыкуле Зянон, як заўжды, выкрывае сексотаў і здраднікаў Фронту, толькі іх нават зашмат, адмятае папрокі ў няпраўдзівасці тых ці іншых старонак успамінаў, напісаных Г. Пазьняк, як і папрокі ў сваёй баязлівасці (уцёк з Бацькаўшчыны), выказаныя яму ў друку І. Кісялёвай, і тут ён наводзіць цень на пляцень. А дарэчы сказаць, і ў КДБ былі не адны ворагі Пазьняка і Народнага фронту.

Ён даўно ўжо там, на Захадзе, а БНФ — тут, на Бацькаўшчыне. Перад ім супольная і светлая справа, якой мы разам займаліся.

Партыя БНФ сёння, бадай, адзіная з усіх партый, статутным абавязкам якой з’яўляецца нацыянальна-культурнае адраджэнне.

У БНФ на сёння добрае папаўненне за кошт прытоку моладзі, з’явіліся новыя патрыятычныя песні, рыхтуюцца да выпуску фотаальбомы, ладкуюцца выставы, дыскусійныя клубы... Хочацца думаць, што такі Фронт, умацоўваючыся ў новых варунках жыцця і шукаючы сабе падтрымкі не толькі ў грамадскай прасторы, але, па магчымасці, і ва ўладных структурах — бо гэта ж высакародная справа! — не дазволіць вынішчыць на роднай зямлі сваю мову, гісторыю і культуру, скарб, набыты народам у стагоддзях.

*19 кастрычніка 2008 г.*

# НЕ ШУКАЙ СЯБЕ НА ЧУЖЫНЕ



*Да 70-гадовага юбілею Леаніда Дайнекі*



У адна тысяча дзевяцьсот саракавым годзе ў сялянскай беларускай сям'і нарадзіўся хлопчык. Амаль нічым не прыкметны. Акурат той, які ў Змітраўцы-2, во-во, што пад Клічавам. Звычайнае немаўля. Але ж і актыўнае, і як пачало смактаць у матулі Тэклі з грудзей, не заўсёды поўных, то разам з малаком увабрала і настрой маладзіцы — трывогу за парадак у самай шчаслівай краіне, трывогу за бацьку-вайскоўца, бо той як рушыў у паход на вызваленне Заходняй Беларусі дык дапяў, няўрокам кажучы, ажно да лініі Манергейма ў Фінляндыі, а вярнуўся адтуль — собіла акурат з немчурой, будучы ў партызанах, патузацца, а потым і на плацдармах Другой сусветнай... Змітраўка дачакалася яго, але, да жалю, толькі інвалідам.

Далей, чуеце, з бацькі атрымаўся вясковы нізавы кіраўнік, які працаваў на розных (тады незаменных) пасадах. Важней тут, у нашым аповядзе, праўда, што ён быў бацькам шматдзетнай сям'і. Лусты хлеба не ставала, а трывог у ваеннай паласе часу хапала з лішкам. Дык жа і ўсмоктвала наша лабасценькае хлапчанё, якое сталі зваць Лёнікам, ўсё-усё, чым яго атульвала жыццё: і матчыну пяшчоту, і непакой, і радасць перамогі, і пасляваенны клопат, шырока разліты ў народзе, пра знябыты вынік працы на ферме, на полі... Асабліва ў бясхлебіцу. Над усім жа, як зазвычай у пачэснага люду, узвышаўся клопат пра сям'ю, пра свой род і нават нешта большае, што перадавалася ўжо не аднымі вуснамі.

Пачуцці хлопчыка развіваліся суладна з духам вясковай глыбінкі. Не дзе-небудзь, а тут выспявала і гартавалася сумленне. Пачуцці душы... Яны ўзносілі яго на крылах мараў і



юначай фантазіі. У хлопца назапашваўся багаты і шчодры чуццёвы набытак! Ён як скарб — непакоіў і песціў. Адно, калі той неўтаймоўны набытак шукаў сабе выйсця і не знаходзіў яго, то пачынаў самаразгарацца, ды так, што, пэўна, даставаў аж да карэньчыкаў валос, падсмажваў іх, і ад таго шэвелюра ў падлетка аздаблялася ўсё больш і больш агніста-рудым колерам. Інакш адкуль бы такому хвацкаму колеру ўзяцца?

Атрымаўшы атэстат сталасці, юнак рашыў паглядзець, што робіцца за ваколіцамі роднае Змітраўкі. І, як птах-маладзён з дрэва, ён спікіраваў з хрыбціны вёскі ў прастору. Удыхнуў на поўныя грудзі. Хвалявала і радавала свабода. Яго падхапіла ветрам рамантыкі і як бачыш закінула... ў прыбалцкі горад Калінінград. За шчасце лічыў быць дарослым паўнавартасным грамадзянінам і працаваць на будоўлі вучнем муляра, атрымліваць грошы, хоць пакуль і невялікія, але ж і яны падмацоўвалі дух, сагравалі мары, развівалі задумкі. Шукаў і выкройваў, прыкідваў, як цяпер пераслаць што якое ў падмогу бацькам — гонар які!..

Але ж нязгасная рамантыка, як і неўтаймаванасць натуры, неўзабаве шпурнулі юнака з захаду на ўсход — у Свярдлоўскую вобласць, дзе таксама чакала будоўля, а адтуль — якая прастора ў краіны! — нават у Ніжні Тагіл. У тым Тагіле хлопча набудзе прафесію электразваршчыка і, споўнены рабочага гонару, ўладкуецца сеяць агністыя пырскі на аграмадным металургічным камбінаце.

Што ён шукаў, можна толькі здагадвацца. А калі па шчырасці і па больш высокім рахунку — шукаў самога сябе. З кніжак ведаў, што калі знойдзеш сябе, будзеш вельмі шчаслівым.

Толькі ўжо на творчую пуцявіну сваю выйшаў пасля службы ў арміі, і тое, што раней набыў, што пабачыў, клалася ў заплечнік. Звольнены ў запас сяржант інтуітыўна пацягнуўся на філфак Белдзяржуніверсітэта.

За рознымі клопатамі не забываў, праўда, і на дамоўку, і вось аднойчы вылілася:

Недзе ля Магілёва –
Майго шчасця падкова.
Яе конь партызанскі
Там згубіў выпадкова.





*Сям'я (у цэнтры бацька Марцін, па правы бок маці Тэкля)*

Недзе ля Магілёва –
Майго сэрца аснова,
Найсвяцейшая мара,
Найгучнейшае слова.

Леанід Дайнека адразу, з першай кнігі вершаў «Галасы» (1969), заявіў пра сябе як пра паэта вельмі здольнага, раскаванага, свежага, пра што яшчэ больш грунтоўна засведчылі наступныя зборнікі: «Бераг чакання» (1972), «Начныя тэлеграмы» (1974), «Мая вясна саракавая» (1979), «Вечнае імгненне» (1985). І з першых жа вершаў, як адзначала крытыка, «ягонае свежае паэтычнае дыханне настолькі натуральна ўлілося ў шматгалосы хор беларускай паэзіі, што, вобразна кажучы, у аркестры ён хутка стаў далёка не апошняй скрыпкай» (А. Марціновіч). Па вобразнаму ладу і невычарпальнай метафарычнасці паэт Л. Дайнека, бадай, не ўступае такому віцязю беларускай літаратуры як Уладзімір Караткевіч, з якім яго родніць і наступная акалічнасць.



Не задаволены ў поўную меру паэтычнымі ўдачамі, Леанід Дайнека шукае свой талент таксама і ў прозе — апавяданні «Бацькава крыніца» (1974), раманы «Людзі і маланкі» (1978), «Запомнім сябе маладымі» (1981), «Футбол на замініраваным полі» (1983). Аднак асаблівы мастакоўскі сверб і смак адчуў, калі перайшоў на гістарычную прозу. Хацелася напісаць пра беларускую мінуўшчыну. З ягонага прызнання: *«Сверб стаяў у душы, незагойная стрэмка ныла ў сэрцы. Ды на кожнае хаценне патрэбна ўменне і патрэбна цярпенне. Яшчэ ў маленстве (яно такое далёкае), чытаючы кніжкі пра славутых віцязяў, пра аблогі гарадоў, пра жахлівыя вастрадзюбыя бярвенні-тараны, якія, нібы шкарлупінне, праломвалі акутыя жалезам брамы, марыў я нейкім чынам сустрэцца з продкамі — з крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі. Але як?»* (З уступу да рамана «Меч князя Вячкі»). Разумеў Леанід, што, збіраючыся па-новаму ў творчы шлях, пойдзе па цаліку, мала кім кранутым. Пайшоў... Раскрываючы ссівелыя падзеі, паданні, легенды, карціны і характары, ён расчышчаў прыступкі да вытокаў свайго народа і сваёй нацыі. Пры гэтым адначасова пачуваў сябе мастаком слова і даследчыкам, стваральнікам і рэстаўратарам мінулых дзей ды вобразаў часу і гераічных асоб у іх узамадзеянні і ўзаемаперапляценні. Мець удачу тут — падвоенае шчасце!

Нарэшце, асаблівую вагу ў чытачоў займелі раманы «Меч князя Вячкі» (1987), «След ваўкалака» (1988), «Жалезныя жалуды» (1990). Менавіта за першыя два творы аўтар атрымаў Літаратурную прэмію імя І. Мележа (1988) і Дзяржаўную прэмію БССР (1990).

Чытачоў захапляе лёгкасць стылю і займальнасць твораў Л. Дайнекі. Яго кнігам уласціва паэтыка, як, зрэшты, і містыка, паяднаная з рэалістычнымі малюнкамі. Ён майстар у авалоданні часам і прасторай, што найбольш характэрна для рамана «Назаві сына Канстанцінам» (2008). Дзякуючы своеасаблівай сюжэтнай канструкцыі, героі гэтага твора перасяляюцца з адной эпохі ў другую, і пры гэтым захоўваецца як нітка аповяду, так і пафас у служэнні свайму народу, Айчыне. Падобна У. Караткевічу, аўтар рамантызуе гісторыю, адно пры гэтым ніколькі не паступаецца праўдай, псіхалагічнай дакладнасцю і глыбінёй кантэксту, не злоўжывае вымыслам. Ад твора к твору ў Л. Дайнекі ўсё выразней праяўляецца асацыятыўнае мысленне, уласцівае ў пэўнай меры



і «Жалезным жалудам» і фантастычнаму раману «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» (1994). У гэтым апошнім, пазначаным тут рамане, час дзеяння персанажаў — Вялікая Эра Плюралізму. Пісьменнік-мысляр прапануе ўвазе чытача новую мадэль грамадства будучыні, мадэль, у якой найзначнае месца адводзіцца клопату пра духоўнасць і разняволенне асобы. Чалавек з брыльянтавым сэрцам — мудрэйшы лідэр грамадзянскай супольнасці — сцвярджае, што чалавецтву давядзецца плаціць за стагоддзі фальшу і самападману.

Творчасць Л. Дайнекі натуральна каардынуецца з клопатам нашага часу, калі перад літаратарамі і ўвогуле беларускай інтэлектуальнай элітай стаяць задачы вярнуць свайму народу гонар і годнасць, самаідэнтыфікацыю і самапавагу.

Неўзабаве чытачы атрымалі новы гістарычны раман Л. Дайнекі «Пра лісоўчыка, злога хлопчыка».

А час акурат адбівае зарубку (яму-яму, агніста-рыжаму хлопчыку з мяккімі сакоўнымі вуснамі, які выйшаў з сям'і Марціна і Тэклі Дайнекаў у Змітраўцы) — 70 гадоў!!! Жалю варта, але ж краявіды Змітраўкі, калісьці родныя і чароўныя, цяпер халодзяць ягоную душу:

Там рэчачка бегла паўз хаты,
Паіла жывою вадой.
Рашучы быў меліяратар –
Не знойдзеце рэчачкі той.

Потым, калі сум мінае, льга ўзважваць і набыткі. Нямала й зроблена, хоць і не ўсё, чаго вымагала душа. Але ж Лёнік яшчэ ў росквіце сіл.

Можна лічыць, што пісьменнік Леанід Дайнека знайшоў тое няведамае, што шукаў, і пачувае сябе цяпер як чалавек з брыльянтавым сэрцам. Ён — сённяшні наш суайчыннік. І ён жа — з будучыні, бо з упэўненасцю можна сказаць: не адны мы, але і нашы нашчадкі будуць яго чытаць, любіць, шанаваць.

# Магія пісьма, або рэтра-экспрэсія



*З нагоды рамана «Надлом»*

*Выступленні пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, чытачоў на першай чытацкай канферэнцыі, прысвечанай раману В. Якавенкі «Надлом», у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка 27 чэрвеня 2003 года*

**Аляксей Рагуля**, прафесар культуралогіі, кандыдат філалагічных навук



Раман «Надлом» дае ўсе падставы гаварыць, што ён не выпадковасць, а заканамерная з'ява як у творчым лёсе Васіля Якавенкі, так і ў гісторыі нашай літаратуры, нават можна браць шырэй — у гісторыі нашай грамадскай думкі. Ёсць пэўная традыцыя, у рэчышчы якой з'явіўся гэты раман. Гэта перш за ўсё традыцыя беларускай сацыяльна-філасофскай і гістарычнай прозы.

Складанае XX стагоддзе пакінула шмат эксперыментаў у мастацкай культуры. Эксперыментатарства дзеячаў часам і сёння настолькі захоплівае, што эксперыменты становяцца як бы самамэтай. Чаму так адбываецца? Відаць, таму, што не так проста сёння мець выразнае ўяўленне пра сутнасць нашай сучаснасці, пра сутнасць эпохі. Эпоха ў мастацкім яе выяўленні распадаецца, развальваецца, і пра гэта неаднойчы папярэджвалі філасофы і дзеячы ў розных



галінах культуры — Пікаса, Далі, Малевіч і шэраг іншых. Адметнасць культуры народаў, якія перажываюць стан нацыянальнага адраджэння, заключаецца ў тым, што гэтыя культуры настойліва шукаюць шляхі пераадолення абсурду сучаснага стану. У сітуацыі камічнай, трагічнай, альбо і трагікамічнай.

Часам сучаснай сітуацыі адпавядае формула беларускай народнай культуры: плакаць — брыдка, а смяяцца — грэх. Класік нашай літаратуры Янка Купала, працягваючы даследаванне таямніцаў чалавечага быцця, далучыўся да выдатнай сусветнай традыцыі, якая сфарміравала такія пазнавальныя знакі, як Іоў-сітуацыя, Прамятэй-сітуацыя, Фаўст-сітуацыя. Купала ўзбагаціў сусветную думку Самсітуацыяй у сваёй філасофскай містэрыі «Сон на кургане». Падвойная метафара. І, нягледзячы на тое, што XX стагоддзе па сутнасці наканавала беларусам цёмную ноч, пра што папярэджваў паэт-мысліцель Максім Багдановіч і шэраг іншых, праблескі адраджэнскай культуры высвечваюць як рэтраперспектыву так і перспектыву. Тут мастак-пісьменнік — як археолаг, ён шукае ў цемры сам-насам і часам знаходзіць. XX стагоддзе ў гісторыі беларускага народа стала гістарычным фактам яго культурнага і, я б сказаў, палітычнага самасцвярджэння, самарэалізацыі. У гэтым рэчышчы ў XX стагоддзі створаны выдатныя шэдэўры як вербальнай культуры, так і жывапісу, створаны творы вялікага трагічнага гучання, а трагічнага — значыць і філасофскага, бо трагізм — вышэйшая форма аптымізму. Цэлы шэраг кніг, нягледзячы на прэсінг з боку ідэалагічнага дыктату, узнік у нашай літаратуры, дзе паказана гісторыя беларускага народа, гісторыя, так бы мовіць, на ростанях, на скрыжаваннях. І на гэтых крыжовых дарогах сучаснасці ўзніклі выдатныя шэдэўры, і сярод гэтых твораў я магу сягоння смела назваць раман «Надлом», дзе па сутнасці разглядаецца праблема гістарычнага лёсу народа. Твор прасякнуты клопатам пра будучыню, пра перспектыву. Васіль Якавенка ў сваім рамане мае справу з рэальнымі фактамі гісторыі, тут няма алюзіяў, намёкаў, часам цьмяных алегорыяў. Тут ёсць факты гісторыі і рэальныя гістарычныя дзеячы. Яму ўдалося гэты твор, напоўнены рэаліямі нашага быцця, падняць, паставіць у адзін шэраг з творамі канцэптуальнага зместу.



Спынюся на некаторых момантах. Прыклады: беларускі народ сярод еўрапейскіх суседзяў — Чорны, Янка Брыль, іншыя аўтары. Васіль Якавенка па сутнасці пачынае свой раман са своеасаблівага сходу прадстаўнікоў розных народаў, розных нацыяў. У невялікім мястэчку Моталь адбываецца такая нарада прадстаўнікоў розных народаў. «Беларускі чалавек сярод еўрапейскіх суседзяў» — так ахарактарызаваў Кузьма Чорны праблему свайго філасофскага рамана «Млечны шлях». Цемра... З зялёных беларускіх лясоў нясе трупным пахам. Толькі Млечны шлях — адзіны арыентыр у народа. Такое XX стагоддзе... Якавенка стварае тыпы людзей, якія ўвасабляюць мудрасць народаў, свайго і тых, што побач стагоддзямі жывуць і ўступаюць між сабою ў кантакт. У рэчышчы такой філасофскай парадыгмы і разгортваецца далей усё апавяданне.

Яшчэ адзін момант, звязаны з традыцыяй. Беларускую літаратуру і культуру ў цэлым пастаянна цікавіць пытанне: куды вядуць дарогі? Самае хвалюючае — пошукі будучыні.

Васіль Якавенка бязлітасны ў сваім сацыяльна-псіхалагічным і гістарычным аналізе. Ён не хавае галаву, ён сам глядзіць праўдзе ў вочы для таго, каб памагчы нам лепш мабілізаваць свой патэнцыял у пошуках будучыні.

Жаночы тыпаж. Якавенка надзвычай чула жыве беларускай традыцыяй. Беларуская жанчына ніколі па сутнасці не адчувала сябе чалавекам выкінутым з грамадскага жыцця, з гісторыі. У якасці прыкладаў тут можна браць эпас-эпапею «Новая зямля»... Вобраз жанчыны, як правіла, у нас апаэтызаваны. Васіль Якавенка паказвае станаўленне жанчыны ў новым пакаленні і ўвесь час адчуваецца, што крыніцай яе жыццядзейнасці з'яўляецца беларуская культура, культура беларускага сяла, мястэчка. У гэтым сэнсе ён шмат у чым набліжаецца да Янкі Брыля, аўтара шэрагу твораў, у якіх духоўнае аблічча асобы фармавалася ў акадэміі маральных навук — я так назваў бы атмасферу, у якой праходзіла ранейшае, дакалгаснае сялянскае жыццё з яго самарэгуляцыяй. Вось гэты маральны патэнцыял беларускай дзяўчыны і жанчыны выдатна раскрыты ў рамане, і гэта — у традыцыі лепшых узораў перш за ўсё беларускай культуры і літаратуры.

Далей хачу звярнуць увагу яшчэ на адзін момант. Ставячы пытанне, куды вядуць дарогі, у чым сэнс чалавечага жыцця,



літаратура сягае ў глыбіні. І тут можна гаварыць пра беларускую мастацкую філасофскую фенаменалогію, у параўнанні з фенаменалогіяй, скажам, Гусэрля. Дык вось такімі носьбітамі народнага вопыту ў Коласа, у Бядулі, у Зарэцкага з'яўляюцца дзяды — напомню некаторыя персанажы. Адзін дзед — «Леў Талстой» у двукоссі, другі — «Галілей»... У дадзеным выпадку мы маем працяг гэтай традыцыі. Гэты інтэлектуальны патэнцыял беларускай вёскі, ужо адыходзячай ў нябыт, Васіль Якавенка ў сваім рамане як бы асвяціў, па-новаму нам паказаў. І тут мне на памяць прыходзіць Іван Мележ, які казаў, што са сваёй маці ён можа гаварыць па ўсіх самых істотных і важных праблемах сучаснасці. Ён гаварыў пра філасафаў зусім нязнаных у палескіх вёсках. Раман Васіля Якавенкі «Надлом» з'яўляецца працягам дыялогу беларускай культуры з агульнаеўрапейскай.

**Міхаіл Малько**, фізік



Згодзен з тым, што раман «Надлом» — унікальная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры. Гэта першая спроба паказаць людзей, якіх яшчэ сёння называюць здраднікамі беларускага народа. Магчыма вам даводзілася глядзець фільм Юрыя Азаронка два гады назад. Там паказана, быццам бы існавалі нейкія беларускія нацыяналісты, якія развязалі Другую сусветную вайну і нанеслі страшэнны ўрон усёй еўрапейскай культуры. У нас на Беларусі назвалі нацыяналістамі шчырых патрыётаў Айчыны. Самых лепшых людзей, якія калі-небудзь былі на гэтай зямлі.

Як вядома, некаторыя з іх працавалі ў беларускіх легальных арганізацыях, што дзейнічалі на Беларусі пад час нямецкай акупацыі. Некаторыя працавалі ў мясцовых установах цывільнай адміністрацыі, створанай акупантамі. Чаму гэта стала магчымым? Чаму гэтыя людзі супрацоўнічалі з нямецкімі ўладамі? Адказ на гэтыя пытанні дае кніга. Нацыянальна свядомыя людзі на Беларусі спадзяваліся, што асноўнай мэтай нападу Германіі на СССР было знішчэнне бальшавіцкай



імперыі і стварэнне замест разгромленага СССР нацыянальных дзяржаваў. Нацыянальна свядомыя беларусы дакладна ведалі, што беларускі народ не мог чакаць ласкі як з боку бальшавіцкай Расіі, так і з боку панскай Польшчы. Сягодня добра вядома, што адразу ж пасля Кастрычніцкага перавароту Ленін распачаў жудасны тэрор супроць народаў былой Расійскай імперыі. Адной з прычын гэтага тэрору было падаўленне імкненняў паняволеных народаў Расіі да свабоды. У выніку гэтага тэрору загінулі многія мільёны людзей.. Па ацэнках славутага савецкага вучонага, спецыяліста ў галіне эканомікі і статыстыкі акадэміка АН СССР Струміліна, зробленых у 1931 годзе, ахвярамі Кастрычніцкага перавароту сталі 31 млн. чалавек. У 1986 годзе было апублікавана даследванне групы спецыялістаў АН СССР, якія правяралі ацэнкі акадэміка Струміліна (Ю. А. Поляков. Советская страна после окончания гражданской войны. Территория и население. М.: «Наука», 1986). Гэта даследванне ў асноўным пацвердзіла ацэнкі акадэміка Струміліна. Далей, вось у мяне ёсць даведнік, складзены спецыялістамі Генеральнага штаба расійскай арміі — называецца «Россия и СССР в войнах XX века. Потери вооруженных сил». М.: «Олма-Прес», 2001. У гэтым даведніку даводзіцца, што ў Другой сусветнай вайне загінула 26,6 млн. чалавек. Значыць, ахвярамі рэвалюцыі стала больш, чым загінула ў Другой сусветнай вайне. Значыць, Ленін нанёс большую шкоду народам, чым нанёс Гітлер.

Вядома, што тэрор, развязаны Леніным, заціх пасля яго смерці, але ён ніколі не спыняўся. У пачатку трыццатых гадоў ён зноў заліў крывёй нашу і іншыя савецкія рэспублікі. У выніку тэрора, які праводзіўся на Беларусі ў трыццатых гадах, загінула ўсё кіраўніцтва Беларусі ад рэспубліканскага ўзроўню да ўзроўню сельсавета, загінулі амаль поўнасцю пісьменнікі Беларусі, члены іншых творчых саюзаў, навукоўцы, інжынеры, настаўнікі і вялікая колькасць простых людзей. Гэты разгром Беларусі НКВД праводзіла на аснове абвінавачання аб існаванні змовы з мэтай стварэння нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы. Паралельна з вынішчэннем нацыянальных беларускіх кадраў адбываўся пераход справаводства на рускую мову, закрываліся беларускія газеты і часопісы. Масква праводзіла адкрыта палітыку жорсткай русіфікацыі.



Чуткі аб страшэнных злачынствах, якія чыніліся ў СССР, пранікалі далёка за межы СССР. Аднак нармальныя людзі не верылі чуткам. Не верыла ім і насельніцтва Заходняй Беларусі, якое лічыла, што бальшавікі стварылі сапраўдны зямны рай. Прыход Чырвонай арміі ў верасні 1939 года хутка працверазіў. Тут таксама распачаўся тэрор энкэвэдыстаў. Гэты тэрор спыніўся толькі з прыходам немцаў. Тыя свядомыя беларусы, якія выжылі падчас тэрору энкэвэдыстаў, з надзеяй ўспрынялі сцверджанні гітлераўцаў, што яны прыйшлі з мэтай вызвалення ад гэтага тэрору. Вялікая заслуга Васіля Якавенкі ў тым, што ён вельмі пераканальна паказаў, што ў нас не было ніякіх здраднікаў, не было ніякіх нацыяналістаў — у самой прыродзе. Масква сваёй палітыкай загнала многіх нашых суайчыннікаў да супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі. Каб у нас былі нацыяналісты, магчыма, мы не былі б у такім жудасным стане зараз. Беларусы настолькі талерантныя.

На заканчэнне мне хацелася б адзначыць адну вельмі цікавую асаблівасць твора Васіля Якавенкі. У рамане надзвычай дакладна апісана Заходняя Беларусь і яе насельніцтва. Гэта мяне здзівіла, таму што аўтар паходзіць з Усходняй Беларусі. Вось я пытаюся ў сябе, адкуль ён так добра ведае Заходнюю Беларусь, ён там не жыў. Тым не менш, вельмі дакладна перададзены менталітэт жыхароў Заходняй Беларусі.

Варта таксама заўважыць, што раман Васіля Якавенкі — кніга складаная і шматпланавая. У ім кожны чытач, у залежнасці ад ўзроўня інтэлігентнасці і культуры, можа знайсці нешта сваё. Па-першае, трэба сказаць, што гэта раман-эпапея. Па-сутнасці паказаны падзеі амаль цэлага стагоддзя. Па-другое, гэта раман аб трагічным лёсе беларускага народа ў дваццатым стагоддзі. Тут паказана гісторыя ўсёй Беларусі, лёс усяго народа. Затым, гэта глыбока філасофскі твор, і вельмі лірычная кніжка з цудоўнымі апісаннямі прыроды. Я вам хачу сказаць, што гэта адна з самых найлепшых кніг, якія з’явіліся за ўсю гісторыю беларускай літаратуры. Гэта маё адчуванне як чытача.



**Валерый Пазнякоў**, культуролаг,
доктар філасофскіх навук



Мне вельмі спадабалася адно выказванне паважанага прафесара Аляксея Рагулі, які сказаў, што 20-е стагоддзе — стагоддзе самасцвярджэння беларускай культуры. Менавіта так я разумею беларускую культуру — не ў кантэксце адраджэння, а ў кантэксце самасцвярджэння. Я думаю, што гэты раман ёсць нейкая форма самасцвярджэння беларускай культуры і вельмі адметная форма. Я хацеў бы прыгадаць выказванне рускага пісьменніка Міхаіла Лермантава ў прадмове да «Героя нашего времени»: «История одной человеческой личности едва ли не любопытнее истории целого народа». І я думаю, у рамане «Надлом» гісторыя сям'і Пісарчукоў — гэта гісторыя адной або некалькіх беларускіх сем'яў, у якіх адлюстраваліся ўвесь трагізм беларускай гісторыі, трагізм таго беларускага культурна-цывілізацыйнага надлому, у які патрапіла гэта сям'я, якая ўвасабляе лепшыя рысы беларускага народа. Канешне, гэта філасофскі і сацыяльна-філасофскі раман, гэта з'ява ў нашай культуры. Я хацеў бы прыгадаць адзін эпізод, які, на мой погляд, з'яўляецца сімвалічным для нас, для той сітуацыі, у якой на сённяшні дзень знаходзіцца наша інтэлігенцыя. Гераіня рамана Маня пакідае маёнтак Юргенсона; набліжаецца фронт, імкліва наступае Чырвоная Армія.

*«Па сярэдзіне шашы, пакінутай для праезду транспарта, ехала фурманка на гумавых колах. На яе паказала маці:*

*— Глядзі, доню, нашы хлопцы едуць! — Ой!..*

*Сапраўды, на возе сядзелі мотальскія ўцекачы, якія жылі разам з імі ў маёнтку Юргенсона, — Дзямковіч Іван, браты Сцяпан і Іван Міховічы ды маладзіца, якую звалі Кулькай...*

*— Мамка! Ах...*

*Агорнутая адчаем ад блізкага сутыкнення з чырвонымі, Маня не доўга думала, каб кінуцца за фурманкай.*

*У некалькі скокаў дагнала яе і ўхапілася рукой за драбінку. Але ж тыя на возе пагналі каня хутчэй і адзін з іх — каторы? расчапіў яе пальцы і скінуў руку з драбінкі.*

*І гэта было так жахліва — як сама здрада...»*

Ведаеце, мне думаецца, вельмі часта, калі гаворым аб лёсе беларускага народа, мы падзяляемся паміж сабой і не знаходзім асновы для прадуктыўнага дыялогу ды ўпадабляемся тым хлопцам, якія пакідаюць сваіх аднавяскоўцаў у цяжкую гадзіну жыцця — пад час надлому. На пераломе!.. Раман дапамагае асэнсоўваць падобныя сітуацыі ды зрабіць належны урок: мы не павінны раздзяляцца, у нашым жыцці павінна быць нешта такое, што, няглсдзячы на нашы светапоглядныя, палітычныя і ідэалагічныя і іншыя разыходжанні, аб'ядноўвала б нас, мы павінны шукаць ужо тую глебу, на якой аб'ядноўвацца. Мы, аднак, не павінны аб'ядноўвацца на глебе супрацьстаяння нейкай іншай культуры, а на глебе, на якой вельмі добра прарасталі, якасці беларускага народа.

**Уладзімір Дамашэвіч**, пісьменнік



Адразу скажу, што Васіль Якавенка меў і мае вялікі талент, пра што свсдчыць яго ранейшая творчая рупнасць і гэты раман. А яшчэ ён мае вялікую грамадзянскую смеласць, каб свой твор аддаць на суд чытачам. Я чытаў раман проста як чытач, затым — як рэдактар, я ж 35 гадоў быў рэдактарам, ну і чытаў як пісьменнік. Чытаючы радаваўся за свайго малодшага брата-пісьменніка.

Якавенку я ведаю даўно — разам у часопісе «Полымя» працавалі. Што мне падабалася ў ім? Гэта яго прамата і напорыстасць, непасрэднасць і яго чалавечая смеласць. Ён з тых людзей, якія не так прыстасоўваюцца да жыцця, як большасць з нас. Чалавек адкрыты, прамы, прынцыповы. Натуральна, што мы ўсе, а я асабліва, паколькі ведаў яго больш за іншых, спадзяваліся і чакалі, што нешта ж Якавенка скажа такое, што пачуюць і палюбяць і стануць гаварыць пра яго. Бачыце, больш за дзесяць гадоў



ён патраціў на тое, каб напісаць раман, дзякуй яму за цярпенне. І Богу дзякаваць, што ён дапамог яму напісаць гэты твор. Як чытач я чытаў з задавальненнем. Як рэдактар — бачыў на некаторых старонках невялічкія моўныя хібы, звычайна я чытаю з алоўкам — такая ў мяне прафесійная патрэба. Ну і як пісьменнік таксама чытаў і думаў, ну малайчына Якавенка, малайчына! Вось чытаеш раздзел за раздзелам і думаеш: гэтыя раздзелы проста выдатныя! І няўжо ў яго нідзе не будзе правалаў? Чытаеш і думаеш, ну дзе яны? Няма! Абсалютна. Радуешся за кожны раздзел, таму што твор як бы не роўненька ідзе, а ўвесь час падрастае, уздымаецца. І, знаеце, няма падзення ўніз. Так што Васіль Якавенка малайчына — ён даказаў як аўтар, што ёсць яшчэ раманіст, адзін з лепшых раманістаў у беларускай літаратуры! Раман адмыслова закончаны, страшэнна закончаны. Ён — нібы яечка — кругленькі. Усё да месца. Нічога і не адкінеш, і нічога, здаецца, ужо не дадасі.

Яшчэ, бадай, уражвае... Ці можа быць, каб герой кнігі, якога-небудзь рамана, аповесці стаў па ўзроўню свайго інтэлекту вышэй за аўтара?.. Такога практычна быць не можа. Але ж тут гэты герой Пісарчук робіць уражанне, што ён разумнейшы за самога аўтара. Вось такая магія пісьма! Калісьці спрачаліся: ці можа Бог стварыць камень, які сам не пасіліць падняць? Цікава, праўда?.. Якавенка стварыў гэтакі «камень», які можна пакаціць, але падняць няможна.

**Эрнест Ялугін**, пісьменнік



Твор Васіля Якавенкі «Надлом» — рэч прынцыповая і нечаканая фактам свайго ўзнікнення. У ім шмат чаго з таго, што раней было як бы і вядомым, але неакрэсленым альбо прыхаваным да часу. Толькі час гэты ўжо прабіў, і вось перад намі раман. У ім усё тое, што было пад сацыяльнаю коўдрай, зусім аголенае. Сабранае ў адно, яно дужа б’е ў вочы і ўражвае. Мне здаецца, што да такіх твораў у нас пакуль што не прывыклі ні чыта-



чы, ні пісьменнікі. Апошнім можа нават падацца, што раман напісаны «не па правілах».

Я ўважліва сачу за развіццём расійскай літаратуры. Мы ведаем, што расійская літаратура магутная. Але ж на сённяшні дзень, калі яна пачала пераймаць павевы заходняга постмадэрнізму, там мала чаго цікавага, і адзін раман Васіля Якавенкі «Надлом» у беларускай літаратуры мае большую вартасць, чым усе кнігі расійскіх аўтараў, якія ў апошнія гады атрымалі літаратурныя ці дзяржаўныя прэміі.

У нашым атамізаваным грамадстве людзі робяцца адзін аднаму чужымі. І дзяржава чужая. Можа, з яе і пачынаецца. І гэта ёсць у творы Якавенкі, дзе паказана, як грамадства раскалолася, страчваючы сваю моц і сілу.

Пісьменнік — чалавек, які ўмее улавіць агульнае, што хвалюе нацыю, і праз мастацкія вобразы і характары ставіць пытанні. У тым ліку ці патрэбны «анахранізм» у эпоху «глабальнасці», якім камусьці ўяўляецца нацыя. Але ж нацыя — гэта тое, што аб'ядноўвае і ўмацоўвае народ, што дае магчымасць развіцця. Гэта ўсяляк раскрываецца аўтарам і ненавязліва даводзіцца ўдумліваму чытачу. Касмапаліты лічаць, што можна жыць без нацыі, і жывуць там, дзе асабліва камфортна, «уежна», выгадна. Толькі гэта заканчваецца трагедыяй, калі перад грамадствам паўстаюць выпрабаванні — вайна ці іншыя катаклізмы, у гэтым пераконваешся з тэксту Васіля Якавенкі.

Аўтар сказаў важкае слова пра паяднанне — падзяленне тых ці іншых груп насельніцтва ў адной дзяржаве. Калі ў вялікім народзе жыве яшчэ і «малы» народ і ён па ўласнай ініцыятыве ці стану душы адасабліваецца ад вялікага ды яшчэ спрабуе дратаваць ягоную культуру, як у нашым выпадку, выступаючы супраць беларускасці, то ў крызіснай гістарычнай сітуацыі яго пазіцыі робяцца вельмі і вельмі небяспечнымі.

А што думаецца, калі чытаеш пра немца — генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ?! Сам па сабе няхай ён, можа, і добры чалавек, паважліва ставіцца да тутэйшых, да жыцця пераможаных. Але калі такі чалавек становіцца часткай заганнай ці наогул злачыннай сістэмы, ён міжволі садзейнічае наканаванню зла і ўваходзіць у гісторыю як адмоўны персанаж.



І апошняе. Спачатку складваецца ўражанне, што аўтар у кнізе адсутнічае, няма аўтара, героі дзейнічаюць самі і як ім заўгодна. Але потым разумееш, што гэта не так, што аўтар мае і месца, і сваю пазіцыю, якую трэба шукаць за ўсёй будовай, сістэмай твора. Пазіцыя вабная тым, што ён моцна стаіць на грунце народа і нацыі.

Раман «Надлом» прымушае да роздуму, ён выклікае ў чытача багата неспакойных пачуццяў і думак.

**Аўген Калубовіч**,
настаўнік гісторыі, выкладчык ліцэя



Шаноўнас спадарства! Такі спякотны дзень, і так доўга мы тут свой рэй вядзем, хаця нагода выдатная, і я шчыра віншую ўсіх з падзеяй, як і самога спадара Васіля. Гэта кніга знакавая, гэта незвычайная кніга.

Моладзь слухае... Неяк Васіль патэлефанаваў мне: зайдзі. Прапанаваў мне пачытаць частку рукапісу, кажа, прачытаеш, можа, будуць заўвагі — паправім. Я толькі тады даведаўся. што пішацца такі раман. Прачытаў я адну главу і адразу сказаў: «Ну, Васіль, нажывеш ты сабе як прыхільнікаў, так і ворагаў, апошніх — больш. Так яно і будзе! Кніга і па форме і па зместу прыгожая... Мне патэлефанаваў прафесар Уладзімір Сакалоўскі, які вельмі добра валодае германскай тэмай. Усе яго навуковыя даследаванні датычаць менавіта расійска-савецкіх і расійска-беларуска-германскіх дачыненняў, пачынаючы з чатырнаццатага года і далей. Дык ён мне сказаў: «Сеў вечарам чытаць раман Васіля Якавенкі — к наступнаму вечару скончыў. Чытаў без перапынку. Толькі жонка прыходзіла — таблеткі падавала».

Далей, паколькі ён добра валодае усёй гістарычнай фактурай у гэтым вялікім прамежку гісторыі, тлумачыў: «Мне было цікава паглядзець, ці рабіў аўтар якія-небудзь нацяжкі, таму што гэта мастацкі твор, і яны дапускаюцца. Ажно ніякіх!»

Я таксама хачу сказаць, што дзеючыя асобы сапраўдныя, як сапраўдныя і падзеі, якія адбываліся ў той час. А была



ж тым часам страшэнная і жудасная жыццёвая сітуацыя. Тую сітуацыю і варункі жыцця можна адчуць толькі тады, калі пачытаеш кнігу «Надлом». Сапраўды адбыўся надлом! Але — што ж наперадзе?..

Вось малады чалавек задаваў пытанне пра Чарнобыль... Некалі Уладзімір Дубоўка пісаў:

О, Беларусь, мая шыпшына,
Чырвоны ліст, зялёны квет!
Пад ветрам дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш.

Гэта 1926 год. А Чарнобыль, на вялікі жаль, крочыць праз усё XX стагоддзе поруч з намі. Фізічны Чарнобыль і духоўны Чарнобыль. Мы з яго ніяк не выкараскаемся. Па сённяшні дзень! Што рабілі з нацыянальнай элітай? Нас выразалі... У нас амаль увесь генафонд знішчылі. Колькі паўстанняў у Еўропе з нашым удзелам! І ў 1794, і ў 1830–31, і ў 1963–64 гадах. Дзясяткі і сотні тысяч сасланы ў Сібір. У Сібіры кожны 5–6 беларус. Туды дабравольна ніхто не ехаў, толькі высылалі. А хто дык у Еўропе застаўся. І — далей ад Еўропы... Пакручасты лёс у нашай нацыі. На Беларусі нават не ведаюць знакамітых сваіх землякоў. Выйшла кніга пра Ігната Дамейку... Выйдзіце на вуліцу, спытайце: хто такі Дамейка? Ніхто не ведае. Іншая справа ў Чылі. І першую навучальную ўстанову там адчыніў. І помнік яму пастаўлены, і вуліцы носяць яго імя, і горы, і порт, і караблі імя Дамейкі, мінерал Дамейкі, нават фіалка. Зорка на небе імя Ігната Дамейкі! Ён нацыянальны герой Чылі. А ў нас, на Беларусі, наконт яго ў памяці — правал. Ніводнай вуліцы няма імя Дамейкі, затое ёсць вуліцы Уральская, Енісейская, «Праўды», газеты «Известия», дзе я жыву.

Я хачу сказаць шаноўныя: усё тое, што выплюхнулася з людскіх характараў падчас Другой сусветнай вайны або савецка-нямецкай вайны, доўгі час накаплівалася. Яно накаплівалася з 1917 года, калі нават не чатырнаццатага. Ішоў камуністычны сацыяльны эксперымент, і ў выніку гэтага камуністычнага эксперыменту ў 1920–30 гадах у нас знішчаліся нацыянальная школа, культура, тады, а цяпер — тым больш, і была занядбана гістарычная навука. У нас у 30-я гады спалілі дзясяткі мільёнаў кніг. Іх тут палілі раней, чым у



Германіі. І жудасна фальсіфікавалася нацыянальная памяць пакаленняў, як вынік — пашыраўся нацыянальны нігілізм. Урэшце, ужо тады з'явілася рэальная пагроза асіміляцыі і знішчэння 10-мільённага беларускага этнасу. І тут выбухнула гэта вайна, наш народ яна зварухнула ў 1939 годзе. Вось толькі калі пачаўся працэс акупацыі, а быў ён вельмі складаны, — пра гэта ніхто яшчэ не пісаў, тым болей так дакладна, праўдзіва як Васіль Якавенка. У нас практычна была грамадзянская вайна. На Беларусі былі не толькі беларускія савецкія партызаны, была і беларуская нацыянальная партызанка (БНП), былі бандэраўцы, былі акаўцы — між сабой яшчэ яны ваявалі. Акаўцы знішчалі беларускі нацыянальны элемент — настаўнікаў, інспектароў, прадстаўнікоў адміністрацыі, вызвалялі тэрыторыю з тым, каб пасля, калі немцаў турнуць, насадзіць сваіх і аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1939 года. Ад усіх цярпела насельніцтва. Прыклад... Мястэчка па левым беразе Нёмана — Ярэмічы — тройчы за вайну палілі. Першы раз акаўцы, другі раз — савецкія пратызаны, трэці раз — немцы.

Я шчыра ўдзячны лёсу за тое, што пазнаёміўся з такім выдатным чалавекам як Васіль Цімафеевіч. Гэта сапраўды, як пра яго казалі, і сціплы, і такі, знаеце, глыбінны чалавек, як айсберг, якога зверху трошкі відаць, а ўсё астатняе — там. Ён філасофскага роздуму чалавек, і кніга сама вельмі філасофскага зместу.

# НА СЛІЗКІМ РАЗДАРОЖЖЫ



апынуліся жыхары беларускай вёскі пры ўз'яднанні краіны, разарванай раней на часткі

*Карэспандэнт «Вечернего Бреста» Барыс Паўлоўскі разам з кнігай «Пакутны век», яе аўтарам, а таксама жыхаркай мястэчка Моталь Мартай Данілевіч.*



Трылогія Васіля Якавенкі «Пакутны век» трапіла да мяне амаль выпадкова, падчас чарговага блукання па кніжнай краме. Нават не ведаю, што больш урынулася ў вочы — назва твора ці яркая памеранчавая вокладка, у колеры якой нібыта неўтаймаванае полымя. Прагарнуўшы некалькі старонак, зразумеў: трылогія не проста адлюстроўвае гісторыю шматпакутнага для майго народа дваццатага стагоддзя, але падае адметныя перакрыжаванні лёсаў на Берасцейшчыне, дакладна — у вялікім на тыя гады мястэчку Моталь. Ужо потым, калі прачытаў першую частку трылогіі — раман «Кабала» — і пагутарыў з аўтарам, пераканаўся, наколькі ўдала ён выбраў эпіцэнтр (калі можна так сказаць) свайго расповяду.

Моталь — унікальнае паселішча, яно ж адначасова — Беларусь у мініяцюры, асабліва на той час. У ім, як у бурлівых водах Ясельды, адбіваецца ўвесь гістарычны ланцуг падзей, з'яў, характараў беларусаў на працягу стагоддзяў. У Моталі з даўніх часін існавалі поруч традыцыйны сялянскі ўклад і Магдэбургскае права, земляробства, адмысловыя промыслы і шырокі гандаль. Тут мірна ўжываліся прадстаўнікі розных этнічных і рэлігійных груповак (апроч беларусаў-палешукоў



яшчэ палякі, яўрэі, украінцы і нават шведы). Праз гэтую зямлю неаднойчы праносіўся віхор замежнай разбойнай навалы. І выгартоўваліся тут традыцыйныя рысы нашых землякоў — прага да самавітага вольнага жыцця, талерантнасць і ўменне хутка прыстасоўвацца да змены абставінаў. На жаль, у цяперашнім Моталі амаль не засталося людзей, якія штонебудзь памятаюць і могуць выразна расказаць аб жыцці «за польскім часам». Журналісту, аднак, удалося знайсці 84-гадовую Марту Сямёнаўну Данілевіч — былую настаўніцу, якая стала тут вельмі добрай і надзейнай крыніцай інфармацыі. Разам з Васілём Якавенкам. Таму што і ягоная трылогія пабудавана на ўласных успамінах маталянаў — жывых сведкаў ды нашчадкаў мінуўшчыны. Бадай усе дзеючыя асобы ў кнізе рэальныя, а не прыдуманыя аўтарам. І ў гэтым, мне думаецца, найвялікшая каштоўнасць твора.

Галоўны герой трылогіі — звычайны мотальскі селянін Пятро Рамановіч, які прагне жыць на ўласнай зямлі, у адзінай для ўсіх беларусаў вольнай дзяржаве, несці самавітасць у свет. Ён плоць ад плоці свайго народа, для якога няпэўнасць, хвалюючае чаканне і страх паўставалі з тагачасных абставін жыцця. Ён не згаджаўся з тым, што яго родную Беларусь штучна падзялілі паміж сабою Расея ды Польшча. Нязгодны і з меркаваннем Юзэфа Пілсудскага: «У гэтак званай Беларусі заўжды будзе альбо польскасць, альбо расейскасць», — пра што шчыра кажа братам Скірмунтам — гаспадарам суседняга з Моталем маёнтка Моладава. Аднак не верыць Пятро і ў хуткае вызваленне Чырвонай арміяй. Бо ведае, больш за іншых вяскоўцаў, які жорсткі і дэспатычны рэжым усталяваўся на ўсходзе. І таму разумее: нават калі Беларусь аб'ядноецца пад уладай бальшавікоў, простаму беларусу лягчэй не стане — на змену аднаму прыгнёту прыйдзе другі, мабыць, яшчэ больш цяжкі і непрадказальны.

А вось эпізод, які даволі яскрава высвятляе сутнасць характару многіх беларусаў з іх адвечным пошукам і марай аб лепшым жыцці. Маталянін Ладзя Палто — адзін з тых, хто не хацеў заставацца чалавекам другога гатунку ў Крэсах Усходніх. Аднак у адрозненне ад Пятра Рамановіча, паверыў байкам пра тое, што ў савецкай камуне пануе справядлівы лад і заможнае жыццё, зусім няма багатых і бедных, а на платах каўбасы вісяць, нібы гірлянды. Ладзя пачаў марыць пра «незвычайную зямлю» і аднойчы знік — на цэлыя два



гады. З дапамогай аднавяскоўца Пінчука Палто перайшоў усходнюю мяжу за Пінскам і трапіў у «камунію» (так ён называў Савецкі Саюз). Яго затрымаў пагранічнік. Потым былі турма, абвінавачванні ў польскім шпіянажы і высылка ў лагер за Урал. Дзе два гады замест «каўбасы, што на платах вісіць», еў Ладзя лушпінне з-пад бульбы. Потым нейкім цудам здолеў збегчы з лагера і вярнуўся ў Моталь. Але большасць з тых, каму распавядаў ён пра «жыццё ў камуніі», не верылі, казалі, што Палто гэтак спецыяльна гаворыць, каб яго не арыштавала паліцыя...

Між тым жыццё маталянаў у польскай дзяржаве таксама не вызначалася аптымізмам. Звычайна яны лічыліся людзьмі іншага гатунку.

Расказвае Марта Данілевіч:

*— Напрыканцы 30-х гадоў я хадзіла ў школу. Вучоба была платная, і вельмі многія з тых, хто хацеў вучыцца, не маглі гэтага сабе дазволіць, бо іх бацькі не мелі дастаткова грошай. Усе прадметы выкладаліся толькі па-польску, і нават на перапынках нам забаронена было размаўляць па-руску ці па-беларуску. Праваслаўных прымушалі пераходзіць у каталіцкую веру. Маю любімую настаўніцу нават звольнілі з працы, калі яна адмовілася прыняць каталіцтва. Прыгнёт адчуваўся паўсюдна. Дзейнічала моцная сістэма пакаранняў — штрафавалі за непабеленую хату, беспарадак на двары, калі выпадкова зойдзеш на панскі надзел. А ў тых, хто імкнуўся выступіць супраць прыгнёту, асабліва калі станавіўся ўдзельнікам падпольных груповак, паліцыя ладзіла пагромы ў хаце і вельмі жорстка распраўлялася з падазронымі. Насельніцтва ў асноўнай сваёй масе было непісьменным. Калі нас вызвалілі і прыйшла савецкая ўлада, 27 дзяўчат з Моталя накіравалі паступаць у педвучылішча ў Любяшоў (Украіна). Дык з 27 чалавек змаглі вучыцца толькі трое, бо астатнія не хадзілі ў школу і не ўмелі нават чытаць.*

## «У вас тут малая Амерыка...»

1 верасня 1939 года Германія напала на Польшчу. У Моталі ўсе з трывогай чакалі нямецкага нашэсця (пра пакт Молатава-Рыбентропа тут, зразумела, амаль нічога не ведалі). Але ж хутка ў мястэчка прыйшлі не немцы, а Чырвоная



армія. Яшчэ напярэдадні, калі яе часткі толькі-толькі распачалі свой вызваленчы паход у Заходнюю Беларусь, адзін з найбольш выпрабаваных лідэраў камуністычнага падполля Андрэй Райкевіч выкаціў уласны ровар, узяў у рукі чырвоны сцяг і паехаў па вуліцах Моталя.

З рамана В. Якавенкі «Кабала»:

*«— Шаноўныя грамадзяне! Таварышы, суайчыннікі, браткі-беларусы! — выкрыкваў ён, размахваючы чырвоным сцягам. — Да нас ідзе воля. Яе нясе Чырвоная армія. Наступае канец панаванню, прымусу і здзеку. Парвем ланцугі, зруйнуем турмы! Сонца шле нам свае промні ад усходу... Няхай жыве адзіная і вольная Беларусь!*

*Багата хто з маталянаў выходзіў насустрач вестуну і радаваўся, многія далучаліся і ішлі за сцягам, адкінуўшы нават страх перад польскай паліцыяй. Утварылася цэлая ўрачыстая працэсія»...*

Расказвае Марта Данілевіч:

*— Неўзабаве, 20 верасня, атрады Чырвонай арміі ўвайшлі ў Моталь. Амаль паўсюдна іх сустракалі кветкамі ды хлебам-соллю. Пры ўездзе ў вёску з пінскага боку былыя падпольшчыкі наладзілі святочную браму. Чырвонаармейцы, апранутыя ў шэрае запыленае адзенне, ішлі пеша, на фурманках знаходзілася зброя і боепрыпасы. То было невялікае падраздзяленне, чалавек дзвесце. Ля брамы зайгралі гармонікі, дзяўчаты ветліва махалі хусцінкамі, усе закрычалі «Чырвонай арміі ура!!!» Асабліва радаваліся, канешне ж, камуністы і дзеці, схільныя да ўсяго новага. Хтосьці нечакана закрычаў ва ўвесь голас: «Да здравствует диктатор Сталин!» На што камандзір атрада хуценька адказаў: «Товарищи, Сталин не диктатор». Гэты чалавек, дарэчы, быў бедны, таму яго нават не арыштавалі...*

З рамана «Кабала»:

*«Дзед Пятро і бабуля Аксіння запрасілі салдат у хату. Чырвонаармейцы дружна ўпляталі ежу — смажанае сала з бульбай і агуркамі, тварог са смятанай — і хвалілі гаспадароў:*

*— О, у вас тут малая Амерыка: мёд, каўбасы, залітыя шмальцам, шынка вэнджаная!..*

*— А што, у вашых калгасах гэтага няма? — пацікавіўся дзед Пятро.*



*— У калгасах няма, а такія моцныя сяляне перавяліся.*

*— Я не буду ўводзіць вас у зман, — сказаў гаспадар. — Што маю, тое не хаваю. Але і ў нас не ўсе сем'і так заможна жывуць.*

*Байцы выказалі падзяку. Пры развітанні старшы з іх — сяржант Краўчук — пажадаў гаспадару таго, што было для яго запаветным:*

*— Дай Бог, дзядзька Пятро, каб вас не чапалі!..»*

## «На печцы ў маталянаў ляжалі сухары»

Пятро штодня прасіў Бога, каб той адвёў ад яго сям'і зайздроснае вока, каб даў людзям мудрасці лічыцца з уласнасцю, што набыта сваімі рукамі, розумам і кемнасцю. І засцярожваў малодшага сына Паўлюка ад тых, хто з дапамогай нажа, сякеры, нагана імкнуўся ўсталяваць новы парадак, хто не дбаў пра сваё і пазіраў на чужое. Праз тыдзень пасля ўсталявання савецкай улады ў Моталі мясцовыя пасобнікі камунізму беспакарана знішчылі каля сарака чалавек, у большасці маладых: з палякаў, яўрэяў і заможных беларусаў, каго лічылі сваімі ворагамі і ворагамі новай улады. Да таго ж з турмаў хутка вызвалілі арыштантаў, праўда, не палітычных, што былі пасаджаны папярэднімі ўладамі за супрацiў, а звычайных злодзеяў. І пайшлі яны на радасцях тварыць сваю чорную справу.

З рамана «Кабала»:

*«Забойствы здараліся амаль што кожнага дня. Таму, жадаючы неяк прыпыніць бандытызм і анархію, бальшавікі арыштавалі пад Моталем юнака, якому спадобілася запэцкаць рукі чужою крывёю, і прылюдна яго расстралялі. Паказальная карная акцыя ўладаў паймела-такі належны ўплыў, і пра забойствы ў Моталі ад таго часу перестала чуваць. Але ж цяпер наганялі страху на людзей арышты, аб прычынах якіх мала хто ведаў»...*

А далей аўтар распавядае, як зноў арыштавалі Ладзю Палто і як апынуўся ён у адной вязніцы з тымі, хто яго арыштоўваў. Сярод апошніх быў той самы Андрэй Райкевіч, што 17 верасня вяшчаў пра новую шчаслівую Беларусь, марыў «парваць ланцугі і зрушыць турмы». Яго, сакратара мясцовай партыйнай арганізацыі, разам с паплечнікамі таксама ўвялі ў спіс ворагаў народа. Услед пайшоў Ян Мацукевіч,



што паспрабаваў іх абараніць. Які ўжо раз іронія лёсу кідала выклік тутэйшым людзям, бессэнсоўна ламаючы звычны для іх уклад жыцця...

Расказвае Марта Данілевіч:

*— Калі я ўжо вучылася ў Любяшове, бацька прыязджаў да мяне і ўсяляк казаў: «Мартачка, мабыць, мы ў апошні раз бачымся»... Тады ва многіх сем'ях на печцы ляжалі сухары. А на вуліцы, калі размаўлялі двое і падыходзіў трэці, дык тыя разыходзіліся. Затое ўсе баяліся сварыцца з суседзямі. Бо дастаткова было, каб адзін на аднаго данёс уладам, і той мусіў хутка апынуцца ў Сібіры, Казахстане альбо на Калыме. Дарэчы і там многія з маталянаў не згубіліся, знайшлі сабе адмысловы занятак. Нават некаторыя яўрэі ўжо пасля вайны дзякавалі тым, хто іх высылаў, — таму як фашысты знішчылі амаль усіх яўрэяў, што заставаліся ў Моталі... А высялялі людзей цэлымі сем'ямі. Спісы на высяленне складаліся на працягу 1940-га і першай паловы 1941-га года. У адным з апошніх спісаў былі і мае бацькі. Але грымнула вайна — і нас не паспелі выслаць.*

Дарэчы, напрыканцы чэрвеня 41-га павінны былі з'ехаць з радзімы па загаду партыі бальшавікоў і Пётр Рамановіч разам з жонкай, сынам ды ўнукамі. Не здзейснілася. Аднак жа і дагэтуль дзед Пятро паспеў зведаць усе бакі новага савецкага ладу.

З рамана «Кабала»:

*«Пятро пастаянна сачыў за развіццём падзей і бачыў за імі сілу, якой асобнаму чалавеку ці нават народу процістаяць немагчыма. Здзек — не што іншае — чыніўся пры саветызацыі заходніх зямель Беларусі. Пры прававой падгонцы былых крэсаў да рэжыму на ўсходзе няма табе спакою ва ўласнай хаце. І няма ладу на ўласнай зямлі, бо што б цябе з ёй ні лучыла, заўтра ў цябе яе адбяруць. І няма нічога такога, пра што было б засведчана рэжымам, што гэта тваё. Голым яны цябе бачаць, голым бяруць і голым на той свет спраўджваюць. Для злыдняў народ — маса цел. Няма асоб, і пра тое, што ты меў, што насіў у душы, нікога не абыходзіць. У гэтым адметнасць пралетарскай дзяржавы ды сутнасць улюбёнай люмпенізацыі насельніцтва. Скрозь, па ўсёй неабсяжнай краіне, — гвалтоўніцтва і страх!»*



Прайшло крыху больш за паўтары гады, і на Моталь абрынуўся ў дзесяткі разоў больш жудасны натоўп. Але гэта ўжо, як кажуць, зусім іншая гісторыя.

## Што для мяне 17 верасня?

**Васіль Якавенка**, аўтар трылогіі «Пакутны век»:

*— Тое, што адбылося ў жыцці беларусаў 17 верасня 1939 года, застаецца даволі значнай гістарычнай падзеяй. Уз’яднанне Беларусі — сапраўднае беларускае свята, якое ніякім чынам ужо не могуць прынізіць ні трагізм Польшчы, што апынулася пад гітлераўскай акупацыяй, ні драма саміх беларусаў, трапіўшых з таго часу пад сталінскую «санацыю». Хрэн за рэдзьку быў не саладзейшы, наадварот, шмат ахвяр палегла з крутое нагоды, і горка пра іх думаць. Але ж тыя ахвяры, пагадзіцеся, нам трэба адносіць не да ўз’яднання народа ў адной краіне, БССР, якое заўжды было і будзе святою справаю. Адносіць і ўскладваць іх варта на рахунак таго, што моцна зацяняла гэтае свята, азмрочвала ў складзе СССР.*

# ДОЛЯ БЕЛОРУСА



*Гутарка ў газеце «Свободные новости плюс»*

Вышла из печати трилогия писателя Василя Яковенко «Пакутны век». Под одной обложкой — книги «Кабала», «Надлом» и «Гульня на згубу». Новинка сразу же привлекла внимание читателей и теперь пользуется неизменным спросом. Наш корреспондент повстречался с автором трилогии.



*Васіль Зданюк, галоўны рэдактар штотыднёвіка*

*— Василий Тимофеевич, как складывалась работа над новой книгой?*

— Замысел широкого эпического полотна сложился в начале 90-х годов отгремевшего драмами и трагедиями столетия, названного одним из наших репрессированных литераторов «свинцовым веком». Материал, которым я располагал, а также мой немалый жизненный опыт побуждали к тому, чтобы рассказать про народ, его извечные порывы и чаяния, про то, через какие испытания он прошел, раскрыть исторические судьбы и характеры. Я был счастлив, когда осознал, что многие персонажи, взятые мной из самой жизни, типичны для нашей расшатанной, растрепанной, примятой колесом истории нации. Писал, не загадывая далеко, шел, как мне казалось, по целику, рискуя, ибо удача и неудача стоят рядом. Роман «Надлом» был первой моей эпической вещью. К моей радости, его признала и высоко оценила критика, он тянул, как было замечено, даже на эпопею. Окрыленный, я не оставил работу над темой и развернул пошире затребованное обществом свое литературное детище.

*— Интересным мне кажется то, что многие до вас писали романы, но приходилось слышать, что таких*



*вещей, как роман «Надлом» и трилогия «Пакутны век», в белорусской литературе еще не было...*

— В моих книгах много святой правды — той правды, которую мне удалось свести воедино, раскрыть, оголить, подать убедительно. Безусловно, это одна из составляющих успеха и, быть может, основная даже.

*— Как вам удалось собрать в одной голове столько информации, освоить, переварить материал более чем за столетие, наделить оригинальными чертами массу героев, увлечь, завладеть вниманием читателя?*

— Информация накапливалась всю сознательную жизнь. Возможно, она даже в генах. Как, впрочем, и чувство уважения к своим корням, гордости за свой народ. А вместе с тем и обида, и боль за землю, истоптанную, истерзанную, разорванную по сути колонизаторами. Не секрет: для всей хранимой мной, и не только мной, информации, для бунтующих чувств ранее выхода не было. Мне кажется, я открыл шлюзы для потока оголенной правды, объективной исторической информации, новых образов — всего того, что усердно скрывалось. Ту правду, небось, понесли в себе и персонажи трилогии. У автора не было необходимости приписывать им что-то, поскольку они в самом деле были людьми самодостаточными, интересными, разными.

*— Кто из героев ближе и дороже вам?*

— Я должен сказать: у меня нет деления героев на «своих» и «чужих», я не проводил между ними демаркационной линии соцреализма. Для меня персонажи прежде всего люди, если хотите, личности, и в мою задачу входило исследовать и раскрыть, что стоит за каждым из них. Они разные. Это ведь и тутэйшыя Роман Скирмунт, Гадлевский, и далекие Гитлер, Сталин, Кубэ, и опять свои Кит, Островский, Щорс, Даник Плюнгер, а еще и Мазуров, и товарищ-господин Хрущев... Безусловно, ближе и дороже мне образ Петра Романовича, крестьянина, а по натуре — сельского интеллигента, имевшего свое представление и об историческом прошлом, и о своем народе, нации. Это мудрый человек, патриот земли своей. В него, кстати, пошли и сын Борис, и внучка Маня. Это те самые поколения, на которых держалась и пока держится нация.

*— Василий Тиофеевич, сами вы рассчитывали на успех трилогии «Пакутны век»?*



— Было бы неправдой сказать, что я не мечтал об успехе. Признаюсь искренне, я был удивлен тому, что мне, в конце концов, удалось сделать.

— *Чего ждать от вас читателям дальше?*

— Не исключено, что в ближайшие месяцы выйдет из печати моя книга «Нячывелле» (ударение на ы́), что значит — полоса неудач, тяжелое душевное состояние на грани прострации. Это сборник рассказов, эссе, актуальной публицистики.

# КАЛІ ТВОР — ВІЗІТНАЯ КАРТКА...



*Гутарка ў газеце «Туризм и отдых»*



Трылогію «Пакутны век» Васіля Якавенкі па моцы ўздзеяння на чытача крытыкі параўноўваюць з «Духам пушчы» Джэка Лондана і «Апошнім з магікан» Джэймса Купера. Творы амерыканскіх пісьменнікаў прысвечаны вынішчэнню індзейцаў. У рамане Якавенкі падаецца пакутная паласа жыцця, што выпала на долю беларусаў цягам апошняга стагоддзя. Падзеі ў творы пачынаюць разгортвацца ў 20-я гады, калі былі яшчэ свежымі раны ад першай сусветнай і грамадзянскай. А па геаграфіі яны выходзяць далёка за межы Беларусі. Аб ідэі рамана і яго героях распавёў аўтар трылогіі пісьменнік Васіль Якавенка. З пісьменнікам гутарыць Яна ШЫДЛОЎСКАЯ

*— Спадар Васіль, кніга, аб якой пойдзе гаворка, гэта перавыданне трылогіі «Пакутны век», якая ўпершыню выйшла з друку ў 2006 годзе. Чым было абумоўлена з'яўленне пашыранага варыянту?*

— Пачатак трылогіі пакладзены яшчэ ў 2003 годзе раманам «Надлом». Матэрыялу было шмат, таму дастаткова было прыкласці рукі, як напісанае пераўвасобілася ў трылогію, дзе да першай кнігі далучыліся раманы «Кабала» і «Гульня на згубу». Нечакана для мяне твор аказаўся даволі запатрабаваным, складвалася ўражанне, што яго чакалі даўно, пра яго пачалі казаць і пісаць як пра небывалы ў беларускай эпічнай прозе, маўляў, яго варта разглядаць у кантэксце не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры. Такія



водгукі не могуць пакінуць абыякавым, таму пачалася праца па мастацкім удасканаленні трылогіі. Я адчуваў, што над некаторымі раздзеламі трэба папрацаваць. Да гэтай пары я меў больш досвед у напісанні публіцыстычных твораў, аднак заўсёды цягнула і на гэтыя гоні.

Другі выхад трылогіі ў свет адбыўся праз тры гады пасля першага. Новая версія больш пашыраная — тэкст павялічыўся амаль на 150 старонак. У апісанні гістарычных падзей з'явіліся новыя факты, характары некаторых персанажаў сталі больш акрэсленымі. Да таго ж, мне хацелася ўлічыць і некаторыя крытычныя заўвагі альбо пажаданні. Напрыклад, адна паважная чытачка са Століншчыны зазначыла: «За польскім часам, сапраўды, было цяжкае жыццё, але ж і тады былі святы і мы спявалі, смяяліся, ездзілі ў госці — вёска да вёскі. Гэтага ў тэксце няма...» Так, сапраўды, не было, а душа народа няўбіенная, таксама ж і каханне... У выніку з'явіліся два раздзелы пра тое, як у палескім мястэчку Моталь, адкуль родам галоўны герой, праводзіліся кірмашы і святкавалі Спас.

*— Крытыкі вызначаюць жанр твора як гістарычны раман. Што стала перадумовай яго напісання?*

— Падчас камандзіроўкі ў ЗША мне пашчасціла пазнаёміцца з Марыяй Дзямковіч, якая паходзіць з мястэчка Моталь. Калі яна расказвала пра сябе, не магла не закрануць і тэму жыцця свайго дзеда, з якім у яе была вялікая дружба. Яго без прычыны забілі мясцовыя партызаны, дый не толькі яго... Пра гэты трагічны выпадак яна дагэтуль не можа ўспамінаць без слёз. У яе душы з таго часу адбыўся псіхічны надлом. Вярнуўшыся ў Беларусь, я наведаў Моталь і пачаў цікавіцца родам Марыі. Мне ўдалося сабраць шмат звестак, дзякуючы якім адкрывалася цэлая гістарычная эпоха. Галоўным героем майго рамана стаў яе дзед Пётр Рамановіч, які быў чалавекам дасціпным, шырокіх поглядаў, патрыятычнага складу душы. Гэта тыповы прадстаўнік свайго народа. У 1900-я гады ён выпісваў «Нашу ніву» — адзін гэты факт ужо сведчыць аб яго свядомасці.

*— Якія персанажы, апроч Пятра Рамановіча, прысутнічаюць у творы?*

— Персанажаў вельмі шмат, і я дзіўлюся, як чытач не губляецца пры знаёмстве з імі. На 85 працэнтаў персанажы — гістарычныя асобы, рэальныя постаці. Тут паўстаюць у сваёй велічы і нацыянальнай рупнасці памешчык Раман



Скірмунт, Радаслаў Астроўскі, Мікалай Шчорс, Барыс Кіт, Ларыса Геніюш, Усевалад Родзька, Юры Сабалеўскі, Юрка Віцьбіч, святары Гадлеўскі, Раздзялоўскі... Апроч мясцовых герояў дзейнічаюць Гітлер, Сталін, сын Сталіна, які на Віцебшчыне ўдзельнічаў у баях і трапіў у палон. Тут, бадай, упершыню ў мастацкай і гістарычнай літаратуры раскрываецца вялікае танкавае пабоішча 1941 года на Віцебшчыне, калі Чырвоная армія спрабавала нанесці контрудар нямецкім войскам у напрамку на Сянно – Лепель. З-за праліку камкора Вінаградава контрудар захліснуўся. А потым сярод персанажаў — і старшыня мотальскага калгаса-мільянера Апанас Стрыгуноў, тып рэдкі ў гісторыі савецкай вёскі, і апантаны будаўнік камунізму Хрушчоў, і паважаны наш зямляк Мазураў... Дарэчы, героі не дзеляцца на «нашых» і «ворагаў» — я імкнуўся паказаць любога і кожнага найперш людзьмі на гэтай грэшнай зямлі, з уласцівымі ім памкненнямі душы, сацыяльнымі і ідэалагічнымі парадыгмамі, характарамі. Напрыклад, у рамане найбольш спрэчак выклікае неадыёзная постаць генеральнага камісара Беларусі Кубэ, раскрытая мной на дакументальнай аснове. Гэта чалавек, які не сумеў выкарыстаць у жыцці свой буйны творчы патэнцыял.

Цяпер вядома не толькі мне, Кубэ ў сваіх лістах да Гітлера крычаў немым крыкам, што вы, сукіны дзеці, што Hurenkinder, робіце! — вінаваціў гестапаўцаў у злачынстве перад чалавецтвам, якое выразна бачылася яму ў тым, што на Беларусі выпальваюць вёскі з людзьмі: такія акцыі трэба спыніць, бо гэта ж ганьба для Германіі! Адно яго лісты да галоўнага людажэрца не даходзілі.

Кубэ дапамагаў беларускім патрыётам, шчырым нацыянальным дзеячам у пашырэнні адукацыі, што ў тых складаных умовах было важнай і годнай, у разуменні ўсяго народа, справай. Пад нямецкай уладай школы працавалі на беларускай мове. Прычым, як правіла, настаўнікі ў навучальным працэсе абміналі як нямецкую, так і савецкую прапаганду. Дзяцей вучылі чытаць, пісаць і выхоўвалі ў беларускім патрыятычным духу. Згуртаванне «Беларуская самапомач» спакваля адкрывала для іх гімназіі і нават вышэйшыя школы... У Маскве ж свядомых патрыётаў нашай зямлі лічылі большымі ворагамі, чым, скажам, нямецка-фашысцкіх аку-



пантаў. Менавіта таму за вайной, пры адступленні немцаў, і рушылі на Захад дзесяткі і сотні тысяч мірных жыхароў…

*— Што пакладзена ў аснову сюжэта?*

— Сюжэт у рамане для мяне самога — загадка, паколькі твор не меў адмыслова распрацаванага плана; наперад у працы мяне вялі літаратарская спрактыкаванасць, вопыт у раскрыцці жывых герояў і, безумоўна, інтуіцыя. Я смела ішоў за абранымі мной героямі — проста насустрач гістарычным падзеям — і раскрываў іх у водавароце часу, у сутычках, канфліктах між сабой і прышэльцамі. Мястэчка Моталь упершыню выступае ў часе тады, калі паводле Рыжскай дамовы Заходняя Беларусь адышла да Польшчы — тут пераважалі беларусы, яўрэі, былі і палякі, вельмі часта паміж імі надараліся сутычкі, ініцыяваныя, як правіла, пракамуністычным падполлем. Партызанскі рух стымуляваўся з усходу.

Далей у выбудаваным эпасе паказаны пасляваенны час як на Беларусі, так і на выгнанні часткі герояў — у далёкім замежжы. А вось апошнія падзеі адбываюцца ўжо на пачатку XXI стагоддзя. Такім чынам, раман ахоплівае даволі стракаты, поўны драм і трагедый, навальнічны час, згубны шмат у чым для народа і нацыі.

*— Калі можна, больш падрабязна пра геаграфію рамана-трылогіі.*

— Пералічыць усе месцы дзеянняў даволі складана, бо іх шмат. Перш за ўсё падзеі адбываюцца ў беларускіх гарадах, сярод якіх Пінск, Драгічын, Баранавічы, Мінск, Гродна, Навагрудак, Карэлічы, Віцебск, Сянно… Мае героі таксама жывуць і дзейнічаюць у Варшаве, Празе, Берліне і іншых гарадах Германіі, у Нью-Ёрку, Кліўлендзе, Сан-Францыска, Маскве, Вільні. Часам у поле зроку герояў трапляюць падзеі і на Далёкім Усходзе. Нават у геаграфічным абсягу — гэта раман-эпапея, але толькі пра гэта ж сведчыць і шырокая панарама гістарычных падзей.

*— Наватарства рамана і ў тым, што вы паказваеце неаднароднасць таго ж партызанскага руху…*

— Так… Гэтую тэму я вывучаў практычна. Жыў, праўда, яшчэ дзіцем, у партызанскай зоне, што ахоплівала Васілевіцкі раён Гомельскай вобласці, і мой дзядзька Іван Якавенка быў камісарам партызанскага атрада.

Сталася далей так, што і мой цесць Мацвей Фурман быў камандзірам партызанскага атрада імя Гарбачова на Любан-



шчыне. Вось ягоны атрад быў узорным. Ваяўнічыя і стойкія мсціўцы ўмелі ладзіць з мясцовымі жыхарамі, паважліва ставіліся да іх, дапамагалі, да прыкладу, ім у правядзенні палявых работ. Вядома, калі гэта можна было. Удзячныя мясцічы, у сваю чаргу, не цураліся лясных ваяроў, дапамагалі партызанам харчамі і вопраткай.

*— Аднак былі і іншыя...*

— Так... З тымі «іншымі» я, практычна, сустрэўся на Піншчыне, у Моталі і пад Моталем, дзе партызаны зводзілі рахункі пераважна з мясцовымі жыхарамі. Іх камандзір Плюнгер (прозвішча зmененае) — яскравы тып, які выклікае ў чытача і захапленне сваім спрытам, адвагай, і агіду, абурэнне тым, што перастулае раз-пораз межы маралі. Безумоўна, ні ў якім разе не аспрэчваецца відавочная роля партызанскага руху ў ваенны час — з кнігі ж навідавоку: колькі варожых эшалонаў было падарвана падчас рэйкавай вайны! Аднак паказана ў творы і роля паскуднага ідэалагічнага разбою, які выклікаў у адказ нядобрыя пачуцці, фарміраваў супрацiў. З'ява пакуль мала даследаваная.

*— Аўтары рэцэнзій адзначаюць, што ў рамане раскрыта яўрэйская тэма...*

— Сапраўды так. Я не мог яе абысці, бо амаль палова насельніцтва Моталя былі яўрэі. Да таго ж, першы прэзідэнт краіны Ізраіль Хаім Вайцман выгадаваны ў Моталі, ён жа ў жніўні 1939 года, выступаючы ў Жэневе на 21-ым з'ездзе сіяністаў, ад імя ўсіх яўрэяў свету рашуча абвясціў вайну Германіі. Праўда, на словах усё і скончылася. Тым часам многія яго супляменнікі з'яўляліся вышэйшымі чынамі, генераламі і афіцэрамі Вермахта, аддана служылі Гітлеру. Мне не выпадала абмінуць і гэту далікатную і прыхаваную ад свету тэму.

Калі пачалася вайна, шмат хто з яўрэйскіх уцекачоў спяшаўся перасяліцца на беларускія землі. Мясцовыя яўрэі і ўцекачы сябравалі з Пятром Рамановічам. Натуральна, яны размаўляюць аб тым, чаму Гітлер абрынуўся на іхні мудры род. І гэтая тэма падаецца ў гістарычна-псіхалагічным плане. Галоўны герой твора Пятро Рамановіч, чалавек гуманны, паважлівы, шкадуе яўрэяў — падчас ганенняў (масакры) у Моталі ён ратуе няшчасных суседзяў — бацьку і сына.

*— Як вы вызначаеце аўдыторыю рамана?*

— Нечакана для мяне пасля выхаду кнігі пачалі прыходзіць лісты не толькі ад чытачоў, пражыўшых век, але і ад



маладых людзей. А гэта значыць, што тэма цікавая і для моладзі. Я працытую:

*Паважаны спадар Васіль Цімафеевіч. Мне 22 гады, ніколі не цікавіўся гісторыяй Беларусі новага часу. Лічыў што гэта адзін з самых цёмных і нецікавых перыядаў з жыцця нашай шматпакутнай ныцыіі. Дзякуючы Вам і Вашай кнізе зразумеў, што і ў гэты цяжкі час на нашай зямлі хапала сапраўдных, адданых людзей, шчырых змагароў за незалежнасць. Ваша праца дала мне шмат новага і жаданне дзейнічаць. Шчыра дзякую. Хацеў азнаёміцца з Вашай наступнай працай, як гэта зрабіць?*

*Мікалай Кудзерка.*

Аднак найбольш лістоў і падзяк было ад прадстаўнікоў старэйшых пакаленняў, якія перажылі ўсё, пра што я пішу і што мучыла іх многія гады. Цяпер для іх дзіва: як глыбока, уражліва і нават жорстка «іхняя» праўда паказана. У некаторых сем'ях набывалі па два-тры асобнікі кнігі.

— *Факт, якім вызначаецца і актуальнасць твора?*

— Безумоўна. У трылогіі я закрануў вельмі важную для нашай краіны тэму быцця. Быцця народа і нацыі, якую здратавалі. Гэты твор — перш за ўсё нацыянальны раман, у ім паказана, хто такія беларусы і як фармавалася нацыя. У нейкім сэнсе яго можна назваць і палітычным раманам, бо ў ім асвятляюцца шматлікія грамадска-палітычныя працэсы. Іх веданне дапамагае глыбей зразумець нашу гісторыю і народ, прынамсі, саміх герояў.

— *Ці плануеце пераклад рамана на іншыя мовы?*

— Пакуль што далейшага руху для майго твора няма. У Маскве знайшоўся перакладчык, але не знойдзены сродкі для аплаты ягонай працы. Вядомы паэт і прафесар Алег Лойка, цяпер нябожчык, ў свой час, пішучы пра «Пакутны век», зазначыў: *«Не памылюся, калі скажу: эпапея па сваім мастацкім і сэнсавым напаўненні, па сваім шматгранным характары зусім вартая таго, каб прэзентаваць у свеце беларускі народ і стаць нават яго візітнай карткай».* А калі раман — візітная картка народа, яе важна паказаць і другім. Толькі гэта ўжо інтарэсы, уласна, не аднаго аўтара, але і літаратуры, і народа.

# НА КНІЖНЫМ ЗАЙМІШЧЫ ВАСІЛЯ ЯКАВЕНКІ



*Аўтабіяграфічныя нататкі*

Нарадзіўся я 5 мая 1936 года на маляўнічым камарыным хутары каля вялікай копанкі, у якой маці рэшатам лавіла карасёў. Гэта была звычайная сялянская сям'я. Бацька Цімох паходзіў з роду Рыгора Якавенкі, а той Рыгор — сын Хамы; ён, мой дзед, — паляшук, з Украіны (вёска Піраговічы Іванкаўскага раёна), купіў у 1910 годзе з аплатай у растэрміноўку кавалак зямлі ў двурэччы Прыпяці і Бярэзіны. Рашучаму і мужнаму ўчынку майго дзеда паспрыяла сталыпінская зямельная рэформа. Тады яны, некалькі сям'яў беззямельных сялян, набылі цалік, што патанаў у Васілевіцкіх разлеглых балотах, які ледзь прыўздымаўся з багны і атаясамліваўся ў кемных палешукоў з востравам. Так, гэта быў востраў, парослы змешаным першабытным лесам, дзе шмат малінніку, крапівы і дрэвы перавітыя плюшчом. Ён насіў назву Пажыхар. Кут проста казачны. У нетрах яго вадзілася безліч звяроў і птушак. Цімошку, бацьку майму, было пяць гадоў, калі іх сям'я пераехала сюды з Піраговіч і разам з іншымі ўзялася за цяжкую працу — валіць, карчаваць, распілоўваць дрэвы, вызваляць лапікі зямлі пад раллю.

Мая будучая маці Вера з роду Ярмоліных (па прычыне русіфікацыі прозвішча пісалася Ермоліны) карэнная беларуска. Да замужжа яна жыла з бацькамі на другім рагу Васілевіцкага балота — пад Азарычамі, у невялікай вёсцы Рылавічы (пасля вайны — Ніканава). Яе маці — Ульяна вельмі рана — у трыццаць сёмым — памерла, і тут ужо бяда пачала чапляцца за бяду. Аўдавеўшага Верынага бацьку Васіля Ярмоліна, майго дзеда, забралі ў НКВД, завезлі ў Мазыр. Гэта здарылася ў 1938 годзе. Там ён і загінуў ад рук бальшавіцкіх карнікаў. Яго расстралялі. Верагодна, у будынку былой Міхайлаўскай царквы, ператворанай у турму, дзе шмат люду замардавалі.



І засталіся меншыя дзеці Ярмоліных круглымі сіратамі. Клопат пра іх цяпер лёг на старэйшую сястру, на Веру і яе мужа Цімоха.

Маці мая спакойная, разумная, умелая і працавітая жанчына, як і большасць вясковых кабет. Яна ўвайшла ў пару сваёй маладосці сапраўднай красуняй з адмысловай смалiста-чорнай касой. На жаль, лёсам ёй было суджана няпростае і гаротнае жыццё.

Вёска Рылавічы, дзе нарадзілася мая маці, пынілася непадалёку ад Хамічоў, буйнейшай вёскі, якая нават мела сваю школу, адчыненую некалі за царом Гарохам, — у ёй дзяўчо і вучылася, колькі год.

З Хамічоў, між іншым, выйшаў і падаўся ў вялікі свет продак паэта Яўгенія Еўтушэнкі — Ермалай, ягоны дзед па мацеры, савецкі военачальнік; яго таксама, як і майго дзеда Васіля, а яны маглі быць знаёмыя, энкавэдысты расстралялі ў роcквіце сіл і энергіі.

З Яўгенам Еўтушэнкам мы аднойчы сустрэліся на дарозе, што вяла ў Хамічы, і ён расказаў мне і тым, хто быў побач, пра сумны лёс свайго дзеда.

Акурат праз зімку пасля майго шчаснага нараджэння, прыватныя хутарскія сядзібы пачалі сцягваць у вёску Пажыхар. Утварылі калгас. Наша вёска, як і новы калгас, падпарадкоўваліся тады ўладам у Васілевічах, цяпер жа тут Светлагорскі раён. На жаль, Васілевічы страцілі статус райцэнтра, і буйное мястэчка прыгарнуў да сябе Рэчыцкі раён.

Аддаленая ад свету і ціхая вёска Пажыхар у вайну апынулася ў партызанскай зоне, і гэтага дастаткова было, каб улетку сорак трэцяга немцы спапялілі яе. Праўда, жыхары, папярэджаныя партызанскай разведкай, своечасова пакінулі свае сядзібы і нешта з тыдзень хаваліся ў дрыгвяністым балоце, па аддаленых выспах ды хмызах. Начавалі табарам у куранях. Мне, басаногаму хлапчаняці, уліпла ў душу, як на чыстым першародным улонні нараджаліся ранкі, і проста дзіва, як захапляла шызая і шчодрая раса на сакавітай, зялёнай, часам сакавітай траве.

Вярнуліся на попелішча, у засень векавечных дубоў, і пачалі ладаваць гнёзды проста ў зямлі. Мой бацька таксама выкапаў зямлянку, у якой спалі ўпокат на палацях — у сям'і было чацвёра дзяцей. Потым, калі пад грымоты вайны і шквальны агонь чырвонаармейцаў ворага турнулі







*Цімох і Вера, бацька і маці аўтара*

з бліжэйшых абсягаў і ўжо толькі на чыгуначную станцыю Васілевічы грозна пікіравалі нямецкія бамбавозы, мае бацькі сходна купілі там, непадалёку ад станцыі, хату-трохсценак. У гэтай хаце адна са сцен была прабіта шалёным снарадам, які з пралому ў сцяне наўпрост шугануў у дзверы, чмякнуўся парсюком вобзем у двары, але не ўзарваўся. Хаце пашчасціла. Мае бацькі аддалі за яе 25 пудоў жыта; а збажына ў іх ацалела толькі таму, што была прыхаваная ў нейкім тайніку на агародзе спаленай сядзібы. Так мы ўрэшце апынуліся ў Васілевічах і сталі местачкоўцамі.

У Васілевічах бацьку ўзялі працаваць на чыгунку, маці пайшла у калгас імя Сталіна (там па тым часе вырошчвалі кок-сагыз, які ішоў на вытворчасць гумы), а я з братамі вучыўся ў школе. Школа, як і багата што тады, таксама насіла імя Сталіна і месцілася ў двухпавярховым мураваным будынку, што стаяў у цэнтры. Для мяне, вясковага хлапчука, будынак школы ўяўляўся цудоўным палацам, хоць напачатку шматлікія дзіркі ў вокнах там закрывалі кардонам, і ад холаду ўзімку пальцы рук дубянелі.

Вучоба ў школе захапляла мяне далей болей. Я спазнаваў прастору жыцця дагэтуль надта таемную, прыахвоціўся да сур’ёзных кніг, любіў назіраць за зоркамі ў начным небе і



рана зацікавіўся будовай сусвету. У пятым класе ўвагу найбольш прыцягвалі папулярныя кнігі па астраноміі, я браў іх у раённай бібліятэцы, і цяпер мне здаецца, што менавіта яны больш за ўсё развівалі дзіцячую фантазію, як, зрэшты, і прыгодніцкія творы Янкі Маўра, Якуба Коласа, Жуль Верна. Мне падабалася таксама слухаць настаўніка геаграфіі пра зямныя ландшафты, пра падарожжы ў новыя землі.

Далей я вучыўся ў Беларускім індустрыяльным тэхнікуме на геолага (1952–1956), потым у БДУ імя У. Леніна на журналіста (1962–1966). Завочна. У нейкім прамежку часу пасля тэхнікума служыў у артылерыйскай брыгадзе Групы Савецкіх Войск у Германіі. Па матывах мінулых ваенных падзей і іх адбітку ў нямецкай душы напісаў сваё першае апавяданне «Рашэнне старога Вегера» (Калгасная праўда, 8.05.1962).

Пільная ўвага да яскравага слова, напэўна, передалася мне ад бацькі, які часам уголас выказваў сваё захапленне ўдалым і трапным выразам. Яшчэ ў школе дужа карцела сачыняць вершаваныя радкі, загадкі, байкі, беручы за аснову свае назіранні над навакольным светам і сябрукамі. А цікавых надарэнняў, адмысловых фактаў, падзей мне тады край не ставала, кажу шчыра, таму і выбраў сабе для пачатку рамантычную (з-за блуканняў па свеце) прафесію геолага, каб наталіць прагу пазнання і напоўніцу сербануць жыцця. У службовых вандроўках па роднай зямлі, а яны мелі пераважна пошукава-геалагічны характар (працаваў жа ў Паўночна-заходняй геолагаразведвальнай экспедыцыі, Мазырскай канторы глыбокага бурэння, праектных інстытутах), даследаваў нетры і разам — жыццё ў грамадстве; сачыняў (яно, як бачыце, змалку карцела), шукаў удач у прафесійным занятку публіцыста.

Прайшоў сапраўдную літаратурную школу, працуючы ў часопісе «Полымя» (1972–1977), дзе, праўда, і да гэтага друкаваўся. Напісаў і выдаў шэраг кніг мастацкай публіцыстыкі: «Земля, открытая нами», 1971; «Пробны камень», 1974; «Пакуль сонца ў зеніце», 1977; «Дайсці да ладу», 1985; «Вясковыя дыспуты», 1987; «Другой зямлі не будзе», 1989; «Крушэнне на ростані», 2002; «Нячывелле», 2008. У перакладзе на рускую мову выйшлі дакументальная аповесць «Приручение земли», 1975; зборнік нарысаў «Через гать», 1982; кніга публіцыстычнай прозы «На что нам жизнь дана», 1991. Як адзначыла некалі шматтомная «Энцыклапедыя літаратуры





*На пасяджэнні ў рэдакцыі часопіса «Полымя»: Іван Чыгрынаў, Васіль Якавенка, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Аляксей Русецкі, Рыгор Шкраба, Алесь Масарэнка, Лідзія Арабей*

і мастацтва Беларусі» яшчэ на раннім этапе творчасці, для маіх пісьмовых вопытаў быў уласцівы «глыбокі змест і дакументальная дакладнасць». Больш за тое, ад кнігі да кнігі, як варта меркаваць, узмацнялася тое, што пасля будзе адзначацца крытыкамі: псіхалагічны, сацыяльны, у нейкай меры нават філасофскі аналіз фактаў жыцця і вобразаў герояў — людзей, якія ў жыцці штосьці вырашалі. Да прыкладу, Ульяна Крышталевіч, старшыня Докшыцкага райвыканкама, стаўшая неўзабаве (не па сваёй нават ахвоце) першым сакратаром райкама партыі, яна ўзняла насельніцтва на вялікую, шчырую, непамысную, ахвяравальную працу па ачыстцы зямлі ад каменя. «Прыручэнне зямлі. Аповесць у нарысах», 1977.

Улетку 1984 года мы з Іванам Васільевым, бліскучым расійскім пісьменнікам і публіцыстам, лаўрэатам Ленінскай прэміі, а ён жыў у вёсцы Баркі пад Вялікімі Лукамі, зрабілі двухтыднёвае падарожжа па Беларусі. Яно пачалося 22 мая ў Мінску з прыёму і шчырай гутаркі з А. Т. Кузьміным, сакратаром ЦК КПБ, — пра набыткі і страты ў духоўным жыцці





*Пасля чытацкай канферэнцыі па аповесці «Пакуль сонца ў зеніце». Аўтар і героі: Улляна Крышталевіч (другая злева), Тамара Псоні (па цэнтры), Марына Крупская, дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі, калегі-пісьменнікі Леанід Прокша і Мікола Татур. Мінск, 1978 г.*

вёскі. Далей перад намі ляжалі наўсцяж па рэспубліцы дзесяткі раёнаў і гаспадарак, якія мы збіраліся наведаць. Завяршылася ж падарожжа жаднай сустрэчай зноў-такі ў Мінску, на маёй кватэры, — з пісьменнікамі Васілём Быкавым і Нілам Гілевічам; у ходзе гаманы Ніл Сымонавіч праспяваў для госця сваю песню «Вы шуміце бярозы...»

Вынікі адмысловай падарожнай акцыі з Іванам Васільевым падведзены ў маёй кнізе «Вясковыя дыспуты. Падарожнае эсэ», 1987. Ва ўступным артыкуле да кнігі Іван Чыгрынаў пісаў: «У нас яшчэ не было такога маштабнага, шырокаахопнага твора, напісанага на дакументальнай аснове, у якім бы з прынцыповых пазіцый была паказана сённяшняя грамадская, сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы, выяўлена заклапочанасць многімі набалелымі праблемамі».

Блізка сярэдзіны 80-х гадоў я падрыхтаваў і выдаў дзве кніжкі казак — «Смяльчак Лузь», 1995 (для дзяцей), і «Чорная ружа», 1996 (хутчэй, для дарослых). Мне і ўцешна і дзіўна, што ў апошняй кнізе чытачы знаходзяць часам глыбокі





*Расійскія пісьменнікі Іван Васільеў і Юрый Чарнічэнка разам з беларускімі Ігнатам Дуброўскім і Васілём Якавенкам у Мінску. 1982 г.*

змест і філасофскае асэнсаванне жыцця. Пісаліся ж казкі тады, калі ў іншым жанры аўтару складана было расказаць пра некаторыя рэчы.

Па сваёй тэматыцы ў маіх празаічных творах, хутчэй за ўсё, пераважалі маральныя матывы, праблемнае, а можна сказаць і гаротнае вясковае жыццё, адрынутая зямля, уладанне зямлёй і збудаваная на догмах і хімерах партыйная работа. Усё гэта, на жаль, набыло гранічна востры змест і пачварную рэальнасць, калі адбылася Чарнобыльская катастрофа, а меліяратары — сказ і пра іх — як ні ў чым не бывала прыступілі да выканання праекта ліквідацыі ракі Прыпяць (дакладней, ператварэння яе ў канаву) і асушэння шырокай прыпяцкай поймы. Гэтая «гераічная» эпапея меліяратараў немінуча прывяла б да ўтварэння пыльнай і жорсткай пустыні на беларускай зямлі.

І тут, зазначу, я, мусіць, не дарэмна быў абраны ў 1987 годзе ў пісьменніцкім асяроддзі старшынёй Секцыі нарысу і публіцыстыкі. Сабраліся разам са мной пісьменнікі-публіцысты ў канферэнц-зале Дома літаратара — Іван Новікаў, Яраслаў Пархута, Анатоль Казловіч, Леанід Левановіч, Леў





*Культурна-экалагічная экспедыцыя беларускіх, латвійскіх і рускіх пісьменнікаў на рацэ Заходняя Дзвіна. Іосіф Васілеўскі (другі злева), Васіль Якавенка (пяты злева), Уладзімір Арлоў (трэці справа), Сяргей Панізьнік (сядзіць па цэнтры), Айя Лацэ (стаіць побач). 1988 г.*

Караічаў, Сяргей Панізьнік ды іншыя, і пачалі раіцца, што рабіць далей. Вырашылі прынцыпова: за самую прыярытэтную задачу на бліжэйшы час узяць зберажэнне прыроды, адстойванне экалагічных прынцыпаў гаспадарання; дарэчы, ужо тады назіраліся вынікі празмернага асушэння балот і ўзбалоткаў, пойменных далін, выяўлялася нядбайнае і шкоднае стаўленне меліяратараў да прыродных ландшафтаў; знікалі гаі, усыхалі лясныя масівы, апусцілася вада ў калодзежах, пачыналі гуляць па адкрытых абшарах пыльныя буры. Аляксей Пысін, палымяны грамадзянін, таленавіты паэт-франтавік, пісаў:

Кручок, што вудай быў,
Грымотна ўзняўся, устаў на ногі,
Рачулачку за шчэлепы схапіў
І кінуў на пясок, на выган голы.
Рачулачка нядоўга трапятала...





*Уручэнне вымпела пераможцам на жніве ў калгасе «Аснежыцкі» камбайнёру Пятру Шарамету і яго памочніку Васілю Якавенку. 1978 г.*

Радкі верша мне дужа імпанавалі, яны проста клікалі на абарону безыменнай рачулкі. Дык наладзілі мы (разам са спецыялістамі, як правіла, сваімі аднадумцамі) некалькі культурна-экалагічных экспедыцый на Нарач і па рэках Заходняя Дзвіна, Днепр, засяродзілі ўрэшце ўвагу на Прыпяці. Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў дапамагло мне, старшыні камісіі, публіцысту, паслугачу грамадства, арганізаваць і правесці 11 сакавіка 1988 года ў Доме літаратара навукова-практычную канферэнцыю з удзелам акадэмікаў, міністраў, пісьменнікаў — прадстаўнікоў навуковай і творчай эліты Беларусі і Украіны. Я выступіў з недвухсэнсоўным дакладам «Ці ёсць у нас канцэпцыя гаспадарання?», пасля чаго разгарнуліся вострыя і зацятыя спрэчкі. Яны скончыліся тым, што к ночы таго дня міністры і акадэмікі Ліштван, Скарапанаў, якія ўсяляк падтрымлівалі недалужны праект выпрамлення і абвалавання ракі Прыпяць, асушэння яе поймы, развярнуліся ў сваёй чыннасці на 180 градусаў і падпісалі нам ліст, у якім наўпрост сцвярджалася пра іх згоду



*На сцэне Магілёўскага абласнога тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча перад пачаткам спектакля па п'есе «Персона нон-грата». 1981 г.*

з рэзалюцыяй канферэнцыі. А рэзалюцыя ставіла крыж на аблудным праекце.

То быў яркі факт капітуляцыі генералаў ад гаспадарчай палітыкі, зацугляных, дадам тут, «роднай» партыяй. Разам з імі, дарэчы, моцна пацярпелі і вытворчы спрут — трэст «Палессеводбуд» і інстытут Белгіправадгас — навуковы штаб меліяратараў. Да жыцця вярнуўся момант ісціны, і Савет Міністраў БССР літаральна праз некалькі дзён (ад той канферэнцыі) спыніў фінансаванне праекта на Прыпяці.

Пра ўсё гэта, па-мойму, не бедна, не блякла, не сумна пададзена ў названай вышэй кнізе «Крушэнне на ростані», як, дарэчы, і пра чарнобыльскую навалу і змаганне за найменшыя страты ў чарнобыльскім ліхалецці.

Цяпер колькі слоў пра напісанне іншых твораў.

Невялікі вопыт меў я таксама і ў драматургіі. Ідэю п'есы пра ўрачоў «Персона нон грата» падаў мне нейрахірург Мікалай Місюк, зрэшты — падаў ён нават больш чым ідэю. Прафесар спрабаваў сам стварыць драму — не стварыў і перадаў мне паперы з апавядальным матэрыялам і нават дыялогамі, але без якой бы там ні было інтрыгі, без драматургіі. Я дадаў да тых старонак частку свайго матэрыялу і зрабіў





*Персанаж твора «Пакутны век» Аніта Кубэ і аўтар. ФРГ, Канстанц, 2004 г.*

надзённую п’есу (у сааўтарстве з М. Місюком), знайшоў пастаноўшчыка ў горадзе Бабруйску. Спектакль «Персона нон грата» быў пастаўлены ў 1981 годзе ў Магілёўскім абласным тэатры імя В. Дуніна-Марцінкевіча, праўда, з боем, бо ягонаму паказу спрабаваў перашкодзіць мясцовы ідэолаг.

Увогуле на творчай ніве я ўсё-ткі колас позняга выспявання: доўга не ішла ў мяне чыста мастацкая проза. Яно, калі шчыра, пры маім захапленні праўдай факта, «казкай жыцця» проза такая не настолькі ўжо і рупіла. Тым не менш, усё пералічанае і пражытае за гады ўсё-ткі абярнулася вопытам альбо прыступкамі ўгору да больш сур’ёзнага і адметнага па сваім духоўным напале твора — гістарычнага рамана «Надлом» (2003). Героі эпічнага палатна — лепшыя сыны і дочкі беларускага народа. Яны стаяць перад выбарам — страціць па ўласнай ахвоце свае этнічныя карані і растварыцца ў свеце шырокім альбо жыць жыццём народа і нацыі, дбаючы пра росквіт апошняй. Яны ахвяруюць сваім жыццём у барацьбе за незалежнасць нашай краіны.

У сваім першым водгуку на «Надлом» Святлана Явар даводзіла: *«Раман-эпапея В. Якавенкі, падобных якому даўно*





*Барыс Кіт, адзін з герояў трылогіі «Пакутны век» разам з аўтарам. Франкфурт-на-Майне, 2005 г.*

*не было ў беларускай літаратуры, напісаны надзвычай грунтоўна. У ім шмат мастацкіх апісанняў прыроды, душэўнага стану герояў, гістарычных падзей. Мова твора заслугоўвае асобнай увагі сваім багаццем і разнастайнасцю. Вобразы дзейных асоб атрымаліся псіхалагічна дакладнымі, праўдзівымі. Раман мае рысы і прыгодніцкага, і гістарычнага адначасова. Чытаецца ён цікава, твор гэты глыбокі і, можна сказаць, нават эпахальны».* (Явар С. Высокім парываннем продкаў прысвячае. — Літаратура і мастацтва, 28.03.2003).

Потым ужо, папраўляючы і, вядома, па логіцы зместу дадаючы сёе-тое, пашыраючы і ўдасканальваючы свой раман, я заўважыў, што раздзелы пашырыліся да таго, што твор сам па сабе распадаецца на часткі. Падобнае мною зусім не планавалася, і такім трывіяльным фактам я быў не столькі абрадаваны, колькі збянтэжаны. Бянтэжыў аб'ём мастацкага палатна. Няўжо для мяне прыспеў час трылогіі?! Калі на тое, пагаджайся, Васіль-небарака, — няхай будзе трылогія «Пакутны век»... І яна неўзабаве адбылася, выйшла з друку ў 2006-м.

На гэты раз у першым водгуку на наватвор даследчык Пётра Васілеўскі зазначыў: *«Гэта манументальны аповед*



*пра Беларусь XX стагоддзя, аб ператварэнні «тутэйшых» у нацыю. Назвы трох частак «Кабала», «Надлом» і «Гульня на згубу» даюць чытачу дакладнае ўяўленне пра эмацыянальны лад кнігі. Так, гэта драма, трагедыя. Але ўдакладню — гераічная драма, гераічная трагедыя».* (Васілеўскі П. Як «тутэйшыя» сталі нацыяй. — Народная воля, 8.02.2007).

Толькі, рыхтуючы ўжо другое выданне «Пакутнага веку» (2009), аўтар яшчэ раз дапоўніў і дапрацаваў па заўвагах чытачоў і сваім разуменні тэкст маштабнага і цяпер, зазначу, закончанага твора.

А вось тэма адданасці ідэалам роднай зямлі, абароны духоўных і культурных каштоўнасцей напоўніцу гучыць таксама і ў мастацка-публіцыстычным зборніку «Нячывелле» (2008). У ім — падзеі, вобразы і характары, узятыя з грамадскай беларускай нівы апошніх дваццаці гадоў, у ім — рэцыдывы хваробы нашага культурнага і гістарычнага бяспамяцтва, дый не толькі гэта.

Скрушлівае чарнобыльскае ліхалецце, як і іншыя нягоды на бацькаўшчыне падказалі мне стаць эколагам, і я рабіў нямала высілкаў, аддаў шмат часу, энергіі раскрыццю сапраўднай радыяцыйнай сітуацыі ў краіне. Пра гэта, калі на тое, засведчыла і маё выступленне на пленуме Саюза пісьменнікаў СССР у Маскве 17 студзеня 1989 года, дзе ўпершыню з высокай пісьменніцкай трыбуны на ўсю краіну (друкавалася ж у «Литературной газете») прагучала праўда пра Чарнобыль і прагучаў заклік прыцягнуць да крымінальнай адказнасці (за ўтойванне праўды і непрыняцце адэкватных мер) акадэміка Л. А. Ільіна і члена палітбюро ЦК КПСС М. Н. Слюнькова, у газеце, праўда, імёны былі апушчаныя.

Пра наш чарнобыльскі клопат сведчыць і створанае тады на патрэбу часу аб'яднанне — Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль». Адак пра чарнобыльскія справы і клопаты расказана ўжо напачатку гэтай кнігі і паўтарацца не варта.

# КАМЕНТАР ДА ТВОРАЎ



**Запатрабаваныя і... адрынутыя**

Нарыс інфармацыйнага характару, напісаны да падзеі. У рускамоўнай рэдакцыі быў улучаны ў зборнік матэрыялаў XVIII Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Экалогія чалавека ў постчарнобыльскі перыяд», якую правялі ў Мінску 24–26 лістапада 2010 года Беларускі камітэт «Дзеці Чарнобыля», Міжнародны фонд «Дапамога хворым з радыеіндуцыраваным ракам шчытападобнай залозы» і Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль». Фрагменты артыкула друкаваліся ў газетах «Літаратура і мастацтва» і «Наша слова».

**Зямля — наш дом**

Светлай памяці Тамары Белавокай

Артыкул-прысвячэнне. Друкаваўся ў газеце «Звязда», 2011, 26 лютага, № 38.

**Купіце бомбу ў акаймоўцы кветак**

Артыкул на хвалюючую аўтара тэму друкаваўся пад назваю «АЭС: крок да стварэння ядзернай бомбы?» ў газеце «Народная воля», 2008, 10 кастрычніка.

**Розум перамагае хімеры**

Матэрыял у жанры эсэ, гутаркі з адмыслоўцамі. Упершыню надрукаваны пад назвай «Сумны прысуд “Тройкі”» ў газеце «Народная воля», 2008, 7 сакавіка, № 35–36.

**Каб зняць ганебнае таўро**

У абмеркаванні і падрыхтоўцы гэтага звароту, апроч аўтара, прымалі ўдзел вучоныя Леанід Яўменаў, Аляксандр Вайтовіч, Пётр Нікіценка, Аляксандр Лукашанец, Алег Трусаў, пісьменнік Генадзь Бураўкін, сябры культурна-асветнага клуба «Спадчына». Пад назвай «Ліст да...» (названых асоб) зварот быў надрукаваны ў «Народнай волі», 2009, 6 чэрвеня.

**Зыход у нікуды, або Каму замінае беларуская мова**

Выніковы аналітычны артыкул, падказаны грамадскай акцыяй за адраджэнне і развіццё беларускай мовы. Надрукаваны ў газеце «Народная воля», 2010, 18 і 21 мая.

**Місія БНР у Берліне як аптымістычная трагедыя**

Неабыякавыя нататкі аб даследаванні У. Л. Сакалоўскім місіі БНР у Берліне. Былі змешчаныя ў часопісе «Дзеяслоў», 2009, № 5 (42).

**Там, за лініяй фронту**

Адкрыты ліст да нямецкага даследчыка спадара Бернгарда К'яры. Упершыню надрукаваны ў кнізе В. Якавенкі «Нячывелле» (2008). А ў гэтай кнізе ён падаецца як адпраўны момант у напісанні другога артыкула аб разуменні зарубежнымі даследчыкамі гісторыі Беларусі.

**На разломе цывілізацый, або Беларуская нацыянальная дзяржава на вочы зарубежных даследчыкаў**

Друкуецца ўпершыню.

**Братэрства на розны лад**

Гутарка з пісьменнікам В. Якавенкам, які па запрашэнні трапіў у Ерэван на Форум перакладчыкаў, пісьменнікаў і выдаўцоў увосень 2008 года. Матэрыял у падкарочаным выглядзе друкаваўся ў армянскіх газетах «Азат Арцах» за 15 мая 2009 года і ў «Новом времени» за 26 мая 2009 года. Затым, у поўнай рэдакцыі быў змешчаны ў «Дзеяслове», 2009, № 4 (41).

**Альберт Налчаджан:
«Паглядзі на сябе праз прызму народа»**

Гутарка пісьменніка В. Якавенкі з армянскім этнапсіхолагам А. Налчаджанам аб нацыянальных праблемах. Была змешчана ў часопісе «Дзеяслоў», 2010, № 3 (46).

**Няхай парупяцца за нас...**

Артыкул друкуецца паводле публікацыі «Няхай парупяцца за нас?..» у газеце «Звязда», 2010, 13 лістапада.

**Філасофскі камень**

Роздум над кнігай А. Астапенкі «...И где зродилися и ускормлены суть по Бозе...», — Санкт-Петербург: Невский простор, 2010



**Бліскучая ідэя, ажыццяўленне якой дае вынік звыродны**

Прамова ў невялікай і перапоўненай маладымі прыхільнікамі дэмакратыі зале сядзібы БНФ была сустрэтая як нечаканая, нязвычная для слыху і, пры яе station ўспрыняцці, магчыма, нават бянтэжлівая. Друкуецца ўпершыню.

**Што, калі фронт без тылу**

Каментар складзены з нагоды юбілейнай даты Аргкамітэта БНФ «Адраджэнне», старшынёй якога ў свой час выпала быць аўтару гэтай кнігі. Каментар да падзеі быў перасланы ў Сядзібу БНФ для распаўсюджвання праз друк, але не друкаваўся. Падаецца чытачам ўпершыню.

**Не шукай сябе на чужыне**

Артыкул напісаны да 70-гадовага юбілею пісьменніка Леаніда Дайнекі; друкаваўся ў газеце «Наша слова», 2009, 27 студзеня, № 4.

**Думкаю — у Боне, а душой — дома**

Аповед пра Уладзіміра Сакалоўскага, падрыхтаваны да ягонага 80-гадовага юбілею. Быў надрукаваны ў газеце «Новы час», 2010, 4 чэрвеня, № 21.

**Магія пісьма, або Рэтра-экспрэсія**

Выступленні пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, чытачоў на першай чытацкай канферэнцыі па раману В. Якавенкі «Надлом», якая адбылася па ініцыятыве прафесара А. Рагулі ў сценах Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка 27 чэрвеня 2003 года. Матэрыялы друкуюцца ўпершыню.

**Доля беларуса**

Публікацыя з нагоды выхаду ў свет трылогіі аўтара «Пакутны век». Адказы пісьменніка на пытанні газеты «Свободные новости плюс», 2007, 28 лістапада.

**Калі твор — візітная картка...**

Гутарка з аўтарам трылогіі «Пакутны век», якую правяла карэспандэнтка Яна Шыдлоўская; газета «Туризм и отдых», 2011, 3 лютага, № 4.

**На кніжным займішчы**

Аўтабіяграфічны нарыс. Друкуецца ўпершыню.

# У тэму нацыі. Дадатак да кнігі

*Беларускі мартыралог: людскія страты беларусаў (ліцвінаў) на працягу гісторыі*



*Нашэсце маскоўскага войска на Рэч Паспалітую (1654–1661)*

Страты насельніцтва:
**1,4 мільёна**
(52% ад агульнай колькасці),
з іх больш за 300 тысяч забрана
ў Масковію



*Паўночная вайна (1700–1721)*

Страты насельніцтва:
**каля 800 тысяч** (звыш 30%)



*Вайна Расіі з Напалеонам (1812–1814)*

Страты насельніцтва:
**1 мільён** (каля 25%)



*Першая сусветная вайна (1914–1920)*

Страты насельніцтва:
**1,5 мільёна**



*Сталінскія рэпрэсіі (1930–1940)*

Страты насельніцтва:
**каля 2 мільёнаў**



*Другая сусветная вайна (1939–1945)*

Беларусь страціла
**2,25 мільёна** чалавек

*Крыніца: зборнік «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі»*

